

# БЕЛАРУСКІ РЭЗЫСТАНС

## ЧАСОПІС НАЙНОЎШАЙ ГІСТОРЫІ

**№ 2(11)/2011**

Заснаваны ў 2004 г. у Менску.

**Галоўны рэдактар:** Сяргей Ёрш.
**Намесьнік галоўнага рэдактара:** Андрэй Барткевіч.



ЗЬМЕСТ:

Тэма гэтага нумару “БР” — беларускі нацыянальны партызанскі рух падчас нямецкай акупацыі 1941-1944 гадоў. Ад самага пачатку мы па драбніцах зьбіралі і публікавалі зьвесткі на гэтую тэму, каб толькі абазначыць яе, заахвоціць нашых аўтараў да пошуку новых сьведчаньняў і дакумэнтаў. Цяпер надыйшоў час пераходзіць на новы ўзровень: да абагульненьня і крытычнага аналізу.

Нумар доўга ішоў да чытача, бо пачаў рыхтавацца яшчэ ў 2007-м. За гэтыя гады ня стала некалькіх нашых аўтараў, а сабраныя імі каштоўныя калекцыі сьведчаньняў загінулі… Толькі часткова ўдалося аднавіць некаторыя матэрыялы, якія датычаць партызанскага руху на Палесьсі. Яны былі выкарыстаныя ў гэтым нумары.

Упершыню друкуюцца архіўныя дакумэнты, прысьвечаныя дзейнасьці камандзіра беларускага нацыянальнага партызанскага руху на заходнебеларускім Палесьсі падпалкоўніка/палкоўніка Рыгора Шанька. Кагосьці яны зьбянтэжаць, кагосьці, наадварот, умацуюць у думцы, што беларускія партызаны былі рэальнай сілай, зь якой лічыліся ў Маскве.

Хочацца верыць, што ў недалёкай будучыні ўдасца дамагчыся справядлівасьці, і беларускі нацыянальны партызанскі рух будзе афіцыйна прызнаны паўнапраўным ўдзельнікам антынацысцкага Супраціву.

*Сяргей Ёрш*

# ЗБРОЙНЫ АНТЫСАВЕЦКІ СУПРАЦІЎ У БЕЛАРУСІ Ў 1946 ГОДЗЕ




1946 год у гісторыі паваеннага антысавецкага Супраціву ў Беларусі займае асаблівае месца. Гэта быў год яшчэ ня страчаных надзеяў. Пасьля знакамітай прамовы ў сакавіку 1946 году ў Фултане (ЗША) брытанскага прэм’ера Уінстана Чэрчыля сярод насельніцтва Беларусі ўзмацніліся чаканьні новай вайны — “гарачага” канфлікту паміж Захадам і СССР. У прысутнасьці амэрыканскага прэзыдэнта Гары Трумэна Чэрчыль заклікаў да стварэньня вайскова-палітычнага саюзу супраць СССР і яго сатэлітаў. Ён асабліва адзначыў:

*“Ад Штэцына на Балтыцы да Трыеста на Андрыятыцы, праз увесь кантынент, была апушчаная “жалезная заслона”. За гэтай лініяй знаходзяцца ўсе сталіцы старажытных дзяржаваў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы: Варшава, Бэрлін, Прага, Вена, Будапешт, Бялград, Бухарэст і Сафія, усе гэтыя знакамітыя гарады з насельніцтвам вакол іх знаходзяцца ў тым, што я мушу назваць савецкай сферай…”.*

У 1946 годзе вайна чакалася ня толькі простымі жыхарамі паняволеных Масквой краінаў Эўропы, якія верылі ў яе, як у збаўленьне. Вельмі сур’ёзна разглядалі перспектывы яе хуткага пачатку кіруючыя колы Захаду і СССР. У красавіку 1946 году савецкая выведка паведамляла свайму кіраўніцтву пра *“ўзмоцнены распаўсюд у эўрапейскіх дзяржавах сьцьверджаньняў аб будучай вайне Ангельшчыны і ЗША супраць СССР. У большасьці выпадкаў гаворка ішла пра тое, што вайна пачнецца ўжо ў 1946 годзе”*. [1]

У БССР на пачатак 1946 году працягваў існаваць антысавецкі

---

[1] Очерки истории российской внешней разведки. В шести томах. — Москва: Международные отношения, 2003. Т. 5. 1945-1965 годы, б. 23.

партызанскі рух. Намаганьні савецкіх карных ворганаў у 1944-1945 гг. прывялі да таго, што ўсе буйныя фармацыі былі альбо разьбітыя, альбо самастойна падзяліліся на дробныя групы. Частка атрадаў "лясных братоў" (найперш польскія) сыйшла ў Польшчу. У лясах ужо не хаваліся дзясяткі тысяч дэзэртыраў і ухілістаў ад прызыву ў Чырвоную Армію, якія не давалі магчымасьці савецкім уладам сканцэнтравацца на барацьбе з арганізаваным (а не стыхійным) партызанскім рухам. У другой палове 1945 году значная частка нелегалаў (паводле некаторых ацэнак — да паловы) выйшла зь лесу і легалізавалася. Аднак тыя, хто ня склаў зброю, былі сьвядомымі праціўнікамі савецкай улады, якія ня верылі ў яе абяцанкі і чакалі збройнага канфлікту СССР з Захадам.

Дакумэнты савецкіх спэцслужбаў сьведчаць, што з пачаткам 1946 году "лясныя браты" правялі рэарганізацыю і перайшлі да больш глыбокай канспірацыі. Адной з прычынаў гэтага кроку сталі аператыўныя аперацыі, якія праводзіў НКВД БССР, і якія прыводзілі да значных стратаў у шэрагах партызанаў.[2]

Паводле зьвестак НКВД (з сакавіка 1946-га — МВД) БССР, у лясах заходнебеларускага Палесься ў 1946 годзе дзейнічалі рэшткі раней разьбітых антысавецкіх атрадаў: 3 польскія групы, якія налічвалі да 30 чалавек, 4 "групы УПА" (магчыма, гэта былі пераважна мясцовыя "бульбаўцы", а не "бандэраўцы" — **С. Ё.**), у якіх было 25 чалавек, а таксама 6 "мясцовых" групаў, у якіх налічвалася 40 чалавек. Апошнія можна ўмоўна назваць беларускімі. Паводле аператыўных зьвестак, яны складаліся з дэзэртыраў, тых, хто ўхіляўся ад службы ў савецкім войску і "асобаў, якія скампраметавалі сябе службай у нямецкіх ворганах".[3]

На пачатак 1946 году працягваў дзейнічаць акруговы провад Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў з цэнтрам у Берасьці, які кіраваўся з Украіны. У яго склад уваходзілі 3 надраённыя провады: берасьцейскі, кобрынскі і пінскі.[4] На тэрыторыі Гарадзенскай вобласьці дзейнічалі рэшткі польскага збройнага падпольля, якія налічвалі да 600 чалавек.

---

[2] Результаты агентурно-оперативной деятельности органов МВД Белорусской ССР в период ликвидации антисоветского националистического подполья, его банд и другого контрреволюционного подполья за время с 1 января 1944 г. по 1 марта 1947 г. Под редакцией заместителя министра полковника Иващенко и начальника ОББ полковника Гронского // NKWD o polskim podziemiu. 1944 – 1948. Konspiracja polska na Nowogrodczyz'nie i Grodzien'szczyz'nie. — Warszawa, 1997, б. 44.

[3] Тамсама, б. 45.

[4] Тамсама.

Вядома, што ў Баранавіцкай вобласьці праяўлялі актыўнасьць польскія атрады “Васіліка” [5] (налічваў да 15 чалавек) і Казімера Ліберчая (да 50 чалавек).

Статыстычныя дадзеныя аб ліквідаваных ці дзеючых “бандах” нярэдка супярэчлівыя. Для іх удакладненьня неабходнае вывучэньне значнага аб’ёму дакумэнтаў у архівах Беларусі, Расеі, Нямеччыны і ЗША. Просты прыклад. Вышэй мы згадвалі, што паводле дакумэнтаў НКВД БССР, у лясах заходнебеларускага Палесься (тагачасныя Берасьцейская, Пінская і часткова Баранавіцкая вобласьці) ў 1946 годзе дзейнічалі рэшткі 13 разьбітых антысавецкіх атрадаў і групаў, якія налічвалі да 95 чалавек. Аднак даведка, складзеная 17 сакавіка 1946 году аператыўным аддзелам штабу ўнутраных войскаў НКВД Беларускай акругі, падае іншыя лічбы. Паводле стану на 1 сакавіка 1946 г. у Берасьцейскай, Пінскай і Баранавіцкай вобласьці дзейнічалі 9 “бандаў” з колькасьцю ўдзельнікаў 70 чалавек (у Берасьцейскай вобласьці — 3 “банды”, 11 чалавек; у Пінскай — 3, 37 чалавек, у Баранавіцкай — 3, 22 чалавекі). Прычым тут улічваецца інфармацыя па ўсёй Баранавіцкай вобласьці.[6]

СОВЕРШЕННО СЕКРЕТНО

С П Р А В К А

ДЕЙСТВУЮЩИХ БАНДГРУПП И К/Р ПОДПОЛЬЯ на ТЕРРИТОРИИ ЗАПАДНЫХ ОБЛАСТЕЙ БССР ОБСЛУЖИВАЕМЫХ ВНУТРЕННИМИ ВОЙСКАМИ НКВД БЕЛОРУССКОГО О К Р У Г А.

| НАИМЕНОВАНИЕ СОЕДИНЕНИЯ | НАИМЕНОВАНИЕ ОБЛАСТЕЙ | По состоянию на 1.10.1945 года | | По состоянию на 1.3.1946 г. | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Колич. банд | колич. участн. | колич. банд | колич. участн. | колич. к/р. орган. | колич. участн. |
| 7 сд | Барановичская... | 5 | 42 | 3 | 22 | 2 | 25 |
| | Брестская ...... | 5 | 26 | 3 | 11 | - | - |
| | Пинская ........ | 4 | 44 | 3 | 37 | - | - |
| | И т о г о: | 14 | 99 | 9 | 70 | 2 | 25 |
| 10 сд | Полоцкая ....... | 6 | 48 | 4 | 19 | - | - |
| | Молодечненская.. | 5 | 60 | 3 | 57 | 1 | 11 |
| | Гродненская..... | 12 | 71 | 4 | 32 | 3 | 990 |
| | И т о г о: | 23 | 179 | 11 | 108 | 4 | 1001 |
| | В С Е Г О: | 37 | 278 | 20 | 178 | 6 | 1026 |

НАЧАЛЬНИК ОПЕРАТИВНОГО ОТДЕЛА ШТАБА ВВ НКВД БО – ПОДПОЛКОВНИК /РЕБРОВ/

"17" марта 1946 г.

[5] Верагодна, маецца на ўвазе атрад Яна Васіліка, які яшчэ летам 1946 году дзейнічаў каля Клецка. Гл.: Krajewski K. Na ziemi Nowogro’dzkiej/ “NO’W” — Nowogro’dzki okreg Armii Krajowej. Warszawa, 1997, б. 670.

[6] ”Справка действующих бандгрупп и к[онтр-]/р[еволюционного] подполья на территории западных областей БССР, обслуживаемых внутренними войсками НКВД Белорусского округа” от 17 марта 1946 г. Составлена начальником оперативного отдела штаба ВВ НКВД БО подполковником Ребровым. Копія — ў архіве аўтара.

Праўдападобна, з даведкі ад 17 сакавіка 1946 году чамусьці зьніклі тыя 4 “групы УПА” з 25 удзельнікамі.

У той жа час у Полацкай вобласьці існавалі 4 “банды” (19 удзельнікаў), у Маладэчанскай — 3 “банды” (57 чалавек), у Гарадзенскай — 4 “банды” (32 чалавекі). Такім чынам, па дадзеных аператыўнага аддзелу штабу ўнутраных войскаў НКВД Беларускай акругі, на 1 сакавіка 1946 г. у заходніх абласьцях БССР “на ўліку” было 20 “бандаў” з 178 удзельнікамі. Таксама была інфармацыя пра 6 “контр-рэвалюцыйных” арганізацый: 2 з 25 удзельнікамі — у Баранавіцкай вобласьці, 1 з 11 удзельнікамі — у Маладзечанскай вобласьці, 3 з 990 удзельнікамі — у Гарадзенскай вобласьці.[7]

Для параўнаньня, на 1 студзеня 1946 году ў Латвіі дзейнічалі 64 “банды”, у якіх налічвалася 753 чалавекі, у Эстоніі — 55 “бандаў” з 428 удзельнікамі.[8]

Відавочна, што статыстыка па БССР няпоўная. У яе не патрапілі партызанскія атрады і дывэрсійныя групы арганізацыі “Чорны Кот”. Яны, як зьвязаныя з замежнымі выведкамі, праходзілі па адмысловым уліку МГБ. Дакладная іх колькасьць на пачатак 1946 г. нам невядомая, але можна дапусьціць, што гэта былі каля двух дзесяткаў атрадаў, часам падзеленых на меншыя групы. Найбольш іх было ў Белавежскай пушчы і яе навакольлі (атрады “Белавежа”, “Камянец”, “Кобрын” ды іншыя)[9], на Палесьсі (як мінімум 17 атрадаў і груп, у якіх было да 300 байцоў)[10], на Барысаўшчыне і ў сумежных раёнах (атрад “Вольны лесавік” ды іншыя).[11] Гэтыя атрады, час ад часу, праводзілі дывэрсійныя і тэрарыстычныя акцыі, займаліся выведкай. Аднак згадак пра іх акцыі (падрывы цягнікоў, мастоў, дывэрсіі на вайсковых аб’ектах, вызваленьне вязьняў і г.д.) у зводках НКВД/МВД няма.

24 лютага 1946 году атрады “Чорнага Ката” пад агульным камандаваньнем “Сыча” (надлейтэнанта Георгія Луцэвіча) правялі ўдалую акцыю па вызваленьні палітычных вязьняў пінскай турмы. У лютым

---

[7] ”Справка действующих бандгрупп и к[онтр-]/р[еволюционного] подполья на территории западных областей БССР, обслуживаемых внутренними войсками НКВД Белорусского округа” от 17 марта 1946 г. Составлена начальником оперативного отдела штаба ВВ НКВД БО подполковником Ребровым. Копія — ў архіве аўтара.

[8] Абрамов В. Абакумов — начальник СМЕРШа. Взлёт и гибель любимца Сталина. — Москва: Яуза, Эксмо, 2005, б. 173.

[9] Паведамленьне аўтару былога ўдзельніка беларускага партызанскага руху ад 29 траўня 2008 г.

[10] Оперативные операции МГБ БССР против политического бандитизма в 1944-1950 гг. Курс лекций. Для служебного пользования. — Москва, 1959, б. 25, 34.

[11] Беларускі Рэзыстанс, 2008, № 1 (5), б. 53, 79.

на Піншчыне прайшлі масавыя арышты “фашысцкіх паслугачоў”, у лік якіх патрапілі сябры беларускіх арганізацый, што існавалі падчас нямецкай акупацыі, ды шэраговыя працаўнікі акупацыйных установаў. Пасьля допытаў арыштаваных на грузавіках павезьлі ў Менск. Аднак у 40 кіламетрах ад Пінску калёна аўтамабіляў трапіла ў засаду. У выніку кароткага бою большая частка вязьняў была вызваленая. Былі забітыя 6 афіцэраў і 73 чалавекі сяржанска-шэраговага складу МГБ.[12]

***

1-17 студзеня 1946-га акцыі антысавецкага збройнага падпольля і партызанскага руху былі зафіксаваныя ў Гарадзенскім, Лідзкім, Ваўкавыскім, Воранаўскім і Сапоцкінскім раёнах Гарадзенскай вобласьці, Берасьцейскім, Бярозаўскім, Маларыцкім і Антопальскім раёнах Берасьцейскай вобласьці, Мядзельскім і Астравецкім раёнах Маладзечанскай вобласьці, Навагрудзкім раёне Баранавіцкай вобласьці, Мёрскім раёне Полацкай вобласьці. Гэта былі пераважна забойствы актывістаў, асьведамляльнікаў і іх сем’яў, міліцыянтаў, вайскоўцаў, працаўнікоў савецкай адміністрацыі.

Паводле дакладу наркама ўнутраных спраў СССР С. Круглова І. Сталіну, В. Молатаву, Л. Берыя і Г. Малянкову ад 19 студзеня 1946 г., за першыя дзесяць дзён студзеня 1946 году на тэрыторыі заходніх абласьцей БССР было зарэгістравана 5 “бандыцкіх праяўленьняў”, у выніку якіх былі забітыя 7 чалавек.[13]

Сярод іншых здарэньняў адзначым забойства 7 студзеня 1946 г. у вёсцы Куровічы Навагрудзкага раёну Баранавіцкай вобласьці ўчастковага міліцыянта Касьцюка. Яго забілі Тарашкевіч, які вярнуўся з Войска польскага, Мінько, ухіліст ад вайсковага ўліку, і Мечыслаў Крупіч. Яны, а таксама гаспадар дома Вярбіцкі, былі арыштаваны.

У ноч на 7 студзеня 1946 году атрад “лясных братоў” колькасьцю да 60 чалавек, узброеных кулямётамі, аўтаматамі і стрэльбамі, прыйшоў з Ракітнаўскага раёну Ровенскай вобласьці Ўкраіны ў Лельчыцкі раён Палескай вобласьці. Нелегалы раскідалі антысавецкія ўлёткі, абрабавалі краму і дваіх грамадзян, якія дэмабілізаваліся з Чырвонай Арміі, забралі з калгаса каня і сыйшлі ў бок Жытомірскай вобласьці. Для іх перасьледу высылалася аператыўная група НКВД.[14]

---

[12] Оперативные операции МГБ БССР против политического бандитизма в 1944-1950 гг. Курс лекций. Для служебного пользования. — Москва, 1959, б. 187.
[13] НКВД-МВД СССР в борьбе с бандитизмом и вооруженным националистическим подпольем на Западной Украине, в Западной Белоруссии и Прибалтике (1939 — 1956): Сборник документов. — Москва: Объединенная редакция МВД России, 2008, б. 335.
[14] Тамсама, б. 336.

За першую дэкаду студзеня НКВД БССР правёў 7 чэкісцка-вайсковых аперацый. Было затрымана 8 удзельнікаў антысавецкага падпольля, забіта 17 “бандытаў” і “бандпасобнікаў”, 5 чалавек затрымалі. Здаліся 2 дэзэртыры з Чырвонай Арміі. У “лясных братоў” былі захопленыя: кулямёт, мінамёт, 2 пісталеты, 3 гранаты, 3 міны, 1000 набояў.[15]

***

3 студзеня 1946 году ў Мінску адбылася буйная дывэрсія, адказнасьць за якую ніхто не ўзяў. І гэта ня дзіўна: у выніку яе загінула, па розных ацэнках, ад некалькі дзесяткаў да 170-200 чалавек, пераважна маладых людзей (ад 15 да 28 гадоў, “самых таленавітых вучняў і студэнтаў гораду”). Яны прыйшлі на навагодні карнавал для моладзі, які быў наладжаны ў клубе НКГБ БССР.[16]

Афіцыйна не прызнана, што пажар на карнавале ў клубе НКГБ быў дывэрсіяй, аднак пра гэта сьведчаць некаторыя абставіны. Напрыклад, тое, што ўсе пажарныя машыны былі адпраўленыя адначасова па непраўдзівых выкліках, у тым ліку на лецішча наркама дзяржбясьпекі Л. Цанавы. Да таго ж, у будынку клуба НКГБ працавала сьледчая камісія, якая расьсьледавала злачынствы нямецкіх акупантаў, там жа знаходзіліся нямецкія архівы, якія разьбіралі супрацоўнікі дзяржбясьпекі, у падвале ўтрымлівалі нямецкіх афіцэраў.[17] Судовы працэс над апошнімі прайшоў у другой палове студзеня 1946 году, група афіцэраў была прысуджана да сьмерці і павешаная.

З апублікаваных успамінаў сьведкаў вынікае, што акцыя была добра падрыхтаваная. Дзейнічаў не адзіночка, а цэлая група антысаветчыкаў. Але якая была іх мэта? Зьнішчыць дзяцей савецкіх і партыйных начальнікаў? Але ў клубе было значна болей дзяцей звычайных мінчукоў. Сьведкамі выказваецца версія, што мэтай было

---

[15] НКВД-МВД СССР в борьбе с бандитизмом и вооруженным националистическим подпольем на Западной Украине, в Западной Белоруссии и Прибалтике (1939 — 1956): Сборник документов. — Москва: Объединенная редакция МВД России, 2008, б. 336.

[16] Чижик Л. Пожар на карнавале // Рэспубліка, 1995, 30 сьнежня; Ломсадзе Л. Смерть на карнавале, или О том, что случилось 3 января 1946 года в клубе имени Дзержинского // Народная воля, 1998, 7 кастрычніка, № 180; Ломсадзе Л. Смерть на карнавале // Народная воля, 2000, 24 лютага, № 36; Подберезский Д. Карнавальная ночь. 3 января 1946 года // // Имя, 1999, 18 лютага, № 6; Подберезский Д. Карнавальная ночь. 3 января 1946 года. Вынужденное продолжение // Имя, 1999, 15 ліпеня, № 27; Шевченко В., Довнар-Запольская Е. Трагедия на Немиге впервые случилась в 1946? // Комсомольская правда в Беларуси, 2005, 8-14 красавіка ды іншыя.

[17] Комсомольская правда в Беларуси, 2005, 8-14 красавіка.

зьнішчэньне дакумэнтаў камісіі, якая расьсьледвала злачынствы нямецка-фашысцкіх акупантаў альбо “архіву гестапа” — пра тых, хто супрацоўнічаў з нацыстамі.

Адзначым, што ў зводках НКВД згадак пра гэтую акцыю таксама няма — яна таксама праходзіла па ўліку НКГБ.

***

Пачатак 1946 году прайшоў пад знакам найважнейшай палітычнай кампаніі — першых паваенных выбараў. Выбары ў Вярхоўны Савет СССР былі прызначаныя на 10 лютага 1946 году. Яны, як і ўсе савецкія выбары, былі безальтэрнатыўнымі: галасаваньне зьдзяйсьнялася толькі за аднаго кандыдата”.[18]

З дакумэнтаў НКВД БССР вынікае, што антысавецкае падпольле і партызанскі рух не рабілі вялікіх высілкаў для іх зрыву хаця б у асобных мясцовасьцях. Паводле дакладной запіскі начальніка ўнутраных войскаў НКВД Беларускай акругі генэрал-лейтэнанта Марчанкова, ад 25 сьнежня 1945 г. да 12 лютага 1946 г. былі адзначаныя толькі 4 выпадкі нападаў на памяшканьні выбарчых участкаў і 4 выпадкі вывешваньня ўлётак “контррэвалюцыйнага зьместу”. А ў дзень выбараў у заходніх абласьцях не было зафіксавана ніводнага выпадку тэрактаў, дывэрсій ці іншых відаў “бандпраяўленьняў”.[19]

І гэта пры тым, што НКВД БССР у арыентыроўцы ад 1 студзеня 1946 году зьвяртаў увагу, што “з боку контрэвалюцыйных, нацыяналістычных і варожых элементаў, асабліва ў заходніх абласьцях рэспублікі, адзначаны факты актыўных праяваў супраць выбараў”. Называліся напады на выбарчыя ўчасткі, іх падпалы, напады на членаў участковых выбарчых камісій, вывешваньне на ўчастках улётак і зьяўленьне надпісаў “контррэвалюцыйнага зьместу”, зрыў мерапрыемстваў з удзелам выбарцаў, агітацыя супраць выбараў. Прагназавалася, што “актывізацыя дзеяньняў антысавецкага падпольля стварае ў заходніх абласьцях рэспублікі складаную аператыўную сітуацыю для працы партыйна-савецкіх органаў і што дзейнасьць варожых элементаў можа, у вядомай ступені, адбіцца на ходзе і выніках выбараў у Вярхоўны Савет СССР”.[20]

Можна зрабіць выснову, што на працягу студзеня 1946-га савецкія карныя органы пры дапамозе чатырох палкоў унутраных войскаў

---

[18] Заславский С. Первые послевоенные выборы 10 февраля 1946 года // Журнал о выборах (Масква), 2011, № 2, б. 57.
[19] Извлечение из докладной записки о результатах деятельности внутренних войск НКВД Белорусского округа по обеспечению мероприятий, связанных с подготовкой к выборам в Верховный Совет СССР.
За период с 25.12.45 г. по 12.2.46 г. // Расійскі дзяржаўны вайсковы архіў, ф. 38650, воп. 1., спр. 148; http://srpo.ru/forum/index.php?topic=134.210;wap2
[20] Тамсама.

НКВД здолелі часткова ліквідаваць, часткова загнаць глыбока ў лясы атрады і групы “лясных братоў”, якія мусілі думаць пра сваё выжываньне, а не пра правядзеньне антысавецкіх акцыяў.

Аднак згадаем пра некаторыя акцыі студзеня-лютага. У ноч на 2 студзеня 1946 году ў вёсцы Рудовіцы Гарадзенскага раёну было падпаленае і часткова згарэла памяшканьне ўчастковай выбарчай камісіі, якое месьцілася ў будынку сельсавета. Загінуў намесьнік старшыні ўчастковай камісіі М. Гусянкоў.[21]

3 студзеня 1946-га ў вёсцы Мініва Антопальскага раёну Берасьцейскай вобласьці “лясныя браты” забралі з сабой агітатара выбарчага ўчастка Дзям’яна Мінчука, але апошні здолеў уцячы.[22]

11 студзеня 1946 году ўзброеная група з 10 чалавек спаліла будынак Застружскага сельсавета (Іванаўскі раён Пінскай вобласьці), дзе быў разьмешчаны выбарчы ўчастак. Былі зьнішчаны ўсе дакумэнты, ахвяраў не было. На месца выяжджаў пракурор Пінскай вобласьці Кундовіч з групай супрацоўнікаў НКГБ.[23]

У ноч на 14 студзеня 1946 году ў вёсцы Вальцэны Мёрскага раёну Полацкай вобласьці была забітая сакратарка ўчастковай выбарчай камісіі Я. Расчэўская. Праўда, паводле папярэдніх зьвестак, прычынай забойства стала не яе праца ў камісіі, а адмова Расчэўскай выдаць некаторым з “лясных братоў” дакумэнты, якія б пацьвярджалі іх польскае паходжаньне.[24]

Увечары 8 лютага 1946 г. у вёсцы Агароднікі Лідзкага раёну Гарадзенскай вобласьці да 10 “лясных братоў” уварваліся ў памяшканьне выбарчага ўчастку. Яны разьбілі вокны, паламалі кабіны, сарвалі партрэты савецкіх правадыроў. У лютым 1946-га ў раёне вёскі Навасёлкі Лідзкага раёну быў забіты ўпаўнаважаны ЦК КП(б)Б па выбарах у Вярхоўны Савет СССР па Лідзкім раёне Максіменка.[25]

Вось як тлумачыць слабую актыўнасць арганізацыі “Чорны Кот” былы яе ўдзельнік: *“Нашыя спрабавалі перашкаджаць агітатарам, групам партыйным. А потым здабылі паперу, што ўсё роўна напішуць* [вынікі]*, як патрэбна. Гэтак не было сэнсу людзей падстаўляць. Так* [было] *і ў 1946-м, і ў 1947-м* [калі адбываліся выбары ў Вярхоўны Савет БССР]*… Забівалі агітатараў, палілі участкі, калі яны* [знаходзіліся] *ў канторах калгасаў”*.[26]

---

[21] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=662
[22] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=661
[23] НАРБ, ф. 4п, воп. 29, спр. 126, арк. 6.
[24] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=706
[25] Лубянка. Сталин и НКВД-НКГБ-ГУКР “Смерш”. 1939 — март 1946 / Архив Сталина. Документы высших органов партийной и государственной власти. — Москва: Международный фонд “Демократия”, 2006, б. 556.

У лютым 1946 году на тэрыторыі заходніх абласьцей БССР агулам было зарэгістравана 12 "бандпраяўленьняў", быў паранены 1 супрацоўнік НКВД, забітыя 1 актывіст і 13 мясцовых жыхароў, 5 чалавек параненыя.[27]

У выніку чэкісцка-вайсковых аперацый было забіта 2 і затрымана 46 удзельнікаў "антысавецкіх нацыяналістычных арганізацый", забіта 8 і затрыманы 71 "бандыт". Было затрымана 30 "бандпасобнікаў", 65 "нямецкіх стаўленікаў і пасобнікаў ворага", 5 дэзэртыраў і ўхілістаў ад службы ў Чырвонай Арміі, 2 "бандыты" здаліся. У партызанаў і падпольшчыкаў было забрана 4 кулямёты, 12 аўтаматаў, 33 стрэльбы, 11 пісталетаў, 17 гранатаў, 1703 набоі.[28]

Уначы на 3 лютага 1946 г. у Докшыцкім раёне Полацкай вобласьці "невядомыя бандыты" абрабавалі калгас імя Молатава. Яны забралі 2 тоны збожжа і некалькі галоваў скаціны.[29]

З 12 да 18 лютага ў Мёрскім раёне Полацкай вобласьці праводзілася аперацыя па ліквідацыі "бандгрупы Ратаколь". 2 партызаны былі забітыя, а сярод іх намесьнік камандзіра атрада маёр нямецкага войска Шміт, 3 партызаны былі затрыманыя, сярод іх камандзір — Ратаколь, былі затрыманыя і 9 "бандпасобнікаў".[30]

У ноч на 24 лютага атрад з прыблізна 15 чалавек з тэрыторыі БССР зьдзейсьніў налёт на Аполеўскі сельсавет у Дзьвінскім (Даўгаўпілскім) раёне Латвіі. Былі забітыя 3 байцы зьнішчальнага батальёну і 2 мясцовых жыхароў, спаленыя дакумэнты сельсавета і дом аднаго з мясцовых жыхароў.[31]

***

15 сакавіка 1946 году Савет народных камісараў быў пераўтвораны ў Савет міністраў СССР (кіраўніком ураду лічыўся І. Сталін). Адпаведна ўсе народныя камісарыяты сталі называцца міністэрствамі. Таму ад гэтага часу замест НКВД і НКГБ зьяўляюцца МВД і МГБ.

У сакавіку 1946 году колькасьць зарэгістраваных на тэрыторыі заходніх абласьцей БССР "бандпраяўленьняў" павялічылася ўдвая, але была невялікай — 24. Для параўнаньня ў Латвіі ў гэты ж час іх зафіксавалі 55, ва Ўкраіне — 46, у Эстоніі — 22.[32]

---

[26] Паведамленьне аўтару ад 28 траўня 2008 г.

[27] Лубянка. Сталин и НКВД-НКГБ-ГУКР "Смерш". 1939 — март 1946 / Архив Сталина. Документы высших органов партийной и государственной власти, б. 556.

[28] Тамсама, б. 555.

[29] Тамсама, б. 556.

[30] Тамсама, б. 555.

[31] Тамсама, б. 559.

За месяц у Заходняй Беларусі было забіта 5 супрацоўнікаў МВД, 1 паранены, загінулі 8 прадстаўнікоў савецкага і партактыву, 1 паранены, 3 уведзеныя ў лес, таксама было забіта 16 мясцовых жыхароў, 2 параненыя.[33] Адзначым, што 18 сакавіка 1946 году ў вёсцы Лукавіца Гожскага сельсавета Гарадзенскага раёну быў забіты начальнік Гарадзенскага раённага аддзелу міліцыі капітан Дзьмітрый Кузьняцоў. [34]

30 сакавіка ў вёсцы Нівы Бярозаўскага раёну быў забіты сакратар выканкаму Альшэўскага сельсавета Іван Кавальчук, яго хату спалілі. Таксама загінулі яго сын, Мікалай Кавальчук, а таксама байцы зьнішчальнага батальёну Аляксей і Канстанцін Карповічы, Уладзімер Водзіч.[35]

У выніку чэкісцка-вайсковых аперацый у сакавіку 1946 г. было забіта 2 і затрымана некалькі дзесяткаў удзельнікаў “антысавецкіх нацыяналістычных арганізацый”, забіты 1 і затрыманыя 69 “лясных братоў”, затрымана 14 “бандпасобнікаў” і 23 “нямецкіх стаўленіка і пасобніка”, а таксама 3 дэзэртыры і ўхілісты ад службы ў Чырвонай Арміі. У іх забралі 1 кулямёт, 7 аўтаматаў, 18 стрэльбаў, 7 пісталетаў, 2 гранаты, 2391 набой, 1 радыёпрыёмнік.[36]

Згадаем некалькі найбольш значных аперацый. 11 сакавіка 1946 г. у вёсцы Матукі Юрацішкаўскага раёну Маладзечанскай вобласьці аператыўнай групай раённага аддзела МВД пры затрыманьні быў забіты намесьнік кіраўніка раней ліквідаванай антысавецкай нацыяналістычнай маладзёжнай арганізацыі Матуш, які “прымаў удзел у шэрагу тэрарыстычных актаў над савецка-партыйнымі работнікамі і супрацоўнікамі ворганаў МВД”. У яго забралі стрэльбу і пісталет.

20 сакавіка 1946-га супрацоўнікі УМВД Гарадзенскай вобласьці на беразе ракі Нёман ў спецыяльна абсталяваным сховішчы знайшлі дакумэнты 10-га абводу АК, у тым ліку сьпісы асабовага складу 7 і 8 кампаній. Па сьпісах пачаўся пошук людзей. 30 сакавіка на тэрыторыі Сапоцкінскага раёну арыштавалі 6 удзельнікаў АК. Пошук іншых працягваўся.[37]

У сакавіку 1946-га ў Ленінскім раёне Пінскай вобласьці зьявілася “банда” былых паліцыянтаў, якая налічвала каля 20 чалавек. Палі-

---

[32] НКВД-МВД СССР в борьбе с бандитизмом и вооруженным националистическим подпольем на Западной Украине, в Западной Белоруссии и Прибалтике (1939 — 1956), б. 344, 347-348.

[33] Тамсама, б. 346.

[34] Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Гродзенскага раёна. — Мінск: Беларуская энцыклапедыя, 1993, б. 383.

[35] Ист.-докум. хроника Берёзовского района. — Минск: БелСЭ, 1987, б. 371; ОУН-УПА в Беларуси. 1939-1953 гг.: Документы и материалы. — Минск: Вышэйшая школа, 2011, б. 370.

[36] Тамсама.

[37] Тамсама.

цыянты паходзілі як з Ленінскага раёну, так і з Старобінскага ды Краснаслабадзкога раёнаў Бабруйскай вобласьці. У партыйных дакумэнтах паведамляецца, што нелегалы займаліся рабункамі сялян, здабываючы харчаванне і вопратку.[38] 22, 23 і 25 сакавіка ў Бабруйску прайшло паседжаньне закрытага ваеннага трыбунала, які разглядаў групавую справу беларусаў-былых навучэнцаў дывэрсійна-разьведвальнай школы нямецкай выведкі ў Дальвіцы. 22 чалавекі выяўленыя і арыштаваныя восеньню 1945 году "Сьмершам", калі амаль усе служылі чырвонаармейцамі ў 143-м гвардзейскім стралковым палку 48-й гвардзейскай стралковай дывізіі 28-й арміі. Усе яны былі асуджаныя да розных тэрмінаў зьняволеньня за "здраду радзіме".[39]

***

У 1946 годзе арганізацыяй "Чорны Кот" актыўна выдаваўся беларускі партызанскі друк (дзеля гэтага выкарыстоўвалася друкарскае абсталяваньне, пакінутае нямецкімі спэцслужбамі). Газэткі былі разьлічаныя на партызанаў і патаемнікаў, для насельніцтва друкавалі ўлёткі. З лютага 1946 году ў атрадзе "Вольны лесавік" (Барысаўшчына) друкавалася газэта "Беларускі партызан".[40] Таксама выходзіла газэта "Вольны селянін". З адной з публікацый у яе трэцім нумары ад 1946 году мы ведаем пра дробныя акцыі красавіка 1946-га, праведзеныя партызанамі "Чорнага Ката". Яны адбыліся ў раёне Камянца, Гайнаўкі, Слуцка, Капыля, Жыровіч, Ружанаў і Крэва (пераважна забойствы актывістаў). Буйнейшая акцыя адбылася каля Гарадка на Віцебшчыне, дзе быў разьбіты антыпартызанскі атрад, загінулі 17 чалавек.[41]

Як сьведчаць дакумэнты МВД СССР, у красавіку-траўні 1946 году ў многіх раёнах Заходняй Беларусі значна павялічылася колькасьць забойстваў міліцыянтаў, актывістаў, упаўнаважаных. Такія выпадкі былі зафіксаваныя ў Гарадзенскім раёне, у Пліскім і Дунілавіцкім раёнах Полацкай вобласьці, Івянецкім раёне Баранавіцкай вобласьці, Лунінецкім раёне Пінскай вобласьці, Маларыцкім раёне Берасьцейскай вобласьці, Касьцюковіцкім раёне Магілёўскай вобласьці, Капаткевіцкім і Тураўскім раёнах Палескай вобласьці.

Згадаем пра некаторыя зь іх. Увечары 20 траўня 1946 г. на хутары Сушыцельніца Маларыцкага раёну Берасьцейскай вобласьці праводзіўся сход мясцовых жыхароў, на які прыйшлі пяцёра "лясных братоў". Яны забілі загадчыка ашчаднай касай К. Саўчука, забралі яго пісталет

[38] ОУН-УПА в Беларуси. 1939-1953 гг.: Документы и материалы, б. 335, 336.
[39] Надтачаев В. Военная контрразведка Беларуси: судьбы, трагедии, победы… — Минск: Кавалер, 2008, б. 206.
[40] Беларускі Рэзыстанс, 2008, № 5, б. 53.
[41] Мы сьвяткуем Вялікдзень // Вольны селянін, 1946, № 3.

і партбілет. У вёсцы Хаціслаў гэтыя ж "лясныя браты" забілі мясцовага жыхара Е. Дзянішчука, а на хутары Асіна абяззброілі (адабралі стрэльбу) і зьбілі ўдзельніка групы садзеяньня Лук'янчука.[42]

У ноч на 2 траўня 1946 г. каля вёскі Царкоўнае Пліскага раёну Полацкай вобласьці чатырма невядомымі, узброенымі стрэльбамі, быў забіты старшыня Асінаўскага сельсавета, кандыдат у члены кампартыі Лабзоў, які разам з жонкай вяртаўся з вечарынкі.[43]

Позна ўвечары 3 траўня 1946 году ў Івянецкім раёне невядомыя стрэламі праз вакно забілі ўчастковага ўпаўнаважанага міліцыі Ёлкіна, якія вярнуўся пасьля правядзеньня мітынга, прысьвечанага выпуску займа.[44]

6 траўня 1946 году Іванаўскім раённым аддзелам МВД былі затрыманыя "кулакі"-беларусы М. і С. Леанюкі, якія зьбілі ўпаўнаважанага па рэалізацыі пазыкі С. Міхальчука. [45]

У ноч на 8 траўня 1946 г. у вёсцы Сапалькоўская Буда Касьцюковіцкага раёну Магілёўскай вобласьці "ляснымі братамі" была забітая калгасьніца, абрабаваныя і спаленыя дзьве хаты іншых калгасьнікаў. [46]

13 траўня 1946 г. у вёсцы Балаі Тузьбіцкага сельсавета Дунілавіцкага раёну Полацкай вобласьці аператыўная група МВД напала на дом мясцовага жыхара Гінько, у якім знаходзіліся "лясныя браты" І. Каравацкі і І. Калаўко ("Юзік"), якія за два дні да гэтага забілі ўчастковага ўпаўнаважанага міліцыі Парфёнава. У перастрэлцы Каравацкі быў забіты, Калаўко быў паранены і затрыманы. Загінула і 16-гадовая дачка Гінько. Міліцыянты захапілі 2 стрэльбы, абрэз, гранату, бінокаль, штых, забраныя ў Парфёнава пісталет "Парабэлум" з 20 патронамі і сумку з дакумэнтамі.[47]

У некаторых выпадках акцыі праводзілі вялікія групы "лясных братоў". У ноч на 15 траўня 1946 году ў 2-х кіламетрах ад вёскі Карма Тураўскага раёну Палескай вобласьці атрад, які налічваў да 16-ці чалавек, абстраляў оперупаўнаважанага Тураўскага раённага аддзела МГБ Новікава, дырэктара маслазавода Храпульскага, дырэктара нарыхтоўчага прадпрыемства Фаміна і калгасьніка Бравіла, якія вярталіся зь вёскі Дзяржынск. У выніку, быў забіты Новікаў. "Лясныя браты" зьнялі зь яго вопратку, забралі пісталет і сыйшлі на тэрыторыю Пінскай вобласьці.[48]

---

[42] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=810
[43] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=801
[44] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=802
[45] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=803
[46] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=804
[47] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=815
[48] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=807

Праўдападобна, акцыя была праведзеная партызанамі “Сыча”.

У траўні 1946 году адбылося надзвычайнае здарэньне ў Пінскай вобласьці. 26 траўня міліцыянт Жабчыцкага раённага аддзела МВД Мікалай Цуба, знаходзячыся на ахове КПЗ, вызваліў арыштаваную ўдзельніцу Рускай вызвольнай арміі Ашкала і разам зь ёй, прыхапіўшы аўтамат і стрэльбу, уцёк у лес. На тэрыторыі Ленінскага раёну Цуба арганізаваў “банду” і, як сьведчаць дакумэнты МВД, учыняў “рабункі мясцовага насельніцтва”. Да Цубы ў лес пайшлі і іншыя міліцыянты: Павал Кавалевіч, які таксама служыў у Жабчыцкім раённым аддзеле МВД, Адам Жаўнерык — міліцыянт з Ленінскага раёну, Мікалай Ляўковіч — участковы ўпаўнаважаны Ганцавіцкага раённага аддзела МВД. [49]

***

Адзін з уцекачоў за “жалезную заслону”, які нелегальна сыйшоў зь Беларусі ў 1946 годзе, распавядаў: “На Бацькаўшчыне поўная цяпер дэзарганізацыя жыцьця, лютуе голад і нячуваны тэрор. На сялян накладаюцца вялікія пастаўкі, за невыкананьне каторых сурова судзяць і ссылаюць. У вёскі прыдзяляюць паасобныя групы чырвонаармейцаў, якія дапільноўваюць здачы паставак, а якіх мусяць сяляне па чарзе пракармліваць. Многія жывуць у зямлянках, ва ўцалеўшых хатах жыве па некалькі сем’яў…

Сярод усяго беларускага насельніцтва няма веры ў стабілізацыю палажэньня. Усе чакаюць вайны і новых пераменаў. Гэтак чаканьне падтрымліваюць між іншым нават чырвонаармейцы. Сяляне праводзяць пасіўны байкот савецкіх мерапрыемстваў. Гэтак прадстаўнікі ўладаў ня могуць нідзе сабраць сходаў, бо насельніцтва тады хаваецца і разьбягаецца, шукаючы для гэтага розных прычынаў.

Партызанскі рух у некаторых, асабліва лясных мясцовасьцях Беларусі вельмі моцны. Паасобныя партызанскія аддзелы нападаюць на савецкія пункты, узрываюць масты, выкалеіваюць цягнікі. Вядуць таксама ажыўленую прапагандысцкую дзейнасьць, абнадзейваючы насельніцтва аб хуткай гібелі зьненавіджанае бальшавіцкае сістэмы. Асабліва актыўна яны нішчаць бальшавіцкіх даношчыкаў і правакатараў, што рэкрэтуюцца спасярод мясцовага насельніцтва”.[50]

Паводле зьвестак МВД БССР, у 1946 годзе было завербавана сярод насельніцтва і арыштаваных “лясных братоў” 253 рэзыдэнты, 328 агентаў і 3385 інфарматараў. Большая частка з гэтых амаль 4

[49] НАРБ, ф. 4п, воп. 29, спр. 568, арк. 73.

[50] Змаганьне і тэрор на Беларусі // Ruch (Зах. Нямеччына), 1947, № 1 (4), б. 39.

тысяч тайных супрацоўнікаў былі перададзеныя “іншым ворганам”, верагодна, МГБ, якое мела і сваю сетку агентуры.[51]

***

Паводле даклада міністра ўнутраных спраў СССР С. Круглова І. Сталіну, В. Молатаву, Л. Берыя і Г. Малянкову ад 21 жніўня 1946 г. “аб выніках барацьбы з бандытызмам і бандыцкіх праяўленьняў за ліпень”, “лясныя браты” ў гэты перыяд не праяўлялі вялікай актыўнасьці. У ліпені 1946 г. у заходніх абласьцях БССР было зафіксавана 17 “бандпраяўленьняў”, быў паранены 1 міліцыянт, забітыя 7 савецкіх і партыйных актывістаў, 3 актывісты паранены, а 4 забраныя ў лес, таксама былі забітыя 6 “іншых грамадзян”.[52]

Параненым міліцыянтам, пра якога згадвалася вышэй, быў ўчастковы ўпаўнаважаны Прэсман. 12 ліпеня 1946 году ў яго стралялі “лясныя браты” Жураўлёва на хутары каля вёскі Барок Івянецкага раёну Баранавіцкай вобласьці.[53]

Праз тры дні ў Берасьцейскім раёне нелегалы С. і Ф. Курэлюкі забілі старшага ўпаўнаважанага Берасьцейскага раённага аддзела МГБ Радчанку (гэты факт у даклад Круглова не патрапіў). У чэрвені С. Курэлюк, якога арыштоўвалі за “здрадніцкую дзейнасьць падчас нямецкай акупацыі”, уцёк з-пад варты.[54]

Удзень 27 ліпеня 1946 году паміж вёскамі Крыніца і Суднікі Ільянскага раёну Маладзечанскай вобласьці “нелегалы” браты Жаўняровіч цяжка паранілі ўдзельнікаў групы садзеяньня Дубровіча і Прынёнка. Апошні ад атрыманых раненьняў памёр.[55]

Ну а самая гучная акцыя адбылася 7 ліпеня 1946 г. у Івянецкім раёне Баранавіцкай вобласьці. Групай “лясных братоў” Жураўлёва каля вёскі Грань быў зьдзейсьнены напад на склад выбуховых рэчываў смалакураннага завода. Было захоплена 58 кілаграмаў аманала, 3200 капсуляў-дэтанатараў і 2275 метраў бікфордава шнура.[56]

Пра гэтую акцыю “таварыш Сталін” ад Круглова таксама не даведаўся.

Падчас правядзеньня чэкісцка-вайсковых аперацый у ліпені 1946-

[51] NKWD o polskim podziemiu. 1944 – 1948. Konspiracja polska na Nowogrodczyz’nie i Grodzien’szczyz’nie, б. 51.
[52] НКВД-МВД СССР в борьбе с бандитизмом и вооруженным националистическим подпольем на Западной Украине, в Западной Белоруссии и Прибалтике (1939 — 1956), б. 358.
[53] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=817
[54] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=753
[55] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=821
[56] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=817

га было забіта 20 "бандытаў" і ўдзельнікаў антысавецкіх арганізацый, 20 "антысаветчыкаў" было арыштавана, было ўзята ў палон 14 "лясных братоў" і 11 іх сувязных ("бандпасобнікаў"), 6 "бандытаў" здаліся самыя. Таксама ў ліпені 1946-га былі арыштаваныя 1 дэзэртыр з Чырвонай Арміі, 15 "здраднікаў Радзімы" і "іншага антысавецкага элементу" 2 чалавекі. МВД БССР мела някепскія трафеі: 1 кулямёт, 46 аўтаматаў, 253 стрэльбы, 45 пісталетаў, 13 гранатаў, 7482 набояў, 8 кг выбуховых рэчываў.[57]

Найбольш значныя аперацыі ў ліпені былі праведзеныя супраць польскіх і ўкраінскіх партызанаў. У Сапоцкінскім раёне былі арыштаваныя 10 удзельнікаў АК разам з камандантам плютона П. Лісам. Яны вербавалі людзей у АК і распаўсюджвалі антысавецкую літаратуру. [58]

21 ліпеня ў лесе каля в. Азяркі Гродзенскага раёну аператыўнавайсковая група МВД БССР, па агентурных дадзеных, часткова ліквідавала групу АК Браніслава Кісялеўскага ("Хваля"), якая налічвала 20 чалавек. 3 партызаны былі забіты, 3 затрыманыя, іншыя ўцяклі. З боку МВД загінуў камандзір аддзяленьня яфрэйтар А. Ісаеў. На месцы стаянкі атрада былі захопленыя 2 аўтаматы, 5 стрэльбаў, 3 пісталеты, 2 тысячы набояў, 4 гранаты, швейная машынка, ровар, 12 шынялёў, харчаваньне.[59]

15 ліпеня каля в. Малец Пружанскага раёну Берасьцейскай вобласьці былі забітыя 2 "лясных братоў". У адным зь іх апазналі кіраўніка Бярозаўскага і Антопальскага раённых провадаў АУН М. Дарапея ("Канапленку").[60]

***

Пра адну з сакрэтных аперацый МВД БССР лета 1946-га некалькі гадоў таму распавяла газэта "На страже". У той час зьявілася інфармацыя, што на адным з хутароў Іванаўскага раёну мусяць прайсьці перамовы камандзіраў двух атрадаў "лясных братоў". Яны плянавалі аб'яднацца для правядзеньня супольных акцый. МВД БССР вырашыла ўкараніць ў адзін з атрадаў агента — міліцыянта, былога савецкага партызана Анатоля Краўчанку, які "выдатна ведаў беларускую мову".

---

[57] НКВД-МВД СССР в борьбе с бандитизмом и вооруженным националистическим подпольем на Западной Украине, в Западной Белоруссии и Прибалтике (1939 — 1956), б. 357.

[58] Тамсама.

[59] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=816

[60] НКВД-МВД СССР в борьбе с бандитизмом и вооруженным националистическим подпольем на Западной Украине, в Западной Белоруссии и Прибалтике (1939 — 1956), б. 357.

Згадка пра беларускую мову важная. З аднаго боку, падзеі разгортваліся ў Іванаўскім раёне, дзе ў той час на чыстай беларускай мове гаварылі нямногія. Таму можна дапусьціць, што агента спрабавалі ўкараніць у беларускі атрад “лясных братоў”, магчыма, сфармаваны пры ўдзеле нямецкай выведкі. Зь іншага боку, зусім магчыма, што, паводле легенды, якраз Краўчанка мог выступаць удзельнікам разьбітага беларускага партызанскага атрада, які дзейнічаў дзесьці на поўначы Берасьцейскай ці Пінскай абласьцей. Усе партызаны таго атрада альбо загінулі, альбо былі ў зьняволеньні.

Укараненьне агента МВД БССР прайшло пасьпяхова. Партызаны атрада, у які ён патрапіў, жылі на хутарах. Краўчанка пацiху зьбіраў зьвесткі пра іншыя атрады, іх колькасьць, узбраеньне, дыслакацыю, намеры і пакідаў ва ўмоўленым месцы данясеньні.

Аднойчы “лясныя браты” вырашылі наладзіць агенту і яшчэ аднаму “навічку” (той таксама быў агентам МВД БССР) апошнюю праверку. Па адной версіі, іх паказальна “расстралялі”, толькі параніўшы. Па іншай, прымусілі страляць аднаго ў другога. Нібыта, яны хацелі адсачыць, ці забяруць пасьля параненага на лячэньне ў горад, тады пацьвердзіліся б падазрэньні, што ён засланы.

Як толькі пачаліся стрэлы, на хутар уварваліся аператыўнікі і салдаты ўнутраных войскаў МВД. На жаль, пра вынік аперацыі ў публікацыі не паведамляецца. Верагодна, цалкам ліквідаваць атрады “лясных братоў” няўдалося. Што да агента Анатоля Краўчанкі, дык ён быў цяжка паранены ў грудзі, пасьля выздараўленьня працягваў службу ў міліцыі, 17 гадоў быў намесьнікам начальніка ўпраўленьня ўнутраных спраў Берасьцейскай вобласьці.[61]

***

Абагульненых зьвестак па сытуацыі ў жніўні 1946-га мы ня маем. Ёсьць інфармацыя толькі пра некаторыя акцыі, зьдзейсьненыя ў гэтым месяцы.

У ноч на 2 жніўня 1946 году на Цыганскіх хутарах у Ляхавіцкім раёне Баранавіцкай вобласьці невядомыя забілі мясцовых жыхароў К. Пліскасевіча, яго жонку, а таксама 70-гадовага І. Пліскасевіча, яго нявестку і 4-хгадовага ўнука. Іх трупы былі спаленыя ў хаце. К. Пліскасевіч і сын І. Пліскасевіча Міхаіл зьяўляліся былымі ўдзельнікамі атрада “лясных братоў” Канцэлярчыка, якія ў жніўні 1945 году здаліся органам МВД. [62]

---

[61] Куликова О. Неизвестный подвиг // На страже, 2008, 16 траўня; http://mvd.gov.by; Передрук — Як у “банду” ў Іванаўскім раёне заслалі міліцыянта, які “выдатна ведаў беларускую мову” // Беларускі Рэзыстанс, 2008, № 1 (5), б. 177-178.
[62] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=829

5 жніўня 1946 году ў БССР былі зафіксаваныя 2 “бандпраяўленьні”, у выніку якіх былі забітыя 5 чалавек.[63]

Больш падрабязна вядома пра адну з акцый. У ноч на 5 жніўня ў лесе каля вёскі Палявая Рэчыца Жабінкаўскага раёну Берасьцейскай вобласьці з засады былі абстраляныя старшыня рэвізійнай камісіі калгаса “Бальшавік” Пасюк і брыгадзір калгаса Марчук. Абодва былі параненыя. У нападніках Пасюк пазнаў сваіх аднавяскоўцаў — П. Клачко, які пры немцах быў старастай ды цяпер хаваўся, і А. Балюка, дэзэртыра з Чырвонай Арміі.[64] Неаднаразова фіксаваліся выпадкі, калі “лясныя браты” ў розных рэгіёнах рэспублікі выкарыстоўвалі форму міліцыянтаў, супрацоўнікаў МГБ, вайскоўцаў. Відавочна, што ў гэтых выпадках дзейнічалі падрыхтаваныя групы ці асобы, якія змагаліся супраць бальшавікоў, а не тыя людзі, якія проста хаваліся ад савецкіх уладаў. У ноч на 6 жніўня 1946 году ў вёсцы Плотніца Столінскага раёну Пінскай вобласьці пяць чалавек, апранутых у форму войскаў МВД, прыйшлі ў хату сакратара сельсавета Некрашэвіча. Яны запатрабавалі правадзіць іх да ўчастковага міліцыянта І. Вабішэвіча, якога неўзабаве забілі. Імі былі абрабаваныя мясцовая крама, аптэка, забітыя загадчык аптэкі і яго жонка, падпалены будынак сельсавета. [65]

Таксама ў ноч на 6 жніўня ў вёсцы Шэльняны Жалудоцкага раёну Баранавіцкай вобласьці чатырма невядомымі, апранутымі ў форму чырвонаармейцаў, былі забітыя мясцовая жыхарка А. Раткевіч і яе сын Уладзімір. Яшчэ адзін сын здолеў уцячы. Пра прычыны забойства нічога не паведамлялася. [66]

6 жніўня 1946 году ў лесе каля в. Новая Руда Скідальскага раёну Гарадзенскай вобласьці ў замаскаванай яме знайшлі трупы дваіх мужчын (прычынай сьмерці вызначана павешаньне). Былі апазнаныя М. Грык, былы ўпаўнаважаны вёскі Ужгерэлі Гарадзенскага раёну, і І. Грык, лясьнік. 12 чэрвеня іх забралі зь вёскі “лясныя браты”. Меркавалася, што забойства зьдзейсьнілі польскія “лясныя браты”. [67]

7 жніўня ў вёску Говары Мядзельскага раёну Маладзечанскай вобласьці да ўчастковага ўпаўнаважанага міліцыі Роўды прыйшоў Ф. Місуна, які 3 жніўня ўцёк з перасыльнага пункта, захапіўшы аўтамат і абмундзіраваньне войскаў МВД. Апрануты, як вайсковец МВД, Місуна заявіў Роўдзе, што мае загад начальніка раённага аддзела МВД арыштаваць яго і адвесьці ў раённы цэнтр. Роўда паверыў, здаў аўтамат і пісталет. Пасьля гэтага Місуна адвёў яго ў лес, забіў і ўцёк. Місуна,

[63] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=822
[64] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=847
[65] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=841
[66] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=843
[67] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=844

верагодна, помсьціў Роўдзе за сваё колішняе затрыманьне. [68]

У ноч з 30 на 31 жніўня 1946 году ў Дзівіне і Дзівінскім раёне Берасьцейскай вобласьці былі распаўсюджаныя антысавецкія ўлёткі. Паводле спецпаведамленьня загадчыка аргінструктарскім аддзелам Дзівінскага райкама КП(б)Б М. Ігнатовіча, акцыю правялі "беларуска-ўкраінскія нацыяналісты". На жаль, ён не тлумачыць, чаму ўжывае такі тэрмін, таму невядома, наколькі ён абгрунтаваны ў дадзеным выпадку. [69]

***

У Беларусі працягваліся арышты. Некаторых з арыштаваных адразу адпраўлялі на вольнае пасяленьне ў Расею. Пра адзін такі выпадак успамінае жыхар Стаўбцоўскага раёну Канстанцін Міткевіч, якога арыштавалі ў жніўні 1946-га: *"Назаўтра без суда і следства мяне і іншых арыштаваных пагрузілі ў вагоны-цялятнікі і павезлі на поўнач, у Ленінград, у знакамітую турму "Кресты". Там мяне пратрымалі каля тыдня — і зноў у цягнік, у Петразаводск. На апошняй станцыі Пяжэва Сельга дзверы вагонаў адчыніліся і мясцовае начальства аб'явіла, што нас прывезлі на вольнае пасяленне"*. [70]

Міткевіч, дарэчы, з "вольнага пасяленьня" праз шэсьць тыдняў уцёк, вярнуўся ў родныя месцы і да 1949 году знаходзіўся на нелегальным становішчы.

Высялялі беларускіх сялянаў ня толькі ў Расею, але і ва Ўсходнюю Прусію. У адпаведнасьці са спэцыяльнай пастановай савецкага ўраду, у новастворaную Калінінградзкую вобласьць мусілі дабраахвотна перасяліцца 12 тысяч сем'яў калгасьнікаў. Перасялялі іх толькі з Расеі і БССР. З Беларусі на новае месца жыхарства мусілі пераехаць 2500 сем'яў, аднак за верасень 1946 году выехала толькі 1459 сем'яў.[71]

Пад рэпрэсіі трапляла частка рэпатрыянтаў, якія прыяжджалі ў БССР зь Нямеччыны. Сярод іх органы савецкай дзяржбясьпекі вышуквалі ўдзельнікаў беларускіх нацыянальных арганізацый, удзельнікаў антысавецкіх вайсковых фармацый, паліцыянтаў ды іншых. Вядома, што на люты 1947 году было праверана ў адмысловых фільтрацыйных лягерах амаль 235 тысяч рэпатрыянтаў, зь іх ліку было арыштавана 1752 чалавекі: 37 шпіёнаў, 390 "здраднікаў", 923 паліцыянты, 13 удзельнікаў карных аддзелаў, 14 уласаўцаў, 72

---

[68] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=848

[69] ОУН-УПА в Беларуси. 1939-1953 гг.: Документы и материалы, б. 341-343.

[70] Міткевіч К. "Особым совещанием города Москвы…" // Здравый смысл (Мінск), 1997, 21-27 траўня, № 21.

[71] Шендерюк М. Кто они — первые переселенцы в самую западную? // Тезисы докладов и сообщений VI конференции Ассоциации "История и компьютер" (Звенигород, 26-29 марта 1998 г.). Информационный бюллетень № 23. Март 1998 г.. — Москва: Мосгосархив, 1998, б. 142-144.

удзельнікі антысавецкіх фармацый і “бандаў”, “іншага антысавецкага элементу” — 304.[72]

Сярод іншых, у 1946 годзе быў арыштаваны паэт Лявон Случанін (Шпакоўскі), які, як рэпатрыянт, вярнуўся ў Бабруйскую вобласьць БССР з амэрыканскай зоны акупацыі Нямеччыны. Ён быў асуджаны на 15 гадоў пазбаўленьня волі і 5 гадоў пазбаўленьня правоў. [73]

У жніўні 1946 году “нелегал” Іван Раманчук (“Ястраб”), які толькі пачаў зьбіраць партызанскую групу, пры дапамозе ўдзельніка ансамбля Рыгора Шырмы Міхася Кожыча сабраў на хутары Сацкая Ліпа пад Нясьвіжам групу студэнтаў. На нарадзе быў заснаваны канспірацыйны “Саюз змаганьня за незалежнасьць Беларусі” і прынятая яго праграма. Раманчук стаў кіраўніком арганізацыі, якая праіснавала да 1949 году, калі часткова была разгромленая.[74]

Падобныя вызвольныя арганізацыі ў той час дзейнічалі ў многіх рэгіёнах Заходняй Беларусі, але толькі некаторыя мелі цесную сувязь зь беларускім партызанскім рухам.

***

У верасьні 1946 году ў заходніх абласьцях БССР было зарэгістравана 18 “бандпраяваў”, паранена 2 працаўніка МВД, забіта 7 савецкіх і партыйных актывістаў, 1 быў паранены, таксама былі забітыя 17 “іншых грамадзян” і 2 параненыя.[75] Падчас правядзеньня чэкісцка-вайсковых аперацый і “іншых агентурна-аператыўных мерапрыемстваў” у заходніх абласьцях ворганамі МВД БССР былі забітыя 5 “бандытаў”, арыштавана 11 удзельнікаў антысавецкіх нацыяналістычных арганізацый і групаў, 49 удзельнікаў “бандгрупаў” і “бандытаў”-адзінцоў, 21 “бандпасобнік”, 8 дэзэртыраў з савецкага войска. Трафеі былі амаль такія ж, як і ў ліпені: 5 кулямётаў, 37 аўтаматаў, 172 стрэльбы, 30 пісталетаў і рэвальвераў, 7 гранатаў, 2624 набоі, амаль 8 кг выбуховых рэчываў. [76]

Згадаем пра найбольш значныя аперацыі. З 31 жніўня да 3 верасьня апергрупа УМВД Пінскай вобласьці цалкам ліквідавала “тэрарыстычную банду” Трухановіча. Трухановіча паранілі і арыштавалі, 1 яго партызан быў забіты, 4 здаліся. Вядома, што апошняя акцыя “лясных

---

[72] NKWD o polskim podziemiu. 1944 – 1948. Konspiracja polska na Nowogrodczyz’nie i Grodzien’szczyz’nie, б. 152.

[73] Тамсама, б. 158.

[74] Больш падрабязна пра яе гл.: Ёрш С. Іван Раманчук — беларускі партызанскі камандзір і кіраўнік “Саюзу змаганьня за незалежнасьць Беларусі” // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 1 (10), б. 15-18.

[75] НКВД-МВД СССР в борьбе с бандитизмом и вооруженным националистическим подпольем на Западной Украине, в Западной Белоруссии и Прибалтике (1939 — 1956), б. 363.

[76] Тамсама, б. 362.

братоў” Труханoвіча адбылася 29 жніўня 1946 г., калі былі забітыя намесьнік старшыні сельсавета Вярэніц, члены групы садзейнічаньня Елясюк, І. Туркевіч, А. Туркевіч, быў цяжка паранены ўпаўнаважаны вёскі Колвік. [77]

27 верасьня 1946 году каля вёскі Н. Бярэзіна Юрацішкаўскага раёну Маладзечанскай вобл ліквідавалі “бандгрупу” Семака, якая 25 верасьня абрабавала маслазавод. Былі арыштаваныя 3 яе ўдзельнікі, у тым ліку і Сямак. Трафеі міліцыянтаў былі невялікія: 2 гранаты і 2 стрэльбы з набоямі. Сярод найбольшых злачынстваў Семака называецца забойства 19-га ліпеня 1946 г. старшыні сельсавета Пятрова. [78]

У дакумэнтах захавалася нямала фактаў зьдзекаў прадстаўнікоў улады, міліцыянтаў над насельніцтвам. У верасьні 1946 году вызначыўся ўчастковы ўпаўнаважаны Пінскага раёну Васіль Струц. 22 верасьня п’яны міліцыянт разьбіў акно грамадзянцы Родзіч (населены пункт у дакумэнце не называецца), некалькі разоў ударыў яе рэвальверам і зрабіў тры стрэлы. У ноч на 23 верасьня Струц вырашыў праверыць “лаяльнасьць” жыхароў вёскі Лодараж да савецкай улады. Ён сабраў групу з 7 чалавек, якая “пад выглядам банды” заходзіла ў дамы і пыталася ў вяскоўцаў, дзе жывуць кіраўнікі сельсавета. Калі ж людзі адмаўляліся адказваць, іх зьбівалі. Міліцыянт Струц працягваў зьбіцьцё людзей і надалей. У дакумэнтах згадваецца таксама выпадак у вёсцы Востраў, калі 2 лістапада 1946 году ён нанёс пабоі мясцоваму жыхару Дубінецкаму. [79]

***

Менш вядома пра дзейнасьць “лясных братоў” ва ўсходніх абласьцях БССР. Пасьля шматлікіх “зачыстак” 1943-1945 гг., у якіх прымалі ўдзел войскі НКВД, у гэтым рэгіёне працягвалі дзейнічаць толькі дробныя атрады і групы. Аднак іх высілкі былі скіраваныя ня толькі на выжываньне, “нелегалы” шкодзілі савецкай уладзе, забівалі актывістаў.

У верасьні 1946 году ў Клімавіцкім раёне Бабруйскай вобласьці дзейнічала група былога бурмістра Клічава, якая налічвала 12 чалавек (“здраднікаў”, дэзэртыраў, “антысавецкіх элементаў”, якія перайшлі на нелегальнае становішча). “Лясныя браты” забівалі савецкіх актывістаў, камуністаў, рабавалі вясковыя крамы.[80]

---

[77] НКВД-МВД СССР в борьбе с бандитизмом и вооруженным националистическим подпольем на Западной Украине, в Западной Белоруссии и Прибалтике (1939 — 1956), б.362-363.

[78] Тамсама, б. 363.

[79] НАРБ, ф. 4п, воп. 29, спр. 568, арк. 70, 71.

[80] Ильинский Н. Деятельность органов милиции Белорусской ССР по охране общественного порядка и борьбе с преступностью (1946—1959 гг.). Учебное пособие. — Минск: МВШ МВД СССР, 1982, б. 21.

У верасьні-кастрычніку 1946 году ў Докшыцкім раёне Полацкай вобласьці быў актыўны атрад 43-гадовага Станіслава Каросьціка. Ён і яго людзі зьдзейсьнілі 15 тэрактаў супраць міліцыянтаў, савецкіх і партыйных актывістаў, членаў іх сем'яў. Вось што ўспамінае Валянціна Іванова (Паддубская) з расійскага горада Ніжні Ноўгарад:

*“Бандыты* [Каросьціка] *забівалі камсамольцаў, сакратароў і старшыняў сельсаветаў, каралі сьмерцю сем'ямі, жывых зачынялі ў дамах і падпальвалі. Усе жылі ў страху.*

*У Докшыцы ў той час прыязджалі паручыкі з Польшчы, Пецю* [старэйшага лейтэнанта Пятра Паддубскага, старшага ўпаўнаважанага Докшыцкага РАУС у вёсцы Струкі, 1920 г. н., брата В. Івановай] *да іх прымацавалі, бо ён ведаў месцы, дзе трэба шукаць бандытаў. Многія зь іх, асабліва моладзь, дабраахвотна выходзілі зь лясоў, іх абяззбройвалі, афармлялі паперы і адпраўлялі ў Польшчу да бацькоў. Тыя пасьля дзякавалі брата за тое, што дапамог вярнуць дзяцей, якія заблыталіся… А Каросьцік дык проста ўзьненавідзеў Пятра, сустрэў неяк Марысю* [жонку П. Паддубскага] *і сказаў ёй: “Глядзі, хутка станеш удавой”.*

*У ноч з 19-га на 20 кастрычніка* [1946 г.] *банда напала на вёску. Пётр з Марысяй вярталіся ад знаёмага, раптам з двух бакоў аўтаматныя чэргі, яны пабеглі назад, але брат упаў… Марыся на руках унесла яго ў дом і ўстала каля дзьвярэй, закрываючы яго сабой. Хто б мог падумаць, што гэтая мілая, пяшчотная жанчына выявіцца такой мужнай! Падбег Каросьцік, стаў яе адпіхваць, а яна крычала яму: “Забойца!”. Бандыт стрэліў ёй у скронь разрыўной куляй...*

*Супрацоўнікі міліцыі спазьніліся ўсяго на некалькі хвілін. На пахаваньне прыйшло шмат людзей, прыяжджалі з далёкіх хутароў. Пятра ведалі яшчэ па партызанскіх часах”.* [81]

“Польскія паручыкі” невыпадкова спрабавалі вярнуць зь лесу Каросьціка і яго людзей. Пазьней, калі ён будзе забіты, у яго знойдуць дакумэнты аб дэмабілізацыі з Войска Польскага, а таксама медалі “Віртуці Мілітары” і “Партызану Айчыннай вайны І ступені”. [82]

У кастрычніку-лістападзе 1946 году рэшткі атрада Каросьціка зрабілі рэйд у Лідзкі раён Гарадзенскай вобласьці. Там яны ўстанавілі кантакт з польскай групай Міхала Дурыса. Яны правялі некалькі сумесных акцый. Аднак 29 лістапада 1946 году група Каросьціка з чатырох чалавек была акружаная апэрацыйна-вайсковай групай Лідзкага НКВД на хутары Агароднікі. Пры спробе прарыву ў лес усе былі забітыя.[83]

---

[81] Письмо о старшем брате, Петре Васильевиче Поддубском... // http://ng.netroad.ru/archive_064/news14.htm

[82] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=737

[83] NKWD o polskim podziemiu. 1944 – 1948. Konspiracja polska na Nowogrodczyz'nie i Grodzien'szczyz'nie, б. 138-139.

Ва ўсходняй Беларусі дзейнічала і некалькі атрадаў "Чорнага Ката" (група "Беларусь-Поўнач"), якімі камандаваў Пятро Гаевіч. Яны дыслакаваліся паміж Полацкам, Докшыцамі, Бягомлем і Лепелем. Атрады вялі баі з войскамі НКВД/МВД. У пачатку вясны 1946-га партызанамі Гаевіча каля Гарадка на Віцебшчыне быў разьбіты антыпартызанскі атрад, толькі забітых было 17 чалавек. [84]

Да Магілёўшчыны даходзілі рэйдавыя групы "Сыча" (група "Беларусь-Поўдзень" арганізацыі "Чорны Кот"). Вясной-летам 1946-га пад Магілёвам быў створаны фільтрацыйны лягер для рэпатрыянтаў, якія вярталіся зь Нямеччыны. Сярод іншых у ім апынуліся і 17 юнакоў, якія ў канцы вайны служылі ў "дапаможнай службе люфтвафэ". Адзін зь іх здолеў уцячы з лягера і ў лесе натрапіў на рэйдавую групу выведкі атрада "Сыча". Апошні арганізаваў сьмелую апэрацыю па вызваленьні вязьняў фільтрацыйнага лягеру. Некалькі дзесяткаў беларускіх партызанаў пераапрануліся ва ўніформы спэцатраду МГБ і без праблемаў ліквідавалі ахову. У выніку, былі вызваленыя згаданыя юнакі і яшчэ 48 чалавек (усе, хто пажадаў пакінуць лягер). [85]

Таксама на Магілёўшчыну праводзіў рэйды атрад Козіна, які дзейнічаў на Браншчыне і складаўся з былых франтавікоў ды паліцыянтаў. У 1946 годзе партызаны Козіна наведваліся ў Хоцімскі раён, дзе "зрывалі мерапрыемствы савецкай улады", рабавалі крамы і калгасную маёмасьць, праводзілі антысавецкую агітацыю. [86]

У 1946 годзе "Гаевічам" з Віцебшчыны ў рэйд на Пскоўшчыну была пасланая група беларускіх партызанаў "Чорнага Ката". Яны правялі некалькі акцый, наладзілі сувязь з мясцовымі стараабрадцамі, партызанскі атрад якіх ачоліў удзельнік рэйда "Лявон" ("Сіліч"). [87]

***

У кастрычніку 1946 году ў Мінску адбыўся замах на міністра ўнутраных спраў БССР Сяргея Бельчанку. Выпадак выключны для таго часу. Падобных замахаў не было ні ва Ўкраіне, ні ў Летуве, дзе былі іншыя, непараўнальныя з БССР, масштабы антысавецкага Супраціву.

Пра тое, як адбыўся замах, вядома толькі з успамінаў Бельчанкі: *"Бандыты мэтанакіравана палявалі на мяне. У Мінску 16 кастрычніка 1946 году ў мяне стрэліў снайпэр. Ён страляў праз акно на гарышчы хлява, які месьціўся побач з маім домам, у акно маёй спальні. Гэта здарылася на золку, неўзабаве пасьля таго, як я вярнуўся дахаты.*

---

[84] Мы сьвяткуем Вялікдзень // Вольны селянін, 1946, № 3.
[85] Беларускі Супраціў, б. 228.
[86] Белорусский уголовный розыск. Воспоминания. Очерки. Публицистика. — Минск, 2003, б. 200, 201.
[87] Беларускі Супраціў, б. 368.

*Аднак з-за таго, што я быў накрыты ў той дзень набытым Надзеяй Паўлаўнай* (жонкай С. Бельчанкі — **С. Ё.**) *коўдрай, куля, што ляцела ў мяне, не прабіла таўшчыні ваты, а, згарнуўшы яе ў камяк, застрала там. Яна нанесла мне толькі ўдар ў вобласці жывата і слабы апёк. Стралок хутка ўцёк, ды і актыўных захадаў па яго пошуку не праводзілася, бо забойстваў тады было нямала, і адцягваць сілы я не дазволіў”.* [88]

Паводле гісторыка Эмануіла Іофэ, арганізатарамі замаху былі “кіраўнікі бандаў”, у якіх “выклікала нянавісьць... актыўная дзейнасьць Бельчанкі ў барацьбе з бандытызмам”. [89] Зразумела, што ніякія крымінальнікі не маглі ў той час арганізаваць падобны замах. Арганізатарамі былі антысаветчыкі. Падпольле польскай “Арміі Краёвай” у Менску да 1946 году ўжо было разгромленае. Выканаць такую акцыю маглі людзі, падрыхтаваныя нямецкімі спэцслужбамі. Арганізацыя беларускага Супраціву “Чорны Кот” у 1946 годзе яшчэ мела некалькі явак ў сталіцы. [90] Аднак інфармацыі пра тое, што замах выканалі яе баевікі, няма. Затое яго магла зьдзейсьніць партызанская група “Сталіца”, якая першапачаткова належыла да арганізацыі “Чорны Кот”, але ў 1944-м страціла сувязь з цэнтральным камандаваньнем і далей дзейнічала самастойна. Яе база знаходзілася ў раёне Заслаўя ў адным з бункероў так званай “лініі Сталіна” (тайнае сховішча было таксама і ў самым Заслаўі). У групе налічвалася 50-80 чалавек. Яе першапачатковы склад быў папоўнены паліцыянтамі, сябрамі СБМ і дэзэртырамі Чырвонай Арміі.

Вось якое меркаваньне выказаў былы камандзір беларускага партызанскага атрада “Белавежа”:

“Апэрацыю ў Менску магла зьдзейсьніць толькі група “Сталіца”. Яна фактычна дзейнічала да канца восені — пачатку сьнежня 1946 году. На жаль, ніякія матэрыялы гэтай групы не захаваліся альбо пакуль не адшуканыя... Яны цалкам маглі зьдзейсьніць падобную акцыю, бо мелі падрыхтаваных людзей. Наколькі памятаю, Вітушка ўжо ў Нямеччыне згадваў, што гэтая група правяла шэраг акцый”.[91]

Яшчэ раз зазначым, што факт замаху на міністра ўнутраных справаў БССР трымаўся ўладамі ў строгім сакрэце. Афіцыйна прынята лічыць, што тэрактаў, накіраваных супраць буйных дзяржаўных дзеячоў савецкай Беларусі, не было.

---

[88] Попов А. 15 встреч с генералом КГБ Бельченко. — Москва: ОЛМА-ПРЕСС, 2002.

[89] Иоффе Э. Последний нарком и первый министр // Вечерний Минск, 2007, № 62, 22 сакавіка.

[90] Беларускі Супраціў, б. 229.

[91] СЁ. Замах на міністра ўнутраных справаў БССР. 1946 год // Беларускі Рэзыстанс, 2007, № 1 (4), б. 135.

***

У ліпені і кастрычніку 1946 году савецкі ўрад і кіраўніцтва камуністычнай партыі прынялі пастановы па ўзмацненьні аховы хлеба. Судовыя органы атрымалі загад разглядаць справы аб крадзяжах у дзесяцідзённы тэрмін. У лістападзе-сьнежні ў СССР было асуджана больш за 53 тысячы чалавек, пераважна калгасьнікаў, якія атрымлівалі працяглыя тэрміны зьняволеньня. За “сабатаж кампаніі па нарыхтоўках” арыштоўвалі і старшыняў калгасаў. І ўсё гэта адбывалася на фоне голаду, які пачаўся ў канцы 1946-га ў некаторых абласьцях Украіны, цэнтральнай Расеі і Малдавіі. Тады памерла ад 500 тысяч да 1 мільёна чалавек. [92]

Хлебапастаўкі дзяржаве налічаліся па сялянскіх адзінаасобных гаспадарках у залежнасьці ад колькасьці зямлі і яе якасьці. Аднак гэты дзяржаўны падатак штогод павялічваўся. У даведцы аб палітычных настроях сялянства, якую склала ў 1946 годзе ўпраўленьне МГБ па Берасьцейскай вобласьці, адзначалася незадавальненьне сялянаў практыкай хлебанарыхтовак: ураджайнасьць аказалася ніжэйшай, чым у 1945 годзе, а памер хлебаздачы павялічыўся. Распаўсюджваліся такія чуткі: “Англія і Амэрыка загадалі Савецкаму Саюзу хлеб з беларусаў ня браць”; “Сюды прыйдуць прадстаўнікі Польшчы і праверацць правільнасьць налічэньня хлебанарыхтовак на беларусаў”.[93]

Таксама сялянаў абкладалі і грашовымі падаткамі: за кожны гектар пашы, за сенажаць, сад, каня, карову.[94] За парушэньне тэрміну паставак штрафавалі, неаднаразовыя няздачы прыводзілі да крымінальнай адказнасьці. Вядома, што за невыкананьне дзяржпаставак у 1945-1946 гг. у Берасьцейскай вобласьці было асуджана 1043 чалавекі, 721 быў аштрафаваны. [95]

Да таго ж, з боку ўпаўнаважаных, агентаў па нарыхтоўках, зборшчыкаў падаткаў адбываліся шматлікія злоўжыванні. Прывядзем некалькі такіх фактаў. У верасьні 1946 году агент па нарыхтоўках і ўпаўнаважаны Сапроненскага сельсавета Сьвірскага раёну Маладзечанскай вобласьці зьбілі 68-гадовую сялянку вёскі Завідэнты М. Касьцечка, забралі і прадалі яе карову.[96] Упаўнаважаныя па хлебанарыхтоўках Мастоўскага райкама партыі пры правядзеньні нарыхтоўчай кампаніі

---

[92] История сталинского ГУЛАГа. Массовые репрессии в СССР. т. 1. — Москва: “Российская политическая энциклопедия”, 2004;
http://his.1september.ru/

[93] Белозорович В. Западнобелорусская деревня в 1939 — 1953 годах: Монография. — Гродно: ГрГУ, 2004, б. 103.

[94] Тамсама, б. 103-104.

[95] Тамсама, б. 104.

[96] Тамсама.

1946 году арганізавалі п’янку ў старшыні Мілевіцкага сельсавета. Пасьля яны паехалі ў в. Букштава і разагналі там вясельле, абрабавалі мясцовага селяніна, спрабавалі падпаліць дом. [97]

У адказ узмацняўся супраціў мерапрыемствам савецкай улады. Дзівінскі раённы аддзел НКВД у справаздачы ад 1946 году паведамляў: “Упаўнаважаныя сельскіх саветаў у вёсках амаль не працуюць, баючыся рэпрэсій з боку бандаў. Падчас заёмнай кампаніі ўпаўнаважаныя ў Дзівіне, Павіці, Лелікава адмаўляюцца прымаць падпісныя лісты. Раённыя працаўнікі заяўляюць, што ў вёсках цяжка знайсьці дэпутата, яны хаваюцца і ад бандаў, і ад раённых працаўнікоў. Агент па нарыхтоўках заявіў: “Апісваць маёмасьць сялянаў не пайду, я хачу жыць”. [98]

І такія заявы былі небезпадстаўныя. 8 лістапада 1946 году на дарозе ў Дваржыцкім лесе ў Сьвірскім раёне Маладзечанскай вобласьці быў забіты і абрабаваны жыхар мястэчка Жукавіны Р. Лукашэвіч, які працаваў па забеспячэньні хлебапаставак. Ён ехаў на ровары ў мястэчка Сьвір для здачы ў дзяржбанк 16 тысяч рублёў. [99]

У ноч на 15 лістапада 1946 г. у вёсцы Астраўкі Нясьвіжскага раёну Баранавіцкай вобласьці мясцовым жыхаром Гуцько быў забіты агент Міністэрства нарыхтовак па Астраўскім сельсавеце Глобаж. Гуцько затрымалі, забралі ў яго пісталет і боты, зьнятыя з забітага агента.[100]

Удзень 23 лістапада 1946 году зь вёскі Бярозка Радуньскага раёну Гарадзенскага раёну невядомымі “ляснымі братамі” былі забраныя фінагент Калашнікаў і агент Міністэрства нарыхтовак Ладзінава, якія праводзілі сход мясцовых жыхароў. [101]

Увечары 28 лістапада 1946 году ў вёсцы Кайшэўка Карэліцкага раёну Баранавіцкай вобласьці невядомым быў паранены праз вакно ўпаўнаважаны райвыканкаму І. Маладзецкі. Раненьне яму было нанесенае штыхом, прымацаваным да палкі (!). [102]

***

Агульных зьвестак па акцыях “лясных братоў” у лістападзе і пра праведзеныя антыпартызанскія аперацыі ў нас няма. Вядома, што штодня ў лістападзе ў Заходняй Беларусі фіксавалася ад 3 да 5 “бандпраяўленьняў” (праўда, былі дні, калі іх не было зусім), органы МВД праводзілі ад 3 да 6 аперацый супраць “лясных братоў”. Згадаем пра некаторыя з акцый лістапада 1946-га.

---

[97] Тамсама, б. 78.

[98] Тамсама, б. 85.

[99] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=799

[100] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=800

[101] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=727

[102] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=733

5 лістапада 1946 году ў двух кіламетрах ад вёскі Маховічы Лідзкага раёну Гарадзенскай вобласьці быў забіты старшыня Мыцкага сельсавета Старасьцін і яго намесьнік Мікалайчык. [103]

У той жа дзень у Шчучынскім раёне забілі загадчыка медпункта Котава. [104]

Позна ўвечары 8 лістапада 1946 году ў в. Олтуш Маларыцкага раёну Берасьцейскай вобласьці атрадам "лясных братоў", які прыйшоў з Шацкага раёну Валынскай вобласьці Ўкраіны зьдзейсьнены напад на памяшканьне сельсавету. Быў забіты старшы групы зьнішчальнага батальёну Іван Чур, параненая Еўдакія Чуль. Пасьля гэтага была абрабаваная крама, забраныя 60 літараў гарэлкі і 40 метраў мануфактуры. "Лясныя браты" сыйшлі ва Ўкраіну. [105]

У ноч на 11 лістапада 1946 г. на маладзёжную вечарынку, што была наладжаная на хутары Дземьянавічы Вялейскага раёну Маладзечанскай вобласьці, прыйшлі двое невядомых. Камсамольцы з групы садзеяньня Ф. Чайко і Я. Волкаў паспрабавалі праверыць у іх дакумэнты. Аднак адзін з невядомых параніў з пісталета Волкава і мясцовага жыхара Равіча. Пасьля гэтага невядомыя праверылі па сьпісе, які ў іх быў, прысутных. Выявіўшы камсамольца Чайко, яны яго забілі і сыйшлі.[106]

Зноў жа ў ноч на 11 лістапада 1946 г. у в. Лягневічы Юрацішкаўскага раёну Маладзечанскай вобласьці невядомымі ўдарам па галаве "тупым прадметам" быў забіты ўдзельнік групы садзеяньня Габрыловіч. Труп быў распрануты і кінуты ў калодзеж.[107]

У ноч на 19 лістапада 1946 году ў вёсцы Ляховічы Іванаўскага раёну Пінскай вобласьці пяцю "ляснымі братамі" быў забіты ўчастковы ўпаўнаважаны міліцыі І. Татарчук. Была абрабаваная крама, адкуль, акрамя тавараў, забралі 3 тысячы рублёў. Міліцыя затрымала ўдзельніка нападу І. Паўлюковіча і сувязную "лясных братоў", рэпатрыянтку Е. Ведзярчук, у якой хаваліся "былы нямецкі пасобнік" Ф. Грэчка, "былы нямецкі стараста" І. Данількевіч і дэзэртыр з савецкага войска Гарбацэвіч. На іх пошук была накіраваная агентура Іванаўскага і Драгічынскага раённых аддзелаў МВД.[108]

У ноч на 20 лістапада 1946 году ў мястэчку Ліпнікі Іўеўскага раёну Маладзечанскай вобласьці атрадам "лясных братоў", які прыйшоў з Лідзкага раёну Гарадзенскай вобласьці, было разгромленае паштовае

---

[103] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=779
[104] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=742
[105] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=787
[106] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=797
[107] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=798
[108] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=721

аддзяленьне, а таксама забіты старшыня сельсавета П. Кудракоў. Нелегалы спрабавалі забіць участковага ўпаўнаважанага міліцыі, забралі ў яго з хаты ручны кулямёт, аўтамат, стрэльбу і пісталет.[109]

28 лістапада 1946 г. аператыўная група раённага аддзела МВД з дапамогай агентурных дадзеных выявіла ў раённым цэнтры Дзівін Берасьцейскай вобласьці ў хаце лясьніка Сацэвіча ўдзельнікаў атрада "Дворка" С. Кухарчука ("Муха") і Г. Лесыка ("Даліна"). Падчас перастрэлкі яны загінулі. Таксама былі забітыя 12-цігадовы сын і 70-гадовая маці Сацэвіча. Хата згарэла. Сацэвіч спрабаваў уцячы, але быў паранены і арыштаваны. Была арыштаваная і яго жонка. У перастрэлцы быў паранены ўчастковы ўпаўнаважаны міліцыі Заяц. Міліцыянтам дасталіся наступныя трафеі: 3 аўтаматы ППШ, пісталет, 50 набояў, 2 сумкі з дакументамі "Дворка".[110]

Акцыі рэгістраваліся і ва ўсходніх абласьцях. 30 лістапада 1946 году ў вёсцы Галешына Расонаўскага раёну Палескай вобласьці "лясныя браты", пераапранутыя ў форму савецкіх вайскоўцаў, стрэлам са стрэльбы забілі сьледчага раённай пракуратуры, камуніста Абдула Лунайткосава.[111]

***

У сьнежні 1946 году ў многіх раёнах Заходняй Беларусі працягваліся забойствы, многія — з помсты, забівалі пераважна ў хатах, страляючы праз вокны, праз дзірку ў даху… У некаторых выпадках забівалі людзей, каб абрабаваць іх гаспадарку. І неабавязкова рабілі гэта "нелегалы", часам на такія злачынствы ішлі жыхары суседніх вёсак, альбо нават і аднавяскоўцы…

А пачаўся месяц з ліквідацыі 1 сьнежня на Лідчыне групы Каросьціка, пра што мы згадвалі раней.

У ноч на 5 сьнежня 1946 году ў вёсцы Шыльвы Юрацішкаўскага раёну Маладзечанскай вобласьці стрэлам з вінтоўкі ў сваім доме была забітая А. Копат. Забойцы забралі карову, мяса ды іншыя рэчы ды ўцяклі.[112] Раніцай 8 сьнежня 1946 году ў вёсцы Верхапольле Гарадзенскага раёну польскім атрадам "Хваля" была забітая мясцовая жыхарка С. Мароз, полька па нацыянальнасьці, таксама быў забіты малодшы лейтэнант савецкага войска, камуніст С. Супрун, які "забясьпечваў хлебанарыхтоўкі". "Лясныя браты" забралі яго асабістыя рэчы, наган і сыйшлі. 9 жаўнераў, якія былі з Супруном, ніякага супраціву не аказалі. Быў арыштаваны бацька "бандыта Лінкевіча" і сын гаспадара

[109] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=718
[110] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=732
[111] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=736
[112] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=740

дома, дзе жыў Супрун — І. Песьцюк.[113]

У ноч на 10 сьнежня 1946 году ў вёсцы Цьвіры Ляхавіцкага раёну Баранавіцкай вобласьці невядомымі стрэлам праз дзірку, зробленую ў даху быў забіты мясцовы жыхар Паўлоўскі. [114]

11 сьнежня 1946 году ў трох кіламетрах ад вёскі Міжэвічы Слонімскага раёну Баранавіцкай вобласьці невядомымі былі забітыя ў сваім доме мясцовая жыхарка Лабар і яе 8-гадовая дачка. [115]

У ноч на 13 сьнежня 1946 году ў вёсцы Будамішкі Пастаўскага раёну Маладзечанскай вобласьці ў 300 метрах ад мяжы з Летувой невядомымі быў забіты лясьнік Лаздунскага лесаўчастка. [116]

У ноч на 13 сьнежня 1946 году ў вёсцы Базенята Іўеўскага раёну Маладзечанскай вобласьці стрэлам праз вакно быў забіты ў сваёй хаце мясцовы жыхар Б. Кіўра, паляк па нацыянальнасьці.[117]

У ноч на 19 сьнежня 1946 году ў в. Сінцянята Сьвірскага раёну Маладзечанскай вобласьці ў доме лесьніка Лукашэвіча ўдзельнікамі атрада Гіля стрэлам праз вакно быў забіты лесаабходчык У. Мізула.[118]

23 сьнежня 1946-га на хутары Лаздуны Юрацішкаўскага раёну Маладзечанскай вобласьці стрэлам праз вакно быў цяжка паранены старшыня Лаздунскага сельсавета Крупеня, які праводзіў працу па хлебазакупках. Па падазрэньні ў зьдзйсьненьні тэракту былі затрыманыя тры чалавекі.[119]

6 сьнежня 1946 г. каля вёскі Сасінцы Драгічынскага раёну Пінскай вобласьці знайшлі труп падатковага агента Драгічынскага раённага фінансавага аддзела Сьвіціч. Было ўстаноўлена, што яго задушылі вяроўкай.[120]

8 сьнежня 1946 году ў вёсцы Дзегцяры Васілішкаўскага раёну Гарадзенскай вобласьці двума невядомымі быў забіты мясцовы жыхар, каваль І. Сьвяцкі, які ў траўні выклікаўся на допыт і вочную стаўку з абвінавачаным Шаховічам у раённы аддзел МГБ.[121]

Увечары 15 сьнежня 1946 году ў вёсцы Маркаўшчызна Воранаўскага раёну Гарадзенскай вобласьці стрэлам з пісталета быў забіты мясцовы жыхар М. Мялько, паляк. У забойстве падазраваўся актыўны

---

113 http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=747
114 http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=751
115 http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=762
116 http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=759
117 http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=757
118 http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=767
119 http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=772
120 http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=745
121 http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=750

ўдзельнік Арміі Краёвай А. Грышко, які з вясны 1946-га знаходзіўся на нелегальным становішчы. Яго сын быў асуджаны на 10 гадоў і супраць яго якраз сьведчыў Мялько.[122]

15 сьнежня 1946 году ў в. Забалоцьце Чавускага раёну Магілёўскай вобласьці невядомымі быў забіты былы нямецкі стараста Г. Андрэеў.[123]

Уначы 18 сьнежня 1946 году ў Іўеўскім раёне Маладзечанскай вобласьці былі забітыя загадчык аддзела культасьветпрацы райвыканкаму Ізмайлаў і старшыня сельсавета Глебаў. Былі затрыманыя дзьве сястры Анопка, у якіх начавалі “лясныя браты”. [124]

У ноч на 12 сьнежня 1946 году супрацоўнікі Берасьцейскага раённага аддзела МВД па агентурных дадзеных, затрымалі нелегала С. Курэлюка, жыхара вёскі Амеліна, які ў чэрвені ўцёк з-пад варты, а ў ліпені забіў старшага ўпаўнаважанага Берасьцейскага раённага аддзела МГБ Радчанку. У Курэлюка забралі наган і сьпіс жыхароў вёскі, якія захоўвалі зброю.[125]

У сьнежні 1946 году ў Мядзельскім раёне Маладзечанскай вобласьці дзейнічалі партызанскія групы Траяновіча і Сінгляніка, якія рабілі напады на сельсаветы і пастарункі міліцыі. Для іх ліквідацыі была накіраваная апэратыўная група МВД БССР.[126]

Сярод гэтых трагічных паведамленьняў у дакумэнтах часам згадваюцца і кур’ёзныя выпадкі. 5 сьнежня 1946 году ў вёсцы Бакшышкі Юрацішкаўскага раёну Маладзечанскай вобласьці ў хату мясцовай жыхаркі Багдзенка прыйшоў невядомы, які запатрабаваў, каб яго накармілі і далі грошы. Пасьля адмовы ён параніў з пісталета гаспадыню. Аднак яе дачка “выхапіла ў нападніка пісталет, сарвала з яго галавы шапку і зьявілася ў раённы аддзел МВД”. Злачынца з месца здарэньня ўцёк.[127]

***

Паводле дакумэнтаў МВД БССР, на працягу 1946 году было праведзена 1755 аперацый супраць антысавецкага падпольля і партызанскага руху. У выніку, было ліквідавана 43 антысавецкіх арганізацыі (забіта 15 удзельнікаў, арыштавана 252), 60 “бандыцкіх групаў, зьвязаных з антысавецкім падпольлем” (забіты 61 удзельнік, арыштаваны

[122] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=765
[123] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=764
[124] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=768
[125] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=753
[126] Деятельность органов милиции Белорусской ССР по охране общественного порядка и борьбе с преступностью (1946—1959 гг.), б. 18.
[127] http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=741

181, здаліся 7 чалавек), 165 бандыцка-рабункавых групаў (забітыя 54 удзельнікі, арыштаваныя 572, здаліся 52). На працягу 1946-га быў забіты 21 “бандыт”-адзінец, 370 арыштаваныя, 42 здаліся. Было забіта альбо арыштавана 369 чалавек, якія дапамагалі “бандытам” альбо хавалі іх, 17 агентаў нямецкага выведу, 3460 “здраднікаў Радзімы”, калябарантаў і іншых антысаветчыкаў.[128]

У 1946 годзе, у адрозьненьне ад папярэдніх гадоў, ужо не было выяўлена і ліквідавана групаў, складзеных з дэзэртыраў. Органы МВД БССР лавілі толькі адзінцоў, якія хаваліся пераважна ў вёсках і на хутарах, радзей — у лясах. На працягу 1946-га было затрымана альбо забіта 994 дэзэртыры і 111 ухілістаў ад службы ў савецкім войску.[129]

Падчас праведзеных аперацый на працягу 1946 году органы МВД БССР здабылі наступныя трафеі: 4 мінамёты, 1 супрацьтанкавая стрэльба (45-міліметровая, у 1944-1945 і ў 1947 гг. такіх трафеяў у рукі МВД не траплялася), 1 гармата, 155 кулямётаў, 881 аўтамат, 5911 стрэльбаў (удвая меней, чым у 1945 годзе), 1246 рэвальвераў і пісталетаў (удвая болей, чым у 1945-м), 102 абрэзы (у папярэднія гады іх сярод трафеяў не было), 274 гранаты, 13 паляўнічых стрэльбаў і 112 адзінак халоднай зброі (у папярэднія гады іх таксама не было), больш за 48 тысяч набояў, 6 мінаў, 361 кг выбуховых рэчываў, 3 радыёпрыёмнікі і 4 тэлефонныя апараты. [130]

У баях загінулі 6 і былі параненыя 11 супрацоўнікаў МВД-МГБ, забітыя 9 і параненыя 6 вайскоўцаў войскаў МВД і Чырвонай Арміі. [131]

У 1946 годзе “антысавецкае нацыяналістычнае падпольле і яго банды” зьдзейсьнілі 105 “актаў тэрору” (у 1945-м было 247), 2 дывэрсіі (26), 57 нападаў на дзяржаўныя ўстановы (125), 129 “іншых актаў бандытызму” (308). У выніку гэтых акцый было забіта 26 супрацоўнікаў МВД-МГБ, 4 падафіцэры і шэрагоўцы войскаў МВД і Чырвонай Арміі, 76 актывістаў камуністычнай партыі і саветаў, 151 “іншая асоба”, 12 чалавек (сярод іх 9 партыйных і савецкіх актывістаў) былі забраныя ў лес і верагодна загінулі. Было паранена 8 супрацоўнікаў МВД-МГБ, 1 афіцэр і 1 падафіцэр войскаў МВД альбо Чырвонай Арміі, 16 партыйных і савецкіх актывістаў, 27 “іншых асобаў”. [132]

---

[128] NKWD o polskim podziemiu. 1944 – 1948. Konspiracja polska na Nowogrodczyz’nie i Grodzien’szczyz’nie, б. 47.
[129] Тамсама, б. 47, 161.
[130] Тамсама, б. 48, 49.
[131] Тамсама, б. 49, 50.
[132] Тамсама, б. 50, 51.

# ХТО ЁН, АТАМАН ШАНЬКО?



***Палкоўнік Шанько, фота 1942-1943 гг.***

Пра беларускі нацыянальны партызанскі рух на Палесьсі на працягу 1960-80-х гадоў пісала практычна толькі эміграцыйная газэта “Беларускі голас”, якая выдавалася ў Таронта. Сярод яе выдаўцоў і актыўных аўтараў былі былыя партызанскія камандзіры і партызаны. Аднак гэтыя публікацыі (пераважна ўспаміны), як выявілася, маюць нямала хібаў — памылкі ў датах, назвах, трактоўках падзеяў.

Не дасьледаваўся беларускі нацыянальны партызанскі рух і навукоўцамі на Бацькаўшчыне. Адзіныя згадкі выяўленыя намі на бачынах газэты “Голас Радзімы”, якая вяла “контрпрапаганду” і выкрывала “ману” “Беларускага голасу”.

У 1993 годзе ў Менску выйшла кніга Ю. Туронка “Беларусь пад нямецкай акупацыяй”. Аўтар згадаў (праўда, толькі ў камэнтарах) пра нацыянальны партызанскі рух, спаслаўшыся на ўспаміны эміграцыйнага дзеяча Сяргея Хмары: *“Паводле С. Хмары, беларускі партызанскі рух паўстаў у 1941 г. на Палесьсі пад камандаваньнем падпалкоўніка Шанько. У гэтым руху ўдзельнічала каля 3000 чалавек. Ён існаваў да канца 1943 г., пакуль ня быў разьбіты савецкімі партызанамі. Аднак гэты партызанскі рух не праводзіў актыўных нападаў на немцаў”*.[1]

Першыя публікацыі, прысьвечаныя нацыянальнаму партызанскаму руху, зьявіліся ў пэрыёдыцы на Бацькаўшчыне ў сярэдзіне 1990-х. Гэта былі артыкулы, прысьвечаныя асобным партызанскім камандзірам і партызанскаму руху ўвогуле.[2] Найбольш значнай была публікацыя

---

[1] Беларусь пад нямецкай акупацыяй. — Мінск, 1993, б. 226.

[2] Ёрш С. То, что они “дикие” — ложь // Свободные новости, 1994, № 21, кастрычнік; Вежан Ян [Сяргей Ёрш]. Як зьнішчалі Беларускую Народную Партызанку // Пагоня, 1995, № 20, 26 траўня — 1 чэрвеня; Ёрш С. Беларускі нацыянальны рэзыстанс у гады Другой сусьветнай вайны // Пагоня, 1995, № 33, 1-7.09, № 34, 8-14.09, № 36, 29.09-5.10, № 37, 6-12.10; Ёрш С. Атаман Перагуд і яго партызаншчына // Ніва (Беласток), 1995, № 37, 10 верасьня; Ёрш С. Партызанскімі сьцежкамі-II // Наша ніва, 1997, 13 студзеня, № 1-2; Данцоў Юрка. Слава Героям! 55 гадоў Беларускай Народнай Партызанцы // Пагоня, 1997, № 60, 24 кастрычніка; Ёрш С. Легендарны атаман // Наша ніва, 1998, № 15, 17 жніўня ды інш.

“Беларуская партызанка”, якая друкавалася ў чэрвені-ліпені 1998-га ў гарадзенскай “Пагоні”, а ў 1999 г. выйшла асобным выданьнем.[3] Усе гэтыя артыкулы базаваліся найперш на публікацыях “Беларускага голасу”. Больш аб’ектыўна беларускі партызанскі рух на Палесьсі быў паказаны ў кнізе “Беларускі Супраціў”[4], але і ў гэтым выпадку аўтары з-за недахопу дакумэнтальнага матэрыялу ня здолелі канчаткова высьветліць, хто ж насамрэч ім кіраваў.

Сапраўды, асоба падпалкоўніка/палкоўніка Шанька — таямнічая, а некаторым дасьледчыкам падаецца, што віртуальная, прыдуманая. Эміграцыйныя публікацыі даюць пра яго мінімальную інфармацыю: беларус, маёр Чырвонай Арміі, патрапіў у акружэньне, стаў камандзірам беларускага партызанскага атраду на Ружаншчыне ці Пружаншчыне, у лістападзе 1942 г. быў абраны начальнікам Галоўнага штабу Беларускага партызанскага руху, загінуў у 1943 годзе.

Варта адзначыць, што грамадоўцы на эміграцыі пра Шанька пачалі згадваць толькі ў пачатку 1960-х. Прычым, спачатку называлі яго **“Шчанько”**, напрыклад, у вялікім ананімным нарысе “Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада”, што друкаваўся ў “Беларускім голасе” ў 1959-1961 гг., і аўтарам якога, праўдападобна, быў С. Хмара.[5]

Памылка гэтая, магчыма, зьявілася з-за таго, што, па-першае, Хмара непасрэдна не ўдзельнічаў у партызанскім руху, з Шанько верагодна сутыкаўся толькі аднойчы, а па-другое, у кнізе ўспамінаў палкоўніка Р. Лінькова апісаны расстрэл *“Щенкова”*. Аднак Лінькоў меў на ўвазе сваю расправу над маёрам Нішчанковым, камандзірам савецкага партызанскага атрада імя Кірава, прозьвішча якога са зьдзекам скараціў. Пра расстрэл Шанька Лінькоў не напісаў ні слова.

Памылку “Беларускі голас” выправіў хутка. У жніўні 1962 году “БГ” надрукаваў адозву “Да дваццатых угодкаў утварэньня беларускага збройнага партызанскага руху супроць гітляроўскае акупацыі”, падпісаную некалькімі сябрамі “Саюзу былых удзельнікаў збройнай барацьбы за вызваленьне Беларусі”. У ёй чытаем: *“20 год таму назад паасобныя Беларускія партызанскія групы былі аб’яднаныя пад адным Галоўным Камандаваньнем Штабу Беларускіх, Народных, Партызанскіх Сілаў, на чале з камандзерам — палкоўнікам І. Шаньком, ствараючы гэткім чынам зусім самадзельную Беларускую збройную сілу, якая мела ў прышласьці быць абаронцам Беларускага народу ад гордаў акупантаў, топячых у крыві Беларускую зямлю”*.[6]

---

[3] Ёрш С. Беларуская партызанка // Пагоня, 1998, 30 чэрвеня, № 48; 7 ліпеня, № 50; 14 ліпеня, № 52; 16 ліпеня, № 53; Ёрш С. Беларуская партызанка. — Слонім-Менск, 1999.

[4] Ёрш С., Горбік С. Беларускі Супраціў. — Львоў, 2006, б. 97-102, 380.

[5] [Хмара С.] БСРГ // Беларускі голас, 1961, № 83, ліпень.

[6] Беларускі голас, 1962, № 96, жнівень.




***Фота малодшага лейтэнанта Івана Шанько з расейскага архіву.***

Празь некалькі месяцаў тыя ж трое сяброў “Саюзу былых удзельнікаў збройнай барацьбы за вызваленьне Беларусі” (“атаман С. Іскра” (С. Хмара), “палкоўнік А. Баравы” (Алесь Яцэвіч-Змагар) і нехта “маёр У. Адамёнак” (верагодна, Уладыслаў Рыжы-Рыскі) надрукавалі адозву з нагоды ўгодкаў Слуцкага паўстаньня. Яны згадалі *“Збройны Беларускі Партызанскі Рух Апору пад Галоўным камандаваньнем палк. Шанька супроць гітляроўцаў”*.[7]

У “Беларускім голасе” ніколі не называлася імя Шанька. Толькі ў двух вядомых нам выпадках пра яго пісалі, як пра **“І. Шанька”**.[8] Выглядала, што найбольш верагодны варыянт імя — Іван. Тым больш, **“Іван Шынько”** быў згаданы ў публікацыі, зьдзейсьненай невядомым

[7] Беларускі голас, 1962, № 99, лістапад.

[8] Адозва Саюза былых удзельнікаў збройнай барацьбы за вызваленьне Беларусі “Да дваццатых угодкаў утварэньня беларускага збройнага партызанскага руху супроць гітляроўскае акупацыі”// Беларускі голас, 1962, № 96, жнівень; Вір В. Памёр атаман // Беларускі голас, 1984, № 315, травень.

нам аўтарам.[9] Толькі нядаўна стала вядома, што аўтары таго артыкула таксама "ўгадалі" імя партызанскага камандзіра…

Каб высьветліць біяграфічныя зьвесткі Івана Шанька, адным з аўтараў гэтых радкоў у верасьні 1996-га быў зроблены запыт у Цэнтральны архіў Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі ў Падольск. У адказе паведамлялася, што зьвестак пра маёра Шанька не выяўлена, затое ў архіве захоўваецца справа малодшага лейтэнанта **Івана Мікалаевіча Шанько**, 1910 г. н., беларуса, ураджэнца г. Магілёва. У 1932 г. ён скончыў землямерна-тапаграфічны тэхнікум, працаваў на Магілёўшчыне з перапынкамі, выклікаными прызывам на зборы ў Чырвоную Армію. Як камандзір зьвязу, ваяваў на фінскім фронце, быў параненны. Яшчэ восеньню 1940 г. служыў у 366-м стралковым палку 126-й стралковай дывізіі Прыбалтыйскай вайсковай акругі, пасьля, нібыта, быў звольнены ў запас. Пра яго далейшы лёс ніякіх зьвестак у архіўнай справе няма.[10] Здавалася, што вось ён — партызанскі камандзір. Дасланы з Падольску фотаздымак не было магчымасьці параўнаць са здымкам "палкоўніка Шанька", паколькі на адзіным вядомым фота апошняга не відаць твару…

Як цяпер высьвятляецца, гэта была памылка. І ўсё ж тады заставалася пачуцьцё няпэўнасьці ў справе Шанька. Таму пошукі працягваліся, а пра гэтага партызанскага камандзіра ў наступныя гады адмыслова пісалася вельмі мала.[11]

Публікацыя Канстанціна Самсонава, зьмешчаная ў гэтым нумары "БР", дапамагае нам вызначыцца з асобай беларускага партызанскага камандзіра. Насамрэч, ім быў Рыгор Шанько.* Што да яго палітычнай арыентацыі, кантактаў з Масквой, абставінаў гібелі, дык тут патрэбныя далейшыя архіўныя пошукі.

---

[9] Za volu (Менск), 1995, № 1, люты.

[10] Архіўная даведка Цэнтральнага архіву Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі ад 12 лістапада 1996 году. Архіў С. Ярша.

[11] Памылковыя зьвесткі патрапілі ў наступныя публікацыі: Ёрш С. Партызанскімі сьцежкамі-II // Наша ніва, 1997, 13 студзеня, № 1-2; Ёрш С. Беларуская партызанка // Пагоня, 1998, 30 чэрвеня, № 48; 7 ліпеня, № 50; 14 ліпеня, № 52; 16 ліпеня, № 53; Ёрш С. 90-я ўгодкі з дня нараджэньня палкоўніка Івана Шанько // Голас камбатанта, 2000, № 2, ліпень.

*Імя па бацьку Шанька было Іванавіч, "Іванычам" яго называлі ў партызанцы. Магчыма, адсюль і зьявіўся ініцыял перад прозьвішчам, які двойчы ставілі аўтары "Беларускага голасу".

*Канстанцін Самсонаў*

# ПАРТЫЗАНСКАЯ БАРАЦЬБА ПАДПАЛКОЎНІКА РЫГОРА ШАНЬКО

## НОВЫЯ ДАДЗЕНЫЯ ПРА КІРАЎНІКА БЕЛАРУСКАГА ПАРТЫЗАНСКАГА РУХУ НА ПАЛЕСЬСІ Ў 1942-43 ГГ.



*Рыгор Шанько. Масква, чэрвень 1942 г.*

Дагэтуль не было зроблена дасьледаваньня беларускага нацыянальнага партызанскага руху на Палесьсі падчас нямецкай акупацыі, якое б грунтавалася на дакумэнтах, а не выключна на ўспамінах і публікацыях у беларускай эміграцыйнай прэсе. Дзякуючы архіўнай знаходцы расійскага гісторыка Канстанціна Самсонава з'явілася магчымасьць ліквідаваць нямала "белых плямаў" ды выправіць ранейшыя памылкі.

У 2007 годзе, дзякуючы архіўнай знаходцы, нам удалося дакладна ўстанавіць, што камандзірам беларускага нацыянальнага партызанскага руху на Палесьсі быў **Рыгор Шанько**, афіцэр... НКВД. Спачатку спынімся на ягонай біяграфіі.

**Рыгор Іванавіч Шанько**, 1906 г. н., беларус, ураджэнец г. Ваўкавыска. Адукацыя сярэдняя вайсковая. На службу ў Чырвоную Армію быў прызваны 18 лістапада 1927 году. Скончыў вайсковую вучэльню, са студзеня 1928 г. "праходзіў службу на розных камандных пасадах у частках НКВД СССР". У адной з службовых характарыстык адзначаецца, што Шанько "за час службы паказаў сябе дысцыплінаваным, пісьменным і здольным вайскоўцам". Удзельнічаў у баявых дзеянь-

нях. Паводле закрытых сьпісаў НКВД СССР, на ліпень 1942 г. быў узнагароджаны двума ардэнамі “Чырвоная Зорка” (1939 г. (паводле іншых зьвестак — 1938 г.), 1942 г.) і медалём “За адвагу” (1940 г.). У камуністычную партыю ўступіў толькі ў лістападзе 1940 году, да таго неаднаразова адхіляў прапановы, спасылаўся на “негатоўнасьць да такога адказнага кроку”. Гэта дало падставу пасьля напісаць пра яго ў характарыстыцы: “Са службовага боку ва ўсіх месцах службы характарызуецца станоўча. Аднак адзначаюцца спробы ўхіліцца ад грамадзка-палітычнай працы”.*

Перад намі паўстае асоба прафэсійнага вайскоўца, які выконваў спэцыфічныя заданьні савецкіх спэцслужбаў у розных “гарачых кропках”. Ужо ў канцы 1920-х Рыгор Шанько ў ранзе малодшага лейтэнанта трапіў у “асобны дывэрсійна-выведчы атрад”. Са сьнежня 1939 г. ён служыў у элітным дывэрсійна-выведчым аддзеле НКВД, меў рангу капітана. Вядома, што Шанько даводзілася выконваць спэцзаданьні ў Манголіі, Польшчы і Фінляндыі. Некалькі разоў ён быў паранены. Але самае адказнае заданьне яму, ужо высокакваліфікаванаму дывэрсанту, было даручана вясной 1941 году.

У траўні 1941 г. Рыгора Шанько адкамандзіравалі ў распараджэньне Кіеўскай вайсковай акругі. Паводле адной з версій, СССР у той час рыхтаваў напад на гітлераўскую Нямеччыну. Першымі ў бой мусілі ісьці якраз дывэрсанты. У пачатку чэрвеня 1941-га, у якасьці камандзіра дывэрсійна-выведчай групы,  Шанько са сваімі людзьмі быў перакінуты ў раён Берасьця. У тым жа месяцы ён быў перададзены ў распараджэньне ГРУ Генштаба Чырвонай Арміі — яшчэ адно пацьверджаньне, што яго задачай было ўсімі даступнымі сродкамі забясьпечыць прасоўваньне Чырвонай Арміі на захад. На той час Рыгор Шанько ўжо быў маёрам.

На лініі Луцк — Берасьце ў той час знаходзіліся яшчэ некалькі падобных групаў. Паводле няспраўджанай інфармацыі, у аператыўных адносінах яны кіраваліся з Кіева, але фактычна падначальваліся Маскве. Напад Нямеччыны і імклівае прасоўваньне на ўсход нямецкіх войскаў кардынальным чынам зьмяніла сытуацыю — ранейшыя задачы савецкіх дывэрсантаў (а яны мусілі дзейнічаць у тыле ворага на варожай тэрыторыі) сталі неактуальныя. Спэцгрупы арганізоўвалі дывэрсіі супраць нямецкіх войскаў, зьнішчалі разнастайныя вайсковыя і прамысловыя аб’екты напярэдадні іх падыходу. Гэтую дзейнасьць яны працягвалі прыблізна да сярэдзіны ліпеня 1941 г., калі ўжо былі вычарпаныя і людзкія, і матэрыяльныя рэсурсы. Паводле аднаго з

*Біяграфічная даведка складзеная па матэрыялах архіўнай справы Шанько Рыгора Іванавіча, якая захоўваецца ў адным з расійскіх архіваў. Дакладная спасылка на архіў, фонд, справу знаходзіцца ў распараджэньні рэдакцыі.

рапартаў НКВД УССР, на пачатак жніўня 1941 г. усе згаданыя дывэрсійна-выведчыя групы лічыліся загінулымі, ніводная зь іх з тылу ворага праз лінію фронту не прарвалася. У гэты сьпіс патрапіла і група Рыгора Шанько, дакладных зьвестак пра якую ў НКВД СССР ня мелі да вясны 1942 году.

Пра тое, што адбылося далей з Рыгорам Шанько і яго байцамі, вядома з рапарта, які напісаў беларус-дывэрсант у ліпені 1942 г. на імя народнага камісара ўнутраных спраў СССР Л. Берыі.*

*“Пасьля нападзеньня фашыстоўскай Нямеччыны на СССР я атрымаў загад паступіць у распараджэньне Паўднёва-Заходняга фронту, аднак выканаць яго ня здолеў, — піша Р. Шанько. — У кантакце з адступаючымі часткамі Чырвонай Арміі распачаў зьнішчэньне вайсковай і народна-гаспадарчай маёмасьці. Ужо 29 чэрвеня 1941 г. нашая група сутыкнулася з супраціўленьнем мясцовага насельніцтва пры зьнішчэньні важных аб’ектаў народна-гаспадарчага комплексу (вадакачак, заводаў, мастоў, млыноў, харчовых складоў і г. д.). Мелі месца ня толькі акты сабатажу, але і збройны супраціў…*

*У лясах дзейнічалі атрады беларускіх і ўкраінскіх нацыяналістаў, якія засталіся яшчэ з 1939 г. Іх дзеяньні былі накіраваныя пераважна супраць войскаў НКВД, атрадаў падрыўнікоў і партыйна-савецкага актыву… Дзеяньні адступаючых частак Чырвонай Арміі былі неабдумана і неапраўдана жорсткімі да мясцовага насельніцтва. Мелі месца шматлікія акты марадзёрства, беспрычынных расстрэлаў мірнага насельніцтва, зьнішчэньне прыватных пабудоваў, запасаў прадуктаў і інвентара, забой скаціны. Гэтыя акты выклікалі нянавісьць і папаўненьні антысавецка-нацыяналістычных атрадаў. Аднак, дзеяньні мясцовай самааховы, партызанскіх атрадаў нацыянальнай афарбоўкі накіраваныя і супраць карна-рэпрэсіўнай дзейнасьці нямецка-фашыстоўскіх акупантаў…*

*Мая група панесла цяжкія страты, з 45 чалавек асабістага складу мы згубілі: забітымі — 18 чалавек, цяжкапараненымі — 12 чалавек… Ужо да канца жніўня 1941 г. прасоўваньне маёй групы было заблякаванае атрадамі беларускіх і ўкраінскіх нацыяналістаў і нямецкімі дэсантамі. У сытуацыі, якая склалася, я прыняў рашэньне замаскавацца ў раёне г. Пінску, выслаць сувязных у горад і чакаць указаньняў…*

*9 верасьня 1941 г. я ўвайшоў у кантакт з камандзірам антыфашыстоўскага партызанскага атрада тав. Я. Харэўскім, які вёў антыпольскую партызанскую вайну ў пачатку 20-х г. г. і ў 1939 г., яго атрад складалі былыя сябры КПЗБ і БСГ. Таксама т. Харэўскі мае сувязь зь іншымі падобнымі атрадамі і групамі. З лістапада*

*Рапарт Шанько Р. І. на імя Берыі Л. П. ад 16 ліпеня 1942 г.



***Якуб Новік-Харэўскі***

*1941 г. у заходніх раёнах БССР, пераважна ў Пінскай і Брэсцкай абласьцях, дзейнічае добраарганізаваны і дастаткова шматлікі антыфашыстоўскі рух. Удзельнікамі гэтага руху былі былыя сябры розных беларускіх нацыянальных арганізацый Заходняй Беларусі (КПЗБ, БСГ і г. д.). Гэтыя партызанскія атрады і антыфашыстоўскія групы наносілі ўдары па камунікацыях і невялікіх атрадах нямецка-фашыстоўскіх захопнікаў. Агульная колькасьць [байцоў] гэтых атрадаў дасягае прыкладна 1,5 тысячы чалавек. Частка зь іх стаіць на крайне нацыяналістычных і антысавецкіх пазыцыях…*

*Гэта добра ўзброеная і арганізаваная сіла, якая ў дадзены момант засяроджвае свае высілкі на абароне мясцовага насельніцтва. Ва ўмовах, якія склаліся, прыняў прапанову т. Харэўскага аб сумеснай дзейнасьці…*

*На сёньняшні дзень пад маім камандаваньнем знаходзіцца партызанскае злучэньне з 12 партызанскіх атрадаў і групаў колькасьцю каля 650 чал. Узбраеньне: 1 супрацьтанкавая гармата (89 снарадаў), 12 мінамётаў савецкай вытворчасьці (467 мінаў), 91 кулямёт, 393 аўтамата (112 савецкіх), 1234 вінтоўкі (678 савецкіх, 167 нямецкіх). Зброя, якая не выкарыстоўваецца, добра закансэрваваная і складзіраваная на спэцыяльных базах. Маецца 2137 рэзэрвістаў, многія фармальна служаць у створаных немцамі паліцыйных групах і маюць легальную зброю…".*

На жаль, дакумэнт, які складаецца з 18 акрушоў, даступны нам толькі часткова.**

Праўдападобна, што на працягу верасьня 1941 году, пакуль пра-

---

*Пераклад з расейскай.

**Аднак і гэтыя зьвесткі вельмі каштоўныя. Рыгор Шанько сьведчыць пра антыфашыстоўскі партызанскі і падпольны рух на Палесьсі, пра яго палітычную арыентацыю, склад, тактыку, дзейнасьць. Ён нават падае дату, калі распачаў арганізаваную дзейнасьць антыфашыстоўскі рух — лістапад 1941 году. Рапарт Шанька пацьвярджае існаваньне атрада Якуба Харэўскага, які складаўся ня толькі з грамадоўцаў, але і з былых сяброў КПЗБ. Ну і, нарэшце, Шанько сьведчыць пра існаваньне "партызанскага злучэньня" з 12 атрадаў і групаў — менавіта такую колькасьць называлі і аўтары публікацый у "Беларускім голасе". Амаль супадае і колькасьць партызанаў, калі ўлічыць згаданых Р. Шаньком рэзервістаў — хмараўцы пісалі пра 3 тысячы чалавек. — "БР".

цягваліся баявыя дзеяньні на Палесьсі, Рыгора Шанька і іншых вайскоўцаў зь яго групы прыцягвалі да плянаваньня вайсковых апэрацый, а таксама для спэцыяльнай падрыхтоўкі партызанаў-грамадоўцаў, байцоў “беларускай самаабароны” і бульбаўцаў. Вось што паведамляла 25 верасьня 1941 году ў Маскву падпольная савецкая агентурная кропка **“Крывога”** (месьцілася на тэрыторыі Ўкраіны):

*“Паводле інфармацыі, якой дыспануем, да бандаў беларускіх і ўкраінскіх нацыянал-фашыстаў і здраднікаў Радзімы ў верасьні 1941 г. далучыўся атрад вайскоўцаў Чырвонай Арміі, якім камандуе нехта “Іваныч”. Байцы атрада зьдзяйсьняюць вайсковую падрыхтоўку ўдзельнікаў бандаў і плянаваньне апэрацыяў супраць частак Чырвонай Арміі, якія знаходзяцца ў акружэньні”.*

Можна дапусьціць, што аўтарытэт “Іваныча”, як выдатнага спэцыяліста ў справе партызанска-дывэрсійнай дзейнасьці, сярод партызанаў і самаахоўцаў імкліва ўзрастаў. Тым больш, за ім стаяў Якуб Харэўскі, які Шанька падтрымліваў і даваў яму найлепшыя рэкамэндацыі. З канца кастрычніка 1941 г. Рыгор Шанько арганізаваў навучальны пункт (“вучэбку”) для камандзіраў “беларускай самаабароны” і бульбаўцаў. Пра гэта вядома з рапарта савецкага выведніка **Івана Герасімавіча Шанько** (!), апэратыўная мянушка “Мікалай”, які ён напісаў у пазьнейшы час — у жніўні 1944-га. Паводле гэтага дакумэнта, “вучэбка” дзейнічала ў мястэчку Забалоцьце Ратнаўскага раёна Валынскай вобласьці Ўкраіны. Прычым адзначалася, што яна паўстала з ініцыятывы мясцовых камандзіраў. Навучальны пункт дзейнічаў паўлегальна — згоды на яго адкрыцьцё нямецкія ўлады не давалі, але і перашкодаў не чынілі.

У данясеньні ў Маскву ад 5 сьнежня 1941 г. падпольная савецкая агентурная кропка **“Крывога”** паведамляла:

*“Кіроўнае вайсковае становішча ў нацыяналістычных беларускіх бандах займае былы афіцэр Чырвонай Арміі Шанько. Банды вядуць пасіўныя баявыя дзеяньні супраць нямецкіх рэквізацыйных і карных атрадаў. Адначасова атрады Шанько вядуць баі супраць партызанскіх атрадаў Чырвонай Арміі, перашкаджаюць у разбурэньні імі народна-гаспадарчых аб’ектаў, якія выкарыстоўваюцца і нямецкімі акупантамі. Ёсьць выпадкі выдачы паліцыянтам савецкіх партызанаў і падпольшчыкаў”.* **

---

* Пераклад з расейскай.

** Пераклад з расейскай.

Як бачым, у дакумэнце падкрэсьліваецца: “вайсковае становішча”. Гэта значыць, што Шанько па-ранейшаму займаўся звыклымі вайсковымі справамі і ня лез у палітыку. Тым ня менш, Іван Шанько (“Мікалай”) ў сваім рапарце згадваў, што *“былы афіцэр Чырвонай Арміі Шанько… ад восені 1941 г. кіруе беларускімі нацыяналістычнымі атрадамі”*.

Вясной 1942 году адбылася важная падзея, якая, верагодна, паўплывала на далейшы лёс Рыгора Шанька. Вось што ён пісаў у справаздачы ад 16 ліпеня 1942 г.:

*“У канцы сакавіка 1942 г. выведнікі майго атрада сустрэлі дывэрсійную групу, якая мела сувязь з Цэнтрам. Камандзіру групы я перадаў для перадачы кіраўніцтву пазначаную шыфроўку. Эпізадычныя кантакты мы падтрымліваем да цяперашняга часу. Загад прыбыць у Маскву і маршрут перасоўваньня да месца прызямленьня самалёта я атрымаў у канцы траўня — у першых чыслах чэрвеня 1942 г.”*. *

Вядома, што ў траўні 1942 г. Рыгор Шанько накіраваў у Маскву рапарт пра стварэньне антыфашыстоўскага партызанскага атрада з мясцовага насельніцтва. Яму пачалі дасылаць заданьні, якія ён выконваў: праводзіў дывэрсійную дзейнасьць і выведку ў раёне дыслакацыі атрада, ствараў агентурную сетку ў населеных пунктах. З-за лініі фронту атраду Шанька ад яго “ўкраінскага” ведамства скідалі зброю, боепрыпасы, медыкаменты. Ён атрымаў рацыю.

Двойчы Р. Шанько лётаў самалётам у Маскву — летам і восеньню 1942 году. Там ён сустракаўся са сваім кіраўніцтвам і наведаў “некалькіх адказных працаўнікоў” ЦК кампартыі Украіны.** Ягоная дзейнасьць у тыле ворага была адзначаная ордэнам “Чырвонай Зоркі” і наданьнем чарговай рангі — падпалкоўніка.

Аднак характарыстыка Шанька, падрыхтаваная ЦК КП(б)У, была адмоўнай. Найперш у віну яму ставілася адмова ўзяць у атрад камісара, прапанаванага ЦК (таксама адзначаўся ўплыў беларускіх нацыяналістаў). Р. Шанько тлумачыў адмову “асаблівымі ўмовамі дзеяньняў атрада”. У дакумэнтах атрад Шанька праходзіць як “антыфа-

---

*Пераклад з расейскай.

**Кантакты Р. Шанька з кампартыяй Украіны, магчыма, і з Украінскім штабам (савецкага) партызанскага руху (ён быў створаны ў чэрвені 1942 г.) маглі быць абумоўлены ня толькі яго падпарадкаваньнем Кіеву на чэрвень 1941-га, але і дзеяньнем яго партызанскага атрада на тэрыторыі УССР. У аператыўных адносінах летам-восеньню 1942 г. (па гэтым перыядзе маюцца дакумэнты) Р. Шанько падлягаў НКВД СССР.

шыстоўскі". Аднак у Маскве ніякіх наступстваў для Шанька адмоўныя характарыстыкі ня мелі. Магчыма, дзякуючы складанай сытуацыі на франтах — савецкае кіраўніцтва было зацікаўленае ў разгортваньні партызанскага руху ў савецкім тыле. На апошняй бачыне справаздачы Шанька маецца запіс Берыі: *"Забросить обратно в тыл немцам. Пусть пока работает, установить контроль нашими агентами в БССР. 29.07.1942.".*

Атрымліваецца, што ў Маскве Рыгор Шанько знаходзіўся каля месяца. На адным з фота, якое захоўваецца ў архіўнай справе, на абароце напісана: "Чэрвень 1942".

У архіве ёсьць тэчка з прадстаўленьнямі на ўзнагароды таемных супрацоўнікаў, выведнікаў і г. д. У зводным сьпісе за 1942 год двойчы згадваецца "падпаўкоўнік Шанько", але без ініцыялаў. У справе Р. Шанька маецца таксама рапарт, напісаны на прапанову НКВД СССР. У ім партызанскі камандзір прадстаўляе да розных узнагародаў 37 чалавек (12 зь іх — пасьмяротна). Прычым 21 зь іх былі мясцовымі жыхарамі. Усе яны атрымалі ўзнагароды.

Як удалося высьветліць, ніхто са сваякоў партызанскага камандзіра ня быў рэпрэсаваны. Аднак у 1946-1947 гг. зь нейкай прычыны сям'і Рыгора Шанька было забаронена вяртацца ў Маскву ці іншыя буйныя гарады, яе накіравалі ў Белгародзкую вобласьць Расеі. Удава Рыгора Шанька атрымлівала пенсію за загінулага мужа да сярэдзіны 1970-х гадоў. Пасьля гэтага пра яе ніякіх зьвестак няма.

***

**ДАДАТАК:**

**Характарыстыка на Рыгора Іванавіча Шанько. Машынапіс.**

Служебная характеристика майора (закрэсьлена, зьверху надпіс ад рукі "подполковника" — **КС**) НКВД Шанько Григория Ивановича, 1906 г. р., белоруса, члена ВКП(б) с 1940 г. Образование среднее военное.

Шанько Григорий Иванович призван на службу в РККА 18 ноября 1927 г. После окончания военного училища с января 1928 г. проходил службу на различных командных должностях в частях НКВД СССР. За время службы показал себя дисциплинированным, грамотным и умелым военнослужащим. Участвовал в боевых действиях. Награждён по закрытым спискам НКВД двумя орденами "Красная Звезда" (1939, 1942) и медалью "За отвагу" (1940).

Со служебной стороны во всех местах службы характеризуется

положительно. Однако отмечаются попытки уклониться от общественно-политической работы. Несколько раз отклонял предложение вступить в ряды ВКП(б), мотивируя свой отказ неготовностью к такому ответственному шагу.

С первых дней войны участвует в боевых действиях в составе частей НКВД на Юго-Западном фронте. В августе 1941 г. часть т. Шанько попала в окружение и утратила связь с командованием. О действиях т. Шанько от конца августа 1941 г. по май 1942 г. можно судить только по его рапорту и косвенным донесениям нашей разведки в тылу н[емецко]-фашистских войск.

Проведенные оперативные мероприятия позволяют признать действия т. Шанько в тылу врага правильными. В деле имеются два негативных донесения разведывательной сети НКВД УССР на оккупированной территории. Сведения противоречивые и нуждаются в дополнительной проверке.

Капитан НКВД
Босой В.К.
19 июня 1942 г.

Приложение №1

**Донесение подпольной агентурной точки “Кривого”.***

По имеющейся информации к бандам белорусских и украинских национал-фашистов и изменников Родины в сентябре 1941 г. присоединился отряд военнослужащих Красной армии, которым командует некто “Иваныч”. Бойцы отряда осуществляют военную подготовку участников банд и планирование операций против частей Красной армии находящихся в окружении.

25.09.41 г. 17-32.

Приложение №2

Руководящее военное положение в националистических белорусских бандах занимает б[ывший] офицер Красной Армии Шанько. Банды ведут пассивные боевые действия против немецких реквизиционных и карательных отрядов. Одновременно отряды Шанько ведут бои против партизанских отрядов Красной армии, препятствуют в разрушении ими нар[одно-]хозяйственных объектов используемых и немецкими оккупантами. Есть случаи выдачи полицаям советских партизан и подпольщиков.

05.12.41 г. 01-47.

---

*Сказ быў напісаны ад рукі, відавочна, пазьней, чым асноўны тэкст. — КС.

*АД РЭДАКЦЫІ*

# ПРА КАМАНДЗІРА “БЕЛАРУСКІХ НАЦЫЯНАЛІСТЫЧНЫХ АТРАДАЎ”, ЯКІ ПАДДАЎСЯ САВЕЦКІМ УПЛЫВАМ

Застаецца адкрытым галоўнае пытаньне — дык кім быў Рыгор Шанько: камандзірам беларускіх нацыянальных партызанаў ці афіцэрам НКВД, які ўдала ўкараніўся ў кіраўніцтва беларускага партызанскага руху? Каб паспрабаваць адказаць на яго, варта вярнуцца ў верасень 1941 году, калі Шанько дамовіўся пра супрацоўніцтва з беларускім партызанскім камандзірам Харэўскім.

У жніўні-верасьні 1941 году на Палесьсі праводзілася сумесная “беларуска-ўкраінская апэрацыя” супраць аддзелаў Чырвонай Арміі і НКВД, якія трапілі ў акружэньне і займалі значную частку сучаснай Гомельскай вобласьці, а таксама сумежныя ўкраінскія раёны. Яе праводзілі атрады “беларускай самаабароны (самааховы)”, якая стыхійна ўтварылася ў чэрвені-ліпені на Палесьсі, і атрады ўкраінскага атамана Тараса Бульбы-Бараўца. Ёсьць падставы меркаваць, што абвэр кантраляваў разьвіцьцё падзеяў праз сваіх агентаў — беларускіх і ўкраінскіх вайскоўцаў, пасланых на Палесьсе для зьбіраньня “дзікіх” атрадаў.

Напярэдадні апэрацыі дзесьці напрыканцы ліпеня ў Пінску прайшла нарада беларускіх і ўкраінскіх камандзіраў (зь беларускага боку былі Ўсевалад Родзька, Міхал Вітушка, Васіль Вір (Вірок, Пінскі), Якуб Харэўскі (Новік), на якой была дасягнутая дамова пра сумесныя дзеяньні. Было вырашана падрыхтаваць асобныя пляны апэрацыі, якія мусілі быць узгодненыя. Другая нарада ўжо з удзелам атамана Тараса Бульбы-Бараўца прайшла ў Пінску пасьля 5 жніўня 1941 г. Вайсковая апэрацыя распачалася 20 жніўня. Паводле пляну, беларускія і ўкраінскія фармаваньні мусілі ў выніку сустрэцца ў Мазыры, што і адбылося.[1]

Ці ўдзельнічаў партызанскі атрад Якуба Харэўскага ў баявых дзеяньнях супраць аддзелаў Чырвонай Арміі і НКВД, дакладна невядома. Але згадка Р. Шанька пра сустрэчу з Я. Харэўскім 9 верасьня 1941 г. на Піншчыне сьведчыць пра тое, што апошні найхутчэй актыўна ў апэрацыі ня ўдзельнічаў. І на гэта было некалькі прычынаў. Па-першае, атрад Харэўскага існаваў з 1939 году, ён не ўтварыўся стыхійна летам 1941-га на хвалі антыбальшавіцкага змаганьня і не зьбіраўся

[1] Беларускі Супрацiў, б. 39-45.

легалізоўвацца, чакаў далейшага разьвіцьця падзеяў. Па-другое, у атрадзе былі былыя сябры КПЗБ, якія наўрад ці хацелі ваяваць супраць чырвонаармейцаў. Па-трэцяе, атрад Харэўскага быў каштоўнай збройнай адзінкай для беларускага нацыянальнага руху, паколькі складаўся зь некалькіх дзесяткаў беларускіх патрыётаў (ужо ў ліпені 1941-га яны мелі самаробную беларускую нацыянальную сімволіку на сваёй вопратцы, што адрозьнівала іх ад іншых падобных групаў, частка якіх на той час не вызначылася са сваёй нацыянальнай арыентацыяй. Падрабязна пра гэта гл. у рубрыцы "Інтэрвію" — **"БР"**).

Паколькі штаб "беларускай самаабароны" знаходзіўся ў Пінску, дык і Харэўскі са сваім атрадам знаходзіўся на Піншчыне. Ёсьць зьвесткі, што ў пачатку ліпеня 1941 году грамадоўцы зьбіраліся рэалізаваць праект 1939 г. — абвяшчэньне незалежнай Заходне-Беларускай Рэспублікі. Дзеля гэтага дзесьці была аддрукаваная Трэцяя ўстаўная грамата БНР. Безумоўна, Якуб Харэўскі быў бы адным з кіраўнікоў гэтай акцыі. Аднак, як сьведчыць былы супрацоўнік абвэра, беларускі афіцэр, што ўдзельнічаў у Палескай апэрацыі, *"айцец Гадлеўскі празь некалькіх нашых хлопцаў з абвэру іх спыніў"*. Нібыта, у В. Гадлеўскага быў плян аднаўленьня незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі ў Менску. Але пасьля таго, як немцы правялі рэпрэсіі супраць удзельнікаў падобнай акцыі ў Львове, ад пляну адмовіліся, ды, як аказалася, у Менску і не было такіх спрыяльных магчымасьцяў, якія былі раней у Пінску.[2]

Гэты ж афіцэр апазнаў Рыгора Шанька па здымку з маскоўскага архіву, ён прыгадвае, што бачыў яго ў пачатку восені 1941-га:

*"Гэтую асобу я бачыў яшчэ ў верасьні 1941 году на Палесьсі. Але тады ён хадзіў без адзнакаў рангу — проста ў савецкай форме з партупеяй. Я лічыў, што ён нейкі дзеяч КПЗБ… Ці ўдзельнічаў ён у баях з саветамі, ня ведаю. Тады шмат атрадаў займаліся толькі абаронай уласных вёсак і мястэчак ад зьнішчэньня"*.[3]

У другой палове верасьня 1941 году Я. Харэўскі пабачыў, што дзейнічаў правільна, не легалізуючы свой партызанскі атрад. Нямецкая цывільная адміністрацыя пачала ўсталёўваць свае парадкі на Палесьсі, частка атрадаў "беларускай самаабароны" распускалася, беларускіх вайскоўцаў абвэр адклікаў. І самае галоўнае — Беларусь была падзеленая нямецкімі акупантамі. Значная частка беларускага Палесься, у тым ліку і Піншчына, была далучаная да Ўкраіны.

Верагодна, увосень 1941-га Рыгор Шанько ўжо быў вядомы сярод партызанскіх і самаахоўскіх камандзіраў на беларуска-ўкраінскім памежжы (праўдападобна, яго ведалі як "Іваныча" альбо пад нейкай

---

[2] Паведамленьне ад красавіка 2008 г.

[3] Тамсама.

іншай мянушкай). Магчыма, ён разам з Харэўскім і іншымі атрадамі ды групамі ўдзельнічаў у лякальных баявых апэрацыях. Аднак наўрад ці ўжо ў канцы 1941 году Р. Шанько быў камандзірам "беларускіх нацыяналістычных атрадаў". Яны па-ранейшаму дзейнічалі аўтаномна, пераважна былі завязаныя на пэўныя населеныя пункты, мясцовасьці, якія абаранялі як ад нямецкіх карнікаў, паліцыянтаў, так і ад марадзёраў. Паміж гэтымі атрадамі і групамі падтрымліваліся сувязі, аднак ніякай партызанскай арганізацыі не стваралася. Верагодна, у той сытуацыі ў ёй проста яшчэ не было патрэбы. Зь іншага боку, аб'яднаць атрады розных палітычных кірункаў (ад нацыяналістаў да камуністаў і анархістаў) было няпростай задачай.

Важна таксама высьветліць, дзе знаходзілася лясная база атрада Р. Шанька. Нагадаем, у жніўні-верасьні яго байцы знаходзіліся ў ваколіцах Пінску. У кастрычніку Шанько са сваімі памочнікамі ўжо "засьвяціўся" пад Ратна. На лініі Ратна — Пінск падчас нямецкай акупацыі дзейнічаў атрад Харэўскага. Таму байцы Рыгора Шанька альбо першапачаткова ўліліся ў атрад беларускага партызанскага камандзіра, альбо знаходзіліся недалёка ад яго.

Паводле сьведчаньня былых партызанаў Харэўскага, яны будавалі базу для групы Шанька, якая складалася з 10-15 чалавек, а таксама забясьпечвалі яе харчаваньнем.[4] Верагодна, гэта было позьняй восеньню 1941 году. Паводле некаторых зьвестак, лясная база Р. Шанька знаходзілася дзесьці на беларуска-ўкраінскім памежжы.

Тым часам Якуб Харэўскі *"актыўна рэпрэзэнтаваў Шанько, як баявога афіцэра-беларуса, адзінага кандыдата на кіраўніка беларускай антынямецкай партызанкі"*.[5] Як і ў верасьні 1939 г., калі на заходнебеларускім Палесьсі шырылася антыпольскае паўстаньне, і Харэўскі быў толькі намесьнікам галоўнага камандзіра Івана Тарасюка, у 1941-42 гг. ён зноў знайшоў "кампрамісную" кандыдатуру, якая магла б задаволіць і левых, і правых.

Пра палітычныя погляды самога Якуба Харэўскага вядома мала. Верагодна, яго можна назваць "эсэрам". На першы погляд, Харэўскі быў дасьведчаным партызанскім камандзірам, але не палітыкам. Аднак, аналізуючы яго дзейнасьць на працягу Другой сусьветнай вайны, выяўляецца незвычайная празарлівасьць Харэўскага. Ён дзейнічаў абсалютна слушна, калі "сядзеў у лесе" і не легалізоўваўся на пачатку нямецкай акупацыі. Ён лавіраваў паміж рознымі беларускімі палітычнымі групамі, падтрымліваў кантакты, але не вызначаўся, каго ж падтрымае сам. Магчыма, у гэтым і прычына таго, што Якуб Харэўскі не паруліўся стварыць палітычна-прапагандовы, ідэалягічны цэнтар, без якога не была б паўнавартаснай беларуская нацыянальная

[4] Беларускі Супраціў, б. 99.
[5] Тамсама, б. 99.

партызанская арганізацыя. Яго палітычная праграма была простай — адраджэньне незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі, у якой беларусы сталі б гаспадарамі на сваёй зямлі.


***Рыгор Шанько ў Маскве, чэрвень 1942 г.***

Верагодна, гэтая "палітычная платформа" была цалкам прыймальная для Рыгора Шанька. Калі згода супрацоўнічаць з Харэўскім у верасьні 1941 году была ці не адзінай магчымасьцю выжыць, а таму вымушанай, дык у наступныя месяцы ён заваяваў пэўны аўтарытэт сярод партызанаў і самаахоўнікаў, і адчуваў сябе досыць упэўнена. Наўрад ці за некалькі месяцаў, кантактуючы зь беларускімі партызанамі, Шанько стаў нацыяналістам. Але ў той сытуацыі ён бачыў неблагую пэрспэктыву для сябе асабіста ў рамках праекту "БНР", альбо "трэцяй сілы".

*"Савецкія кадравыя вайскоўцы, якія на пачатку вайны пераходзілі на бок беларускіх вайсковых фармацый, былі пераважна прагматыкамі, досыць рэальна і прафэсійна аналізавалі агульнае становішча справаў і свае шансы",* — сьцьвярджае былы беларускі афіцэр, супрацоўнік абвэру.[6]

Паколькі становішча Савецкага Саюзу ў вайне зь Нямеччынай да канца 1941-га было катастрафічным, дык і былыя савецкія вайскоўцы спрабавалі неяк уладкавацца, каб выжыць у новых рэаліях. Аднак паражэньне нямецкіх войскаў пад Масквой стала першым сігналам, што далёка ня ўсё вырашана. Таму і Рыгор Шанько пры першай магчымасьці перадаць вестку ў Маскву свайму кіраўніцтву, пайшоў на гэта.

Узьнікае пытаньне: як аднёсься да такога павароту Якуб Харэўскі? Праўдападобна, станоўча. СССР быў саюзьнікам Ангельшчыны і ЗША ў вайне супраць гітлераўскай Нямеччыны. Наўрад ці Я. Харэўскі спадзяваўся арганізаваць "перамовы" беларускіх партызанаў і прадстаўнікоў савецкага кіраўніцтва. Верагодна, першапачаткова галоўнае спадзяваньне было на атрыманьне дапамогі з-за лініі фронту.* На

[6] Паведамленьне ад красавіка 2008 г.

*Як сьведчаць архіўныя дакумэнты, Шанько атрымліваў са складоў НКВД набоі, тол, міны ды іншае. Усё гэта было скінута з самалёта разам зь ім.

пэрспэктыву Харэўскі мог распрацаваць пэўны плян далейшых кантактаў з Масквой (калі яны не адбываліся ў межах перамоваў ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага з прадстаўнікамі савецкай выведкі). Магчыма, нават узгадніў яго з Р. Шаньком.

Якраз пасьля атрыманьня Шаньком выкліку ў Маскву дзесьці ў чэрвені 1942 г. на хутары каля Івацэвічаў прайшла першая нарада камандзіраў беларускіх партызанскіх атрадаў. Паводле ўспамінаў аднаго зь іх, грамадоўца Язэпа Таўпекі, у ёй удзельнічалі 8 камандзіраў *"больш сьведамых беларускіх партызанскіх атрадаў"*: 3 — з Ружаншчыны, 1 — з Косаўшчыны, 1 — з Целяханшчыны, 1 — з Ліпічанскай пушчы, 2 — з Піншчыны. Прысутнічалі і двое прадстаўнікоў "Грамадоўскага Цэнтру" г. зн. кансьпірацыйнай арганізацыі "Грамада" (альбо "Беларуская Народная Грамада"), якой кіраваў Юльян Саковіч.[7] Прадстаўнікамі зь Піншчыны і маглі быць Харэўскі ды Шанько.

Паводле Таўпекі, на першай нарадзе, якую называлі "лавай" камандзіраў (атаманаў), была ўхваленая тактыка Грамады: *"Утрыманьня па магчымасьці ўсіх збройных сілаў, да часу, калі яны будуць патрэбныя, каб вырашыць долю нашага народу і краю"*. Было пастаноўлена папярэдзіць савецкіх партызанаў, што ў выпадках далейшых рабункаў мясцовага насельніцтва і арганізацыі правакацый, супраць іх будзе ўжытая зброя. "Лава" камандзіраў мусіла быць *"паразумеўчым органам партызанаў і зьбірацца ў разе патрэбы"*.[8]

Такім чынам, на першай нарадзе не была ўтвораная партызанская арганізацыя, а толькі быў заснаваны дарадчы орган. На наш погляд, Я. Таўпека тут мае рацыю, у адрозьненьне ад шэрагу іншых аўтараў, якія пераважна пішуць пра стварэньне Галоўнага штабу беларускага партызанскага руху на чале з Шаньком ужо на першай нарадзе пад Івацэвічамі.

Напрыклад, грамадовец Сяргей Хмара пісаў пра "12 атаманаў аддзелаў", якія, нібыта, удзельнічалі ў канферэнцыі, і што на ёй была створаная *"арганізацыя "Беларускай Народнай Партызанкі", на чале якой быў пастаўлены падп. Шанько — Камандзер партызанскага аддзелу з Пружаншчыны". "Быў зарганізаваны Штаб, ачолены падп. Шаньком і Палітычнае кіраўніцтва з трох асобаў (С. Хмара, Васіль Пінскі (Вір) і Юрка Стасевіч),* — працягвае ўспамінаць Хмара ў 1985 годзе. — *Адзін з нашае "паліттройкі" — Ю. Стасевіч — меў стала знаходзіцца ў адным з партызанскіх атрадаў".*[9] Тое самае С. Хмара паўтараў і ў іншых публікацыях.[10]

---

[7] Удзельнік [Язэп Таўпека]. 25-тыя ўгодкі беларускага збройнага антыгітляроўскага рэзыстансу // Беларускі голас, 1967, № 154, лістапад.
[8] Тамсама.
[9] Хмара С. Нашая партызанка // Беларускі голас, 1985, № 320. Студзень.
[10] Хмара С. Памяці сябры // Беларускі голас, 1984, № 314. Сакавік; Хмара С. Грамада па ліквідацыі [19]26-27 году на З[аходняй] Беларусі // Беларускі голас, 1991-92, № 366. Каляды.

Блытаніна існуе з месцам дыслакацыі атрада Шанька. У “Беларускім голасе” называлася толькі Ружаншчына і Пружаншчына (“Воўчыя норы” ці “Воўчыя лагі”). Альбо С. Хмара, Ю. Стасевіч яе дакладна ня ведалі, альбо блыталі атрад Шанька зь нейкім іншым. На карысьць апошняга сьведчыць іх версія, што пасьля гібелі камандзіра частка партызанаў атрада пайшлі ў самаахову Косава. Наўрад ці хто з атрада Рыгора Шанька з беларуска-ўкраінскага памежжа пайшоў бы ў такую далёкую дарогу, а не ў свае пінскія, столінскія, давідгарадоцкія вёскі і мястэчкі. Таму гэтае важнае пытаньне трэба яшчэ дакладна дасьледаваць.

Другі раз “Лава камандзіраў” сабралася ў лістападзе 1942 году. На ёй было вырашана стварыць Галоўны штаб беларускага партызанскага руху на чале з Рыгорам Шаньком. Паводле версіі аднаго з партызанскіх камандзіраў Язэпа Таўпекі, менавіта на гэтай канферэнцыі маёр Шанько атрымаў рангу палкоўніка.[11]

Відавочна, што стварэньне Галоўнага штабу было прысьпешанае ня толькі скідваньнем на Палесьсе савецкіх дэсантных груп, якія спрабавалі падначаліць беларускія атрады (як піша Таўпека), але і ўтварэньнем Пінскага [савецкага] партызанскага злучэньня. Верагодна, некаторыя партызанскія камандзіры, якія яшчэ летам 1942-га ўдзельнічалі ў першай нарадзе “Лавы камандзіраў”, увосень 1942 году далучыліся да савецкай партызанкі. Нездарма атаман Тарас Бульба-Баравец у сваёй справаздачы аб “рэвалюцыйнай дзейнасьці” ў 1942-1943 гг. пісаў: *“Сувязі з беларусамі. Да прыходу вялікіх сілаў савецкіх партызанаў, беларусы ўтрымлівалі з намі цесны кантакт. Калі ж* ***восеньню 1942 г.*** *большую частку Беларусі апанавала савецкая партызанка, беларусы цалкам паддаліся іх уплывам. А таму нашыя дачыненьні з беларусамі пачынаюць развальвацца”*.[12]

У гэтым нумары “БР” зьмешчанае паведамленьне пра партызанскіх камандзіраў Барыса Лукашука (“Бацю”) і Івана “Лясьніка” (Гузюка, Іванова), якія, паводле публікацый “Беларускага голасу”, былі ў беларускай партызанцы, а паводле архіўных дакумэнтаў — найпазьней ад восені 1942-га — у савецкай.

Пра тое, чым займаўся Галоўны штаб беларускага партызанскага руху, нічога невядома. Можна толькі выказваць розныя версіі наконт таго, як суадносілася гэтыя дзейнасьць Шанька з заданьнямі маскоўскага кіраўніцтва. Магчыма, у рапарце ў Маскву ён паведаміў пра стварэньне партызанскай брыгады з “дзікіх” атрадаў. Прынамсі, у кастрычніку 1942 г. нямецкія спэцслужбы валодалі інфармацыяй, што такое заданьне атрымаў з Масквы Рыгор Шанько. Яны ведалі пра яго ўзнагароду, пра палёты ў Маскву.[13] Верагодна, немцы мелі добрыя

[11] Беларускі голас, 1967, № 154, лістапад.
[12] Дзьобак В. Тарас Бульба-Боровець і його військові підрозділи в українському русі опору (1941-1944 рр.). — Київ, 2002, б. 232.
[13] Беларускі супраціў, б. 99, 100.

**АБ БЕЛАРУСКАЙ ПАРТЫЗАНЦЫ У АПОШНЮЮ ВАЙНУ**

Вітаючы зьмяшчэньне "Беларускім Голосам" на 25-ўгодкі артыкулу аб Беларускім збройным антыгітляроўскім рэзыстансе, хацелася-б дадаць некаторыя падрабязнасьці, ды насьвятліць некаторыя няяснасьці (мо дзеля яго кароткасьці) ўспомненага артыкулу. Выратаваліся за мяжу па вайне з праведзенай асобнымі дывэрсыйнымі групамі НКВД "асобага назначэньня", масакры, толькі лічаныя адзінкі з нашага збройнага партызанскага руху. Астатнія калі не грызуць зямлі, пагібшыя ад здрадзецкай кулі агэнтаў Панамарэнкі, дык знаходзячыся на тэрыторыі СССР не могуць падаць сваіх успамінаў да абнародаваньня і таму гэты абавязак лажыць на нас, якія знайшліся ў вольным сьвеце, перадусім у Бразыліі і Аргэнтыне. Гэта важна для гісторыі і да разаблачэньня маны Савецкіх гісторыкаў, якія спрабуюць уладзь перад сьветам, што Беларуская партызанка, гэта Камуністычная партызанка, тады як напраўдзі, толькі па крывавай і падступнай барацьбе, Савецкія дывэрсанты патрапілі зьнішчыць Беларускае нацыянальнае кіраўніцтва Беларускай партызанкі і паволі падпарадкаваць подступам і тэрорам Беларускія партызанскія масы пад свой правод, абязгаловіўшы спачатку атрады з іх камандзераў і дзейнейшых сяброў.

Па першае: чаму Галоўны Камандзер Беларускага Партызанскага Руху, палкоўнік Шанько гэтак неасьцярожна паддаўся на правакацыю "перагавораў" з высланьнікам Маскоўскага Ураду — палкоўнікам Ільдовым? Ато-ж нам было ведама ад "Бульбаўцаў", што гэтакія самыя перагаворы ўжо вядзе з Украінскімі партызанамі, другі падобны высланьнік Савецкага Ураду, нейкі палкоўнік Медзьведзеў. І што яны там дамовіліся да некаторай супрацы. Нашыя атрады спатыкаліся за Прыпяцяй каля Ратна і каля Камень-Каширска і Любяшова з Украінскімі партызанамі, якія ад імя свайго атамана называліся "Бульбаўцы". Таму палкоўнік Шанько не лічыў на здрадзецкі напад. Паводле пазьнейшага расказу прадстаўніка "Антыфашыстаўскага камітэту" ў Берасьці "Юліка" як зьвяраўся пазьней ім Ільдоў, ён меў наказ ад Панамарэнкі, які кіраваў Савецкай дывэрсыйнай дзейнасьцю на Беларусі, зьнішчыць любым спосабам Беларускую незалежную партызанку і падпарадкаваць абязгалоўленыя атрады сабе. Ен выклікаўшы Шанька на перагаворы, безцырамонна зажадаў, каб ён падпарадкаваўся яму, як былы Савецкі маёр і падпарадкаваў яму атрады. Затое прапанаваў яму мейсца свайго памочніка ў кіраўніцтве партызанскім рухам Палесься, вызначаючы сябе на кіраўніка гэтага руху. Калі Шанько адказаў яму, што ані ён асабіста, ані Беларускі партызанскі рух яму, як высланьніку СССР не падпарадкуецца, Ільдоў выхапіў наган і стрэліў ў грудзі палкоўніка Шанька. Стэрарызаваўшы ягонага ад'ютанта, яны паслалі ў Штаб Шанька вестку, што быццам палкоўнік Шанько выляцеў самалётам у Маскву на перагаворы, а часова перадае камандаваньне "Бані", якім і зьявіўся тойжа забойца Камандзера Беларускай партызанкі — палкоўнік Ільдоў. Так пачалася правакацыя, а за ёй нішчэньне ў атрадах нашых дзейных адзінак, ачарніючы іх ў "супрацы з Немцамі", забіваючы зза вугла падсылаючы нават даносы да Немцаў, нішчылі іх іхнымі рукамі і г. п.

У 1943 годзе нашая партызанка налічвала на Палесьсі больш 5 тысяч. Яна ня была поўнасьцю зьнішчаная як можна было б памылкова ўяскаваць з
скарочанага сказу, ў арты
"Беларускага Голасу". Адзі
ныя нашы атрады праіснава
глыбіні Палесься (між Сьв
Воляй, Ратнам і Любяшов
ня толькі да канца панава
Немцаў, але і па прыходзе
вецкіх уладаў і па заканчэ
вайны, папаўняныя новымі
каючымі, ды дзеялі да 19
галоў, калі адбылася астат
ведамая нам збройная спаты
з Савецкімі карнікамі. Гэ
дробныя нашыя атрады, н
нялі страху на вясковых пр
васьнаў новых асвабадзеце
ад Косава, да Берасьця, Кам
-Каширска, Давід Гарадка і
хвы. Такія атрады Украін
"бульбаўцаў" дзеялі патой
Прыпяці і нашыя аддзелы,
пагоні звычайна хаваліся да
льбаўцаў", а яны, калі там
піралі, ўцякалі і перасіджвал
нашых станках.

Наш падніішчаны атрад ў
ых гадох самазьліквідаваўс
сябры ў бальшыні перабра
ў Польшчу, а адтуль пась
на Захад.

**Харэускі**

**ЗАРОБКІ КАЛГАСЬНІКАУ**

"Чырвоная Зьмена" пад
што ў адным з найлепшых к
гасаў Наваградчыны, у в. Х
сіца, існавалі гэтакія зароб
Васіль Чура — Брыгадзір (ф
ман) атрымаў у 1965 г. 686
блёў. У 1966 г. — 1002 руб
Ягоная жонка-калгасьніца ат
мала ў 1965 г. 142 рублі (
год працы!), у 1966 г. — 2
рублёў. У 1967 г. яна выйш
на пэнсыю, атрымаўшы 180
блёў пэнсыі на год. Уладзім
Чура працуе шафёрам. Ен
рабіў ў 1966 г. 1684 рублі.
на Чура — Палявод Калгаса
(агранамістка) — атрымал
1965 г. 573 рублі, у 1966
— 903 рублі. Аляксандар Ч
ра — закончыўшы Сельска-
падарчы Тэхнікум, працуе у
дзеле Белсельгастэхніка зараб
у 1966 г. — 1300 рублёў.

***Адзіны вядомы нам артыкул атамана Якуба Новіка-Харэўскага. "Беларускі голас", Таронта, 1968 г.***

агентурныя пазыцыі ў атрадзе Р. Шанька, альбо ў атрадах, якія зь ім шчыльна кантактавалі.

Паводле некаторых зьвестак, дзесьці ў пачатку 1943 году адбыўся канфлікт паміж Шаньком і Харэўскім. Верагодна, пасьля паразы немцаў пад Сталінградам Рыгор Шанько схіляўся да дзейнасьці выключна пад савецкім кіраўніцтвам, бо ня бачыў ніякай перспектывы ў "беларускай незалежнай партызанкі". Яго можна было зразумець: за лініяй фронту была яго сям'я, фактычна, у ролі закладнікаў. Харэўскі пагадзіцца з Шаньком ня мог. Магчыма, прычынай канфлікту стала патрабаваньне Харэўскага да Шанька перарваць кантакты з НКВД. Ад часу, калі іх шляхі разыйшліся (калі гэты канфлікт сапраўды меў месца), адзіны беларускі нацыянальны партызанскі рух на Палесьсі ўжо не існаваў.

Ну і, нарэшце, важнае пытаньне гібелі Рыгора Шанька. І Харэўскі, і іншыя аўтары "Беларускага голасу" сьцьвярджалі, што ў 1943-м яго забіў савецкі палкоўнік-дыверсант Лінькоў ("Льдоў"), калі Шанько адмовіўся яму падпарадкавацца і падпарадкаваць свае атрады (ці атрад?). Аднак выявіць дакумэнты на гэты конт у маскоўскіх архівах пакуль няўдалося (ёсьць толькі запіс пра сьмерць, невыключана існаваньне засакрэчанай справы). Некаторыя дасьледчыкі дапускаюць, што варта разглядаць і іншыя версіі. Напрыклад, ліквідацыю Шанька нямецкімі спэцслужбамі, гібель яго ў баю, альбо нават забойства партызанамі таго ж Харэўскага.

# КАМАНДЗІР БЕЛАРУСКАГА ПАРТЫЗАНСКАГА РУХУ ШАНЬКО ПАВОДЛЕ ІНФАРМАЦЫЙ "БЕЛАРУСКАГА ГОЛАСУ"

Доўгі час адзінай крыніцай інфармацыі пра загадкавага камандзіра беларускіх партызанаў была газэта "Беларускі голас" (Таронта, Канада). Менавіта на яе спасылаўся і гісторык Юрый Туронак, калі падаў у сваёй манаграфіі кароткую згадку пра Шанько і беларускі партызанскі рух.[1]

Першая публікацыя, у якой згадваўся партызанскі камандзір, зьявілася ў ліпені 1961 году.[2] Ананімны аўтар, якім мог быць Сяргей Хмара, упершыню напісаў пра беларускі партызанскі рух на Палесьсі ды згадаў яго камандзіра: *"На чало беларускіх партызанскіх аддзелаў высунуўся сваёй актыўнасьцю, вайсковай умеласьцяй былы маёр Савецкай Арміі Шчанько, які выратаваўся з нямецкіх рукаў і ўцёк у лес, ды далучыўся да грамадоўскага партызанскага аддзелу ў Ражаншчыне"*.

Далей аўтар згадвае, што партызанская канфэрэнцыя, верагодна ў 1942 годзе, дала *"камандзіру Беларускіх Партызанскіх Аддзелаў Палесься маёру Шчанько"* паўнамоцтвы весьці перамовы з кіраўніком пракамуністычнага Берасьцейскага абласнога антыфашыстоўскага камітэту Язэпам Урбановічам у справе атрыманьня зброі і боепрыпасаў, а таксама *"каардынацыі неабходных збройных дзеяньняў"*. Перамовы гэтыя, нібыта, адбыліся і Урбановіч мусіў пагадзіцца з прапановамі беларускіх партызанаў, якія абмяжоўвалі дзейнасьць савецкіх атрадаў. У далейшым Урбановіч, нібыта, паведаміў у Маскву пра вынікі перамоваў і яму на дапамогу ў раён Ружанаў, Косава і Быценя былі скінутыя *"5 вялікіх дэсантных групаў энкавэдыстых пад галоўным камандаваньнем палкоўніка спэцыяльных войскаў НКВД — Лядова, з заданьнем сьпешна зьліквідаваць "Беларускую небясьпеку" ў лясох"*.[3]

Адзначым, што Урбановіч доўгі час ня меў сувязі з Масквой і ўстанавіў яе толькі восеньню 1942 году, праз закінутую на Палесьсе групу дывэрсантаў ГРУ Генштаба Чырвонай Арміі капітана Топкіна. "Палкоўнік Льдоў" — гэта псеўданім афіцэра ГРУ (не НКВД) Рыгора Лінькова, які восеньню 1942-га са сваім атрадам таксама знаходзіўся на Палесьсі (але ў той час быў вядомы як "Баця"), у студзені 1943 г.

---

[1] Туронак Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй. — Мінск: "Беларусь", 1993, б. 226.

[2] Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада // Беларускі голас, 1961, № 83, ліпень.

[3] Беларускі голас, 1961, № 83, ліпень.

яго адклікалі ў Маскву, адкуль ён вярнуўся ў траўні 1943-га. Ці меў ён заданьне ліквідаваць менавіта “беларускую небясьпеку”, невядома.

Далей аўтар “Беларускага голасу піша: *“У хуткім часе неасьцярожнасьць і даверлівасьць партызанскіх беларускіх атаманаў, а перадусім галоўнага камандзіра Шчанько давяло да трагэдыі і зьнішчэньня Беларускіх, Партызанскіх злучэньняў, сьпярша ў Ражаншчыне, Косаўшчыне і Пружаншчыне, а пасьля ў Ліпічанскай і Белавежскай пушчы”*.[4]

Паводле гэтай версіі, Льдоў “пры дапамозе Урбановіча” прыйшоў са сваімі дэсантнікамі *“ў ваколіцу распалажэньня штабу атамана Шчанько”* і запрасіў таго на перамовы аб *“прыдзелу беларускай партызанцы маскоўскай зброі”*. Беларускі партызанскі камандзір *“зьявіўся на ўмоўленае мейсца ў лесе толькі з сваім ад’ютантам”*, а вось Льдоў меў дваіх ахоўнікаў. Падчас размовы Льдоў *“нечакана стрэліў”* Шчанько ў патыліцу і забіў яго. Ад’ютанта “зтэрарызавалі” і прымусілі разам зь імі прыехаць *“у беларускі лягер, дзе знаходзіўся штаб Шчанько”* і абвесьціць, што той паляцеў самалётам у Маскву на перамовы *“аб зброі”*, а часовае камандаваньне перадаў аднаму з людзей Льдова.[5]

Прозьвішча ад’ютанта “Шчанько” — Шанько вядомае. Гэта грамадовец Мікалай Скрундзь, які меў у партызанах мянушку “Ваўкалак”. Паводле нэкралёга, напісанага Сяргеем Хмарам, Скрундзь памёр у 1968 годзе ў Парагваі. Хмара піша, што “Ваўкалак” удзельнічаў у *“антыгітляроўскай Беларускай партызанцы пад кіравецтвам палкоўніка Шанька ў Слонімскай і Ружанскай пушчах”*.[6]

На Івацэвіцкай партызанскай нарадзе, калі быў створаны *“Штаб Беларускіх партызанскіх атрадаў на чале з б*[ылым] *маёрам Шаньком, надаўшы яму чын падпалкоўніка, Ваўкалак стаецца ад’ютантам ат*[амана] *Шанька”*. У гэтай публікацыі сьцьвярджаецца, што *“пасьля подступнага забойства палк. Шанька савецкімі энкавудыстамі і разгрому нашых партызанскіх аддзелаў пры дапамозе тэрору і правакацыяў”* Скрундзь уратаваўся і легалізаваўся — уступіў у Беларускую Самаахову ў Быцені, а пасьля *“бярэ ўдзел у іншых беларускіх збройных фармацыях”*.[7]

Ня будзем тут спыняцца на праблеме вызначэння месца дысьлякацыі атраду падпалкоўніка/палкоўніка Шанька. У іншых публікацыях гэтага нумару “БР” зьвяртаецца ўвага, што атрад Рыгора Шанька

---

[4] Беларускі голас, 1961, № 83, ліпень.

[5] Тамсама.

[6] *С. І. [Сяргей Іскра — Сяргей Хмара]. Яшчэ адзін… // Беларускі голас, 1968, № 167, сьнежань.

[7] Тамсама.

дзейнічаў на беларуска-ўкраінскім памежжы, але не ў Ружанскай пушчы. Таму, альбо хмараўцы на эміграцыі памылкова лічылі "Шаньком" іншага партызанскага камандзіра (напрыклад, маёра Нішчанкова), альбо сьвядома ўводзілі ў зман сваіх чытачоў.

Але вернемся ў пачатак 1960-х. У ліпені 1961-га Шанько ў "Беларускім голасе" яшчэ называюць "Шчанько". Аднак у наступнай публікацыі, у якой была згадка пра яго, ужо ёсьць "Шанько". Яна зьявілася ў жніўні 1962-га, калі была апублікаваная адозва "Саюза былых удзельнікаў збройнай барацьбы за вызваленьне Беларусі" да 20-х угодкаў "утварэньня беларускага збройнага партызанскага руху супроць гітляроўскае акупацыі". У адозьве адзначалася:

*"20 год таму назад паасобныя Беларускія партызанскія групы былі аб'яднаныя пад адным Галоўным Камандаваньнем Штабу Беларускіх, Народных, Партызанскіх Сілаў на чале з камандзерам — палкоўнікам І. Шаньком, ствараючы гэткім чынам зусім самадзельную Беларускую збройную сілу"*.[8]

Пра гібель *"Галоўнага Камандзера палкоўніка Шанько"* паведамлялася, што "вораг" прапаноўваў перамовы аб супольным фронце змаганьня зь нямецкімі акупантамі і *"патрапіў подступам замардаваць"* яго.[9]

У лістападзе 1962-га ў чарговай адозьве "Саюза былых удзельнікаў збройнай барацьбы за вызваленьне Беларусі", на гэты раз выпушчанай да ўгодкаў Слуцкага паўстаньня, згадваўся і *"Збройны Беларускі Партызанскі Рух Апору пад Галоўным камандаваньнем палк. Шанька супроць гітляроўцаў"*. [10]

У такой жа адозьве ў лістападзе 1963-га згадваліся партызаны *"антыгітляроўскага Беларускага Руху апору пад кіраўніцтвам палк. Шанька"*. [11]

У лістападзе 1967-га зьявіўся першы грунтоўны артыкул на тэму беларускага нацыянальнага партызанскага руху. "Удзельнік" (Язэп Таўпека) — адзіны, хто піша пра дзьве канферэнцыі камандзіраў беларускіх партызанскіх атрадаў (ён іх называе "лавай" (нарадай) камандзіраў, альбо атаманаў), якія адбыліся ў 1942 годзе. *"Лава" мела быць паразумеўчым органам партызанаў і зьбірацца ў разе патрэбы"*, — адзначае Таўпека. Пра Шанька ён згадвае толькі, калі піша пра другую канферэнцыю, што адбылася ў лістападзе 1942-га. Паводле Таўпекі, "Лава камандзіраў" вырашыла стварыць *"Галоўны Штаб Беларускага Партызанскага Руху і паклікаць на Начальніка*

---

[8] Беларускі голас, 1962, № 96, жнівень.
[9] Тамсама.
[10] Беларускі голас, 1962, № 99, лістапад.
[11] Беларускі голас, 1963, № 111, лістапад.




*Штабу маёра Шанька, найстаршага чынам Кама[н]дзера Беларускага атраду з Воўчых Нораў на Ражаншчыне*, надаўшы яму пры гэтым чын Палкоўніка”*. [12]

Язэп Таўпека спыняецца і на гібелі Шанька. Ён піша: *“Палкоўнік Льдоў заманьвае пад Ружаной** на перамовы Начальніка Штабу Беларускага Партызанскага Руху — палкоўніка Шанька, дзе забівае яго стрэлам з рэвальвэру”… Урбановіч* (кіраўнік Берасьцейскага абласнога [прасавецкага] антыфашысцкага камітэту — **СЁ**) *па забойстве Льдовым палк. Шанька пасьпеў паведаміць праз сувязістку Грамады ў Івацэвічах (павешаная потым дывэрсантамі Льдова) аб ягонай поўнай нявіннасьці ў гэтай справе і атрыманым шоку (у ягонай прысутнасьці быў забіты Льдовым палк. Шанько) ды парадзіў ратавацца выдатнейшым сябрам Беларускага партызанскага руху”*. [13]

Якуб Харэўскі ў сваім адзіным артыкуле ў 1968 годзе патлума-

---

[12] Удзельнік. 25-тыя ўгодкі беларускага збройнага антыгітляроўскага рэзыстансу (1942 — 1967) // Беларускі голас, 1967, № 154, лістапад.

* На польскіх мапах 1930-х на поўдзень ад Ружанскай пушчы, у раёне Сяльца было ўрочышча Воўчыя норы. Дарэчы, пра партызанскую базу ў Воўчых ямах (ці не на Пружаншчыне?) згадвае ў сваёй аповесьці “Абеліск” Васіль Быкаў. Там на пачатку нямецкай акупацыі стварыў сваю базу атрад маёра Чырвонай Арміі, што трапіў у акружэньне… Урочышча Воўчыя Ямы ёсьць і ў Кобрынскім раёне (каля 40 кіламетраў ад Кобрына па паўднёвы-ўсход).

** У гэтым жа артыкуле ён удакладняе месца гібелі Шанька: Ружанская пушча.

чыў, чаму *“Галоўны Камандзер Беларускага Партызанскага Руху”* палкоўнік Шанько пагадзіўся на перамовы з палкоўнікам Льдовым. Аказваецца, беларускім партызанам было вядома пра падобныя перамовы, якія ўкраінскі атаман Тарас Бульба вёў з прадстаўніком палкоўніка Мядзьведзева і пра дасягнутую дамову аб супрацоўніцтве. *“Таму палкоўнік Шанько не лічыў на здрадзецкі напад”*, — піша Харэўскі. Ён пераказвае, нібыта, са слоў Язэпа Урбановіча, як быў забіты Шанько. Льдоў запатрабаваў, каб Шанько, як савецкі афіцэр, яму падпарадкаваўся і падпарадкаваў свае атрады. Ён прапанаваў беларускаму камандзіру стаць яго памочнікам у кіраўніцтве *“партызанскім рухам Палесься”*. *“Калі Шанько адказаў яму, што ані ён асабіста, ані Беларускі партызанскі рух яму, як высланьніку СССР, не падпарадкуецца, Ільдоў выхапіў наган і стрэліў у грудзі палкоўніка Шанька”*, — успамінае Харэўскі. Далей ён пераказвае ўжо вядомую нам гісторыю пра *“стэрарызаванага ад’ютанта”*, з дапамогай якога ў *“Штаб Шанька”* было паведамлена, што камандзір паляцеў у Маскву на перамовы. Адзінае адрозненне — *“часовае камандаваньне”* атрымаў сам Льдоў, а не хтосьці зь яго людзей.[14]


сьв. † пам.
ЯКУБ ХАРЭУСКІ-НОВІК
атаман партызанскага атраду імя Нябабы
удзельнік партызанскага руху 1922-1925 гг. і 1942-48 гг
сябра Лавы Атаманаў Б. З. Супраціву,
згінуў перадчасна ў нешчасьлівым выпадку 2-га красавіка 1968 г. у Рыо-Грандэ Порт Алекра у Бразыліі, маючы 67 г.
Чэсьць Ягонай Памяці!
Саюз
б. Удзельнікаў Збройнай Барацьбы
за Вызваленьне Беларусі

сьв. † пам.
КАСТУН ГУК
былы ўдзельнік партызанскага антыгітляроўскага і антысавецкага руху 1942-48 гадоў,
згінуў перадчасна, маючы 55 год ў выпадку ў Рыо-Грандэ ў Бразылі — 2 красавіка 1968 г.
Няхай будзе лёгкай яму чужая зямля!
Саюз
б. Удзельнікаў Збройнай Барацьбы
за Вызваленьне Беларусі

Ужо ў красавіку 1968-га ў нэкралёгу па загінулым Харэўскім “Сябар” піша: *“Харэўскі прымае ўдзел у падівацэвіцкай канфэрэнцыі Беларускіх партызанскіх атрадаў у 1943 годзе*, на якой было створана арганізацыю Беларускага Партызанскага Антыгітляроўскага Руху, з утварэньнем Беларускага Штабу Партызанскага Руху, ды паклíканьнем на чало Галоўнага Каманданта гэтага руху ў асобе палкоўніка Шанька, камандзера Беларускага Партызанскага атраду ў Воўчых Ямах на Ражаншчыне. Якуб Харэўскі зьяўляецца*

---

[13] Беларускі голас, 1967, № 154, лістапад.

[14] Харэўскі. Аб беларускай партызанцы ў апошнюю вайну // Беларускі голас, 1968, № 156, студзень.

*Відавочная памылка, насамрэч у 1942 годзе.



***Язэп Таўпека***

*Старшынёй утворанай тады ж Лавы Атаманаў, якая мела быць дарадчым ворганам Галоўнага Камандаваньня Беларускага Партызанскага Руху”*.[15]

У гэтай жа публікацыі паведамляецца, што Шанько быў забіты “надасланымі з Масквы парашутыстамі-чакістамі”.

У 1970-х пачалі зьяўляцца артыкулы былога партызана Юркі Стасевіча (падчас нямецкай акупацыі ён быў у атрадзе Язэпа Таўпекі ў паўночна-ўсходняй частцы цяперашняй Брэсцкай вобласьці), які жыў у ЗША. Самы значны зь іх — “Беларуская Народная Партызанка”.[16] У ім Стасевіч прыводзіць сьпіс “найбольш значных” атрадаў “Беларускай Народнай Партызанкі”, а ў ім згадваецца і атрад *“атамана-палкоўніка Шанька”*. Паведамляецца, што ён дзейнічаў на Ружаншчыне і Пружаншчыне. Пра лёс атрада падаецца кароткая інфармацыя: *“захоплены пасьля подступам дэсантнікамі па зьнішчэньні атамана і іншых камандзераў атрада”*. Таксама Стасевіч называе Шанька начальнікам *“спэцыяльнага Штабу Народнай Беларускай Партызанкі”* ды піша пра яго гібель наступнае: *“забіты подступам праз прысланага з Масквы палкоўніка-энкавудыста, які як дэлегат Масквы запрапанаваў “перагаворы”*.[17]

Былы атаман Язэп Таўпека, які жыў у Канадзе, зьмясьціў у “Беларускім голасе” яшчэ некалькі публіцыстычных і палемічных артыкулаў, прысьвечаных беларускаму нацыянальнаму партызанскаму руху. Ён палемізаваў з аўтарамі публікацый у пракамуністычнай газэце “Вестник” (Таронта) і “Голасе Радзімы”, якія альбо зусім адмаўлялі існаваньне “беларускай партызанкі”, альбо зьвязвалі яе камандзіраў з нямецкай выведкай. У чэрвені 1971-га Таўпека згадаў і Шанька: *“…на гэтай нарадзе быў утвораны Штаб Беларускай Народнай Партызанкі і выбраны Лавай Атаманаў, як называлася нарада партызанскіх камандзераў, Начальнік Штабу Беларускай партызанкі ў асобе камандзера атраду з Воўчых Ямаў на Ражанічыне былога маёра Савецкай Арміі — акружэнца — Шанько… ён быў маёр Савецкай арміі і нашай Лавай Атаманаў падвышаны да чыну палкоўніка”*.[18]

---

[15] Сябар. Згінуў партызанскі атаман // Беларускі голас, 1968, № 159, красавік.

[16] Беларускі голас, 1975, № 230, люты.

[17] Тамсама.

[18] Таўпека Я. Лаянкай хочуць укрыць праўду // Беларускі голас, 1971, № 194, чэрвень.


BIELARUS
БЕЛАРУСЬ
БЕЛАРУСКІ ГОЛАС
Byelorussian Voice
La Voix Bielarusienne
834 Castlefield Ave., Toronto 19, Canada
БЕЛАРУСКІ НЕЗАЛЕЖНЫ ЧАСАПІС
Price 5 c.
№ 154 Лістапад 1967
Toronto, Ontario, November 1967
Vol. 18/16 № 154

1920 СЛАВА ЗМАГАРАМ ПАЛЕГЛЫМ ЗА БАЦЬКАЎШЧЫНУ 1967

1942 — 25-ТЫЯ УГОДКІ БЕЛАРУСКАГА ЗБРОЙНАГА АНТЫГІТЛЯРОЎСКАГА РЭЗЫСТАНСУ — 1967

З Канады
ВЫБАРЫ У АНТЭРЫЮ

***Артыкул Язэпа Таўпекі ў “Беларускім голасе”, 1967 г.***

Таксама ён спыняецца на абставінах гібелі Шанька ды адзначае, што той “ня меў у сваім атрадзе добрых дарадцаў, а ў варунках партызанскае вайны цяжка нам было рабіць часьцейшыя супольныя нарады і кантактавацца за кожным крокам з нашым палітычным кіраўніцтвам — зьвязнымі Грамады”.[19]

У лютым 1973-га ў сваім чарговым артыкуле Язэп Таўпека згадвае і Шанька, і маёра Нішчанкова. Гэта важна, бо з-за розных версій пра месца дысьлякацыі атраду Шанька, узьнікла дапушчэньне, што хмараўцы маглі на эміграцыі блытаць Шанька з Нішчанковым (таксама меў рангу маёра), які таксама быў застрэлены Ліньковым-“Льдовым”. Таўпека піша: *“…партызанскія атрады намагаліся арыштаваць і судзіць НКВДыстоўскага Упаўнамочанага Льдова, гэтага шматразовага забойцу незалежных камандзераў Беларускае партызанкі, як Начальніка Штабу падпалкоўніка (б. маёра) Шанька, як камандзера атраду маёра Нішчанкова і іншых”*.[20]

У лістападзе 1976-га “Беларускі голас” выходзіць з перадавіцай “Лістапад — месяц беларускай зброі” з галерэяй партрэтаў шасьці

[19] Таўпека Я. Лаянкай хочуць укрыць праўду // Беларускі голас, 1971, № 194, чэрвень.

[20] Таўпека Я. Давайце грамадзянін Калесьнік уточнім! // Беларускі голас, 1973, № 209, люты.



BIELARUS
БЕЛАРУСЬ

# БЕЛАРУСКІ ГОЛАС

Byelorussian Voice
La Voix Bielarusienn
24 Tarlton Rd., Toronto, Canada
M5P 2M4

БЕЛАРУСКІ НЕЗАЛЕЖНЫ ЧАСАПІС

Member of Canadian Ethnic Press A
Established in 1949.

The only Byelorussian language newspa
in Canada.

Лістапад 1976 | Toronto, Ontario, November 1976 | Vol. 27/24 N

## ЛІСТАПАД — Месяц Беларускай ЗБРОІ

З ДЗЕН ЗБРОЙНАГА ЗМАГАНЬНЯ ЗА ВОЛЮ БЕЛАРУСІ

### НАЙВЯЛІКШЫЯ ПРЫГНЕТЧЫКІ

...кітар Замежных Справаў Камуністычнага Кітаю, ...н Гуа выступаючы на Сэсіі Арганізацыі Злучаных ..., асьветчыў: што Савецкая Расея і ЗША зьяўля... найвялікшымі міжнароднымі прыгнятчыкамі і экс...арамі нашых часоў". Расея бязпынна паклікаецца ...ыт, але ёсьць гэта звычайным ашуканствам і сло... вагі, бо кожнага дня гаворачы аб міры, Расея пад... захопы. Чао Кан Гуа заявіў, што рана, ці позна, Амэрыкай і Саветамі выбухне вайна і небясьпека Гэлсінскай Канфэрэнцыі значна ўзрасла. Саветы ...ць ўсыпіць Эўропу, каб пасьля разьбіць яе і зьні...

### КАМУНІСТЫ АБ СССР

...эральны Сакратар Камуністычнай Партыі Гішпаніі ...о назваў публічна Расейскі камунізм "прымітыў...цыялізмам", а гэтак званы "Пралетарскі інтэрнацы...м" ў Расейскай рэдакцыі, зьнікаючым гістарычным ...м. Гішпанская Кампартыя ад 1964 году скасавала ... праграме "Дыктатуру Пралетарыяту". Як ведома ...ы гэтае цяпер і Італьянская і Француская Кампар... ...дэр Італьянскіх камуністаў Белінгуэр асьветчыў, што

(Зьлева). Палкоўнік Шанько — Начальнік Штабу антыгітлераўскай Беларускай, Народнай Партызанкі 1942-43 г. Замардаваны чакістоўскімі дыверсантамі. Атаман Новік-Харэўскі — Камандзер аддзелу антыпольскай партызанкі БНР — 1922-25 г., Камандзер аддзелу Беларускай Народнай Партызанкі імя Нябабы — 1942-1945 на Зах. Беларусі. Згінуў ў Бразыліі.

Атаман Таўпека — Камандзер аддзелу Беларускай Народнай Партызанкі 1942 — 1945 г. Атаман Пера-гуд — Камандзер Аддзелу Беларускай Народнай Партызанкі 1942-47 (Палесьсе і Беласточчына). С. Хмара — Камандзер аддзелу антыпольскай партызанкі БНР — (5-ая Група Войск БНР) 1924-25 г. Сябра Палітычнага Кіраўніцтва Беларускай Народнай Партызанкі 1942-44 Пінскі (Вірок), Сябра Палітычнага Кіраўніцтва Беларускай партызанкі — паўстаньня на Палесьсі ў днях 1-17 ...расьня 1939 г. Прадбачаны быў на Прэм'ера Беларускай Рэспублікі, якая мела быць агалошаная ...іншымі партызанамі Пінску.

кіраўнікоў беларускага партызанскага руху. Сярод іншых упершыню было зьмешчанае і, нібыта, фота "палкоўніка Шанька". На ім бачым маладога мужчыну ў скуранцы, кубанцы, які нахіліў галаву, таму твару не відаць. Здымак падпісаны наступным чынам: *"Палкоўнік Шанько — Начальнік Штабу антыгітляроўскай Беларускай, Народнай Партызанкі 1942-43 г. Замардаваны чакістоўскімі дывэрсантамі"*.[21]

Падобная "галерэя партрэтаў" была надрукаваная яшчэ аднойчы — у ліпені 1982 году. Ананімны аўтар (верагодна, Сяргей Хмара) напісаў пра *"40 гадоў ад ахвіцыяльнага стварэньня Беларускае Народнае Партызанкі"*. Ён і ў далейшым прытрымліваўся версіі, паводле якой ужо на першай канферэнцыі была створаная партызанская арганізацыя са штабам, начальнікам якога абралі палкоўніка Шанько. Аўтар піша, што ён *"былы маёр Сав*[ецкай] *Арміі"*. Пра сьмерць Шанька напісана коратка: *"Палк. Шанько быў застрэляны подступам — запрошаны на "перагаворы" чакістам Ліньковым"*.[22]

Найбольшы артыкул пра "народную партызанку" С. Хмара надрукаваў у студзені 1985 году.[23] У ім ён палемізуе з савецкімі аўтарамі, спыняецца на стварэньні беларускага партызанскага руху, зьмяшчае прынятыя канферэнцыяй пад Івацэвічамі "асновы дзеяньня" з чатырох

---

[21] Лістапад — месяц беларускай зброі // Беларускі голас, 1976, № 248, лістапад.

[22] 40-годзе Беларускага Збройнага Рэзыстансу // Беларускі голас, 1982, № 302, ліпень.

[23] Хмара С. Нашая партызанка // Беларускі голас, 1985, № 320, студзень.

пунктаў (больш пра іх ніхто не пісаў, верагодна, напісаныя Хмарам па памяці). Цікава, што пішучы пра стварэньне ўжо на першай канферэнцыі арганізацыі “Беларускай Народнай Партызанкі”, С. Хмара называе яе кіраўнікож (начальнікам Штабу) “камандзера партызанскага аддзелу з Пружаншчыны” Шанька, якога называе падпалкоўнікам (у пераважнай большасьці іншых публікацый “БГ” гаворка ішла толькі пра “палкоўніка”).

Пра гібель Шанька Хмара піша наступнае: *“З “бульбаўцамі” (пасрэдна) зьвязана і забойства начальніка штабу БНП — палк. Шанька. Бо дачуўшыся аб тым, што ат. Бульба меў перагаворы з сав[ецкімі] высланьнікамі аб супрацы, Шанько згадзіўся на сустрэчу з высланьнікам Панамарэнкава Партызанскага Штабу ў Маскве чэкістам — палк. Панковым* (“баця”), не ўбязьпечаны адпаведна сваімі людзьмі, і Панкоў яго застрэліў, ды пры дапамозе ашуканства(маўляў Шанько вылецеў у Маскву на размовы аб супрацы) захапіў сваімі падстаўнымі агэнтамі атрад Шанька ў Пружаншчыне (Воўчыя Ямы)”*.[24]

У некалькіх сваіх публікацыях пра Шанька згадваў грамадовец Васіль Вір (намесьнік галоўнага рэдактара “Беларускага голасу”). У нэкралёгу па памерлым атамане І. Перагудзе ён згадвае партызанскую канферэнцыю *“пад Целяханамі, дзе быў утвораны Штаб Беларускай Народнай Партызанкі з палк. І. Шаньком, як Начальнікам Штабу і ат. Харэўскім як ягоным Намесьнікам”*.[25]

Варта згадаць, што калі ў справе савецкай рангі Шанька (маёра) ў публікацыях “Беларускага голасу” не было розных версій, дык у ранзе беларускай (нададзенай Лавай атаманаў) згадваецца і “падпалкоўнік”, і “палкоўнік”. Аднак апошні варыянт сустракаецца значна часьцей. Сярод іншых, палкоўнікам яго называюць былыя камандзіры, удзельнікі партызанскіх канферэнцый Харэўскі і Таўпека.

Такім чынам, з публікацый “БГ” вынікае, што Шанько (імя яго ня згадваецца, толькі двойчы перад прозьвішчам ставіўся ініцыял “І”) быў маёрам Чырвонай Арміі, акружэнцам, камандзірам партызанскага атраду ў Воўчых Норах (Ямах) на Ружаншчыне. На партызанскай канферэнцыі 1942 году яго абралі начальнікам галоўнага штабу Беларускага партызанскага руху, павысілі яго рангу да палкоўніка. Якой дзейнасьцю ён адзначыўся на гэтай пасадзе, невядома. Выглядае так, што пасада была сімвалічная. Дзесьці ў 1943 годзе Шанько быў забіты падчас перамоваў палкоўнікам Ліньковым-“Льдовым”. Іншай інфармацыі пра яго няма.

**СЁ**

---

[24] Тамсама.

[25] Вір В. Памёр атаман // БГ, 1984, № 315, травень.

*Рыгор Лінькоў ніколі ня меў такога псеўданіму.

# ЗАБЛЫТАНАЯ СПРАВА ПАРТЫЗАНСКАГА КАМАНДЗІРА БАРЫСА ЛУКАШУКА

У апошнія гады ў некалькіх публікацыях быў згаданы камандзір антынацысцкага партызанскага атрада з Палесься Барыс Лукашук.[1] Асоба незаслужана забытая. На жаль, Лукашука дагэтуль абліваюць брудам, замоўчваюць яго ролю ў разгортваньні партызанскага руху на тэрыторыі сучаснай Берасьцейскай вобласьці.

Зьбіраючы матэрыялы пра гэтую асобу, адразу ж сутыкнуўся са шматлікімі супярэчнасьцямі. Сьведчаньні пра яго дзейнасьць настолькі розныя, што няма сумненьняў — хтосьці з аўтараў хлусіць. Пасьля аналізу ўсіх вядомых крыніц мушу адзначыць, што на сёньняшні момант яшчэ нельга даць адказы на ўсе пытаньні. І ўсё ж паспрабую наблізіцца да адгадкі, кім жа быў Барыс Лукашук? Беларускім ці ўкраінскім нацыяналістам? Савецкім патрыётам-партызанам?..

Варта пачаць з публікацый, якія ў 1970-1980-я гады зьяўляліся ў газэце "Беларускі голас", што выдавалася ў Таронта групай эмігрантаў, былых заходнебеларускіх грамадоўцаў і камуністаў, на чале з Сяргеям Хмарам (у Канадзе — Мар'янам Зіняком). У іх распавядалася пра беларускі нацыянальны партызанскі рух ("беларуская народная партызанка"), які падчас нямецкай акупацыі ўзьнік на заходнебеларускім Палесьсі і існаваў да 1943 году, пакуль у сваёй бальшыні ня быў падначалены савецкім кіраўніцтвам. Паводле версіі аўтараў "Беларускага голасу", сярод іншых існаваў беларускі партызанскі атрад "Суворага-Лукашука". Ён згадваецца ў некалькіх публікацыях, у тым ліку ў сьпісе дысьлякацыі атрадаў "Беларускай народнай партызанкі", складзенага Юркам Стасевічам.[2] Апошні піша: **"Атрад Беларускай Народнай Партызанкі атамана Суворага-Лукашука** ([раёны дзеяньня — ] **Піншчына, Лунінеччына, Камень-Кашыршчына, Давід-Гарадоччына).* Зьнішчаны цалкам праз савецкія дэсанты"**.[3]

---

[1] Камандзір беларускай партызанкі // 2009, 6 верасьня; http://burk001.livejournal.com/8630.html ; Вячеслав Селеменев, директор Национального архива Беларуси: "Все дела про войну мы рассекретили" // Комсомольская правда в Беларуси, 2010, 18 лютага; http://kp.by/daily/24444.3/608970/ ; Зноў Барыс Лукашук // 2010, 25 лютага; http://burk001.livejournal.com/23550.html ; ОУН-УПА в Беларуси. 1939-1953 гг.: Документы и материалы. – Минск: Высшая школа, 2011.

[2] Стасевіч Ю. Беларуская Народная Партызанка // Беларускі голас, 1975, № 230, люты.

[3] Тамсама.

*Яшчэ ў адной публікацыі Ю. Стасевіч пісаў: "Атаман антыгітляроўскай партызанкі ў Піншчыне ў 1943 г. — Лукашук "Суворы", забіты савецкімі дывэрсантамі ў Кобрыншчыне". Гл.: Стасевіч Ю. Ад Інстытуту імя Кастуся Каліноўскага // Беларускі голас, 1976, № 249, сьнежань. У той жа зацемцы была абвестка пра пошук фотаздымка Лукашука.



***Партрэт Барыса Лукашука. Аўтар — Алесь Пушкін.***

Яшчэ ў адной публікацыі, якая зьявілася ў 1982 годзе, сьцьвярджалася, што "атаман Суворы" разам з атаманам Харэўскім быў заступнікам палкоўніка Шанько. [4]

Адразу адзначым, што афіцыйная беларуская гістарычная навука ніякіх "беларускіх народных партызанак" не прызнае, у энцыклапедыях, даведніках, манаграфіях пра іх няма ніякай інфармацыі. У неафіцыйных размовах гісторыкі лічаць іх альбо выдумкай эмігрантаў, альбо "ілжэпартызанскімі атрадамі", альбо ўвогуле "бандамі". Адзінае, у чым

[4] 40-годзе Беларускага збройнага рэзыстансу // Беларускі голас, 1982, № 302, ліпень.

яны маюць рацыю — дакумэнты пра гэты партызанскі рух невядомыя, а адных сьведчаньняў эмігрантаў замала. Зь іншага боку, калі такія дакумэнты і былі выяўленыя, публікаваць іх не сьпяшылі б — неяк ня ўпісваюцца гэтыя партызаны ў кананічную канцэпцыю ўсенароднага партызанскага руху пад кіраўніцтвам кампартыі і органаў савецкай дзяржбясьпекі.

У той час, калі пра іншых камандзіраў “беларускай народнай партызанкі” (падпалкоўнік/палкоўнік Шанько, Якуб Новік (Харэўскі), Іван Перагуд, Язэп Таўпека, Хоміч ды інш.) у савецкіх публікацыях (за выключэньнем “Голасу Радзімы”) згадак не было, дык пра Барыса Лукашука часам пісалі. Здавалася б, вось ён, доказ, што версія аўтараў “Беларускага голасу” цалкам праўдзівая. Аднак не, наадварот, усё яшчэ больш заблыталася…

Яшчэ ў 1969 годзе ў Мінску ў выдавецтве “Беларусь” выйшла кніжка ўспамінаў былога савецкага партызана Івана Шубітыдзэ “Палескія былі”. У ёй аўтар згадвае камандзіра савецкага партызанскага атрада імя Суворава Лукашука, які аказаўся здраднікам і… украінскім нацыяналістам. За гэта ён групай савецкіх партызанаў-былых вайскоўцаў Чырвонай Арміі і быў забіты. Аднак аўтары “Беларускага голасу” на гэтую кнігу ніякай увагі не зьвярнулі, хаця падобную літаратуру яны адсочвалі. Пра дачыненьне Лукашука да “беларускай народнай партызанкі”* яны пачалі пісаць ужо пасьля выхаду ўспамінаў Шубітыдзэ.

Ці не маглі аўтары “Беларускага голасу” нешта наблытаць у справе Лукашука, нават пераблытаць розных асобаў? Ю. Стасевіч і С. Хмара маглі. Першы падчас нямецкай акупацыі быў у партызанскім атрадзе Язэпа Таўпекі, што дзейнічаў каля Баранавічаў, Слоніма і Івацэвічаў, другі — у Слоніме, а гэта далёка ад Іванаўшчыны ці Піншчыны. Пра “Суворага-Лукашука” яны маглі ведаць толькі са слоў іншых. Такім “іншым” мог быць яшчэ адзін аўтар “Беларускага голасу” Васіль Вір (Вірок, Пінскі), які ў 1941-1943 гг. жыў у Пінску, а пасьля быў прымусова вывезены ў Нямеччыну. Менавіта Вір у артыкуле-рэцэнзіі “Летапіс УПА”[5] падаў версію гібелі “атамана Суворага”:

“[…] савецкія дэсанты апанавалі затое атрад атамана Суворага, забіўшы яго ў ваколіцах на поўдзень ад Пінска — Нобель. Цалкам зьнішчылі ў Драгічыншчыне другі наш атрад — атамана Лясьніка…

…беларускія атрады мелі лучнасьць з дзеючымі каля Любомля і

*Заўважым, што ў публікацыях 1969-1970 гадоў у “Беларускім голасе” пісалі яшчэ пра “беларускую нацыянальную партызанку” (гл.: Беларускі голас, 1969, № 176, верасень; 1970, № 184, чэрвень), а ў 1970-х — ужо пра “народную”.

[5] Вір В. Летапіс УПА // Беларускі голас, 1978, № 267, жнівень.

Колак аддзеламі ўкраінскага атамана Бульбы. Так напрыклад: атрад атамана Харэўскага дапамагаў бульбаўцам у нападзе на польскі аддзел, які быў пад савецкім камандаваньнем. Сьледуючая супольная акцыя ўкраінцаў мела быць разам з атрадам Беларускай Народнай Партызанкі ат. Суворага (Лукашука).

Аднак у гэтым часе савецкія дывэрсанты захапілі атрад і забілі атамана. Даведаўшыся, што да нашага атраду меў далучыцца атрад бульбаўцаў для супольнага выступу, яны ўладзілі засаду на ўкраінцаў. Але тыя былі сьмякалістыя! Калі падайшлі першыя сьледапыты УПА і клікнулі гасла, савецкія дэсантнікі яго ня зналі, а пачалі заклікаць, каб бульбаўцы ішлі, бо іх “чакаюць”. Тыя, знаўшы атамана Суворага, зажадалі здалёк яго выйсьця наперад, а калі яго ня было, украінцы спанатрыўшы правакацыю, кінуліся назад. Сэрыі савецкіх аўтаматаў іх не дасяглі, бо і яны секанулі ў адказ.

Атрад Суворага захоплена такім чынам, што інфільтравана яго сваімі агэнтамі, якія пад покрыўкай быццам палонных савецкай арміі прасіліся да нашай партызанкі, а ат. Суворы іх усіх прымаў. Калі іх сабралося больш 20-ці, аднаго дня яны захапілі і зьнішчылі атамана і адзьютантаў, а на дапамогу ім ужо чакаў “спэцыяльны” (асобы) чакістоўскі атрад, які скончыў расправу. Так як атрад быў папулярны ў ваколіцы, яны і далей дзеялі быццам пад старым імем, зьмяніўшы назоў атраду, замест атраду Суворага, на атрад “імя маршала Суворава!!!”, каб падобным, блізкім гучаньнем, зманіць нашых паляшукоў, што ім ня раз удавалася”.[6]

Адразу заўважым, што вясной 1943 году атрад Лукашука дысьлякаваўся на Іванаўшчыне-Любяшоўшчыне, група “Лясьніка” — на Кобрыншчыне. Там яны і загінулі. Таму альбо Вір з чужых словаў падае няпраўдзівую версію, альбо мае на ўвазе нейкіх іншых асобаў. Пра Лукашука мог бы даць праўдзівую інфармацыю Новік-Харэўскі, атрад якога дзейнічаў у сумежных зь ім раёнах. Аднак у адзінай вядомай яго публікацыі Лукашук ня згадваецца. Паплечнік Новіка-Харэўскага атаман Іван Перагуд у адной з публікацый называе “І. Лясьніка” і “ат. Суворага-Лукашука” разам з сабой і Харэўскім арганізатарамі “антынямецкай партызанкі” на Палесьсі.[7]

Каб разабрацца, дзе тут праўда, а дзе мана, мы пакуль разьвітаемся з версіяй аўтараў “Беларускага голасу”, ды зьвернемся да дакумэнтаў з беларускіх архіваў, у якіх згадваецца партызанскі камандзір Барыс Лукашук і яго атрад імя Суворава.

---

[6] Тамсама.

[7] Атаман Перагуд. Да справы Заходня-Беларускай Рэспублікі // Беларускі голас, 1975, № 238, лістапад.

Сов.секретно 17

С Т Е Н О Г Р А М М А

БЕСЕДЫ С ГЕНЕРАЛ-МАЙОРОМ тов. КЛЕЩЕВЫМ Алексеем Ефимовичем - Секретарем подпольного Обкома КП/б/Б Командиром Пинского партизанского соединения.

24-го ноября 1943 г.

Беседу проводил Пом.Нач.Отделения Печати ЦШПД тов. КОВАЛЕВ П.Н. записывала стенографистка БЕРЕЖКОВСКАЯ З.А.

1. Справочные данные:

КЛЕЩЕВ Алексей Ефимович, белорусс, родился в 1905г. в дер. МИХНОВИЧИ Калинковичского района Полесской области Белорусской ССР. Сын крестьянина. Член партии с 1928 г. В комсомоле был с 1924 по 1930 г. До 1924 года вместе с отцом работал в сельском хозяйстве и учился. С 1924 по 1927 год работал секретарем и председателем сельсовета. С 1927 по 1929 г. в Красной Армии, с 1930 по 1939 год работал директором МТС, с 1939 г. по день войны Начальником Пинского ОБЛЗО. Примерно дней через 5 после оо начала войны был в партизанском отряде. С первых дней войны по декабрь месяц 1941 года находился в партизанском отряде, был членом подпольного Обкома партии.

Учитывая, что с Центральным Комитетом Партии мы никакс связи не имели, я лично пошел устанавливать связь с ЦК и пришел из Полесья до Воронежа пешком, оттуда приехал в Москву и установил связь.

В августе 1942 года меня с группой в 5 человек самолетом отправили в тыл противника, где мы на парашюте опуст лись на болото между Любаньским и Старобинским районами Минской области недалеко от границы нашей области.

Отсюда я с 5-ю человеками, установил связь с командиро партизанского отряда т. КОРЖ Василием Захаровичем, который со своим отрядом дислоцировался на территории Минской области.

Я в то время был уполномоченным ЦК по пинской области по руководству партийным подпольем и развертыванию партизанского движение в районах Пинской области.

В августе 1942 г. вместе с тов. КОРЖ, так как он был введен Членом подпольного Обкома партии на территории Пинской области мы начали организовывать партизанское движение.

- 24 - 40

беседах в крестьянами этих деревень призывал крестьян Белоруссии принимать католическую веру, говоря им, что "вот у вас попа нет в вашем приходе, а крестить детей, венчать молодых я не имею права, если вы не примите католоческую веру". В настоящее время ксендз КУШ служит в польской дивизии имени Тадеуша Костюшко ксендзом. Образование он имеет хорошее - окончил универститет в Познани и в Риме /Италия/, высоко-грамотный человек.

Второй ксендз Рубельского костела Давид-Городокского района до мая месяца 43 годе работал агентурным осведомителем в бригаде "Советская Беларусь". Очень часто в разговорах с командиром бригады "Советская Беларусь" Томиловым предлагает свои услуги по организации поляков в отдельные партизанские отряды с целью воевать против немцев. Рублевскому ксендзу больше подходило бы быть военным, офицером, чем ксендзом. Он очень грамотный в военных вопросах. Ведя беседу с командиром бригады этот ксендз пригласил Столинского ксендза и пред"явил ему ультиматум, что он обязан работать так же как и он работает. Столинский ксендз испугался. Тогда он вынул гранату и показал ему со словами: "Если не будешь работать на партизан, то я взорву тебя этой гранатой".

О борьбе с националистическими формированиями:

~~В апреле месяце 1943 г. Обкомом~~ комитет партии получил сигналы из Дрогиченского, Жабчинского, Пинского и Ивановского районов что учитывая, что по административному немецкому делению эта группа западных районов Пинской области относится к Украине фашистско-националистический центр - бандеровцы заслали в эти районы группу в количестве 71 чел: для развертывания работы. Этой националистической группе удалось завербовать на свою сторону предателей нашей родины командира отряда имени Суворова ЛУКАШУК Бориса и четырех партизан этого же отряда.

Националистической группе удалось через предателя нашей родины ЛУКАШУК убить комиссара отряда им. Суворова МИХАЙЛОВСКОГО Бориса Николаевича и 4-х партизан этого отряда.

Ивановским Райкомом партии и командованием бригады имени Молотова были предприняты срочные меры, выделена специальная группа из хорошо проверенных в партийных, государственных и боевых действиях товарищей для борьбы с этой националистической группой.

Во время переговоров нашей группы с группой националистов подготовленные два боевых партизанских отряда бригады имени Молотова окружили их и пред"явили им ультиматум сдать все оружие и самим сдаться командованию бригады. Группа в числе 71 националиста попыталась вступить в бой, но бригада имени Молотова расстреляла их из пулемета до единого человека.

***

Першы дакумэнт па справе Лукашука адшукалі і апублікавалі ў 2006 годзе гісторыкі А. Гагун і А. Кенцій. У маскоўскім архіве іх зацікавіла сценаграма гутаркі ад 24 лістапада 1943 году з генэрал-маёрам Аляксеем Кляшчовым, сакратаром Пінскага падпольнага абкаму КП(б)Б і камандзірам Пінскага [савецкага] партызанскага злучэньня. У ёй, між іншым, Кляшчоў распавядае пра барацьбу з "нацыяналістычнымі фармаваньнямі":

"В апреле месяце 1943 г. областной* комитет партии получил сигналы из Дрогиченского, Жабчинского, Пинского и Ивановского районов, что учитывая, что по административному немецкому делению эта группа западных районов Пинской области относится к Украине, фашистско-националистический центр — бандеровцы заслали в эти районы группу в количестве 71 чел. для развертывания работы. Этой националистической группе удалось завербовать на свою сторону предателей нашей родины: командира отряда имени Суворова ЛУКАШУК** Бориса и четырех партизан этого же отряда.

Националистической группе удалось через предателя нашей родины ЛУКАШУК убить комиссара отряда им. Суворова МИХАЙЛОВСКОГО Бориса Николаевича и 4-х партизан этого отряда.

Ивановским райкомом партии и командованием бригады имени Молотова были предприняты срочные меры, выделена специальная группа из хорошо проверенных в партийных, государственных и боевых действиях товарищей для борьбы с этой националистической группой.

Во время переговоров нашей группы с группой националистов подготовленные два боевых партизанских отряда бригады имени Молотова окружили их и предъявили им ультиматум сдать все оружие и самим сдаться командованию бригады. Группа в числе 71 националиста попыталась вступить в бой, но бригада имени Молотова расстреляла их из пулемета до единого человека.***

Примерно в конце мая националистический центр вторично в груп-

---

*У арыгінале было памылкова надрукавана "районный", выпраўлена ад рукі.

**У публікацыі Гагуна і Кенція згадваецца "Лукащук", хаця ў арыгінале дакумэнта — Лукашук.

*** Заўвага ўкладальнікаў зборніка дакумэнтаў: "Такой стиль действий — приглашение повстанцев на переговоры с последующим разоружением или расстрелом — был характерен для красных партизан Белоруссии. Схожую тактику они применяли в 1943 г. в борьбе с польской националистической Армией Крайовой".

пу этих районов заслал 25 своих агентов, но благодаря агентурной разведке эти агенты были пойманы и уничтожены.

В июне месяце украинский националистический центр — бульбовцы переодели своих националистов в крестьянскую одежду и 18 человек направили в районы Давид-Городокского, Лунинецкого, Ленинского и Ганцевичского. Из посланных 18 человек националистическим центром в качестве агентов, девять были пойманы и уничтожены, а 9 неизвестно где находятся. После этого агенты националистических центров больше не появлялись на территории области за исключением такого случая, когда из Ровенской области группа в количестве 100 чел. ворвалась в дер. ДУБРОВ Столинского района и уничтожила 10 семей поляков и быстро скрылась в Ровенскую область, а потом выпустили уже листовку, что поляки расстреляны якобы партизанами. Крестьяне деревни ДУБРОВ и окружающих деревень не верили этой лжи, так как были очевидцами того, что эти семьи были уничтожены националистами из Ровенской области.

[…]”.

*”Создавать невыносимые условия для врага и всех его пособников...” Красные партизаны Украины, 1941-1944: малоизученные страницы истории. Документы и материалы / Авт. сост.: Гогун А., Кентий А. — Киев: Украинский издательский союз, 2006. С. 384-385. Арыгінал гэтага дакумэнта таксама захоўваецца ў НАРБ (ф. 4п, воп. 29, спр. 9).*

Што вынікае з гэтага аповеду Аляксея Кляшчова? Што нейкія “нацыяналістычныя цэнтры” — бандэраўскі і бульбаўскі — пасылалі свае атрады і групы ў заходнія раёны Пінскай вобласьці. Бандэраўцы, нібыта, завербавалі камандзіра партызанскага атрада імя Суворава Барыса Лукашука і чатырох яго партызанаў. Аднак, як сьведчыць Кляшчоў, бандэраўскі атрад прыйшоў у красавіку, а Лукашук быў расстраляны ў самым пачатку месяца, Міхайлоўскі ж загінуў у канцы сакавіка. Альбо ўсё выкладзенае Кляшчовым пра бандэраўцаў — лухта, альбо яны “завербавалі” Лукашука яшчэ да свайго прыходу.

Слабы бок версіі Кляшчова — адсутнасьць пацьверджаньняў гібелі ў Пінскай вобласьці бандэраўскіх атрада і групы ў дакумэнтах АУН-УПА. Да таго ж сумненьні выклікае апісаньне зьнішчэньня ўзброенага атрада з 71 чалавека толькі з аднаго (!) кулямёта ды яшчэ бяз стратаў са свайго боку.*

Узьнікае пытаньне: а навошта рабілася гэтая фальсіфікацыя

*Дарэчы, некалькі былых партызанаў брыгады Молатава, апытаных у 2009 годзе, не маглі прыгадаць такога выпадку.

(калі яна сапраўды мела месца)? Відавочна, для кампраметацыі Б. Лукашука. Пасьля яго забойства камандаваньню брыгады імя Молатава і Пінскага злучэньня давялося абгрунтаваць гэтыя дзеяньні. У Маскву дасылаліся тэлеграмы і рапарты. Беларускі штаб [савецкага] партызанскага руху зацікавіўся “справай Лукашука” ды патрабаваў прысылкі дакумэнтаў.

У зборніку, прысьвечаным дзейнасьці АУН і УПА ў Беларусі, былі апублікаваныя і некалькі дакумэнтаў, прысьвечаных забойству Лукашука і Міхайлоўскага. Першы зь іх — гэта тэлеграма сакратара Пінскага падпольнага абкама КП(б)Б Аляксея Кляшчова ў Беларускі штаб [савецкага] партызанскага руху *“о разоблачении командира партизанского отряда имени А. В. Суворова Б. Лукашука как украинского националиста”* ад 17 траўня 1943 г.:

“тов. Пономаренко, Калинину

Украинский националистический центр заслал [в] Волпинский*, Жабчицкий, Ивановский, Дрогичинский р-ны группу националистов в кол-ве 76 чел., которая втянула в свою организацию командира отряда им. Суворова Лукашука Бориса и 5 бойцов бригады им. Молотова. В конце апреля группа националистов была раскрыта и уничтожена. Изъято 5 пулеметов, 76 винтовок, 7 гранат, много патронов.

За время гнусной работы группы националистов, по ее заданию, Лукашук расстрелял комиссара отряда Михайловского Бориса Николаевича и 4 партизан. В бандитской группе изъяты секретные документы: списки командиров и политработников, коммунистов и комсомольцев для последующей террористической работы, националистические крестики и медальоны-фотокарточки, листовки националистического центра. Следствие продолжаем.

Клещев”.

*НАРБ. Ф. 4п, воп. 33а, спр. 429, арк. 106. Копія. Апублікаваны: ОУН-УПА в Беларуси. 1939-1953 гг.: Документы и материалы. – Минск: Высшая школа, 2011. С. 40.*

Як бачым, украінскіх нацыяналістаў ужо не 71 чалавек, а 76. Яны “ўцягнулі ў сваю арганізацыю” разам з Лукашуком не чатырох, а ўжо пяць чалавек. Пасьля тэлеграмы Кляшчова зьявіўся за яго подпісам загад № 48 штабу партызанскага злучэньня Пінскай вобласьці:

---

*Так у тэксьце.

“20 мая 1943 г.

Совершенно секретно

Приказываю:

Командованию бригады им. Молотова командировать в распоряжение штаба соединения нач. особого отдела бригады тов. Бондаренко со следственными материалами по делу украинских националистов: протоколы допроса, изъятые секретные документы, личные документы, листовки, медальоны и крестики, фотодокументы и другой материал, относящийся к следствию. Кроме того, доставить живыми двух руководящих активистов этой группы в их форме одежды. Доставку документов и двух националистов обеспечить препровождением надежной группой партизан, возглавляемой одним из боевых командиров.

Срок выполнения к 1 июня.

Командующий соединением
и уполномоченный ЦК КП(б)Б Клещев

Начальник штаба соединения Федотов”.

*НАРБ, ф. 1407, воп. 1, спр. 7, арк, 41. Арыгінал. Апублікаваны: ОУН-УПА в Беларуси. 1939-1953 гг.: Документы и материалы. – Минск: Высшая школа, 2011. С. 41.*

Ад гэтага часу пачынае сваё жыцьцё легенда пра нейкія таямнічыя “сьледчыя матэрыялы”. Мы яшчэ прывядзем тут дакумэнты, у якіх яны будуць згадвацца. Аднак адразу заўважым, што падчас расьследаваньня, якое ў 1975 годзе праводзіў КГБ, “*документальных материалов, свидетельствовавших о проводившемся расследовании весной 1943 г., не найдено”*.[8] Верагодна, іх і не было.

У справе ўмацаваньня легенды адзначыўся і сакратар ЦК ЛКСМБ Кірыла Мазураў. За яго подпісам 23 траўня 1943 году ў Маскву ў Беларускі штаб [савецкага] партызанскага руху была пасланая тэлеграма:

“…В Волынской обл. действует отряд украинских националистов. Один отряд в кол-ве 300 чел., пришедший с карательными целями против партизан в Яновский р-н, полностью уничтожен партизанскими

[8] ОУН-УПА в Беларуси. 1939-1953 гг.: Документы и материалы. – Минск: Высшая школа, 2011, б. 452.

отрядами им. Лазо и Кутузова. Лукашук Борис, назначенный пинским руководством командиром отряда им. Суворова, оказался агентом националистов, расстрелял комиссара Михайловского и лучших людей, готовил переход отряда на сторону националистов. Межрайкомом разоблачен и расстрелян вместе со своими агентами. Возглавлялся националистом Бендером*. Материалы — листовки, документы — принесены Проходским и Забелло, находятся у Клещева […]”.

*НАРБ, ф. 4п, воп. 33а, спр. 429, арк. 66. Копія. Апублікаваны: ОУН-УПА в Беларуси. 1939-1953 гг.: Документы и материалы. – Минск: Высшая школа, 2011. С. 41-42.*

Такім чынам, Мазураў пацьвярджае, што дакумэнты ёсьць, яны ў Кляшчова. Але ідуць дні, тыдні… 6 чэрвеня 1943 г. Кляшчоў дасылае ў БШ[с]ПР чарговае данясеньне:

“[…] Главарь банды и форма одежды Украинского националистического центра не доставлены Вам по причине того, что бригада в это время держала бои с немцами и меняло место. Главарь банды и форма одежды их будут доставлены несколько позже”.

*НАРБ, ф. 4п, воп. 33а, спр. 525, арк. 43-44. Арыгінал. Апублікаваны: ОУН-УПА в Беларуси. 1939-1953 гг.: Документы и материалы. – Минск: Высшая школа, 2011. С. 43.*

Далей у гэтым данясеньні Кляшчоў распавядае пра тое, што ў Столінскім і Давід-Гарадоцкім раёнах зьяўляюцца ўкраінскія нацыяналісты-бандэраўцы. Дае пра іх мінімальную інфармацыю, згадвае мельнікаўцаў і бульбаўцаў. І сьцьвярджае, што гэтыя “банды” дзейнічаюць пад кіраўніцтвам нейкага таямнічага *“Украинского националистического центра”*. Паводле Кляшчова партызаны атрымалі ўказаньне выяўляць і зьнішчаць нацыяналістаў.[9]

Пакуль А. Кляшчоў цягнуў з дастаўкай у Маскву “кіраўніка банды” (а раней, нагадаю, гаворка была пра дваіх палонных нацыяналістаў), дакумэнтаў і вопраткі, у партызанскім атрадзе імя Суворава апісвалі сваё змаганьне супраць украінскіх нацыяналістаў. 19 чэрвеня 1943 г. камандзір 2-й групы атрада Шубітыдзэ і камісар Клюеў у рапарце апісалі налёт на *“националистические села — Черче и Хотешов”*. Яны сьцьвярджаюць, што помсьцілі за дваіх закатаваных украінскімі

---

*Насамрэч, Бандэрам.

[9] ОУН-УПА в Беларуси. 1939-1953 гг.: Документы и материалы. – Минск: Высшая школа, 2011, б. 44.

нацыяналістамі партызанаў. У Хацяшове яны, нібыта, забілі 20 нацыяналістаў і спалілі да 50 хатаў. Каб апраўдаць спальваньне вёскі, Шубітыдзэ піша: *“Причем при горении  каждого дома изнутри происходили взрывы патронов и гранат”*.[10]

Цікавы дакумэнт “аформіў” у красавіку 1943-га новы камандзір атрада імя Суворава Кузічкін разам з камісарам Чубаравым. У справаздачы яны пісалі, як 5 красавіка яны вялі выведку і захапілі ў палон “нацыяналістычную выведку” ды яшчэ ў “гестапаўскай форме”. У чатырох затрыманых забралі 4 стрэльбы, 600 набояў, нейкія планы і мапы. 7 красавіка імі зноў вялася выведка і зноў была затрыманая выведка ў “гестапаўскай форме” і зноў у складзе 4 чалавек. Да названай 5-га красавіка колькасьці стрэльбаў і набояў дадаліся яшчэ 3 гранаты. 8 красавіка зноў вялася выведка і на гэты раз былі захопленыя выведнікі-нацыяналісты, але толькі 2 чалавекі. Адпаведна, у іх забралі толькі 2 стрэльбы і 300 набояў, ды 2 гранаты… Выведка вялася і 9-га красавіка, зноў захопленыя 2 нацыяналісты, у якіх забралі дакладна тое ж, што і 8-га. 10-га выведка вялася зноў, але захапілі толькі 1 нацыяналіста, адпаведна ў яго была толькі 1 стрэльба, 200 набояў і 1 граната![11] Вось такія “справаздачкі” пісалі партызанскія камандзіры. Гэтыя фальшыўкі рабіліся прымітыўна, але Кляшчоў і кампанія іх таксама падшылі да справы.

23 чэрвеня 1943 году Кляшчоў дасылае чарговую тэлеграму ў Маскву, у БШ[с]ПР, спрабуе супакоіць начальнікаў, якія, відаць, патрабавалі абяцаныя дакумэнты і “кіраўніка банды”:

“О бандеровцах Вам послан материал через Забелло. Дополнительно отослан на Минский аэродром пакет [на] Ваше имя с 11 документами о бандеровцах…”.

*НАРБ, ф. 4п, воп. 33а, спр. 430, арк. 71. Копія. Апублікаваны: ОУН-УПА в Беларуси. 1939-1953 гг.: Документы и материалы. – Минск: Высшая школа, 2011. С. 45.*

У справаздачы начальніка БШ[с]ПР П. Калініна кіраўніку ЦШ[с]ПР П. Панамарэнку ад ліпеня 1943 году згадваецца, што да вясны 1943

---

[10] Тамсама, б. 44-45. У дакумэнце ад 15 кастрычніка 1943 г., падпісаным камандзірам атрада імя Суворава Істоміным і камісарам Чубаравым, адзначалася, што падчас гарэння хатаў былі “огромные взрывы”. Гл. той жа зборнік, б. 63.

[11] Тамсама, б. 39-40.

году працягвалася “прымірэньне” паміж савецкімі партызанамі і бандэраўцамі. Аднак яно спынілася пасьля таго, як *“один Пинский отряд тов. Герасимова* поймал группу националистов с оружием, часть из них, в том числе и их главаря, расстреляли”*.[12]

Як бачым, гаворка ўжо ідзе пра расстрэл толькі часткі нацыяналістаў, у тым ліку іх камандзіра, якога раней абяцалі пераправіць у Маскву. Няўжо ягоны труп?..

У студзені 1944 году А. Кляшчоў у дакладной запісцы сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку распавёў аб барацьбе з нацыяналістычнымі фармаваньнямі. У гэтым дакумэнце ён пераказвае ранейшую легенду, але зь нейкіх прычынаў пачынае блытацца, называць іншыя лічбы (напрыклад, раней пісаў пра 71 нацыяналіста, пра 76, цяпер жа іх ужо да 126!, і яны не шэрагоўцы, а афіцэры!!!):

“…В апреле месяце обкомом партии получены сигналы, что украинские националисты засылают свою агентуру на территории Дрогичинского, Ивановского, Жабчицкого и Пинского районов. Националистический центр “бандеровцы” заслал в эти районы группу своих офицеров до 126 человек для развертывания работы в этих районах. Этой группе удалось завербовать на свою сторону предателя нашей Родины командира отряда им. Суворова Лукашука Бориса и четырех партизан из этого же отряда. Изменнику Лукашуку удалось расстрелять комиссара отряда Михайловского Бориса Николаевича и четырех партизан из этого отряда. Ивановским райкомом партии и командованием бригады им. Молотова были предприняты экстренные меры, выделена специальная группа из хорошо проверенных в партийных, государственных и боевых действиях товарищей для борьбы с этой националистической группой. Группа националистов была найдена, которая была хорошо вооружена автоматическим оружием, имела большое количество литературы и в период окружения их партизанскими отрядами бригады им. Молотова они попытались вступить в бой с партизанами. Под руководством секретаря райкома тов. Кунькова вся банда националистов была поймана и расстреляна, а также был пойман и расстрелян изменник Родины Лукашук Борис с четырьмя бывшими партизанами, которых завербовали украинские националисты. После этого примерно через месяц националистический центр узнал об уничтожении целиком их засланной агентуры в

---

[12] ОУН-УПА в Беларуси. 1939-1953 гг.: Документы и материалы. – Минск: Высшая школа, 2011, б. 49.
*Камандзіра брыгады імя Молатава.

районы области и заслал дополнительно 25 агентов…”. [13]

Далей Кляшчоў дакладна паўтарае тэкст ранейшага дакумэнта. На жаль, невядома, як адрэагаваў на гэтую інфармацыю Панамарэнка.

Барыс Лукашук згадваецца і ў іншых дакумэнтах. 16 красавіка 1944 г. намесьнік камандзіра атрада імя Суворава па выведцы Лаўрыновіч піша справаздачу, у якой адзначае:

“Работа контрразведки отряда была очень сложной ввиду того, что командир отряда Лукашук Борис Константинович — крупный украинский националист, где крепко поработала наша контрразведка с крепкой помощью партийной организации отряда […]

Много документов немецких шпионов и украинских националистов сданы в штаб бригады им. Молотова и дальше в штаб Пинского соединения…”. [14]

***

Блогер **burk001** у 2009 годзе адшукаў дакумэнты з цэнтральнага архіву міністэрства абароны Расеі, у якіх згадваецца Барыс Лукашук.[15] Прывядзем вытрымкі зь іх:

“З А Г А Д
Галоўнага ўпраўленьня кадраў
Узброеных сілаў Саюза ССР
18 траўня 1948 г.
№ 0528
г. Масква

Ніжэйпералічаныя вайскоўцы, якія займаюць афіцэрскія пасады, выключаюцца са сьпісаў Узброеных Сілаў Саюза ССР, як загінулыя і зьніклыя бяз вестак у баях супраць нямецка-фашысцкіх войскаў:

[…]

4. ЛУКАШУК Барыс Канстанцінавіч — ваенны камісар партызанскага атрада імя Суворава партызанскай брыгады імя Молатава

[13] ОУН-УПА в Беларуси. 1939-1953 гг.: Документы и материалы. – Минск: Высшая школа, 2011, б. 104-105.
[14] ОУН-УПА в Беларуси. 1939-1953 гг.: Документы и материалы. – Минск: Высшая школа, 2011, б. 122.
[15] Камандзір беларускай партызанкі // 2009, 6 верасьня; http://burk001.livejournal.com/8630.html

302

СЕКРЕТНО.
экз.№ 1

# ПРИКАЗ
## ГЛАВНОГО УПРАВЛЕНИЯ КАДРОВ
ВООРУЖЕННЫХ СИЛ СОЮЗА ССР

„18" МАЯ 1948 г.

№ 0528

г. МОСКВА

Нижепоименованные военнослужащие, занимавшие офицерские должности, исключаются из списков Вооруженных Сил Союза ССР, как погибшие и пропавшие без вести в боях против немецко-фашистских войск: -

ВОЕНКОМАТ АРМЯНСКОЙ ССР.

1. Зам.политрук КАЛАШЯН Сеник Сергеевич - политический руководитель пулеметной роты 672 стрелкового полка 408 стрелковой дивизии. Пропал без вести в июле 1942г.

Отмена пр-з № 01923 53

1909г., чл.ВКП/б/, в КА с 1941г. Родственники - Микояновский р-он. Список - вх.№ 04248.

ВОРОШИЛОВГРАДСКИЙ ОБЛВОЕНКОМАТ.

2. Старшина ПРОКОПЕНКО Павел Павлович - парторг стрелкового батальона 604 стрелкового полка 195 стрелковой дивизии. Погиб 4.2.44г.

1915г., чл.ВКП/б/, в КА с 1942г. Родствен.ПРОКОПЕНКО Екатерина Михайловна - Александровский р-он, х.Обозный. Список - вх.№ 993.

КИРОВОГРАДСКИЙ ОБЛВОЕНКОМАТ.

3. Сержант БЕЛИЧЕНКО Петр Петрович - парторг стрелкового батальона 227 стрелкового полка 183 стрелковой дивизии. Погиб 26.7.44г.

1903г., чл.ВКП/б/, в КА с 1941г. Жена БЕЛИЧЕНКО Екатерина Евпатьевна - Подвысоцкий р-он, с.Подвысокое. Список-04248

СТАВРОПОЛЬСКИЙ КРАЙВОЕНКОМАТ.

4. ЛУКАШУК Борис Константинович - военный комиссар партизанского отряда им.Суворова партизанской бригады им.Молотова Белорусского штаба партизанского движения. Пропал без вести в июле 1943г.

1910г., в КА с 1941г. Жена ЛУКАШУК Евдокия Ивановна - Либкнехтовский р-он, с.Велико-Княжское. Список -вх.04248.

ЗАМЕСТИТЕЛЬ НАЧАЛЬНИКА
ГЛАВНОГО УПРАВЛЕНИЯ КАДРОВ ВС СССР
ГЕНЕРАЛ-МАЙОР -
/КУЗОВКОВ/

отп.2экз.
экз.1-подлин.
" 2-Гл.Политупр.
отп.4 выписки, на 4 листах,
каждый ОВК в 1 экз.
"25" мая 1948г. при исх.№. 1139433
исп.Петров.
отп.Емельянова.
№ 367. 14.5.48г.

8.

156

1909 г.р.,урож.Ростовской обл.,Чернышевского р-на, х.Леонов.

В Советской армии с 1941 г.,член ВКП/б/.

Сын АПРЯТКИН Николай Николаевич - Ростовская обл., Обливский р-н,хут.Фролов.

✓ 39. Лейтенант АЗАНОВ Петр Андреевич,парторг I стрелкового батальона 841 стрелкового полка.

Погиб 13 апреля 1945 г.

1918 г.р.,урож.Свердловской обл.,Манчажского р-на, дер.Пазановка.

В Советской армии с 1939 г.,член ВКП/б/.

Жена АЗАНОВА Анна Яковлевна - Свердловская обл.,Манчажский р-н,д.Азановка.

✓ 40. Сержант БЕЛИЧЕНКО Петр Петрович,парторг I стрелкового батальона 227 стрелкового полка 183 стрелковой дивизии.

Погиб 26 июля 1944 г.

1903 г.р.,урож.Кировоградской обл.,Подвысоцкого р-на, с.Перегоновка.

В Советской армии с 1941 г.,член ВКП/б/.

Жена БЕЛИЧЕНКО Екатерина Евпатьевна - Кировоградская обл.,Подвысоцкий р-н,с.Подвысокое.

✓ 41. Младший политрук МАЛЫШЕВ Аркадий Михайлович, политрук роты 848 стрелкового полка,267 стрелковой дивизии.

Пропал без вести в мае 1942 г.

1913 г.р.,урож.г.Смоленска.

В Советской армии с 1942 г.,член ВКП/б/.

Жена МАЛЫШЕВА Анна Ивановна - Горьковская обл., Курмышский р-н,с.Шокино.

✓ 42. ЛУКАШУК Борис Константинович /без звания/,комиссар партизанского отряда им.Суворова,партизанской бригады им.Молотова,Белорусского штаба партизанского движения.

Пропал без вести в июле 1943 г.

1910 г.р.,урож.Ставропольского края,Либкнехтовского р-на,с.Казьминко.

В армии с 1941 г.

Жена ЛУКАШУК Евдокия Ивановна - Ставропольский край, Либкнехтовский р-н,с.Велико-Княжское.

Беларускага штабу партызанскага руху.

Зьнік бяз вестак у ліпені 1943 г.

1910 г., у Ч[ырвонай] А[рміі] з 1941 г. Жонка ЛУКАШУК Еўдакія Іванаўна — Лібкнехтаўскі р-ён, в. Вяліка-Княжскае. Спіс — увах. 04248.

НАМЕСЬНІК НАЧАЛЬНІКА
ГАЛОЎНАГА ЎПРАЎЛЕНЬНЯ КАДРАЎ УС СССР
ГЕНЕРАЛ-МАЁР — /КУЗАЎКОЎ/".[16]

Барыс Лукашук згадваецца яшчэ ў адным дакумэнце:

"ЛУКАШУК Барыс Канстанцінавіч /бяз рангі/, камісар партызанскага атрада імя Суворава, партызанскай брыгады імя Молатава, Беларускага штабу партызанскага руху.

Зьнік бяз вестак у ліпені 1943 г.

1910 г. н., ураджю Стаўрапольскага краю, Лібкнехтаўскага р-ну, в. Казьмінка.

У арміі з 1941 г.

Жонка ЛУКАШУК Еўдакія Іванаўна — Стаўропальскі край, Лібкнехтаўскі р-н, в. Вяліка-Княжскае".[17]

Адзначым, што вёска Казьмінка (месца нараджэньня Лукашука) насамрэч — Казьмінская, цяпер цэнтар сельсавету ў Качубееўскім раёне (менавіта ён раней называўся Лібкнехтаўскім) Стаўропальскага краю Расеі. Што да вёскі Вяліка-Княжскае альбо Вялікакняжская, дык у 1961 годзе яна была аб'яднаная з в. Ольгінская. Узбуйнены населены пункт атрымаў назву Качубееўская і стаў цэнтрам раёну.

Адзін зь беларускіх дасьледчыкаў восеньню 2009-га напісаў ліст у Качубееўскі раён, спрабуючы пашукаць сваякоў Б. Лукашука, знайсьці ў іх яго здымак. На жаль, адшукаць іх няўдалося. Як няўдалося іх знайсьці і ў вёсцы Турная на Кобрыншчыне (але пра гэта пазьней). Адзіны вынік — са Стаўропальшчыны напісалі, што ўшануюць памяць пра Лукашука і дададуць яго прозьвішча да сьпісу загінулых падчас вайны землякоў…

У прыведзеных вышэй дакумэнтах зьдзіўляе, што Барыс Лукашук праходзіць, як камісар, альбо ваенны камісар, але не камандзір атраду. Таямніцай застаецца і дата яго "зьнікненьня бяз вестак" — ліпень 1943 году. Хто зьяўляецца аўтарам гэтай фальсіфікацыі, невядома.

А тым часам пра Барыса Лукашука працягваюць распаўсюджва-

[16] Камандзір беларускай партызанкі // 2009, 6 верасьня; http://burk001.livejournal.com/8630.html

[17] Тамсама.

ць непраўдзівую інфармацыю. Дзіўна, але ў гэтым быў заўважаны дырэктар Нацыянальнага архіву Беларусі Вячаслаў Селяменеў. У лютым 2010 году ў інтэрвію папулярнай тыражнай беларускай газэце ён заявіў літаральна наступнае:



kp.by

*“В 1976 году сын комиссара партизанского отряда имени Суворова бригады имени Молотова Б. Михайловского обратился с запросом: почему в 1943 году был расстрелян его отец. Оказалось, что его убил командир отряда Б. Лукашук. Когда стали тщательно во всем разбираться, выяснилось: комиссар сделал замечание командиру, за что и получил от того пулю”*.[18]

Былы партызан Васіль Літвінчук у сваёй кнізе ўспамінаў[19] сьцьвярджае, што Лукашук не забіваў Міхайлоўскага. Да таго ж запыт рабіўся не ў 1976-м, а ў 1975 годзе. Такім чынам, паважаны дасьледчык увёў у зман чытачоў выданьня.

Сьледчыя КГБ у 1975 годзе прыйшлі да высновы, што Лукашук Міхайлоўскага не забіваў, але загадаў яго забіць. Згаданы вышэй Васіль Літвінчук аспрэчвае і гэта, але спынімся на яго версіі пазьней. Цяпер жа згадаем, што пішуць пра гэтае расьсьледаваньне ўкладальнікі зборніка пра АУН-УПА ў Беларусі:

“В 1975 г. следственный отдел УКГБ при СМ БССР по Брестской области возбудил уголовное дело по факту убийства бывшего комиссара партизанского отряда им. А. В. Суворова бригады им. Молотова Пинского соединения Бориса Николаевича Михайловского, 1912 г. р., и других партизан этого отряда. Расследование показало, что в ночь с

[18] Вячеслав Селеменев, директор Национального архива Беларуси: “Все дела про войну мы рассекретили” // Комсомольская правда в Беларуси, 2010, 18 лютага; http://kp.by/daily/24444.3/608970/

[19] Литвинчук В. Там, за Днепро-Бугом. — 2-е изд., доп. и расш. — Брест, 2005. С. 436, 437; Скептычна ўспрыняў версію В. Селяменева і блогер burk001: Зноў Барыс Лукашук // 2010, 25 лютага; http://burk001.livejournal.com/23550.html

29 на 30 марта 1943 г. в одной из землянок в урочище Полагин в районе д. Большие Болоты Кобринского района были убиты партизаны отряда: Б. Н. Михайловский (комиссар отряда), Н. П. Козырев, М. М. Михайлов (командиры взводов), И. В. Ершов, И. Г. Снидко (командиры отделений). Убийство совершили по приказу командира отряда Бориса Константиновича Лукашука, 1901 г. р., партизаны 3-й группы отряда. В апреле 1943 г. командованием межрайштаба и партизанами отряда проведено расследование убийства, а также сделано заключение , что Б. К. Лукашук и другие лица, признанные виновными в совершении преступления, являлись украинскими националистами, имели связь с украинским националистическим подпольем. Признанные виновными были расстреляны. Однако документальных материалов, свидетельствовавших о проводившемся расследовании весной 1943 г., не найдено. Доказательств, свидетельствовавших о связи Б. К. Лукашука и других лиц, причастных к убийству, с украинскими националистами, а также данных, подтверждавших принадлежность этих лиц к организации украинских националистов, не было обнаружено. В результате уголовное дело было прекращено в связи со смертью вышеупомянутых лиц, а по некоторым партизанам, выполнявшим приказы Б. К. Лукашука, прекращено в связи с отсутствием в их действиях состава преступления (НАРБ. Ф. 1407, Оп. 1. Д. 167)”. [20]

433

**ЗАПУТАННЫЙ ТУГОЙ УЗЕЛ**

Случилось так, что десятилетия после смерти висит на человеке-патриоте клеймо врага, агента-двойника. В таком качестве он числится в исторических анналах, переходит из одного исторического труда в другой. А те, кто знает правду, нередко молчат или недоговаривают. Не всегда удается вернуть доброе имя того или иного человека потому, что зачастую крайне трудно восстановить обстоятельства его гибели. Но человек, достойно служивший Родине, не должен быть забыт.

24 октября 1942 года комиссар отряда им. Шиша Лукашук Б.К. отозван в распоряжение партизанского соединения и направлен уполномоченным для организации партизанского отряда в районе Днепро-Буга. В ноябре 1942 года им и таким же уполномоченным Михайловским Б.Н. и их группой создан отряд имени А.В. Суворова во главе с Лукашуком и комиссаром Михайловским на базе групп Кузичкина А.С., Чубарова С.Д., Истомина В.А. и других. В феврале 1943 года в отряд влилась группа военнопленных во главе с Шубитидзе И.Г. В историческом труде «Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны» (июнь 1941- июль 1944 гг.), изданном в 1983 году Институтом истории при ЦК КП Белоруссии, записано: **«Отряд им. А.В. Суворова.** Командиры: Кузичкин Александр Сергеевич – апрель 1943 г. Истомин Вениамин Александрович - апрель 1943 - март 1944. Комиссары: Михайловский Борис Николаевич – ноябрь 1942 - апрель 1943. Чубаров Сергей Данилович - апрель 1943 - март 1944».

Как свидетельствует эта запись, фамилия первого командира отряда им. А.В. Суворова не фигурирует, хотя всем партизанам хорошо известно, что командиром и организатором этого отряда был с ноября 1942 года по апрель 1943-го Лукашук Борис Константинович. Знали, безусловно, об этом и научные сотрудники Института истории партии при ЦК КПБ. Получается, согласно записи, что до апреля 1943 года и не было командира отряда. Лукашук Б.К. не вошел в аналоги исторического труда, поскольку его причислили к предателям и украинским националистам. Ярлык этот висит на нем до сих пор. Справедливо ли?

***

Першым заклікаў да рэабілітацыі Барыса Лукашука былы партызан Васіль Літвінчук. У сваёй кнізе ўспамінаў ён напісаў нямала добрых словаў пра партызанскага камандзіра, паспрабаваў аднавіць абставіны яго забойства. [21]

“Случилось так, что десятилетия после смерти висят на человеке-патриоте клеймо врага, агента-двойника”, — піша Літвінчук: “В таком качестве он числится в исторических анналах, переходит из одного исторического труда в другой. А те, кто знает правду, нередко молчат или недоговаривают. Не всегда удается вернуть доброе имя того или

[20] ОУН-УПА в Беларуси. 1939-1953 гг.: Документы и материалы, б. 452.

[21] Литвинчук В. Там, за Днепро-Бугом. — 2-е изд., доп. и расш. — Брест, 2005. Першае выданне выйшла ў 1992 г., а трэцяе — у 2009 г.

иного человека потому, что зачастую крайне трудно восстановить обстоятельства его гибели. Но человек, достойно служивший Родине, не должен быть забыт”. [22]

Дзякуючы аўтару гэтых успамінаў мы змаглі аднавіць жыцьцёвы шлях Барыса Лукашука ў 1941-1943 гадах. Першае пытаньне: Якім чынам Лукашук, які жыў на Стаўропальшчыне, апынуўся на пачатку вайны ў Кобрынскім раёне? Аказваецца, ён ня быў акружэнцам. Барыс Лукашук у пачатку лета 1941-га наведаў сваіх сваякоў, якія жылі ў вёсцы Турная на Кобрыншчыне.[23]Там яго і засьпела вайна. Ужо летам-восеньню 1941 году ён далучаецца да антыфашысцкага супраціўленьня.

У пачатку 1942 году Барыс Лукашук у Турнянскіх лясах арганізуе партызанскую групу. В. Літвінчук сьведчыць, што Лукашук, “дзякуючы сваёй прадбачлівасьці і пільнасьці, інфармаванасьці пра намеры немцаў зьнішчыць падпольле, выратаваў жыцьці многіх камсамольцаў навакольных вёсак Кобрыншчыны”.[24] Акрамя мясцовай моладзі, ён уцягвае ў сваю групу чырвонаармейцаў-акружэнцаў і тых, хто пабываў у нямецкім палоне, ды жыў у вёсках.

Вясной 1942-га Б. Лукашук са сваёй групай сыходзіць на поўдзень Дняпроўска-Бугскага каналу, дзе аб’ядноўваецца з партызанскай групай Андрыяна Літвінчука (бацькі Васіля Літвінчука). Яны праводзяць збройныя акцыі супраць нямецкіх акупантаў. Летам 1942 году адбылося аб’яднаньне атрада Барыса Лукашука і атрада Міхаіла Герасімава (раней ім камандаваў Мікалай Шыш, які загінуў у чэрвені 1942 г.). Вось як апісвае гэтую падзею Васіль Літвінчук:

“Оба командира выстроили своих бойцов в две шеренги лицом одна к другой. В отряде Лукашука в наличии — 40 бойцов, у Герасимова — 55. Командиры объяснили партизанам причину такого сбора и получили полное согласие на объединение отрядов. Присвоили название новому отряду — имени Н. Т. Шиша, погибшего в бою на Днепровско-Бугском канале. Самым демократическим путем через голосование партизаны единогласно избрали командиром объединенного отряда Герасимова Михаила Ивановича, комиссаром — Лукашука Бориса Константиновича”.[25]

Пасьля таго, як атрад імя Шыша перадысьлякаваўся на ўсход, у раён Лагішына, ён уступіў у кантакт з савецкім партызанскім атрадам Васіля Каржа (“Камарова”), які ў верасьні 1942-га вярнуўся з Мінскай вобласьці ў Ленінскі раён. Разам зь ім знаходзіўся Пінскі падпольны

---

[22] Тамсама, б. 433.

[23] Адзін з былых партызанаў называе вёску Турная “радзімай Лукашука”. Тамсама, б. 436.

[24] Тамсама.

[25] Тамсама, б. 444.

абкам кампартыі на чале з Аляксеем Кляшчовым (упаўнаважаным ЦК КП(б)Б і БШ[с]ПР па Пінскай вобласьці). У лістападзе-сьнежні 1942 г. было створанае Пінскае партызанскае злучэньне (камандзір — В. Корж) , а ў студзені 1943-га — у заходніх раёнах Пінскай вобласьці — міжраённы штаб. Да апошняга мае дачыненьне і Б. Лукашук.

24 кастрычніка 1942 г. камісар атрада імя Шыша Барыс Лукашук быў адкліканы ў распараджэньне Пінскага злучэньня. Пінскі падпольны абкам кампартыі і Пінскае партызанскае злучэньне ў лістападзе 1942 году адправілі на захад Пінскай вобласьці, у раён Дняпроўска-Бугскага каналу, упаўнаважаных штаба злучэньня Кунькова, Лукашука і Міхайлоўскага* з групамі партызанаў для аб'яднаньня асобных партызанскіх групаў і невялікіх атрадаў у большыя партызанскія фармаваньні. У пасьведчаньні, падпісаным Кляшчовым і Каржом ("Камаровым"), было напісана: "Усім камандзірам партызанскіх групаў, якія ня маюць сувязяў з Беларускім штабам партызанскага руху, перайсьці ў распараджэньне Лукашука-Міхайлоўскага".[26]

У лістападзе 1942 году група Барыса Лукашука аб'ядналася з партызанскай групай Аляксандра Кузічкіна. Атрад стаў называцца "імя Суворава". Лукашук стаў камандзірам атрада, Міхайлоўскі — камісарам. Лукашука ў гэты час пачынаюць называць "Бацця", а пра яго атрад гавораць, як пра "атрад "Баці". Паводле В. Літвінчука, пасля аб'яднаньня атрад хутка рос, актыўна праводзіў баявыя аперацыі. Быў падрыхтаваны новы партызанскі лягер. Дакладнае месца дысьлякацыі невядомае, але, аналізуючы месцы правядзеньня акцыяў, можна меркаваць — Любяшоўскі (цяпер — Украіна) і Іванаўскі, Драгічынскі раёны. Атрад Суворава падначальваўся міжраённаму штабу на чале з Куньковым. У студзені-лютым 1943-га ў атрад Суворава ўлілася група былых ваеннапалонных на чале з Іванам Шубітыдзэ. Аднак апошні "захацеў быць самастойным камандзірам, і штаб вырашыў пасяліць яго атрад непадалёк на правах роты атрада ім. Суворава".[27]

Ну а ў пачатку вясны 1943-га здарылася трагедыя. Васіль Літвінчук з дапамогай архіўных дакумэнтаў і сьведкаў паспрабаваў аднавіць тыя падзеі, разабрацца ў іх прычынах. Ён робіць вельмі асьцярожныя высновы. Але нам відавочна, што прычынай канфлікту паміж Лукашуком і Міхайлоўскім была барацьба за ўладу. Падобныя канфлікты паміж мясцовымі партызанамі (хаця Лукашук і прыехаў са Стаўрапольскага краю, але яго лічылі мясцовым) і "васточнікамі"-былымі чырвонаармейцамі здараліся і ў іншых раёнах Заходняй Беларусі. Апошнія, як

[26] Тамсама, б. 213.
[27] Тамсама, б. 450.
*Барыс Міхайлоўскі (1912 — 1943). Вясной 1942 году арганізаваў партызанскі атрад, якім камандаваў. У жніўні 1942 г. уступіў у атрад Каржа. З лістапада 1942 году быў камісарам атрада імя Суворава брыгады імя Молатава Пінскага злучэньня.




***Надпіс на помніку ў в. Турная Кобрынскага раёну: “З пачатку акупацыі Кобрыншчыны ў вёс. Турная пачаў дзейнічаць падпольны камітэт, які ачольвалі Барысюк Д. С., Краўчук Т. М., Лукашук М. Ф. Тут жа была падпольная камсамольская арганізацыя на чале з Юхімуком В. С.”.* Надпіс на мэмарыяльнай дошцы: “У гэтым доме ў 1941 — 1944 г.г. у пэрыяд нямецка-фашысцкай акупацыі знаходзілася канспірацыйная кватэра Кобрынскага падпольнага антыфашысцкага камітэту”.***

вайскоўцы, лічылі, што яны маюць больш ведаў і здольнасьцяў, каб цалкам мець у сваіх руках камандаваньне партызанскімі атрадамі. Верагодна, былі і іншыя прычыны канфліктаў, напрыклад, адносіны да мясцовага насельніцтва, формы супраціўленьня нямецкім акупантам і г. д.

У сакавіку 1943 году Лукашук пасварыўся з Міхайлоўскім. Апошні забраў з сабой “васточнікаў” — камандзіраў двух узводаў і двух аддзяленьняў — і сыйшоў з мэтай арганізацыі новага атраду. Аднак пайшоў ён у трэцюю групу (роту) на Кобрыншчыну. Магчыма, Міхайлоўскі спадзяваўся пераканаць Гузюка сумесна арганізаваць новы атрад. Аднак у іх узьнікла спрэчка, пачалася страляніна…

Уначы з 29 на 30 сакавіка 1943 году ў партызанскім лягеры 3-й групы атрада імя Суворава каля вёскі Вялікія Балоты ў Кобрынскім раёне былі забітыя камісар Барыс Міхайлоўскі і яшчэ чацьвёра “васточнікаў”. Забілі іх камандзір групы Іваноў (ён жа Іван Гузюк, Іван “Лясьнік”), камісар групы Леванюк, партызаны Якімюк, Вераб’ёў і Лісецкі. Гузюк разумеў, што фактычна падпісаў сабе сьмяротны прысуд. Ён разам з Леванюком езьдзіў па параду ў Турную да мясцовага сябра падпольнага антыфашысцкага камітэта Цімафея Краўчука. Падчас той размовы Леванюк сказаў: *“…какая-то непонятная борьба идет между местными партизанами и восточниками, и она заметна,*

---

*Пераклад з рускай мовы, ініцыялы не зьмяняліся.

*прежде всего, в командовании отряда. Наших товарищей сейчас больше гибнет, чем в боях. Нас теперь они расстреляют…”*.[28]

Паводле В. Літвінчука, пасьля Гузюк прыехаў да Лукашука і распавёў пра тое, што адбылося. А праз некалькі дзён, 5 красавіка 1943 г., у штабную зямлянку ўварваліся “восточнікі” — намесьнік камандзіра атрада Кузічкін, камандзір другой групы (роты) Шубітыдзэ і яшчэ некалькі чалавек. Як успамінаў удзельнік расстрэлу Лукашука камандзір дывэрсійнай групы Сяргей Мячыкаў, Шубітыдзэ сказаў яму: *“пойдём арестовывать в штаб бульбашей”*. [29] Гэтае выказваньне вельмі характарызуе дачыненьні паміж партызанамі-вайскоўцамі і мясцовымі.

Група Шубітыдзэ-Кузічкіна ўварвалася ў зямлянку і паставіла да сьцяны Лукашука, загадалі падняць рукі. Ён адмовіўся і прасіў выклікаць для разьбіральніцтва ў справе забойства Міхайлоўскага і іншых камандзіра міжраённага штаба Унькова. *“Мы решили расстреливать в землянке,* — успамінае Мячыкаў. — *Здесь Морозов (Аш-Аш) начал расстреливать в нашем присутствии”*. Такі загад яму далі Шубітыдзэ і Кузічкін.[30]

Мёртвага Барыса Лукашука за ногі выцягнулі з зямлянкі і кінулі перад пашыхтаваных атрадам. Шубітыдзэ аб’явіў, што камандзір атрада быў здраднікам і ўкраінскім нацыяналістам, загадаў забіць камісара Міхайлоўскага. Былі расстраляныя 5 “прыхільнікаў Лукашука”.[31] У дакумэнце ж КГБ згадваецца, што акрамя Лукашука і Іванова (Гузюка, “Лясьніка”), быў расстраляны таксама партызан Сьцёпін. Нікога зь іх перад расстрэлам не дапытвалі. [32]

У віну Б. Лукашуку ставілі напісаньне запіскі Гузюку, у якой ён папярэджваў таго пра магчымы прыход Міхайлоўскага, які сыйшоў з атраду. Ён раіў яму быць асьцярожным. Але ніякага загаду забіць камісара ў ёй не было. Сьледчыя КГБ у 1975 годзе зрабілі выснову, што *“мотивами совершенного преступления являлись неприязненные отношения между Лукашуком и Михайловским”*.[33]

5 траўня 1943 году новае камандаваньне атраду імя Суворава (усе — “восточнікі” — Кузічкін, Чубараў, Караблін) адправіла ў Беларускі штаб [савецкага] партызанскага руху рапарт:

“Доносим до вашего сведения, что партизанский отряд, борясь с превосходящими силами противника — немецко-фашистскими захватчиками и их приспешниками, сплачивая свою семью для дальнейшей борьбы, вооружаясь, находя боеприпасы, укрепляя дисципли-

[28] Таксама, б. 437.

[29] Тамсама, б. 442.

[30] Тамсама, б. 443.

[31] Тамсама.

[32] Тамсама, б. 451.

[33] Тамсама.

ну, готовясь к будущим грядущим боям, разоблачает врагов народа украинских националистов, которые стараются сделать самостийну Украину буржуазного строя.

Таким был уполномоченный штаба партизанского движения Лукашук Борис, бывший командир отряда, который пришел в этот отряд уже организованный, начал хвастаться чужими заслугами перед штабом партизанского движения, чужой работой, которую он не выполнял, а ее выполнили патриоты Родины, которые рвутся помочь ей”.[34]

Вось такія “патрыёты радзімы” ліквідавалі Лукашука, каб самастойна камандаваць атрадам. Дзіўна, што і Пінскі падпольны абкам кампартыі і камандаваньне Пінскага партызанскага злучэньня адразу ж так адназначна сталі на бок забойцаў Лукашука. Выпадкова ці не, напярэдадні расстрэлу, 4 красавіка, была створана партызанская брыгада імя Молатава. Яе камандзірам стаў Міхаіл Герасімаў, камісарам — Фёдар Кунькоў (яго міжраённы штаб быў імгненна ліквідаваны). У склад брыгады ўвайшлі атрады імя Шыша, імя Лазо і імя Суворава. Тэарэтычна Барыс Лукашук мог прэтэндаваць у кіраўніцтве брыгады на нейкую пасаду.

У 1946 годзе былы камандзір атрада імя Суворава Кузічкін і камісар атрада Чубараў былі пакараныя вялікімі тэрмінамі зьняволеньня за “перагібы ў партызанскай дзейнасьці”.[35] Іван Шубітыдзэ ў паваенны час быў на савецкай працы ў Пінску і Віцебску. Яго, разам з Кузічкіным і Чубаравым у 1975-м дапытвалі чэкісты. Яны адмаўлялі свой удзел у расстрэле Лукашука, спіхвалі адказнасьць адзін на другога.[36] Аляксей Кляшчоў у 1944-м атрымаў званьне Героя Савецкага Саюзу, працаваў на партыйнай працы ў Пінску і Полацку, у 1948-1953 гг. ачольваў Савет міністраў БССР. Фёдар Кунькоў быў на гаспадарчай працы ў Пінску. Міхаіл Герасімаў ў 1944 г. стаў старшынём Іванаўскага райвыканкаму…

Васіль Літвінчук заклікае ня толькі да рэабілітацыі Барыса Лукашука, але і да вяртаньня яго імя ў дасьледаваньні, даведнікі, прысьвечаныя партызанскаму руху. У тым жа грунтоўным даведніку “Партызанскія фармаваньні Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны”, выдадзеным у Мінску ў 1983 годзе, пра Барыса Лукашука няма ні слова.[37] Нібыта, ня быў ён камісарам атрада імя Шыша, не камандаваў атрадам імя Суворава.

---

[34] Тамсама, б. 437-438.

[35] Тамсама, б. 451-452.

[36] Тамсама, б. 451.

[37] Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944). Краткие сведения об организационной структуре партизанских соединений, бригад (полков), отрядов (батальонов) и их личном составе. — Минск: “Беларусь”, 1986. На б. 607 у даведках пра атрады імя Шыша і імя Суворава згадкі пра Б. Лукашука адсутнічаюць.

*Пинская обл.*

**Отряд им. Н. Т. Шиша**

Организован в апреле 1942 г. в Дрогичинском районе из партизанских групп Н. Т. Шиша и Д. К. Удовикова, действовавших в Кобринском районе с августа 1941 г. Позже в отряд влились группы М. И. Герасимова, А. А. Литвинчука, П. П. Паталаха, В. Н. Семенова, С. В. Жаркова и Н. М. Попова. 28 июня 1942 г. отряду Н. Т. Шиша было присвоено имя погибшего командира Н. Т. Шиша. До апреля 1943 г. боевые операции проводил самостоятельно.

На день соединения с частями Красной Армии насчитывал 316 партизан.

| | |
|---|---|
| Командиры отряда: | Шиш Николай Тимофеевич<br>апрель 1942 — июнь 1942, погиб<br>Герасимов Михаил Иванович<br>июнь 1942 — апрель 1943<br>Попов Николай Михайлович<br>июнь 1943 — март 1944 |
| Комиссары: | Удовиков Дмитрий Карпович<br>апрель 1942 — октябрь 1942<br>Жевпов Иван Евменович<br>октябрь 1942 — март 1944 |
| Начальники штаба: | Удовиков Дмитрий Карпович<br>июнь 1942 — июнь 1943<br>Семенов Василий Никитич<br>июль 1943 — март 1944 |

**Отряд им. А. В. Суворова**

Образован в ноябре 1942 г. на базе партизанских групп А. С. Кузичкина, С. Д. Чубарева, Б. Н. Михайловского, В. А. Истомина и других.

В феврале 1943 г. в отряд влилась группа военнопленных во главе с И. Г. Шубитидзе, бежавших из лагеря в Польше. До апреля 1943 г. отряд действовал самостоятельно.

На день соединения с частями Красной Армии насчитывал 269 партизан.

| | |
|---|---|
| Командиры отряда: | Кузичкин Александр Сергеевич<br>— апрель 1943<br>Истомин Вениамин Александрович<br>апрель 1943 — март 1944 |
| Комиссары: | Михайловский Борис Николаевич<br>ноябрь 1942 — апрель 1943<br>Чубарев Сергей Данилович<br>апрель 1943 — март 1944 |
| Начальники штаба: | Чубарев Сергей Данилович<br>ноябрь 1942 — апрель 1943<br>Кораблин Константин Семенович<br>апрель 1943 — март 1944 |

**Отряд им. С. Г. Лазо**

Сформирован в ноябре 1942 г. в Жабчицком районе на базе партизанских групп С. Т. Бондаренки, И. Г. Конотопова, действовавших с июля 1942 г. До апреля 1943 г. боевые операции проводил самостоятельно.

607

***

Якія высновы можна зрабіць? Дык кім быў Барыс Лукашук? Адназначна трэба прызнаць яго заслугі ў арганізацыі антынацысцкага партызанскага руху на тэрыторыі сучаснай Берасьцейскай вобласьці ў 1942-1943 гг. Дакумэнтальна пацьвярджаецца яго дзейнасьць пад савецкім кіраўніцтвам ад восені 1942 году. Адназначна не пацьвярджаецца абвінавачаньне яго ў сувязях з украінскімі нацыяналістамі.

Яго сувязь з беларускімі “левымі” партызанамі (грамадоўцамі, так званай “беларускай народнай партызанкай”) патрабуе далейшага вывучэньня. На жаль, невядома, ці вывучалася гэтае пытаньне сьледчымі КГБ у 1975 годзе (публікацыі ў эміграцыйнай прэсе адсочваліся савецкімі спэцслужбамі). Барыс Лукашук мог сустракацца з “левымі” партызанамі яшчэ вясной 1942-га, калі дзейнічаў самастойна, альбо летам 1942 году, калі ўжо быў камісарам атрада імя Шыша. Ці ўдзельнічаў ён у першай канферэнцыі беларускіх партызанскіх атрадаў летам 1942-га? На жаль, дакладнага сьпісу яе ўдзельнікаў няма. Але нам падаецца яго ўдзел малаверагодным.

З лістапада 1942 году атрад імя Суворава дысьлякаваўся паміж Іванавым і Любяшовым, на беларуска-ўкраінскім памежжы. Менавіта ў гэтым раёне дзейнічалі і атрады “левых” беларускіх партызанаў — Якуба Новіка-Харэўскага і Івана Перагуда. Можна дапусьціць, што якраз у гэты час былі нейкія кантакты ў Лукашука з тым жа Харэўскім, але ніяк не з украінскімі нацыяналістамі. Праўда, пра такія кантакты нічога ня ведалі шэраговыя партызаны, якіх некалькі гадоў таму апытвалі дасьледчыкі.*

*Паводле сьведчаньняў гэтых партызанаў, ніякай беларускай прапаганды ў атрадзе не было. Адзін зь іх, дарэчы, у канцы жыцьця пачаў гаварыць пабеларуску, выпісваў “Народную волю” і шкадаваў, што шмат гадоў верыў камуністычнай прапагандзе (гутарка ад 2009 году).

Нельга забываць і пра Івана "Лясьніка" (Гузюка). Магчыма, гэта ён трымаў сувязь зь "левымі" ды інфармаваў Лукашука. У сьпісе Ю. Стасевіча згадваецца **"атрад Беларускае Народнае Партызанкі атамана Лясьніка (Кобрыншчына, Янаўшчына, Ратненшчына). Зьнішчаны сав. дэсантамі"**.[38] У іншых публікацыях падаецца і яго імя — Іван. [39]

Паведамлялася, што атрад І. Лясьніка арганізоўваў "вясковую самаабарону" ў зоне свайго дзеяньня — на Кобрыншчыне і Ратненшчыне. Пра іншую яго дзейнасьць нічога не паведамлялася. Затое Стасевіч піша пра лёс атрада: **"Атрад трапіў у засаду савецкага дэсанту ў Вялікага Балота і ўвесь амаль зьнішчаны"**.[40]

Былыя партызаны атрада Б. Лукашука сьведчаць, што "Лясьнік" — гэта Іван Гузюк. Спачатку ён са сваёй партызанскай групай дзейнічаў асобна, але дзесьці ў канцы восені 1942 году аб'яднаўся з атрадам Лукашука. Калі пра Лукашука былыя партызаны ўспаміналі станоўча, дык пра Гузюка — наадварот. Казалі, што ён быў жорсткі, неабавязковы чалавек. Інфармацыя пра "амаль зьнішчаны" атрад не адпавядае сапраўднасьці.

Аднак нашыя дапушчэньні пра магчымасьць кантактаў Лукашука і Гузюка з "левымі" партызанамі — гэта толькі версіі.

Васіль Літвінчук даволі пераканаўча абверг сьцьверджаньне некаторых савецкіх партызанскіх камандзіраў пра тое, што Лукашук, нібыта, зьбіраўся перайсьці з атрадам на бок "украінскіх нацыяналістаў". Літвінчук нагадвае, што гэта была вясна 1943 году, калі немцы ўжо былі разьбітыя пад Сталінградам. І Лукашук выдатна валодаў інфармацыяй пра сытуацыю на ўсходнім фронце. Таму пра ніякі пераход не магло быць і гаворкі. Ад сябе ж дадамо, што ў Барыса Лукашука ў Стаўропальскім краі жыла жонка, а, магчыма, былі і дзеці. Малаверагодна, каб ён ня думаў пра іх лёс.

**Руслан Дашкевіч**

[38] Стасевіч Ю. Беларуская Народная Партызанка // Беларускі голас, 1975, № 230, люты.
[39] Стасевіч Ю. Беларуская Самаахова // Беларускі голас, 1974, № 226, кастрычнік.
[40] Тамсама.

# БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ПАРТЫЗАНСКІ РУХ ПАДЧАС НЯМЕЦКАЙ АКУПАЦЫІ 1941-44 ГГ. АГЛЯД АПУБЛІКАВАНЫХ КРЫНІЦ

*Білоруси — це наші брати-слов'яни від Володимира Великого. Червоні москалі вкрали їм щастя організувати свою власну національну партизанку, та до того ж їх грабували і часто палили їх села.*[1]

Андрій Дуда, Володимир Старик

*Белорусский национализм не породил своей собственной заметной антифашистской партизанки. Были только мелкие попытки, но ни УПА, ни Армии Крайовой наша интеллигенция не создала.*

*…А ведь было же и оружие, и десятки тысяч человек, мобилизованных в Беларусскую Крайовую самооборону. И офицеры, обученные в советской и немецкой армиях. Все было… Но воевать не стали.*[2]

Юрий Шевцов

Гісторыя беларускага нацыянальнага партызанскага руху ў гады нямецкай акупацыі 1941-44 гг. дагэтуль малавывучаная, бракуе грунтоўных, сур'ёзных дасьледаваньняў. Іх не было зроблена беларускімі эміграцыйнымі дасьледчыкамі, яны не зьявіліся і на Бацькаўшчыне за 20 гадоў незалежнасьці. Тым ня менш, праблему гэтую досыць часта закраналі і закранаюць як эміграцыйныя, так і айчынныя дасьледчыкі, публіцысты і пісьменьнікі. У іх матэрыялах прысутнічае шмат разнастайных згадак, успамінаў, разважаньняў, але мала фактаў, амаль зусім няма дакумэнтаў.

Упершыню на эміграцыі тэма нацыянальнага партызанскага руху была ўзьнятая ў рукапісным часопісе "Далёкія шляхі", які выходзіў у другой палове 1945 г. у заходняй частцы Нямеччыны. Выдавалі яго былыя грамадоўцы. Паводле дасьледчыка Міколы Панькова, аўтара "Паказьніка беларускіх выданьняў на чужыне за 1945-50 гг." (Нью-Ёрк, 1952), у другім нумары выданьня за 1945 г. быў зьмешчаны артыкул пра барацьбу беларускіх нацыянальных партызанаў супраць немцаў

[1] http://exlibris.org.ua/buk/r03.html

[2] Шевцов Ю. Решительная Беларусь, порожденная войной // Семь дней, 1999, № 27, 3 ліпеня.

і савецкіх партызанаў, а таксама надрукаванае апавяданьне на гэтую ж тэму.[3]

У 1946 годзе пра нацыянальны партызанскі рух у часопісе “Рух” (Заходняя Нямеччына) пісаў Станіслаў Станкевіч пад псеўданімам “Язэп Каранеўскі”. Ён сьцьвярджаў, што нацыянальныя партызаны, хоць і саступалі колькасна савецкім, але іх шэрагі “хутка пашыраліся”, і ў гэтыя атрады ўступала *“ня толькі інтэлігенцыя, але і ўцякаючыя ў лясы ад прасьледваньня і прымусовага вывазу на працу ў Нямеччыну сяляне”*. Станкевіч сьцьвярджае, што нацыянальны партызанскі рух змагаўся на два фронты: супраць немцаў і савецкіх партызанаў.[4] Але зноў жа ён не падае канкрэтных фактаў і нават раёнаў дзеяньня гэтых аддзелаў.

***

У некаторых крыніцах прысутнічае інфармацыя, што нацыянальны партызанскі рух падчас нямецкай акупацыі імкнулася ўзьняць Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, а дакладней яе старшыня Мікола Абрамчык. Паўнамоцтвы свае ён атрымаў ад паміраючага старшыні Рады БНР Васіля Захаркі ў Празе ў сакавіку 1943-га. Значыць, дзесьці з гэтага часу й мог ён распачаць захады ў справе арганізацыі нацыянальных партызанскіх аддзелаў.

Пётра Палішчук у часапісе “Украінец” у лютым 1949-га пісаў: *“Беларускі экзыльны Урад у Празе адкідае, у 1942 г., падступныя прапазыцыі Нямеччыны на супрацоўніцтва і адказвае, таксама, на рэпрэсыі арганізаваньням збройных беларускіх паўстанчых аддзелаў”*.[5]

Мікола Абрамчык спрабаваў зрэалізаваць пляны забітага нацыстамі ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага, арганізатара і кіраўніка Беларускага нацыянальнага антынацысцкага Супраціву. Абрамчык успамінаў: *“Ён* [Гадлеўскі] *склікае ў верасьні 1941 г. нелегальны зьезд выдатнейшых беларускіх палітычных дзеячаў, якім Ён запрапанаваў ужо распроблены шырака праект праграмы канспіратыўнай працы. У адным із пунктаў Ягонага праекту былі прадбачаныя вайсковыя фармацыі беларускай партызанкі. Праект Гадлеўскага быў прыняты амаль поўнасьцю”*. [6]

---

[3] М. Панькоў так апісвае гэтыя публікацыі: “Артыкул “За Родны Край” падае цікавыя весткі аб змаганьні беларускіх нацыянальных партызанаў і супраць немцаў і супраць “чырвонае пошасьці нашых лясоў”. Далей апавяданьне “Як яны паміралі” малюе змаганьне і сьмерць беларускіх партызанаў з “чырвонай негадзьдзю на родных гонях”. Гл.: Панькоў М. Паказьнік беларускіх выданьняў на чужыне за 1945-50 гг. — Нью-Ёрк, 1952, б. 28-29.

[4] Каранеўскі Я. Пад гнётам нямецкага фашызму // Рух, 1946, № 1, красавік, б. 15.

[5] За сапраўдную дружбу народаў // Моладзь (Парыж), 1949, № 8, люты, б. 29.

[6] Кс. Вінцэнты Гадлеўскі, аснавапаложнік беларускага рэзістансу (Да 3-ціх угодкаў Ягонае сьмерці) // Беларускія навіны (Парыж), 1945, № 1, 25 сьнежня.



***Партызаны ў пінскіх балотах, 1943 год.***

Праўдападобна, стварэньне нацыянальных партызанскіх аддзелаў групай Гадлеўскага пачалося ў 1942 г. У сьнежні 1942-га й сам Гадлеўскі мяркаваў, што хутка *“трэба будзе ўзяць вінтоўку ды змагацца з акупантамі”*.[7]

Пасьля гібелі Гадлеўскага, стаўшы пераемнікам Захаркі, Абрамчык прэтэндаваў на кіруючую ролю ў Беларускім нацыянальным Супраціве. *“У ліпені 1943 году дэлегат ад БНП (Беларускай Незалежніцкай Партыі), прыехаўшы ў Бэрлін з “экскурсыяй” журналістых, прывёз прапазыцыю сваёй партыі, асабліва просьбу ад сп. Родзь[кі], пераехаць на Беларусь і абняць палітычнае кіраўніцтва й выдавецтва нелегальнай прэсы БНП.* — піша Лявон Рыдлеўскі. — *Абрамчык пачынае рабіць прыгатаваўчыя крокі для пераезду разам з жонкай у лясы Беларусі. Але арышт гэстапам і вываз у Парыж перашкодзілі ажыцьцяўленьню гэтых плянаў”*.[8]

“Прыгатаваўчыя крокі” Абрамчыка цягнуліся аж да сярэдзіны восені. У міжчасе ён пасылае на Беларусь некалькі кур’ераў. Адзін зь іх, “заўзяты беларускі нацыяналіст” Крамко, быў пасланы зь Нямеччыны ў мястэчка Мір, *“з шэрагам заданьняў арганізацыйнага й палітычнага характару, атрыманых ім ад Абрамчыка”*. Яго захапілі савецкія партызаны. [9] Васіль Раманоўскі таксама згадвае, пра захоп савецкімі партызанамі Крамко. [10] Другім кур’ерам была Кацярына Грынкевіч, якая атрымала ад Абрамчыка заданьне адшукаць у Слоніме Сяргея Хмару, кіраўніка (пасьля сьмерці Саковіча) падпольнай Беларускай Народнай Грамады, якая мела ўплыў на нацыянальныя партызанскія аддзелы на Палесьсі. Яму было паведамлена, што Абрамчык *“у Бэрліне са сваёй групай вядзе незалежную ад Немцаў палітыку на дабро незалежнасьці Беларусі”*. Хмару было прапанавана супрацоўніцтва, але ён устрымаўся *“ад навязаньня сувязяў”*. [11] Абрамчык імкнуўся наладзіць сувязь з усімі групамі Беларускага нацыянальнага Супраціву. Ён успамінаў, што *“ў верасьні 1943 году было пастаноўлена, каб я аб’ехаў Беларусь. Асабліва гэтага дамагаўся Ўсевалад Родзька”*.[12] У кастрычніку 1943 г. Мікола Абрамчык прыязджае на Беларусь і *“навязвае кантакты з мяйсцовымі беларускімі дзеячамі й правадырамі*

---

[7] Пякарскі А. Сумная гадавіна // Бацькаўшчына, 1952, № 51-52, 25 сьнежня.

[8] Рыдлеўскі Л. З жыцьця й дзейнасьці М. Абрамчыка // З гісторыяй на “Вы”. Вып.3. — Менск, 1994, б. 129.

[9] Цанава Л. Всенародная партизанская война в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков. ч. 1. — Мінск, 1949, б. 682.

[10] Раманоўскі В. Саўдзельнікі ў злачынствах. — Мінск, 1964, б. 143.

[11] Архівістка. 35 гадоў таму... // Беларускі голас (Таронта), 1986, № 328, ліпень.

[12] Абрамчык М. Доктар Станіслаў Грынкевіч // Беларус (Нью-Ёрк), 1966, № 110, травень.

*беларускага супрацїву немцам. Ён прадстаўляе ім паўнамоцтвы — тэстамэнт Захаркі".* [13]

Аднак пераехаць "у лясы Беларусі" Абрамчык не пасьпеў. 10 лістапада 1943 году ён быў арыштаваны гэстапа ў Бэрліне і дэпартаваны ў Парыж, дзе ўтрымліваўся пад хатнім арыштам. Такім чынам, плян Ус. Родзькі сарваўся.

Ларыса Геніюш пісала ў сваіх успамінах: "[Васіль Захарка] *баяўся, каб мы, маючы такія паўнамоцтвы, не паднялі на Беларусі нацыянальнае партызанкі. Мы такі сьпярша аб гэтым падумалі, але ўрэшце дайшлі да вываду, што гэта было б толькі фізычнае нішчаньне нашых людзей. На жэсты шкадавалі крыві беларускай. Палітычнае становішча зарысоўвалася так, што трэба было добра аглядацца, гдзе, куды і як ступіць, каб толькі не пашкодзіць справе".* [14]

Тым ня менш, на эміграцыі Абрамчык не саромеўся пісаць пра *"сто тысяч беларускіх партызан, якія ваявалі супраць немцаў і якія надалей асталіся ў беларускіх лясох дзеля праводжаньня змаганьня з акупантамі расейскімі, ня менш жорсткімі за немцаў".*[15]

Лічбы гэтыя былі значна перабольшаныя на карысьць палітычнай кан'юнктуры. У выніку, праціўнікі Абрамчыка пачалі абвінавачваць яго ў тым, што ён мае на ўвазе савецкіх партызанаў, якіх называе беларускімі нацыянальнымі. С. Шчэрба пісаў пра Абрамчыка: *"Ніколі не быў у Беларусі, аднак арганізаваў партызанскі рух, які змагаўся з савецкімі партызанамі і польскай АК ды немцамі".* [16]

***

У газэце "Беларускі патрыёт" (Заходняя Нямеччына) у 1951 годзе невядомы аўтар успамінаў пра заснаваньне ў канцы чэрвеня 1941-га першай беларускай нацыянальнай партызанскай групы ў Белавежскай пушчы. Яна дзейнічала на Берасьцейшчыне ў Белавежскай пушчы. Арганізатарам групы быў нейкі П. Яна складалася з сябраў падпольнай нацыянальна-патрыятычнай арганізацыі "Ня падай духам!", заснаванай яшчэ падчас польскай акупацыі. Гэтая група спачатку абстрэльвала адыходзячыя савецкія аддзелы, а пасьля ўступіла ў сутычкі з нямецкімі аддзеламі. Налічвала група каля 10 чалавек і была добра ўзброеная. Праз два тыдні баявой дзейнасьці група самараспусьцілася, а яе ўдзельнікі вярнуліся ў родныя вёскі.[17]

---

[13] Жук-Грышкевіч Р. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. — Таронта, 1993, б. 257.
[14] Геніюш Л. Споведзь. — Мінск, 1993, б. 271.
[15] Мэмарыял Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі на мірную канфэрэнцыю ў Парыжы // Рух (Зах. Нямеччына), 1947, № 4, студзень, б. 17.
[16] Шчэрба С. БНР, БЦР — адыходзяць у гісторыю // Голас Радзімы (Мінск), 1993, № 52, 30 сьнежня.
[17] Беларускі патрыёт (Заходняя Нямеччына), 1951, № 6-8 (8-10), чэрвень-жнівень.

Вядомы эміграцыйны дасьледчык і пісьменьнік Юрка Віцьбіч плянаваў напісаць нарыс пра нацыянальны партызанскі рух часоў Другой сусьветнай вайны, аднак, верагодна, не пасьпеў. У ягоным пляне застаўся запіс: *“Нягледзячы на тэрор, стабільнасьць партызаншчыны... двухфронтавыя антыбальшавіцка-антыфашысцкія партызанскія атрады ў час Другое сусьветнае вайны... Двухфронтавая барацьба (зь немцамі і бальшавікамі) падчас Другое сусьветнае вайны...”*. [18]

Тэму нацыянальнага партызанскага руху часоў нямецкай акупацыі спрабаваў дасьледаваць гісторык Юрка Стасевіч, які жыў у ЗША (сам ён быў удзельнікам гэтага руху, быў цяжка паранены ў 1943 г. у баі з дэсантнікамі НКВД). Публікацыі Ю. Стасевіча зьяўляліся пераважна ў газэце “Беларускі голас” (Таронта) на працягу 1970-80-х гг.[19] На старонках “Беларускага голасу” друкаваліся ўспаміны на гэтую тэму ўдзельнікаў нацыянальнага партызанскага руху Сяргея Хмары (Сіняка), Івана Перагуда, Якуба Харэўскага (Новіка), Васіля Віра ды інш. Падобныя публікацыі ў 1950-ыя гады зьяўляліся ў бюлетэні “Дакуманты і факты” (Таронта — Нью-Ёрк). Названыя аўтары ў гэтых публікацыях выкладалі свой пункт гледжаньня на арганізацыю і разьвіцьцё партызанскага руху ў Беларусі ў 1941-44 гг., на яго палітычную арыентацыю, палемізавалі з савецкімі аўтарамі. Яны, у асноўным, асьвятлялі дзейнасьць нацыянальнага партызанскага руху на заходнебеларускім Палесьсі, але давалі мінімальную фактуру, да таго ж не ўся яна пацьвярджаецца.

У жніўні 1943 года ў Менску адбылася сэсія Рады Даверу (яна складалася з беларускіх нацыянальных дзеячоў) зь нямецкім кіраўніцтвам Генэральнага Камісарыяту Беларусі. Пра нямецкія мэтады змаганьня супраць савецкіх партызанаў гаварыў у сваім дакладзе баранавіцкі бурмістар Аляксандар Русак. *“Напачатку ён зазначыў,* — успамінае Аўген Калубовіч, — *што партызанскі рух на тэрыторыі Беларусі — гэта не нацыянальны партызанскі рух, а чужы для Беларусі расейска-савецкі, кіраваны з Масквы, хоць сярод партызанаў ёсьць і беларусы”*.[20]

Камэнтуючы ўжо на эміграцыі гэты факт Калубовіч адзначае, што *“ёсьць, праўда, весткі аб спробах арганізацыі нацыянальна-беларускага партызанскага руху ў паўдзённа-заходніх раёнах Беларусі,*

[18] Віцьбіч Ю. Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі. — Нью-Ёрк, 1996, б. 330-331, 337.
[19] “Да справы беларускае партызанкі” // Беларускі голас, 1972, № 202, травень; “І яшчэ аб партызанцы” // Беларускі голас, 1972, № 204, жнівень; “Беларуская Народная Партызанка” // Беларускі голас, 1975, № 230, люты ды іншыя.
[20] Калубовіч А. Праф. Вацлаў Іваноўскі й Беларуская Рада Даверу (40 год таму назад) // Беларуская думка (Саўт-Рывэр, ЗША), 1983, № 27-28, б. 13; Перадрук — Крокі гісторыі. — Мінск, 1993, б. 152.

*аднак быў ён слабы і ў самым пачатку разьбіты спэцаддзеламі НКВД савецкіх партызанаў”*.[21]

Эміграцыйны дасьледчык Мікола Перасьвет (верагодна, гэта псэўданім) у часопісе “Весткі Інстытута Беларусаведы” (Ляймэн, Нямеччына) у № 5 ад 1990 году ў артыкуле “Беларуская гальгота” падрабязна спыніўся на гісторыі беларускага нацыянальнага партызанскага руху часоў нямецкай акупацыі. Праўда, пры гэтым ён не падаў ніводнай крыніцы, адкуль былі ўзятыя факты. Паводле Перасьвета, “незалежны нацыянальны партызанскі рух” пачаў ствараецца ў Беларусі напрыканцы 1941 г. І галоўнай мэтай яго было змаганьне *“за нацыянальнае вызваленьне беларускага народу”*, на два фронты: супраць немцаў і савецкага партызанскага руху. Перасьвет піша і пра дачыненьні беларускіх нацыянальных і савецкіх партызанаў: паміж імі, нібыта, заключаліся пагадненьні аб сумеснай барацьбе супраць нямецкіх карных экспэдыцый ды інш. Адбывалася гэта ў 1942 годзе. Паводле Міколы Перасьвета, *“Масква разглядала гэтыя паразуменьні ў якасьці першага кроку да поўнага падпарадкаваньня беларускага нацыянальнага руху сваім вялікадзяржаўным амбіцыям”*. Адзначае Перасьвет і спробы нямецкіх акупацыйных уладаў у 1943-44 гг. паразумецца з беларускім нацыянальным партызанскім рухам.

У той жа час аўтар дапускае шэраг фантастычных сьцьвярджэньняў. Напрыклад, што “ідэалогія гэтага руху запаланіла умы і сэрцы мільёнаў беларусоў”, “рух гэты стаў масавым”.[22] Зразумела, што гэта не адпавядае сапраўднасьці.

---

[21] Калубовіч А. Праф. Вацлаў Іваноўскі й Беларуская Рада Даверу (40 год таму назад) // Беларуская думка (Саўт-Рывэр, ЗША), 1983, № 27-28, б. 13; Перадрук — Крокі гісторыі. — Мінск, 1993, б. 152.

[22] ”Ужо напрыканцы 1941 года на Беларусі пачаў тварыцца незалежны нацыянальны партызанскі рух. Галоўнай мэтай гэтага новага ўзброенага пратэсту беларускага народу з’яўлялася барацьба за нацыянальнае вызваленне беларускага народа, барацьба на два фронты: як супроць савецкага партызанскага руху, так супроць нямецкіх акупацыйных войскаў. Даволі ў хуткім часе ідэалогія гэтага руху запаланіла умы і сэрцы мільёнаў беларусоў. Рух гэты стаў масавым, што выразна занепакоіла нямецкія акупацыйныя ўлады. Справы на фронце ў гэты час у немцаў ішлі вельмі добра, і ніхто ў іх асяроддзі не збіраўся занадта хваляваца з прычыны нейкіх там беларусоў. На вырашэнне падобнай беларускай праблемы ў немцаў быў стары выпрабаваны спосаб усіх захопнікаў: масавыя рэпрэсіі. Яны і пачаліся неўзабаве.
Такім чынам немцы самі несвядома стварылі аб’ектыўны саюз паміж беларускімі нацыянальнымі партызанамі і іх адданымі Крамлю савецкімі калегамі. Дзеля паўнаты карціны можна дадаць, што склад апошніх у 1941-1942 гг. быў амаль выключна небеларускі. Сярод савецкіх партызанаў пераважалі: былыя ваеннапалонныя, рознага тыпу акружэнцы, былыя савецкія мясцовыя актывісты і інш. Дырэктывы, якія савецкія партызаны атрымоўвалі з Масквы, выразна падкрэсьлівалі задачу наладжвання добразычлівых, сяброўскіх адносін з мясцовым беларускім насельніцтвам. Для дасягнення гэтай задачы рэкамендавалася прымяняць усялякія сродкі. У практыцы ж самае шырокае

Некаторыя зьвесткі пра беларускі нацыянальны партызанскі рух можна адшукаць у нэкралёгах. Яны пераважна зьяўляліся ў "Беларускім голасе" (нэкралёгі па Я. Харэўскім, І. Перагудзе, Ю. Стасевічы, М. Скрундзі ды іншых). Па-за гэтым выданьнем мы адшукалі толькі адну такую публікацыю. У 1962 годзе мюнхенская "Бацькаўшчына" зьмясьціла нэкралёг па Пятру Вярбіцкім.[23] Да 1943 году ён служыў у Менску ў нейкай беларускай вайсковай фармацыі, але ўлетку таго году вяртаецца ў родную вёску Татаршчына каля Краснага ў Маладзечанскім павеце. Там ён *"пачынае супрацоўнічаць зь беларускімі нацыянальнымі партызанамі, за што ў пачатку 1944 году быў арыштаваны нямецкім "гэстапо" і вывезены ў Нямеччыну"*.

У мэмуарах беларускіх эмігрантаў тэма нацыянальнай партызаншчыны сустракаецца рэдка. Пра спробы і праекты яе арганізацыі падчас нямецкай акупацыі згадваюць Язэп Малецкі, Іван Касяк, Язэп Сажыч, Дзьмітры Касмовіч, Антон Шукелойць, але падаюць вельмі мала канкрэтных фактаў і лічбаў.[24]

Такім чынам, можна канстатаваць факт, што эміграцыйныя аўтары ў сваім імкненьні адлюстраваць дзейнасьць нацыянальнага партызан-

---

распаўсюджанне атрымалі правакацыйныя дзеянні савецкіх партызан з мэтаю выклікаць рэпрэсіі гітлераўцаў супроць мясцовага беларускага насельніцтва. Рэпрэсіі гэтыя і павінны былі зрабіць з савецкіх партызан лагічных абаронцаў беларусоў ад нямецкіх карных экспедыцый. Трэба прызнаць, што падобную тактыку савецкія партызаны стасавалі даволі ўмела. Шмат дзе на Беларусі пачалі распаўсюджвацца наіўныя прымітыўныя настроі, што пры ўсіх сваіх адмоўных рысах камуністычная ўлада ўсё ж такі была лепшаю за фашысцкую. Паволі, на пачатку з недаверам і засцярогаю пацягнуліся беларусы ў савецкія партызанскія атрады. Дык і ці ж мелі яны іншы выхад у гэткай драматычнай сітуацыі.

Жорсткія нямецкія рэпрэсіі зменьшылі вастрыню антаганізмаў паміж савецкім і беларускім незалежным партызанскімі рухамі. Дзе нідзе дайшло нават да паразуменняў аб сумеснай барацьбе супраць нямецкіх карных экспедыцый. У большасці ж выпадкаў дайшло да заключэння непісаных паразуменняў аб узаемным прыхільным нейтралітэце. Масква ж разглядала гэтыя паразуменні ў якасці першага кроку да поўнага падпарадкавання беларускага нацыянальнага руха сваім вялікадзяржаўным амбіцыям.

[…]

1944 год нарэшце прынёс рэалістычныя канкрэтныя змены ў беларуска-нямецкіх узаемаадносінах. […] Немцы распачалі энергічныя спробы наладзіць супрацоўніцтва з незалежным беларускім партызанскім рухам".

Цытуецца паводле наступнай публікацыі: Перасвет М. Беларуская гальгота // Весткі Інстытута Беларусаведы (Ляймэн, Нямеччына), 1990, № 5, б. 29-31.

[23] Памёр Пётра Вярбіцкі // Бацькаўшчына (Мюнхэн), 1962, № 1-2.

[24] Малецкі Я. Пад знакам Пагоні (успаміны). — Таронта: "Пагоня", 1976, б. 58, 60, 62; Сажыч Я. "І паны гаварылі нашай мовай" // Полацак (Кліўленд, ЗША), 1992, № 4, б. 36; Шукелойць А. Менск пад немцамі // Наша ніва, № 9, 1992; Найдзюк Я., Касяк І. Беларусь учора і сяньня. — Менск, 1993, б. 291, 292, 297; Сажыч Я. Мілітарызацыя Наваградчыны ў часе нямецкай акупацыі 1941-44 гг.// Юрэвіч Л. Жыцьцё пад агнём. — Менск: Архэ, 1999, б. 245; Касмовіч Дз. За вольную і сувэрэнную Беларусь. — Вільня: Gudas, 2006, б. 158, 160.

скага руху часоў нямецкай акупацыі не змаглі стварыць грунтоўнага дасьледаваньня, якое грунтавалася б на дакумэнтальнай аснове. Некаторыя публікацыі можна расцэньваць як спробы захаваць для гісторыі сьведчаньні непасрэдных удзельнікаў тых падзей. Яны не ствараюць агульную карціну гэтага руху, падаючы, пераважна, толькі асобныя эпізоды партызанскай барацьбы, іншы раз супярэчліва, але і даюць важны матэрыял для вывучэньня названай праблемы.

***

Тэма беларускага нацыянальнага партызанскага руху 1941-44 гг. пачала зацікаўляць дасьледчыкаў у Беларусі ў пачатку 1990-х гг. Да гэтага, у савецкай Беларусі, пра яго зрэдку пісала толькі газэта “Голас Радзімы”, на старонках якой зьмяшчалася “палеміка” (калі яе так можна назваць) з эміграцыйнымі аўтарамі (найперш, з “Беларускім голасам”). Само існаваньне нацыянальнага партызанскага руху адмаўлялася. Гэтая ж тэматыка патрапляла і ў дакумэнтальныя творы пісьменьнікаў савецкай Беларусі. Напрыклад, пісьменьнік Іван Новікаў у кнізе “Дарогі скрыжаваліся ў Мінску” увёў у свой твор эпізод, калі савецкія разьведчыкі зьбіраюцца наведаць бурмістра Менску Вацлава Іваноўскага ад імя “нацыянальнага партызанскага атрада, які стыхійна стварыўся і змагаецца супраць немцаў і супраць бальшавікоў”. Яны, нібыта, мусілі яму прапанаваць *“агульную барацьбу супраць немцаў і Саветаў, за стварэньне беларускай самастойнай дзяржавы”*.[25]

У пачатку 1990-х гадоў вельмі актыўна раскрываў “белыя плямы” ў гісторыі Другой сусьветнай вайны ў Беларусі гісторык Уладзімер Гуленка. У лютым 1991 г. у газэце “Звязда” ён надрукаваў вялікі артыкул “Акаўцы”, “бульбаўцы”, “аунаўцы”... Ці былі ў Беларусі антыфашысцкія і адначасова антысавецкія партызанскія фарміраваньні або арганізацыі?”. Гуленка падрабязна піша пра польскую Армію Краёву, Арганізацыю ўкраінскіх нацыяналістаў і УПА, але нічога пра беларускі нацыянальны партызанскі рух. Праўда, неяк сарамліва ён дадае, што *“сапраўды, невялікія групы такой* [антыфашыстоўскай і антыкамуністычнай] *накіраванасьці былі ў Менску, Століне, Лунінцы і шэрагу іншых месц. Але такія нешматлікія і слабыя, што не вытрымлівалі доўгай барацьбы і вымушаны былі станавіцца на той ці іншы бок або гінулі”*.[26]

Як высьвятляецца, пра існаваньне беларускіх “нацдэмаўскіх” групаў у Лунінцы і Століне падчас нямецкай акупацыі распавёў у Маскве ў сьнежні 1942-га савецкі партызанскі камандзір А. Брынскі. Праўда, ён адзначыў, што групы гэтыя вельмі моцныя й сабраць пра

---

[25] Новікаў І. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску. Т. 2. — Мінск, 1988, б. 242-243.

[26] Гуленка Ул. “Акаўцы”, “бульбаўцы”, “аунаўцы”... Ці былі ў Беларусі антыфашысцкія і адначасова антысавецкія партызанскія фарміраванні або арганізацыі?” // Звязда, 1991, 20 лютага 1991.

іх інфармацыю было складана. Паведаміў Брынскі й пра кантакты беларускіх і ўкраінскіх нацыяналістаў.

Беларускі нацыянальны рух у гэтых і іншых палескіх гарадах, мястэчках і вёсках кіраваўся былымі актывістамі беларускіх арганізацый, што дзейнічалі ў міжваенны час (напрыклад, БСРГрамады або "Змаганьня"). Эміграцыйныя крыніцы сьведчаць, што менавіта гэтыя людзі спрычыніліся да паўстаньня нацыянальных партызанскіх аддзелаў у гэтых раёнах.

Цікава, што ў іншай публікацыі Гуленка піша, што Беларуская Незалежніцкая Партыя падчас нямецкай акупацыі стварала нацыянальныя партызанскія аддзелы. Толькі на Палесьсі іх было 12.[27] З падпольнага "Бюлетэню БНП" (№ 2) вядома пра існаваньне партызанскага аддзелу "Маладая Беларусь", праўдападобна, створанага ў 1942 г. Верагодна, адным з партызанаў гэтых аддзелаў быў Іван Шамрук, які згадваецца ў даведніку "Антысавецкія рухі".[28] Ягоны партызанскі аддзел дзейнічаў з часоў нямецкай акупацыі (прыблізна з 1943 году) аж да 1951 г., вёў баі ня толькі з немцамі і бальшавікамі, але і з бандэраўцамі.

Падпольная Беларуская Незалежніцкая Партыя ня толькі стварала нацыянальныя партызанскія аддзелы, але й працавала з беларусамі, якія былі ў савецкай партызанцы. Пра адзін з эпізодаў такой "працы" згадвае Ўладзімер Калесьнік, былы савецкі партызан. У 1943 годзе хтосьці перадаў яму ў Налібоцкую пушчу падпольнае выданьне БНП: *"Кампрамат палітычны: прысланы невядома кім орган Беларускай незалежніцкай партыі "Бюлетэнь". Выданьня таго я не мог прачытаць, ляжаў паранены, у зямлянцы было цёмна. Папрасіў у мяне начальнік штаба Чубрык пачытаць і не вярнуў. Хтосьці ў яго сцібрыў. Мабыць, трапіў "Бюлетэнь" асобааддзельцам у рукі".*[29]

У 1993 годзе ў Менску выйшла кніга Юрыя Туронка "Беларусь пад нямецкай акупацыяй". Аўтар згадаў пра нацыянальны партызанскі рух, спаслаўшыся на ўспаміны эміграцыйнага дзеяча Сяргея Хмары: *"Паводле С. Хмары, беларускі партызанскі рух паўстаў у 1941 г. на Палесьсі пад камандаваньнем падпалкоўніка Шанько. У гэтым руху ўдзельнічала каля 3000 чалавек. Ён існаваў да канца 1943 г., пакуль ня быў разьбіты савецкімі партызанамі. Аднак гэты партызанскі рух не праводзіў актыўных нападаў на немцаў".* [30]

Аўтарам камэнтароў да беларускага выданьня кнігі Юры Туронка быў гісторык Аляксей Літвін. Ён не зьвярнуў увагу на адну з тэзаў Туронка, што беларускім нацыяналістам шляхам супрацоўніцтва з аку-

[27] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі, т.1. — Мінск, 1993, б. 393.
[28] Антысавецкія рухі ў Беларусі: 1944-1956 / Даведнік. — Менск: Архіў Найноўшай Гісторыі, 1999, б. 106.
[29] Калеснік Ул. Блакада // Беларусь (Мінск), 1994, № 10, б. 17.
[30] Беларусь пад нямецкай акупацыяй. — Мінск, 1993, б. 226.

пацыйным рэжымам удалося дасягнуць апанаваньня адміністрацыі, стварэньня нацыянальных узброеных сіл, магчымасьць праводзіць адпаведную прапаганду сярод насельніцтва. *“Таму на Беларусі, як і ў Прыбалтыцы, па сутнасьці не адбылося стварэньня антынямецкага нацыянальнага партызанскага руху”,* — піша Туронак. Але рэдакцыя выдавецтва “Беларусь” заўважае: *“Відаць, аўтар мае на ўвазе — нацыяналістычнага руху”*.[31]

Аж да сёньняшняга часу беларускай гістарыяграфіяй не разглядалася праблема вызначэньня, які ж партызанскі рух часоў нямецкай акупацыі называць беларускім. Дагэтуль “беларускім” завецца савецкі партызанскі рух, разам з усімі спэцаддзеламі і дэсантамі НКВД-НКГБ-РУ Генштаба Чырвонай Арміі. Больш правільна было б назваць яго “савецкі партызанскі рух у Беларусі” і “беларускі савецкі партызанскі рух”. А нацыянальную партызанку нельга называць “нацыяналістычным рухам”. Таму што падчас нямецкай акупацыі нацыянальны партызанскі рух арганізоўвалі ня толькі нацыяналісты, але і сацыялісты, былыя заходнебеларускія камуністы.

***

Замежныя дасьледчыкі толькі зрэдку згадваюць існаваньне падчас нямецкай акупацыі беларускага нацыянальнага партызанскага руху. Дасьледчык дзейнасьці СД у Баранавічах Гартмут Рус піша: *“У выніку палітыкі эксплуатацыі й зьнішчэньня, якая выходзіла далёка за межы ўсяго, што можна вытрымаць, з сярэдзіны 1942 г. першапачатковая пазыцыя суіснаваньня ў адносінах беларускага насельніцтва да акупантаў пачала ператварацца ў пазыцыю актыўнага супраціўленьня, якая ўсё больш узмацнялася. Увесну 1943 г. у партызанскіх атрадах Баранавіцкай вобласьці налічвалася больш за 5000 узброеных людзей. Па ўсёй яе тэрыторыі СД даводзілася мець справу з рознымі партызанскімі групоўкамі, некаторыя з якіх знаходзіліся ў варожых узаемаадносінах паміж сабой (камуністычныя,* ***нацыяналістычныя беларускія****, польскія, літоўскія і яўрэйскія); напачатку барацьба вялася з усімі бяз разбору”*. [32]

Марк Бартушка ў сваім дасьледаваньні піша, што кансьпірацыйны *“Народны фронт імкнуўся стварыць партызанскія атрады, якія супрацоўнічалі з правымі польскімі аб’яднаньнямі… Немцы змаглі схіліць на свой бок частку руху, аднак, з другога боку, дзейнічалі супраць кіраўнікоў фронту. Урэшце рух распаўся. Асобныя адколатыя групоўкі зблізіліся да польскай Арміі Краёвай, альбо… да савецкіх*

[31] Беларусь пад нямецкай акупацыяй. — Мінск, 1993, б. 159.
[32] Рус Г. СД у Баранавічах (1941-1943) у кантэксьце лякальнага акупацыйнага рэжыму // Беларускі гістарычны агляд (Менск), т.5, сш.1 (8), 1998, чэрвень, б. 80-81.

*партызанаў. […] БНП… стварала невялікія партызанскія групы, якія ўспрымаліся немцамі як супрацьвага савецкім партызанам… Спробы стварыць уласныя партызанскія зоны безь нямецкага альбо савецкага ўплыву прывялі да таго, што частка руху перайшла да савецкіх партызанаў у спадзяваньні рэабілітавацца перад імі з улікам набліжэньня савецкай перамогі”.* [33]

***

У гэтым аглядзе ня згадваліся нашыя публікацыі, якія зьяўляліся, пачынаючы ад 1994 году,[34] а таксама матэрыялы на гэтую тэму з часопіса “Беларускі Рэзыстанс” 2004-2011 гадоў.[35]

**Сяргей Ёрш**

---

[33] Бартушка М. Партызанская вайна ў Беларусі ў 1941 — 1944 гг. // Архэ, 2010, № 5, травень, б. 296; Бартушка М. Партызанская вайна ў Беларусі ў 1941 — 1944 гг. — Вільня: Інстытут беларусістыкі, Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства, 2011, б. 112-113.

[34] Ёрш С. То, что они “дикие” — ложь // Свободные новости, 1994, № 21, кастрычнік; Вежан Ян [Сяргей Ёрш]. Як зьнішчалі Беларускую Народную Партызанку // Пагоня, 1995, № 20, 26 траўня — 1 чэрвеня; Ёрш С. Беларускі нацыянальны рэзыстанс у гады Другой сусьветнай вайны // Пагоня, 1995, № 33, 1-7.09, № 34, 8-14.09, № 36, 29.09-5.10, № 37, 6-12.10; Ёрш С. Атаман Перагуд і яго партызаншчына // Ніва (Беласток), 1995, № 37, 10 верасьня;
Ёрш С. Партызанскімі сьцежкамі-ІІ // Наша ніва, 1997, 13 студзеня, № 1-2; Ёрш С. Легендарны атаман // Наша ніва, 1998, № 15, 17 жніўня; Ёрш С. Беларуская партызанка // Пагоня, 1998, 30 чэрвеня, № 48; 7 ліпеня, № 50; 14 ліпеня, № 52; 16 ліпеня, № 53; Ёрш С. Беларуская партызанка. — Слонім-Менск, 1999; Дудаліч Сяргей [Сяргей Ёрш]. Нязломны патрыёт // Наша слова, 1996, № 12, 20 сакавіка; Ёрш С. 90-я ўгодкі з дня нараджэньня палкоўніка Івана Шанько // Голас камбатанта, 2000, № 2, ліпень.

[35] Турук А. Ліквідацыя беларускага партызанскага атрада на Слонімшчыне ў 1942 годзе // Беларускі Рэзыстанс, 2004, № 1, б. 86-88; Пірог В. “Зялёныя” на Полаччыне // Беларускі Рэзыстанс, 2004, № 1, б. 89; Група беларускіх нацыяналістаў на Вялейшчыне. 1943 год // Беларускі Рэзыстанс, 2005, № 1 (2), б. 106-107; Самсонаў К. Удзел беларускага нацыянальнага Супраціву ў ратаваньні габрэяў зь менскага гета ў 1941-1942 гадах; Паказаньні Смоляра Рыгора Давідавіча ў НКГБ БССР // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 1 (6), б. 30-37; Самсонаў К. Да пытаньня дзейнасьці ў Беларусі падчас нямецкай акупацыі 1941-1944 гг. “ілжэпартызанскіх” атрадаў // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 1 (10), б. 33-43.

# ПРА ЎДЗЕЛ БЕЛАРУСАЎ У ВУГОРСКІХ ПАДЗЕЯХ ВОСЕНІ 1956-ГА

Беларускія эміграцыйныя выданьні і радыёстанцыі, у чарговы раз згадваючы пра ўгодкі Вугорскага антыкамуністычнага паўстаньня 1956 году, паведамлялі пра існаваньне няпэўных вестак пра ўдзел у ім беларусаў. Дагэтуль дасьледаваньняў гэтага пытаньня праведзена не было. З другога боку, няма і грунтоўных публікацый пра беларусаў, якія ў складзе савецкага войска падаўлялі паўстаньне і загінулі, альбо зьніклі бяз вестак.

У эміграцыйным друку намі была адшуканая наступная зацемка:

**Беларускія жаўнеры ў Вугоршчыне**

Амэрыканская газэта "Нью Ёрк Ворльд Тэлеграм" у нумары за 13 сьнежня сёлета зьмясьціла наступную зацемку:

У Вене газэта "Ноер Кур'ер" падала да ведама сяньня, што савецкія мангольскія аддзелы сутыкнуліся зь беларускімі аддзеламі ў Вугоршчыне.



Газэта, цытуючы сьветчаньні ўцекачоў з Вугаршчыны, піша, што гэтыя аддзелы змагаліся колькі дзён каля лётнішча Тэкэль* блізка Будапэшту. Газэта далей падае, што мангольскія аддзелы завалодалі лётнішчам і што Беларусы ўцяклі й далучыліся да мадзярскіх партызанаў.

*Беларус, 1956, 30 сьнежня, № 5, б. 2.*

Безумоўна, беларусы маглі апынуцца сярод удзельнікаў паўстаньня. Гэта маглі быць і эмігранты, і беларусы-дэзэртыры з савецкага

*Зьвестак пра абарону аэрадрома Тэкель выявіць няўдалося. Вядома, што ён быў захоплены савецкімі войскамі 3 лістапада 1956 году. У гэты дзень на ім высадзіўся 108-ы гвардзейскі парашутна-дэсантны полк. Ужо на наступны дзень савецкія дэсантнікі пайшлі ў Будапешт.

войска. Магчыма, яны маглі нават стварыць невялікі аддзел. Але існаваньне некалькіх аддзелаў малаверагоднае. Калі хтосьці з гэтых людзей і ацалеў ды вырваўся на Захад, дык ніякіх успамінаў пра вугорскія падзеі ён не пакінуў.

Таксама мала зьвестак і пра беларусаў, якія падаўлялі антыкамуністычнае паўстаньне. Паводле афіцыйных зьвестак, страты савецкіх войскаў склалі каля 700 чалавек, паўтары тысячы былі параненыя, а 51 чалавек зьнік бяз вестак. У сьпісе загінулых савецкіх вайскоўцаў* знаходзім 13 беларусаў:

**ГАМЯНЮК Аляксей Антонавіч**, нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Ліпесы Кобрынскага раёну Берасьцейскай вобласьці. Прызваны ў савецкае войска Ухцінскім раённым ваенкаматам Комі АССР. Шэраговы 106-га гвардзейскага механізаванага палка 33-й гвардзейскай механізаванай дывізіі, наводчык кулямёта. Памёр ад ран 14 лістапада 1956 г., пахаваны на могілках Керэпешы ў Будапешце.

**ЖЫГІСАЎ Леанід Пятровіч**, нарадзіўся ў 1936 годзе ў Віцебску. У савецкае войска быў прызваны Даўгаўпілскім (Дзьвінскім) раённым ваенкаматам Латвійскай ССР. Шэраговы 71-га танкавага палка 33-й гвардзейскай механізаванай дывізіі, стралок. Загінуў 5 лістапада 1956 г., пахаваны на могілках Керэпешы ў Будапешце.

**ІВАНОЎ Уладзімер Васільевіч**, нарадзіўся ў 1927 годзе ў г. Быхаў Магілёўскай вобласьці. У савецкае войска быў прызваны Кастрычніцкім раённым ваенкаматам Масквы. Старэйшы лейтэнант, камандзір узвода цяжкіх танкаў 87-га гвардзейскага танка-самаходнага палка 2-й гвардзейскай механізаванай дывізіі. Загінуў 24 кастрычніка 1956 году, пахаваны ў Будапешце.

**ЛІТВІНЧУК Міхаіл Якаўлевіч**, нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Востраў Ельскага раёну Палескай вобласьці (цяпер — Гомельская вобласьць). У савецкае войска быў прызваны Енакіеўскім раённым ваенкаматам Сталінскай вобласьці. Яфрэйтар, аўтаматчык 133-га гвардзейскага цяжкага танка-самаходнага палка 33-й гвардзейскай механізаванай дывізіі. Загінуў 26 кастрычніка 1956 году, пахаваны на могілках савецкіх вайскоўцаў у г. Ліповэ ў Румыніі.

---

*Россия (СССР) в войнах второй половины XX века [участие российских (советских) военнослужащих в боевых действиях за пределами Российской Федерации (СССР) после Второй мировой (1946–2002)] — Москва: Триада-фарм, 2002; http://militera.lib.ru/h/20c2/index.html

**МАРКОЎЦАЎ Міхаіл Адамавіч**, нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Шарпілаўка Лоеўскага раёну Гомельскай вобласьці. Прызваны ў савецкае войска Лоеўскім раённым ваенкаматам. Шэраговец, аўтаматчык 381-га гвардзейскага парашутна-дэсантнага палка 31-й паветрана-дэсантнай дывізіі. Загінуў 7 лістапада 1956 году, пахаваны ў брацкай магіле каля помніка парламенцёру капітану І. Астапенку ў Будапешце.

**НАІБА** (Найва*) **Фларыян Валянцінавіч**, нарадзіўся ў 1934 годзе ў гарадзкім пасёлку Мір (Гарадзенская вобласьць). У савецкае войска быў прызваны Мірскім раённым ваенкаматам, па іншых зьвестках — Жлобінскім раённым ваенкаматам. Малодшы сяржант, камандзір стралковага аддзяленьня 381-га гвардзейскага парашутна-дэсантнага палка 31-й гвардзейскай паветрана-дэсантнай дывізіі. Загінуў 6 лістапада 1956 г., пахаваны ў брацкай магіле каля помніка парламенцёру капітану І. Астапенку ў Будапешце.

**ПАЛЯК Уладзімер Яўсеевіч**, нарадзіўся ў 1933 годзе ў вёсцы Хусная Капаткевіцкага раёну Палескай вобласьці (цяпер Петрыкаўскі раён Гомельскай вобласьці). Прызваны ў савецкае войска Хімкінскім раённым ваенкаматам Маскоўскай вобласьці. Шэраговец, шафёр 1195-га артылерыйскага палка 33-й гвардзейскай механізаванай дывізіі. Загінуў 25 кастрычніка 1956 г., пахаваны на могілках Керэпешы ў Будапешце.

**ПРАТАСАЎ Пётр Іосіфавіч**, нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Завезьне Стаўбцоўскага раёну Мінскай вобласьці. Быў прызваны ў савецкае войска Мгінскім раённым ваенкаматам Ленінградзкай вобласьці. Шэраговец, аўтаматчык 80-га гвардзейскага парашутна-дэсантнага палка 7-й гвардзейскай паветрана-дэсантнай дывізіі. Загінуў 1 лістапада 1956 году, пахаваны на тэрыторыі ваеннага шпіталя па вуліцы Дз'юлы Андрашы ў Будапешце.

**ПІКУЗА Валянцін Уладзіміравіч**, нарадзіўся ў 1935 годзе ў Кіеве, беларус паводле дакумэнтаў. Прызваны ў савецкае войска Мазырскім раённым ваенкаматам. Шэраговец, аўтаматчык 381-га гвардзейскага парашутна-дэсантнага палка 31-й гвардзейскай паветрана-дэсантнай дывізіі. Загінуў 6 лістапада 1956 г., пахаваны ў брацкай магіле каля помніка парламенцёру капітану І. Астапенку ў Будапешце.

---

*Гэты варыянт прозьвішча падаецца ў наступнай публікацыі: Военно-исторический журнал, 1992, № 8.

**СЕРГЯЙЧУК Міхаіл Арсенцьевіч**, нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Мотыль Іванаўскага раёну Берасьцейскай вобласьці. У савецкае войска быў прызваны Іванаўскім раённым ваенкаматам. Малодшы сяржант, камандзір аддзяленьня 50-га аўтатранспартнага батальёну 31-й танкавай дывізіі. Загінуў 9 лістапада 1956 году, пахаваны на могілках Керэпешы ў Будапешце.

**СЕЧАНКОЎ Нестар Яўсеевіч**, нарадзіўся ў 1933 годзе ў вёсцы Сялец Дрыбінскага раёну Магілёўскай вобласьці. Прызваны ў савецкае войска Пушкінскім раённым ваенкаматам Маскоўскай вобласьці. Сяржант, камандзір танка 106-га гвардзейскага механізаванага палка 33-й гвардзейскай механізаванай дывізіі. Загінуў 6 лістапада 1956 г.

**ЦУРКО Фёдар Паўлавіч**, нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Вялікія Літвінавічы Даманавіцкага раёну (цяпер — Калінкавіцкі раён) Гомельскай вобласьці. Прызваны ў савецкае войска Рэчыцкім раённым ваенкаматам. Шэраговы, кулямётчык 381-га гвардзейскага паруштна-дэсантнага палка 31-й гвардзейскай паветрана-дэсантнай дывізіі. Памёр ад ран 5 лістапада 1956 г., пахаваны на Лычакоўскіх могілках у Львове.

**ШАРАЕЎ Мікалай Кузьміч**, нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Нераж Быхаўскага раёну Магілёўскай вобласьці. Прызваны ў савецкае войска Быхаўскім раённым ваенкаматам. Яфрэйтар, артылерыйскі майстар 331-га гвардзейскага артылерыйскага палка 128-й гвардзейскай стралковай дывізіі. Загінуў 5 лістапада 1956 году, пахаваны каля помніка парламенцёру капітану І. Астапенку ў Будапешце.

Аналізуючы сьпіс загінулых савецкіх вайскоўцаў, некаторыя расейскія дасьледчыкі адзначаюць, што сярод іх вельмі мала ўраджэнцаў рэспублік Прыбалтыкі і Беларусі, і, наадварот, вельмі шмат ураджэнцаў рэспублік Паўночнага Каўказу. Праўда, на падставе толькі аднаго сьпісу загінулых нельга зрабіць выснову пра тое, ці тут справа ў недаверы да прызыўнікоў з пэўных рэгіёнаў. Тут трэба аналізаваць нацыянальны склад савецкай вайсковай групоўкі, якая ўдзельнічала ў задушэньні вугорскага антыкамуністычнага паўстаньня.

**Васіль Сушко**

# БЕЛАРУСКІЯ НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ ПАРТЫЗАНЫ НАСІЛІ СПЕЦЫЯЛЬНЫ СІМВАЛ НА ФУРАЖКАХ БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛАГА КОЛЕРУ

Практычна невядомым застаецца для нас такі блок крыніц па гісторыі беларускага нацыянальнага Супраціву, як сьведчаньні ўцекачоў за “жалезную заслону”. Усіх, хто ў паваенны час трапляў у заходнія зоны акупацыі Нямеччыны, апытвалі адпаведныя службы саюзьнікаў. Іх цікавіла ня толькі біяграфія ўцекача, але і ўсё, што ён бачыў і чуў, калі знаходзіўся на тэрыторыі СССР ці Польшчы. Такія апытаньні прайшлі ўсе беларускія партызаны, якія перайшлі на Захад. Акрамя таго, апытаньнем былых жыхароў СССР і краін Усходняй Эўропы займаліся навукова-дасьледчыя ўстановы. Дакумэнты апошніх даступныя для дасьледчыкаў.

У гэтым нумары “БР” мы зьмяшчаем апытаньне былога ўдзельніка беларускага нацыянальнага антынацысцкага партызанскага руху, а пасьля лета 1944-га — і антыбальшавіцкага. Інтэрвію з уцекачом было выканана ў межах “Гарвардскага праекту сацыяльнай савецкай сыстэмы”. Дакумэнт удаступнены на сайце Гарвардзкага ўнівэрсытэту.* На жаль, імя і прозьвішча беларуса невядомыя, а першыя дзьве бачыны дакумэнта адсутнічаюць. Тым ня менш, ён вельмі каштоўны, бо зьмяшчае вельмі важныя сьведчаньні пра беларускі партызанскі рух, яго мэты, рэгіён яго дзеяньня, кантакты, узбраеньне, акцыі і г. д. Безумоўна, у некаторых выпадках уцякач мог перабольшыць сілы беларускіх партызанаў, нейкія факты і лічбы маглі быць скажоныя праз чалавека, які рабіў інтэрвію. Але галоўнае тут пацьверджаньне існаваньня падчас нямецкай акупацыі беларускага нацыянальнага партызанскага руху на тэрыторыі цяперашніх Мінскай і Гарадзенскай абласьцей.

***

Малады чалавек, у якога бралі інтэрвію, нарадзіўся ў 1925 годзе ў Савецкай Беларусі. Савецкі Саюз ён пакінуў ў 1946 годзе. Жыў у Польшчы, а пасьля ў Нямеччыне быў затрыманы савецкай паліцыяй пры перасячэньні мяжы. Тут яму пашанцавала, таму што ён быў палякам [паводле дакумэнтаў], і яго маглі затрымаць толькі на год за незаконнае перасячэньне мяжы. Пасьля вызваленьня з турмы

*http://pds.lib.harvard.edu/pds/view/5433489?n=1&printThumbnails=no

168 24

No. 166 HD HARVARD UNIVERSITY REFUGEE INTERVIEW PROJECT -3-

B Schedule

The young man who is interviewed, was born in 1925 in Soviet Biele Russia. He has arrived in the Western Zone only five months ago, but he left the Soviet Union in 1946. In the intervening period he lived in Poland for a while and then was apprehended in Germany by the Soviet police when he crossed the border. There he was successful in making out that he was a Pole and was able to get off with only one year's sentence for crossing the border illegally. After he was released from jail he fled to Berlin and there crossed over to an allied sector and was subsequently sent to Munich. The young man's father was de-kulakised in 1933, but actually, said the informant, there was a small uprising in Biele-Russia in 1931 and in 1932 of the Bielo-Russian nationalists, and everyone, who's name was on a list, was arrested. The informants mother told him that his father had had no contacts with that organization, but it made no difference. They learned during the war from one of the father's prison mates that the father had died in 1938.

The informant says, that when the Germans first came to the Soviet Union there was no opposition. Whole divisions surrendered the Germans did nothing about these divisions, and continued further into Russia. These units remained behind in the woods, they got civilian clothes and then went into the villages,

No pages 1 and 2.

ён зьбег у Бэрлін, дзе апынуўся ў саюзным сэктары і ў выніку быў адпраўлены ў Мюнхен.

У 1933 годзе яго бацьку раскулачылі. Як сказаў інфарматар, у Беларусі паміж 1931 і 1932 гг. адбылося невялікае выступленьне беларускіх нацыяналістаў. Усе, хто знаходзіўся ў сьпісе, былі затрыманыя. Яго маці распавяла яму, што бацька ня меў ніякага дачыненьня да гэтага выступленьня, але гэта ня мела значэньня. Падчас вайны яны даведаліся з турэмных запісаў, што бацька памёр у 1938 годзе.

Інфарматар сказаў, што, калі немцы ўпершыню прыйшлі ў Савецкі Саюз, тут не было супраціву. Усе [савецкія] дывізіі пабаяліся немцаў і нічога не зрабілі, каб затрымаць іх, таму тыя працягвалі ісьці на Расею. Гэтыя дывізіі засталіся ў тыле ў лясах, вайскоўцы апранулі цывільную вопратку, наведвалі вёскі і тлумачылі вяскоўцам, што яны былі былымі савецкімі зьняволенымі, якія былі на прымусовых працах на [будоўлях] *аэрадромаў*. У выніку, мясцовае насельніцтва пачало зваць ўсіх гэтых былых салдатаў *аэрадромцамі*. У кожнай хаце мелася па два такіх салдаты, людзі абаранялі іх і дапамагалі ім.

Савецкая ўлада зразумела важнасьць партызанскай барацьбы і пакінула для гэтага невялікія атрады НКВД, якія спрабавалі завербаваць гэтых аэродромцаў у партызаны. Але тыя не хацелі пакідаць вёскі, дзе прыжыліся. Як толькі немцы пачалі паліць вёскі, усё больш і больш былых салдатаў пачалі сыходзіць у лес. Атрады НКВД, пакінутыя Саветамі, правакавалі немцаў рабіць гэта. Між іншым, было зразумела, што ўсе, у тым ліку і немцы, разглядалі савецкіх ваеннапалонных небясьпечнымі. Пасьля, у 1942 годзе, немцы пачалі забіраць гэтых былых ваеннапалонных. Усё рабілася наступным чынам: тыя, хто ня жыў у гэтым рэгіёне да 1938 года [праўдападобна, да 1939-га — **БР**], павінны былі прыйсьці да іх… Большасьць зь іх сышлі ў лясы.

Першая партызанская акцыя, пра якую ведае інфарматар, адбылася ў траўні 1942 году. Там былі невялікія групы па сто ці па дзьвесце партызан пад кантролем Саветаў. Калі яны пачалі зьдзяйсьняць налёты на вёскі, немцы не зьвярнулі на гэта ўвагі і ня чулі скаргаў.

Але ў канцы траўня 1942 году партызаны ўпершыню пасьля гэтага зноў атакавалі немцаў. Яны напалі з засады на 60 немцаў на дарозе Мінск — Слуцк. У выніку, 5 ці 6 немцаў загінулі. З Мінску гітлераўцы адправілі атрад, які цалкам зьнішчыў 4 беларускія вёскі. Зразумела, што перад тым, як спаліць вёскі, яны вывезьлі ўсю рагатую скаціну, а таксама тое, што мела каштоўнасьць. Немцы зганялі ўсё насельніцтва ў вялікае гумно, а затым падпальвалі яго разам з людзьмі. Той, хто ўцякаў, быў застрэлены адразу, як толькі спрабаваў [вырвацца]. Інфарматар [у той час] знаходзіўся за 7 кіламетраў адтуль.

На той час там была беларуская паліцыя, якая працавала пад нямецкім кантролем. Пасьля ўсяго, што адбылося, трэба было падтрымліваць нешта падобнае на парадак. Мэтай гэтай паліцыі было атрымаць зброю і, атрымаўшы яе, зьбегчы ў лес і чакаць таго, што

будзе адбывацца далей. Калі немцы пачалі весьці сябе такім чынам, вялікая колькасьць людзей, што проста чакалі у паліцыі [разьвіцьця падзеяў], зьбеглі ў лес, але некаторыя засталіся… У канцы 1942 году немцам трэба было ў шматлікіх месцах Беларусі падарожнічаць колькасьцю да батальёну, каб ацалець. Суадносіны людзей, якія засталіся зь немцамі і якія пайшлі ў лес, зьмяняліся ў залежнасьці ад месца.

Немцы змаглі арганізаваць у Мінску батальён, гэта была выключна беларуская вайсковая адзінка. Ён называўся БКА — Беларуская краёвая абарона.* Але насамрэч гэтая адзінка не была страшнай, адданай сваім нямецкім кіраўнікам. Большасьць беларусаў адчувалі, што немцы рабілі дрэнныя рэчы, і саветы рабілі тое самае, таму яны аддавалі перавагу таму, каб быць самастойнымі. Вялікая колькасьць афіцэраў і салдат, што былі ў БКА, чакалі магчымасьці зьбегчы да партызан, якія мелі дастаткова зброі. Аднойчы, калі немцы спрабавалі сфармаваць беларускую дывізію**, адзін з [беларускіх] батальёнаў паспрабаваў адасобіцца ад іх, каб не падначальвацца ні немцам, ні савецкім партызанам. Некаторыя з яго ўдзельнікаў былі расстраляныя, некаторыя сасланыя ў канцлягеры.

У пачатку 1943 году інфарматар сам прыйшоў у лес. У той час ён ужо быў 18-гадовым хлопцам, але яшчэ вучыўся ў школе і быў адным з афіцэраў БКА***… Ён загадаў некаторым з хлопцаў ісьці ў лес, а некаторым застацца і працаваць зь немцамі, каб здабываць патрэбную інфармацыю для тых, хто ў лесе. Цяпер тыя, хто застаўся зь немцамі ў БКА****, трымалі сувязь і дапамагалі партызанам у лесе.

Многія незалежныя беларускія партызаны былі недалёка ад Мінску, Налібоцкай пушчы*****, Вільні і Ліды. Інфарматар знаходзіўся недалёка ад Мінску, ён меў зносіны з Арміяй Краёвай (АК). АК, якую не любілі партызаны, сярод якіх быў інфарматар, атрымала ад немцаў зброю, пры ўмовах, што яны будуць біцца толькі супраць рускіх. Калі інфарматар апынуўся сярод беларускіх партызанаў, семсот чалавек было падзелена на чатыры атрады. Адзін знаходзіўся недалёка ад Дзяржынска******, другі разам з начальнікам галоўнага штабу непа-

---

* У тэксьце зусім ня згадваецца Беларуская Самаахова — БСА, якая была створаная ў 1942 годзе і праіснавала да вясны 1943-га. БКА ж зьявілася толькі вясной 1944 году. Таму відавочна, што спачатку партызан распавядае пра самаахову. — БР.

** Верагодна, гаворка ідзе ўсё пра тую ж Беларускую Самахову.

*** Насамрэч, Самааховы.

**** БСА.

***** У арыгінале памылкова — Наліцейскай пушчы.

****** У арыгінале памылкова называецца “Дэльчынск”.

далёк ад Налібокаў, трэці — каля Ліды, а чацьвёрты — каля Вільні.*

[…]

Спачатку ў гэтым партызанскім атрадзе было вельмі мала зброі. Адзінай крыніцай яе набыцьця былі савецкія партызаны, у якіх яны куплялі яе, ці немцы. Яны не ваявалі з палякамі і ніколі не атрымоўвалі зброю ад іх. У іх было нешта накшталт не пісьмовага, але абавязковага пагадненьня з БКА**, якое выкарыстоўвалася і зь немцамі, калі яны не хацелі ваяваць супраць адзін аднаго, а хацелі ісьці кожны сваёй дарогай.

Інфарматар сказаў, што ён не прысутнічаў пры складаньні пагадненьня, але ён ведаў пра яго з таго факту, што ў іх былі загады не страляць нікога з БКА. Калі ж яны затрымалі кагосьці зь іх, то гэты чалавек быў адпраўлены назад да немцаў абяззброены, бяз ботаў і верхняга адзеньня. Калі яны хацелі застацца ў партызанаў, то гэта лічылася нармальным. Гэта не было спэцыяльным намаганьнем пасароміць гэтых людзей, забраўшы іх адзеньне. Мэтай было проста забясьпечыць партызанаў неабходным рыштункам…

У той час як чырвоныя [партызаны] атрымлівалі запасы самалётамі з Масквы, то беларускія маглі спадзявацца толькі на адабранае ў немцаў. Партызаны змаглі хутка сабраць добрую колькасьць абмундзіраваньня, робячы на немцаў налёты. З часам у іх стала шмат зброі. Яны адмыслова наведваліся ў вёскі, каб людзі пабачылі, як яны

---

* Гэта вельмі важная інфармацыя. Атрымліваецца, што беларускі нацыянальны партызанскі рух у гэтым рэгіёне Беларусі (паміж Менскам, Маладзечнам, Вільняй, Лідай і Дзяржынскам) у пачатку 1943 году складаўся з 4 атрадаў, якія налічвалі агулам каля 700 байцоў. Камандзір партызанскага злучэньня са сваім атрадам знаходзіўся недалёка ад Налібоцкай пушчы. На наш погляд, вельмі верагодна — каля Ракава ці Валожына (сама пушча ў той час ужо была пад кантролем савецкіх партызанаў і часткова польскай АК). Пра тое, што ў гэтым рэгіёне ад 1942 году былі беларускія нацыянальныя партызаны, якія прысылалі ў Менск сваіх сувязных да ксяндза Гадлеўскага, сьведчыць у рубрыцы “Інтэрвію” беларускі камбатант. Намі было адшуканае яшчэ адно сьведчаньне пра дзейнасьць беларускіх нацыянальных партызанаў у раёне Краснага паміж Маладзечнам і Радашковічамі. У нэкралёгу па Пятру Вярбіцкім, які ў 1942-1943 гг. служыў у Менску ў нейкай беларускай вайсковай адзінцы, эміграцыйная газэта “Бацькаўшчына” пісала: “Не пагадзіўшыся з палітыкай нямецкіх акупацыйных уладаў на Беларусі, Пётра Вярбіцкі ўлетку 1943 году вяртаецца назад у родную вёску (вёска Татаршчына каля Краснага ў Маладзечанскім павеце — БР), дзе пачынае супрацоўнічаць зь беларускімі нацыянальнымі партызанамі, за што ў пачатку 1944 году быў арыштаваны нямецкім “гэстапо” і вывезены ў Нямеччыну”. Гл.: Памёр Пётра Вярбіцкі // Бацькаўшчына (Мюнхэн), 1962, № 1-2.

** Тут і далей маецца на ўвазе найперш БСА.

былі ўзброеныя, і гэта стымулявала набор у партызанскія атрады. Яны насілі спэцыяльны сымбаль на фуражках бела-чырвона-белага колеру.

Я запытаў у інфарматара, як партызаны вырашалі пытаньне забесьпячэньня [харчаваньнем]. Той адказаў, што яны ішлі ў вёску, абыходзілі ўсіх і кожнаму казалі: “Так ці інакш немцы адбяруць вашых кароваў, а вы маглі б іх даць нам. Мы зможам як мага лепш выкарыстаць іх”. Мы заўсёды давалі ім дакумэнт, падпісаны і завераны пячаткай аб перадачы маёмасьці. Канешне, калі прыходзілі немцы, то яны мелі намер забраць чыю-небудзь карову…

Інфарматар працягвае настойваць, што яго атрад быў папулярны сярод сялян.

[…]

Галоўнакамандуючым гэтай групы [беларускіх партызан] быў [камандзір па мянушцы] “Чорны кот”.

У канцы 1943 году немцы правялі зачыстку тэрыторыі, выкарыстаўшы для гэтага ўсю паліцыю, літоўцаў, украінцаў, рускіх. У гэты момант сябры з БКА*, што служылі зь немцамі, вельмі дапамаглі. Увесь час яны расказвалі ім, калі немцы атакавалі і ў якой колькасьці, і партызаны зьнікалі да адыходу немцаў. Яны мелі дакумэнты, якія пацьвярджалі, што яны былі мясцовымі жыхарамі. Таму партызаны хавалі зброю і асядалі ў вёсках. Так немцы проста не маглі знайсьці аніводнага [беларускага] партызана ў лесе.

Савецкіх партызанаў, якіх было нашмат больш, чым беларускіх, вельмі ненавідзелі мясцовыя жыхары за тое, што яны рабілі. А беларускім партызанам людзі шмат дапамагалі. Чырвоныя партызаны зьнішчалі камунікацыі, але гэта не было мэтай беларускіх партызанаў. У некаторых выпадках, яны перашкаджалі чырвоным падпальваць масты. Правілы беларускіх партызанаў былі вельмі строгімі: калі адзін з партызан што-небудзь краў у людзей, то яго расстрэльвалі на вачах у сялян.

Беларускія нацыянальныя партызаны не дапамагалі саветам, арганізоўваючы дывэрсію супраць немцаў, але забівалі гестапаўцаў (і іншых), [а пазьней] арганізоўвалі дывэрсіі супраць саветаў.

Беларускія афіцэры расказвалі партызанам, што Англія (тады яшчэ ніхто не гаварыў пра Амэрыку) дапамагае польскім партызанам. І ў выніку яны хацелі дапамагчы беларускім партызанам, калі саветы вярнуліся, і калі б яны паднялі мяцеж, то Захад падтрымаў бы іх.

У беларускіх партызанаў быў спэцыяльны аддзел, які рыхтаваў нямецкія дакумэнты. Яны спынялі машыну, на якой немцы ехалі

---

*Тут могуць мецца на ўвазе як беларускія вайсковыя фармацыі, што існавалі на той час, так і людзі, якія працавалі ў беларускай цывільнай адміністрацыі.

рабіць рэквізіцыю тавараў, стоячы на дарозе ў цывільнай вопратцы і кажучы: “Далей нельга. Дарога замініравана”. Пасьля таго, як яны прыпыніліся і выйшлі, партызанам нішто не перашкаджала іх абяззброіць. Затым, маючы сапраўдныя нямецкія дакумэнты і ўніформу, партызаны зьбіралі рэчы, якія павінны былі атрымаць гітлераўцы. Часам партызаны загадзя даведваліся ад кагосьці са сваіх людзей, што ў адзін дзень некаторыя гітлераўцы захочуць прыйсьці на месца паставак, каб забраць іх, таму партызаны атрымлівалі іх на дзьве гадзіны раней за немцаў.

Беларускія партызаны жылі ў лесе ў зямлянках. Калі немцы зьбіраліся прыйсьці туды [з карнай акцыяй], то партызаны адтуль сыходзілі, а потым вярталіся або будавалі новы лягер на іншым месцы. Незаўсёды можна было вярнуцца ў стары лягер, бо немцы маглі яго замініраваць.

Калі немцы былі побач, то вартавыя, якія знаходзіліся на адлегласьці 15-20 кіламетраў ад лягеру, папярэджвалі партызанаў. Яны пакідалі лягер і чакалі немцаў, якія з двух бакоў акружалі яго. Калі яны былі глыбока ў лесе, партызаны пачыналі страляць у іх…

Затым інфарматар растлумачыў мне, як аднойчы ён быў накіраваны сваім камандзірам зьбіраць інфармацыю пра савецкі партызанскі атрад. Ён ганарыцца гэтым заданьнем і расказаў у дэталях пра тое, як выканаў гэтую місію. Яго накіравалі ў партызанскі атрад, якім камандаваў Міткін, але ён не ўпэўнены ў сапраўднасьці гэтага імя. Інфарматар даў дакумэнты і сказаў, што прыехаў з маленькага гораду непадалёк ад Беластоку. Гэта досыць далёка, так што малаверагодна, што яны маглі праверыць праўдзівасьць яго гісторыі, паводле якой ён страціў усю сям’ю і зьбег, шукаючы, чым бы заняцца…

Ён ведаў, што [савецкія] партызаны вялі актыўныя баі ў пэўных мясцовасьцях. Таму ён апынуўся ў вёсцы, у якую яны маглі зайсьці. Адзін дзень яго карміла адна сям’я, другі — іншая. Аднойчы нехта з сялян запытаў: “Чаму ты тут і чаму ты не ідзеш да партызанаў?” І вось уначы прыйшлі партызаны, апранутыя ў цывільнае, і пачалі размаўляць зь ім. “Чаму ты не ідзеш да нас? Нам трэба з табой паразмаўляць”, — кажуць яны. Яны былі прыязна настроеныя і ўзялі яго з сабой у вёску, якая знаходзілася на поўнач ад Мінску. Пакармілі, далі выпіць у хаце, якую на вуліцы ахоўвалі.

Неўзабаве прыбыў палітрук партызанскага атраду, у які хацеў патрапіць наш інфарматар. “Ён быў камісарам. Адразу ж даў мне папяросу і пачаў размаўляць: калі ты нарадзіўся, дзе ты жыў, ці служыў у чырвоным войску?” Інфарматар адказаў, што не служыў. Гэтага было амаль дастаткова, таму што ён быў малады. Камісар запытаў пра яго палітычныя погляды. Інфарматар адказаў, што быў у камсамоле. А на пытаньне, чаму немцы расстралялі яго сям’ю, ён

сказаў, што яго брат быў сябрам партыі. Падчас расстрэлу сам ён знаходзіўся ў суседнім будынку.

"Што ты зьбіраешся цяпер рабіць?" Ён ня ведаў, чым заняцца, думаў, каб пажыць у лесе, таму што савецкае войска павінна вяртацца, і, калі яно вернецца, ён мог бы пайсьці ў школу або пайсьці працаваць… Затым камісар сказаў: "Нашто ты далучыўся да нашага партызанскага атраду?" І трошкі не рашаючыся, ён адказаў, што не ўмеў страляць. "Цябе не навучылі ў камсамоле страляць?" Інфарматар пацьвердзіў, што навучылі, але блага. "Не хвалюйся, мы навучым цябе!".

Пасьля гэтага яго даставілі ў партызанскі атрад, дзе яго даручылі старэйшаму партызану, каб навучыцца "забіваць фашысцкую гадзіну". Інфарматара моцна апрацоўвалі прапагандай, якая распавядала пра фашыстаў і капіталістаў. І, калі ў яго пыталіся, што б ён зрабіў, калі б схапіў немца, той адказваў, што, калі б ён быў упэўнены, што гэты немец заслугоўваў сьмерці, ён бы замучыў яго.

Звычайна яны не дапускалі новых людзей да барацьбы ў першыя дні, але інфарматар пачаў выконваць сваю першую місію на 13-ты ці 14-ты дзень. Дакладна ён ня ведаў пра сваё заданьне, таму што ў савецкіх партызанаў, як і ў беларускіх, была звычка: спачатку трэба добра ўпэўніцца ў тым чалавеку, які ідзе выконваць загад. Толькі камандзір, які быў добрым стралком, ведаў, што там да чаго. Яны прыйшлі ў вёску каля 11 ці 12 гадзінаў раніцы, там яны плянавалі выканаць свой загад, але пра іх невялічкі атрад (50 ці 60 чалавек) даведаўся нямецкі абарончы атрад і пачаў страляць па іх. Яны згубілі аднаго чалавека ў выніку гэтай аперацыі. Немцы пачалі запускаць ракеты, каб папярэдзіць астатнія свае атрады, таму было вырашана не выконваць аперацыю ў гэтую ноч. Інфарматар сказаў, што яго мэтай было вызначыцца, каб здабыць давер.

Інфарматару трэба было ўвайсьці ў кантакт з афіцэрамі беларускага партызанскага атраду, якія яго накіравалі да савецкіх партызанаў. Гэта не ўяўляла асаблівых цяжкасьцяў, таму што ў адной вёсцы на адлегласьці 1,5 кіламетры ад савецкага партызанскага атрада жыў сувязны. Ён трымаў сувязь з афіцэрамі такім чынам, што інфарматар ня ведаў, як гэта адбывалася. Ён проста сказаў, дзе ён думаўісьці, а таксама назваў нумар, які ён думаў сказаць у якасьці кода, і нумар, які трэба было пачуць у адказ. Ён не хваляваўся робячы гэта амаль незаўважным, таму што партызаны наведваліся ў вёску дзеля жанчын…

Калі ён вярнуўся [да беларускіх партызанаў], то адрапартаваў аб колькасьці [савецкіх] партызанскіх атрадаў, зброі, якога тыпу яна была і г. д. Але ён ня мог шмат паведаміць пра савецкіх камандзіраў, ведаў толькі іх мянушкі, таксама ня мог распавесьці пра заданьні, якія яны хадзілі выконваць, пра іх не паведамлялі шэраговым партызанам. Ён

расказаў толькі тое, што ведаў.

Я запытаў інфарматара, ці была гэта адзіная аперацыя, на якую ён хадзіў. Ён адказаў, што быў і на іншых. “Я нават быў на аперацыі, дзе быў сьведкам расстрэлу беларускай сям’і, таму што сын супрацоўнічаў зь немцамі”. Пасьля гэтага ён хутка зьмяніў тэму размовы. Наогул яму ня вельмі падабаліся размовы пра яго аперацыі з партызанамі.

[…]

У беларускім партызанскім атрадзе заўсёды казалі: “спадар”, што было беларускім эквівалентам слова *“господин”*. Яны заўсёды зьвярталіся да афіцэра, не зьвяртаючы ўвагу на яго становішча, наступным чынам: “спадар камандзір”…

Камандзір зьвязу, у якім знаходзіўся інфарматар, быў беларусам, праваслаўным, былым афіцэрам савецкага войска… Савецкіх афіцэраў цанілі, таму што яны ведалі савецкае войска, яго арганізацыю і былі вельмі эфектыўнымі прапагандыстамі. Да таго, як паставіць задачу, камандзір зьбіраў усіх афіцэраў абмеркаваць, што трэба рабіць і як яе выканаць. Канчатковыя загады аддаваў начальнік галоўнага штабу, што і якой групе рабіць. Беларусы ніколі не ўжывалі слова “атрад”, заўсёды казалі “група”, нягледзячы на тое, малой яна была ці вялікай. Афіцэры не насілі ніякіх знакаў адрозьненьня, характэрных для свайго званьня…

Пасьля ён пачаў распавядаць пра адну аперацыю, у якой 50 беларускіх партызанаў саўладалі з 300 нямецкімі салдатамі. “Не думайце, што я паспрабаваў сказаць, што 50 беларусаў заўсёды маглі перамагчы 300 нямецкіх. Гэта быў толькі адзін выключны выпадак. Звычайна мы спрабавалі перамагчы колькасьцю. Гэта быў атрад немцаў, які прабыў усю ноч у сваёй казарме непадалёк ад нас. Калі наступнай раніцай яны адправіліся ў шлях, мы чакалі іх у трох кіламетрах. Дарога была добра замініравана, дрот ад мінаў быў працягнуты ў лес. Калі немцы, якія маршыравалі ў шыхце, апынуліся ў тым самым замініраваным месцы, мы пацягнулі дрот і пачалі страляць з кулямётаў. Ручныя кулямёты заўсёды былі вельмі зручнымі ў такіх тыпах засадаў, мы абменьвалі іх пры выпадку ў іншых партызанскіх атрадаў, а пазьней вярталі. Мы забілі каля 60 немцаў, шмат зь іх зьбеглі ў лес, а 40 адступілі. Мы падабралі іх зброю”.

Інфарматар расказаў пра мэту нападу на немцаў. Ён адказаў: “Наш атрад складаўся з 2 з паловай тысяч чалавек. З іх амаль 800 не мелі зброі. Наш атрад так хутка вырас, што нам хутчэй была патрэбная зброя. Калі новыя людзі прыходзілі ў наш атрад, ім не было нават, дзе сесьці, што рабіць, Менавіта таму мы і ўзяліся за гэтую справу”. У кожным горадзе беларускія партызаны мелі сваіх людзей, якія распавядалі пра тое, што зьбіраюцца рабіць немцы.

У атрад інфарматара бралі толькі мужчын 35 год і маладзейшых,

прычым добраахвотна. Яны ніколі ня бралі новага чалавека ў лягер, пакуль не давяралі яму. “Мы ўдакладнялі зьвесткі пра яго мінулае і біяграфію перад тым, як пусьціць у лягер, таксама, як рабілі і савецкія партызаны. Іх маглі падаслаць саветы або немцы, ці палякі”. Калі новыя людзі аказваліся агентамі, калі іх біяграфіі не былі праўдападобнымі, беларускія партызаны пазбаўляліся іх.

Аднойчы да партызанаў прыйшоў чалавек, які сказаў, што яго падаслалі саветы ў якасьці агента, але ён не жадае працаваць на іх, а хоча быць зь беларускімі партызанамі. У гэтым выпадку ў яго пыталіся пра той атрад, адкуль ён прыйшоў, затым туды адпраўлялі аднаго з нашых людзей, каб праверыць, ці адпавядае інфармацыя рэчаіснасьці. Калі той маніў, яго застрэльвалі.

Інфарматар сказаў, што ў іх не было сьвятара, але ў суседняй вёсцы была царква, якую яны наведвалі ў цывільнай вопратцы і рабілі гэта з перасьцярогай, невялікай колькасьцю людзей. Але здаралася, што яны наведалі яе даволі вялікай групай людзей, тады на дарозе заставаўся зьвяз, каб папярэдзіць у выпадку набліжэньня немцаў.

У атрадзе партызанаў, у якім быў інфарматар, было некалькі жанчынаў, якія выконвалі абавязкі гаспадынь.

Піць гарэлку партызанам было нельга, за выключэньнем сьвяточных дзён, калі камандзір даваў гарэлку і дазваляў піць тым людзям, якія не трымалі варту. Я запытаўся, як абыходзіліся з тымі, хто не выконваў загады, напрыклад, піў кожны дзень. Ён адказаў: “Звычайна іх два разы папярэджвалі, калі яны рабілі трэці раз, то мы забівалі іх. Мы не садзілі іх за краты”.

Прыпамінаючы, як ён распавядаў пра тое, што савецкія афіцэры добрыя прапагандысты, я задаў пытаньне пра палітычныя сходы, якія праводзіліся з групай. Ён адказаў, што фармальна, як у савецкіх партызанаў, у беларускіх партызанаў іх не было, праводзіліся толькі гутаркі. Затым ён распавёў пра сутнасьць прапаганды: “Ведаеце, кожная нацыя цэніць сваю свабоду. Некалі мы былі пад Літвой, затым пад Польшчай і Расеяй, і ніхто зь іх не абыходзіўся з намі, як мае быць. У нас былі невялікія паўстаньні, але мы нічога не дасягнулі. Некаторыя з старэйшых людзей сярод нас настальгуюць па часах царызму, але нам гэта не цікава. Я хачу сказаць, што мы пакутнічаем нашмат больш, чым рускія пры саветах… Таму нам спадабалася ідэя стварэньня незалежнай Беларусі. І не было цяжкасьцяў стварыць беларускі нацыянальны партызанскі саюз”.

Пасьля ён сказаў, што рускія — нацыяналісты, і любяць памяншаць значнасьць беларускіх партызанаў. Толькі беларусы альбо немцы змогуць расказаць пра гэта.

“Нашыя афіцэры тлумачылі нам усё, у тым ліку і тое, што шмат нашых людзей, якія былі ў БКА разам зь немцамі, дапамагалі нам

і захавалі нашыя вёскі. Вось чаму мы ніколі не забівалі іх, а толькі забіралі зброю.

Аднойчы мы схапілі некалькі нямецкіх палонных і замест таго, каб забіць, абмянялі іх на беларускіх палонных. Але такое здаралася вельмі рэдка".

Я запытаўся пра зьмены, якія адбыліся, калі савецкі фронт стаў бліжэй. "У гэты час уся паліцыя і ўсе беларусы, якія працавалі так ці інакш зь немцамі і якія не жадалі ехаць у Нямеччыну, пайшлі да партызанаў. Калі прыйшлі саветы, яны проста заставаліся ў лесе і нічога не рабілі. Саветы трымалі ўладу над сваімі партызанамі і адпускалі іх толькі з суправаджэньнем, каб удакладніць, хто быў партызанам, а хто не. Затым яны адпраўлялі гэтых людзей у ваенкаматы...

Яны мабілізавалі партызанаў і адпраўлялі іх проста ў чырвонае войска, а затым — на фронт. Партызанаў не накіроўвалі ў мясцовую міліцыю ці куды-небудзь накшталт гэтага.* На сустрэчы, дзеля якой яны былі адпраўленыя ў Мінск, ім дзякавалі за іх вялікі ўнёсак [у вызваленьне Беларусі ад нямецкіх акупантаў]. Кожны атрымаў медаль.

Інфарматар кажа, што не ўсе экс-савецкія партызаны думалі ісьці на фронт, многія зь іх зьбеглі ў лес. Яго атрад згадзіўся прыняць беларускіх экс-савецкіх партызан, але рускім партызанам было загадана стварыць іх уласны атрад і дзейнічаць хутчэй у Расеі, чым у Беларусі. Яны не прынялі ніводнага рускага экс-савецкага партызана. У гэты час атрад у мясцовасьці інфарматара узрос да 12 тысяч чалавек.**

[…]

Пасьля таго, як летам 1944 году немцы адступілі, яны працягвалі падтрымліваць беларускіх партызанаў, пастаўляючы ім медыкаменты, лекараў, зброю і прапагандысцкія матэрыялы. Інфарматар ведаў пра 11 атрадаў, якіх скінулі з самалётаў. Колькасць людзей у некаторых такіх атрадах даходзіла да 30 чалавек. Яны былі апранутыя ў савецкую ўніформу (мелі нават савецкія медалі), мелі добрую зброю, радыёпрыёмнікі (зь іх дапамогай можна было зьвязацца з беларускімі партызанамі). Інфарматар супрацоўнічаў зь імі. Іх мэтай было зьнішчаць савецкія камунікацыі, наколькі гэта было магчыма; і яны працягвалі гэта рабіць, але ў 1945 годзе, пасьля капітуляцыі Нямеччыны, згубілі сувязь зь немцамі.

---

*Спрэчнае сьцьверджаньне. Сапраўды, большая частка складу савецкіх партызанскіх атрадаў адпраўлялася на фронт (калі іх не ўключалі ў антыпартызанскія фармацыі НКВД), меншую частку партызанаў адпраўлялі на працу ў міліцыю, мясцовыя органы ўлады. Можна дапусьціць, што ў некаторых раёнах былі свае асаблівасьці і партызанаў сапраўды ня бралі ў міліцыю.

**Верагодна, маецца на ўвазе агульная колькасьць нелегалаў у пэўным рэгіёне.

“Саветы спрабавалі вынішчыць нас, пасылаючы цэлыя палкі. Шмат людзей з некаторых гэтых палкоў перайшлі да нас. Тады саветы распачалі правакацыі. Іх лістоўкі, якія яны раскідвалі з самалётаў, зьмяшчалі наступнае: “Вяртайцеся, вы былі савецкімі партызанамі!”. Яны ігнаравалі той факт, што мы былі беларускімі партызанамі. “Калі ты вернешся дамоў, наша радзіма даруе табе і не адправіць на фронт”. Гэта было падпісана камандаваньнем таго самага фронту. На гэты заклік адгукнуліся ня ўсе. Дзесьці палова людзей вярнулася ў вёскі, а другая — засталася ў лясах.

У 1945 годзе саветы добра ашукалі ўсіх тых, хто вярнуўся ў вёскі. Яны стварылі брыгаду пад камандваньнем літоўца Цітуса, які быў, нібыта, генэралам. Арганізавалі батальён з людзей, якія добра размаўлялі на беларускай мове, але былі з МГБ. Затым яны забясьпечылі сябе беларускімі ўніформамі і ў адну ноч наведвалі вёскі, дзе паказаліся людзям. Тады ўсе колішнія партызаны прыйшлі і сказалі: “Я быў у беларускіх партызанах, што здарылася?”. Такім чынам за адну ноч у іх апынулася каля 30000* былых партызанаў”.

Гэта паклала канец надзеям, што хтосьці з нас мог бы вярнуцца дамоў некранутым. Калі польскім партызанам было загадана вярнуцца ў Польшу, пасьля таго, як здавалася, што савецка-амэрыканскае сяброўства было моцным, частка з нашых партызанскіх групаў пайшлі разам зь імі ў Польшчу. “Я пайшоў не ў гэты час”, — сказаў інфарматар.

Ён распавёў: “Прыблізна 20 з паловай тысяч чалавек пакінулі нас, але мы працягвалі сабатаж і рэквізыцыі, а саветы спрабавалі пазбаўляцца нас, прадаючы на чорным рынку ядавітую сываратку сыпнога тыфу (яны ведалі, што мы там купляем медыкаменты). Яны распаўсюджвалі яе ў лесе і бамбілі нас, акружаючы, але ніводны з нас ня здаўся. Мы ведалі, што літасьці для нас ня будзе.

Мы ўсё яшчэ кантактавалі з літоўскімі, польскімі (Нацыянальныя сілы збройныя) і ўкраінскімі партызанамі. Мы спрабавалі не настройваць супраць сябе мясцовае насельніцтва. Бралі зброю толькі ў савецкіх байцоў. Калі б яны ўзялі ў палон савецкага салдата і абяззброілі яго, то ён бы пабаяўся ўцякаць назад без сваёй зброі. Бо яму сказалі б саветы: “Нашто ты аддаў сваю зброю партызанам?”

У 1946 годзе мы ўсё яшчэ былі вельмі актыўныя. У беларускіх савецкіх газэтах было паведамленьне, што “плян па аднаўленьні калгасаў быў сарваны дзейнасьцю кулакоў і бандаў у лясах”.

Апошняя значная справа, у якой удзельнічаў інфарматар, мела месца ў 1946 годзе непадалёк ад Баранавічаў. Чорны кот камандаваў усёй аперацыяй. Яе мэтай быў захоп савецкага аэрадрома, дзе яны

*Лічба, відавочна, перабольшаная.

меркавалі наладзіць сувязь з людзьмі і зь іх дапамогай адляцець ў Англію. Але задумка не спрацавала. Партызаны былі перанятыя каля Баранавічаў, саветы пасьпелі выкарыстаць свае самалёты, каб адшукаць іх. Атрад мусіў вярнуцца ў лес.

У канцы 1946 году інфарматара паслалі ў Беласток на загад, згодна зь якім ён павінен быў наладзіць сувязь з палякамі. Разам з астатнімі ён насіў польскую ўніформу, падобную на форму польскага НКВД. Ён паказаў мне фотакартку з сваім афіцэрам, апранутым у яе.

Дзесьці восеньню 1946-га ён перайшоў у Польшчу; спачатку ваяваў супраць савецкіх войскаў і зьнік у лясах. Затым "перапісаў" сябе на паляка. Ён прыйшоў у польскую сям'ю, на сваёй благой польскай мове расказаў ім, што ён польскі партызан. Патлумачыў, што шмат часу пражыў з партызанамі, якія размаўлялі па-беларуску. Палякі паверылі яму і мясцовыя польскія ўлады выдалі фальшывыя дакумэнты. Там ён нейкі час працаваў у якасьці агента на НСЗ, паведамляючы, што адбывалася ў горадзе, але пасьля вырашыў зьбегчы [на Захад]. Тады яго затрымалі саветы і прыгаварылі да кароткачасовага зьняволеньня.

Заўвагі: малады чалавек вельмі хацеў, каб я зразумеў важнасьць і сілу беларускага партызанскага руху, таму што ён амаль адчынена беларускі нацыяналіст. І ён гаворыць, што рускія тут, у эміграцыі, вельмі моцна мінімізуюць беларускае нацыянальнае імкненьне да незалежнасьці. У адрозьненьне ад большасьці партызанаў, у якіх бралі інтэрвію, якія ўсе без выключэньня [падчас вайны] апынуліся ў руху Ўласава, гэты інфарматар, здаецца, няма ніякіх сумненьняў, быў у Расеі.* Ён заўсёды ведаў, на чыім баку быў. Зь яго справаздачы я веру ў тое, што ён сказаў, што ён заўсёды хацеў змагацца супраць рускіх і супраць немцаў.

*Гарвардскі праект сацыяльнай савецкай сыстэмы. Сьпіс B, том 4, скрыня 188 (апытаў H. D.) //*
*http://pds.lib.harvard.edu/pds/view/5433489?n=1&printThumbnails=no*

"БР" удзячная блогеру **burk001** за "наводку" на гэты цікавы і каштоўны дакумэнт.

*Савецкім Саюзе.

# “У ПРЫВАТНЫХ ДАМАХ ДЛЯ САЛДАТА НАВАТ НЕ АДЧЫНЯЮЦЬ ДЗЬВЕРЫ”

## ФРАНТАВЫ ДЗЁНЬНІК САВЕЦКАГА ВАЙСКОЎЦА 1943-1944 ГАДОЎ




*Беларусь, 1944 г.*

Гэты франтавы дзёньнік старшага сяржанта Яўгена Вінаградава, сапёра 5-й чыгуначнай брыгады Чырвонай Арміі, цікавы нам найперш апісаньнем падзеяў, што адбываліся ў Беларусі. Чырвонаармеец у 1943-1944 гадах прайшоў Беларусь ад Гомеля праз Палесьсе і Валынь да Берасьця. Ён апісвае ня столькі баявыя дзеяньні, колькі сваю працу сапёра, нейкія бытавыя рэчы, гарады і вёскі, праз якія праходзіў. Відаць, самае цікавае для нас — падарожжа Вінаградава ў лістападзе 1944-га з Берасьця ў Лунінец. Ён сьведчыць пра настроі людзей і іх адносіны да савецкіх вайскоўцаў, пра антысавецкі партызанскі рух і яго дзейнасьць (напрыклад, пра напад увосень 1944 г. на аэрадром у Лунінцы — факт дагэтуль невядомы).

Мы перадрукоўваем толькі вытрымкі з даволі вялікага дзёньніка ў перакладзе з расейскай.

**27 кастрычніка [1943-га].** Загад на Гомель. Марш да Верцееўкі.

[…]

**31 кастрычніка.** Папутнай машынай да Новабеліцы не даехалі 4 км. Ноч. Войскі. Казакі. Вогнішчы. Гомель гарыць…

**1 лістапада.** Капаем зямлянкі ў лесе, у 6 км ад Новабеліцы, каля цаглянога завода. На ўскраіне Новабеліцы — фронт, а праз раку Сож — Гомель. Немец б’е па Новабеліцы з мінамётаў, кулямётаў. У горадзе жыхароў мала.

**5 лістапада.** Жывем у зямлянках.

[…]

**27 лістапада.** З батальёна на аўтамашыне еду ў Гомель. Жахлівая




дарога, загразьлі ў балоце. Вырашылі з Глотавым ісьці пешшу ў Гомель. Блукалі па балотах. Ледзьве дайшлі да Пакалюбічаў. Начуем.

**28 лістапада.** Гомель. Усё узарванае, прыкладна як у Варонежы. Са станцыі пуці эвакуяваныя разам са шпаламі. Рэшта ўзарваная, шпалы парэзаныя… У горадзе некаторыя будынкі замініраваныя.

**29 лістапада.** Ст. Прудок. Перагон моцна ўзарваны, падарваныя масты, трубы. У Гомелі, у месцах, узятых мною на падазрэньне, знойдзеныя фугасы — 4 штукі па 250 кг.

**30 лістапада.** Начуем у вёсцы Копань. Бедная Беларусь. Няма хлеба, адна толькі бульба. Палёў мала — балота, балота. Буксуюць машыны, шафёры праклінаюць свой шафёрскі лёс. Хаты вялікія, дроваў шмат, але хаты халодныя. Хата — адзін вялізны пакой і печка. Дамы звонку і знутры падобныя адзін на другі.

**1 сьнежня.** Мост праз Дняпро. Мінныя калодзежы. Горад Рэчыца. Надвор’е цёплае, ідзе дождж. Брудна.

**2 сьнежня.** Рухаемся на Васілевічы. Сустракаем шмат партызанаў.

**3 сьнежня.** Сустрэлі групу чэхаславацкіх партызанаў. Станцыя Васілевічы. Жыхароў мала, пакуль яшчэ жывуць у лясах, бо фрыц бамбуе Васілевічы.

**4 сьнежня.** Рухаемся на Хойнікі. Прайшлі з працай 30 км. Мінаў няма.

**6 сьнежня.** Захварэў. Прастуда. Нашы ўсе сыйшлі назад у Васілевічы, а я застаўся…

[…]

**24 сьнежня.** У клубе быў суд. Судзілі дваіх паліцыянтаў за спальваньне вёсак, за зьдзекі і расстрэлы мірных жыхароў.

**25 сьнежня.** Працягваецца суд. Прысуд — сьмяротная кара праз павешаньне — публіка сустрэла апладысментамі. Праз гадзіну прысуд прывялі ў выкананьне. Павесілі іх у цэнтры вёскі, на перакрыжаваньні чатырох дарог.

[…]

**1944 год**

**13 студзеня.** Фронт зрушыўся. Едзем за ім. Сёньня ідуць баі за Калінкавічы. Спыніліся ў адной вёсцы. Няма ніводнага жыхара, няма ніводнай цэлай хаты. Падрамантавалі адну хату. Паўсюль ляжаць забітыя — фрыцы і нашы мірныя жыхары. Адзін хлопец забіты проста ў ложку.

**14 студзеня.** Калінкавічы. Ідзем з працай на Мазыр. Мост узарваны. Вялізны, 600 с лішкам метраў. У вёску ўвайшлі першыя. Жыхары адзін перад адным запрашаюць у хаты.

**17 студзеня.** […] Фронт стаіць на месцы.

**20 студзеня.** Працуем на аднаўленьні станцыі Калінкавічы.

[…]

**24 студзеня.** Загадана рухацца ў бок Жлобіна, на падмену тэхвыведцы. Едзем на аўтамашыне. Навокал зелянеюць палі, як вясной, сьнегу амаль няма. Цёпла, на дарогах лужыны, цякуць ручаі. Вясна зімой! Шмат пустых вёсак з разьбітымі хатамі, а месцы, дзе можна жыць, забітыя салдатамі. Спыніліся ў вёсцы Узнаш.

**26 студзеня.** Узятая станцыя Шацілкі. Мы прыйшлі на станцыю ў другой палове дня. Разміціраваў міннае поле… Начуем у нямецкіх бліндажах, бяз печак. Сёньня раніцай у раёне станцыі ўзарваліся 6 нямецкіх бліндажоў. Відавочна, яны былі замінаваныя мінамі МЗД-1. Загінула шмат. Правяраю бліндажы. Нічога падазронага. Усе будынкі станцыённага пасёлка разьбітыя, і начаваць, акрамя як у бліндажах, — няма дзе. За гэтую станцыю былі зацятыя баі.

**27 студзеня.** У раёне станцыі шмат нашых забітых. Я бачыў каля 100 чалавек. Станцыя ў сьнежні была нашая, але немец тады зрабіў наступ і ўзяў яе… Цяпер фронт адсюль у 2,5 км, па рацэ Беразіне. Чыгуначны мост узарваны.

**29 студзеня.** Немец робіць буйныя артылерыйскія налёты на станцыі, на мінамётныя батарэі, якія знаходзяцца наперадзе нас на 500 метраў… Вады не хапае, умываемся з лужын. Сьнегу таксама няма, увесь час ідзе дождж.


militaryphotos.net

[…]





**6 лютага.** …З раніцы на фронце ідзе бой… Атакуюць уласаўцы. Ідуць у атаку ва ўвесь рост і крычаць “ура”. Нашы падымаюцца ў штыхі, уласаўцы не вытрымліваюць, бягуць…

[…]

**2 сакавіка.** Становішча без пераменаў. Падходзіць вельмі шмат нашых войскаў. Загадана вярнуцца ў батальён. Падмяніла нас тэхвыведка трэцяй брыгады. Рухаемся назад да станцыі Шацілкі.

**3 сакавіка.** На аўтамашыне едзем у батальён. Калінкавічы. Мазыр. Наш батальён, уся Б-5 будуюць мост праз Прыпяць на драўляных слупах. 5 сакавіка мост будзе гатовы… Мост даўжынёй 760 метраў, горад Мазыр ад моста ў 4 км.

[…]

**6 сакавіка.** Атрыманы загад аб выезьдзе тэхвыведкі на новы ўчастак... Едзем на аўтамашынах на Оўруч…

[…]

**9 сакавіка.** У Алеўску…

**10 сакавіка.** Ад’ехалі ад Алеўска 5 кіламетраў, як зламалася “палутарка”. “ЗІС” давёў яе на буксіры да вёскі Снавідавіцкія Будкі… Гэта вёска былой Польшчы, насельніцтва — 99 працэнтаў палякі. Каля вёскі праходзіла мяжа. Там і цяпер на польскім баку стаіць вялізны крыж, а з нашага боку стаяла калісьці зорка.

Крыж і зорку паставілі з нагоды сьмерці Пілсудзкага. Насельніцтва тут з настроем 41-га году, хмурыя, нядобразычлівыя, стараюцца штонебудзь атрымаць ад салдата, а ня даць яму. Ад вайны яны мала пацярпелі, у кожнага добры дом, каровы, сьвіньні і іншае. Ім “вшыстка една” (усёроўна). У гэтай мясцовасьці існуюць банды “бандэраўцаў”, “бульбаўцаў”. Яны складаюцца з украінцаў, якія прыдумалі сабе мару мець сваю дзяржаву. З гэтай мэтай яны пры немцах і, відавочна, з іх згоды зьнішчалі мясцовых палякаў. Палілі вёскі, выразалі польскія і рускія сем’і, забівалі тайна і адкрыта. Напрыклад, у 43-м каля Ракітна “бульбаўцы” цалкам спалілі і выразалі тры польскіх вёскі. “Бульбаўцы”,

паводле расказаў, былі ў нямецкай форме. Польскія партызаны абаранялі свае вёскі. Цяпер “бульбаўцы” зьнішчаюць чырвонаармейцаў. Было шмат такіх выпадкаў. Бяз зброі і па адным хадзіць небясьпечна. У сутнасьці, гэта нацыяналісты 1941 году. Назва “бульбаўцы” — па імені Тараса Бульбы, па Гогалю. Хто іх кіраўнік? Паводле аповедаў, гэта Тарас Буравец (насамрэч, Баравец — **БР**) зь вёскі Быстрыца. Быў ён багаты селянін, купіў зямлю, на якой адчыніў каменаломню. За зямлю паабяцаў сялянам пабудаваць царкву, што, аднак, не зрабіў. З прыходам немцаў Буравец арганізаваў атрад па барацьбе з партызанамі. Яму гадоў 30.

**12 сакавіка.** Адрамантавалі машыну, выехалі. Дарога кепская. Ад’ехалі 7 км, зноў сапсаваўся матор. Вёска Осткі. Начуем. “Бульбаўцы” трымаюць пад тэрорам насельніцтва. Начаваць жыхары зьбіраюцца некалькімі сем’ямі ў адным доме. Уначы ў вёсцы дзяжураць мужчыны. У выпадку трывогі б’юць у рэйку. Шэсьць дзён таму ў гэтай вёсцы “бульбаўцы” выразалі сям’ю.

**20 сакавіка.** З працай не дайшлі да Ковеля некалькі кіламетраў. Ковель гарыць, штурмуюць нашы самалёты…

**23 сакавіка.** Ковель не здаецца. Зноў нашы ўчора перадалі ўльтыматум…

[…]

**16 траўня.** Здаў групу тэхвыведкі лейтэнанту Раскіну. Я прызначаны афіцэрам сувязі…

[…]

**13 чэрвеня.** Хутка на ўчастку, відавочна, пачнецца наступленьне нашых войскаў. Падкідваюць сілёнку — танкі, самаходныя гарматы. Немец паводзіць сябе спакойна. Надвор’е цёплае, сонечнае.

**17 чэрвеня.** Пачаў пісаць апавяданьне “Стальны шлях”. Атрымліваецца нібыта нічога сабе, нармальна для пачатку. На перадавой палююць снайперы нашай каманды. Забілі болей за дваццаць немцаў. Немцы паранілі дваіх нашых, аднаго лёгка ў руку, а Шалаева цяжка ў нogі. Наагул, на фронце ціха.

**22 чэрвеня.** Тры гады вайны! Цёплы дзень. Пішу апавяданьне. Ціха.

**25 чэрвеня.** На загад камбрыга снайпераў зьнялі з “паляваньня”. Забілі 34 немца.

[…]

**5 ліпеня.** Немец сам сыйшоў з Ковеля… З нашай тэхвыведкі бяз-




сьледна зьнік сяржант Сухарукаў. Дзе ён? Што зь ім?

**6 ліпеня.** Немца адцясьнілі далей, але ён б’е па горадзе, станцыі… Я яшчэ ня бачыў ніводнай грамадзянскай асобы. У горадзе няма жыхароў…

**7 ліпеня.** Немца цясьняць. Мы выйшлі з Ковеля на Берасьце. Шлях узарваны, масты разбураныя… Начуем у бліндажах, у спаленай вёсцы.

**10 ліпеня.** Стаім на месцы… У кожным бліндажы сюрпрызы, замінаваныя вагоны, платформы. Мініравана вельмі хітра, працавалі, відавочна, спэцыялісты.

[…]

**19 ліпеня.** Фрыцы адыйшлі. Мы ў Крымна. Мінныя палі. Жыхары сустракаюць вельмі цёпла… Шмат падрываецца людзей.

**20 ліпеня.** Вёска Мельнікі. Шлях на ўсёй працягласьці разбураны. У вёску ўвайшлі першымі.

**21 ліпеня.** Раніцай толькі выйшлі зь вёскі, ляцяць 6 нашых штурмавікоў. Яны пачалі пікіраваць на вёску, прабамбавалі рэактыўнымі бомбамі. Вёска загарэлася. Адбылася нейкая жудасная памылка! Ідзем далей…

[…]

**28 ліпеня.** Немец сыйшоў з Берасьця. Увечары прыйшлі ў горад. Станцыя і горад разбураныя і ад нашых бомбаў, і немцаў. Гараць на станцыі склады, вугаль. Жыхароў вельмі мала.

**29 ліпеня.** Ідзем на Владаву. Праходзім праз Берасьце. Горад патанае ў зеляніне. Прамыя, шырокія вуліцы. На адлегласьці 7-8 км вакол горада ідуць крэпасныя ўмацаваньні, пабудаваныя яшчэ пры [расейскім цары] Мікалаі II. Жалезабетонныя доты, траншэі, рвы, акопы. Вельмі моцная лінія. Цяпер зразумела, чаму нашыя войскі ня бралі Берасьце ў лоб, а абыйшлі з поўначы і поўдня, і немец сыйшоў з крэпасьці бяз бою.

[…]

**21 лістапада.** Увечары атрыманы загад абсьледаваць падрыхтаванасьць да пропуска веснавой вады каля штучных збудаваньняў на ўчастку чыгункі Берасьце — Лунінец, Баранавічы — Лунінец.

**22 лістапада.** Едзем двума машынамі. Холадна, сьнегу няма, вецер. Да вечара былі ў Берасьці. Жыхары неахвотна пускаюць начаваць.

**23 лістапада.** Разьбіліся на дзьве каманды. Адна пайшла з Берасьця на Лунінец (200 км). Я еду з другой камандай на Баранавічы. А 9-й гадзіне вечару апынуліся на месцы. Для начлегу камандант прапанаваў пакойчык. У прыватных дамах для салдата нават не адчыняюць дзьверы.

**24 лістапада.** Едзем на Лунінец… Прайшлі 25 км.

**25 лістапада.** Прайшлі 30 км… Цягнікам прыехалі туды [у Лунінец]. Начуем на вакзале.

**26 лістапада.** Лунінец моцна разьбіты, спалены. У лясах, на балотах шмат бандаў. Забіваюць савецкіх людзей. Нядаўна напалі на аэрадром, учора ўначы з чыгункі забралі з сабой дваіх пуцеабходчыкаў. Едзем на Берасьце праз Пінск.

У Берасьці. Дождж. Ноч. Гадзіны тры грукаліся ў дзьверы дамоў. Пераначаваць не пускаюць.

**27 лістапада.** У Берасьці. Апрацоўваем дакумэнты. Увечары хадзіў на канцэрт. Матросы Дняпроўскай флатыліі сьпявалі і танчылі — вельмі няблага.

*Друкуецца паводле наступнай публікацыі: Левченко А. Фронтовой дневник Виноградова // http://www.konkurs.senat.org/article/42.html*

# ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ ПРА ГІБЕЛЬ ПАД ДРАГІЧЫНАМ У ЛІСТАПАДЗЕ 1944 ГОДУ АДДЗЕЛА ВОЙСКАЎ НКВД

Зьмяшчаем дакладную запіску начальніка ўнутраных войскаў НКВД Беларускай акругі генэрал-маёра Кісялёва сакратару ЦК КП(б)Б Панамарэнку пра зьнішчаны "ляснымі братамі" аддзел энкавэдыстаў-памежнікаў. У рубрыцы "Кроніка" паведамляецца пра ўстаноўку ўлетку 2011-га беларускімі памежнікамі на месцы таго боя жалезнага крыжа.

УПРАЎЛЕНЬНЕ УНУТРАНЫХ ВОЙСКАЎ НКВД БЕЛАРУСКАЙ АКРУГІ

19 сьнежня 1944 г. № 1/00650 гор. Мінск

Зус[ім] сакрэтна
Ас[обнік] № 1

САКРАТАРУ ЦК КП/б/Б
Тав. ПАНАМАРЭНКА

Па сутнасьці данясеньня сакратара Дывінскага Райкаму КП/б/Б дакладваю:

1. Прыбылы ў маё апэратыўнае падначаленьне 220 памежны полк быў накіраваны для актывізацыі барацьбы з бандамі "УПА" ў паўднёвыя раёны Берасьцейскай вобласьці.

1 батальён гэтага палка павінен быў дыслакавацца:

Штаб батальёну — адна рэзервовая застава і дзьве лінейных заставы ПАВІЦЬЦЕ.

Тры лінейных заставы РАДОСТАЎ.

Тэрмін згрупаваньня і пачатак апэратыўнай працы быў прызначаны 16.11.44 г.

Камандзір 1/220 памежпалка маёр КАЛЯДЗЕНКА не выканаў загад, а прыбыўшы ў Павіцьце, трымаў на месцы гарнізон, не выслаўшы ніводнага падразьдзяленьня ў Радостаў.

2. 18.11.44 г. у 22.00 камандзіру 1 батальёну 220 памежпалка войскаў НКВД маёру КАЛЯДЗЕНКА ад аператыўнага ўпаўнаважанага аддзела УНКВД Берасьцейскай вобласьці па барацьбе з бандытызмам стала вядома, што банда "УПА" колькасьцю 200-250 бандытаў, зьдзейсьніла напад каля в. Гуровіца на шлюз № 5 /Белаазёрскі канал/ і сыйшла ў невядомым накірунку. Маёр КАЛЯДЗЕНКА, атрымаўшы гэтыя дадзеныя, ніякія захадаў да пошуку і перасьледу банды не зрабіў.

3. 19.11.44 г. у 12.00 знаходзячыся ў м. Дывін мне стала вядома пра напад банды на шлюз № 5 в. Гуровіца. Немарудзячы па атрыманьні дадзеных я выехаў у Павіцьце, дзе аддаў загад 1/220 памежпалка выступіць на вышук і ліквідацыю банды.

19.11.44 г. у 13.00 батальён колькасьцю 172 чал[авек] выступіў пад камандаваньнем маёра КАЛЯДЗЕНКА ў в. Гуровіца.

Прыбыўшы ў 16.00 19.11.44 г. у в. Гуровіца, пасьля ўдакладненьня дадзеных аб накірунку сыходу банды, маёр КАЛЯДЗЕНКА выступіў на перасьлед банды.

4. 20.11.44 г. быў затрыманы сувязны банды, які паведаміў пра магчымы накірунак руху банды на Сварынь. Батальён 21.11.44 г. выступіў, двума групамі, у дадзеным накірунку. Адну групу ачольваў маёр КАЛЯДЗЕНКА, а другую ст[аршы] лейтэнант ВАСІЛЬЧАНКА, якому ў якасьці праваднікa быў перададзены сувязны банды.

Групы, што выступілі [на пошук банды], павінны былі да зыходу дня 21.11.44 г. згрупавацца ў Сварынь /6060*/.

Не выявіўшы банды і не дачакаўшыся групы ст. лейтэнанта ВАСІЛЬЧАНКА, маёр КАЛЯДЗЕНКА са сваёй групай выступіў зь в. Сварынь і накіраваўся ў Радостаў.

Як высьветлена расьсьледаваньнем, ст. лейтэнант ВАСІЛЬЧАНКА на шляху перасоўваньня, атрымаўшы дадатковыя дадзеныя, што ў 5 км ад в. Вечышча /5070/ хаваецца банда колькасьцю 250 чал., самастойна зьмяніў маршрут і з групай колькасьцю 50 чал. выступіў у накірунку разьмяшчэньня банды — Вечышча.

Аб атрыманых дадзеных і прынятым рашэньні ст. лейтэнант ВАСІЛЬЧАНКА камандзіру батальёну не паведаміў.

22.11.44 г.у 14.00 у раёне Вечышча група ст. лейтэнанта ВАСІЛЬЧАНКА сутыкнулася з аховай банды і ўступіла ў бой, бандыты сталі адыходзіць да вышыні 144 /6080/.

Банда з вышыні 144 была выбітая і адыйшла ў накірунку асобных хутароў. Ст. лейтэнант ВАСІЛЬЧАНКА ў гэтым баю быў цяжка паранены.

Намесьнік камандзіра батальёну па выведцы лейтэнант ЗЛОБІН, які знаходзіўся ў складзе групы, не прыняў на сябе камандаваньне, а сыйшоў у распалажэньне батальёну для вышуку камандзіра батальёну.

Асабісты склад групы застаўся без кіраваньня. Скарыстаўшы боепрыпасы, адбіваючы атакі бандытаў, пераходзіў у рукапашныя сутычкі.

Ст. лейтэнант ВАСІЛЬЧАНКА застаўшыся адзін на полі бою застр-

---

*Гэтая і іншыя падобныя лічбы — умоўнае абазначэньне пэўных мясцовасьцяў на мапе.

эліўся /паколькі быў паранены ў абедзьве нагі/.

Бандыты пераканаўшыся ў малой колькасьці групы ст. лейтэнанта ВАСІЛЬЧАНКА сталі акружаць байцоў і зьнішчаць іх. Частка байцоў вырвалася з акружэньня і прыбыла ў 2.00 23.11.44 г. у батальён.

У выніку бою бандыты забілі са складу групы 29 чал., у тым ліку афіцэраў — 4, сяржантаў — 12, шэрагоўцаў — 13. Паранена — 3 чал.

Страты зброі: РК* — 1, аўтаматаў — 11, стрэльбаў — 15, рэвальвераў і пісталетаў — 4. На полі бою знойдзена 6 трупаў бандытаў, астатніх па паказаньнях мясцовых жыхароў бандыты зьвезьлі і пахавалі. Месца [пахаваньня] высьветліць няўдалося.

5.Пра гэтае сутыкненьне з бандай і нашыя страты на момант майго дакладу Вам, мне яшчэ не было вядома, а стала вядома толькі па прыбыцьці ў Ліду.

Арганізаваны, сіламі ман[еўранай] групы і 1/220 памежпалка, колькасьцю 349 чал., пошук банды на працягу 23.11.44 г. да 2.12.44 г. вынікаў ня даў, бо банда сыйшла ўглыб УССР.

6. Вінаватыя ў правале аперацыі прыцягваюцца да судовай адказнасьці. Сьледзтва па справе закончанае і знаходзіцца на разглядзе ў пракурора войскаў НКВД Беларускай акругі, вынікі паведамлю.

НАЧАЛЬНІК УНУТРАНЫХ ВОЙСКАЎ НКВД
БЕЛАРУСКАЙ АКРУГІ
ГЕНЭРАЛ – МАЁР /КІСЯЛЁЎ/

ЧВА** НАЧАЛЬНІКА ШТАБА АКРУГІ
ПАЛКОЎНІК /ЛЯВІЦКІ/

*НАРБ, ф. 4п, воп. 29, спр. 61, арк. 238-239. Машынапіс, арыгінал.*

---

*Ручны кулямёт.

** Часова выконваючы абавязкі.

УПРАВЛЕНИЕ ВНУТРЕННИХ ВОЙСК НКВД БЕЛОРУССКОГО ОКРУГА

"19" декабря 1944 г. № 1/00650 гор. Минск

Сов. секретно
экз. № 1

235

...649
...XII-44.
СЕКТАР

СЕКРЕТАРЮ ЦК КП/б/Б
Тов. ПОНОМАРЕНКО

По существу донесения секретаря Дывинского Райкома КП/б/Б докладываю:

1. Прибывший в мое оперативное подчинение 220 погранполк был направлен для активизации борьбы с бандами "УПА" в южные районы Брестской области.

1 батальон этого полка должен был дислоцироваться:

Штаб батальона-одна резервная застава и две линейных заставы ПОВИЦЕ.

Три линейных заставы РАДОСТУВ.

Срок сосредоточения и начало оперативной работы был назначен 16.11.44 г.

Командир 1/220 погранполка майор КОЛЯДЕНКО не выполнил приказ, а прибыв в Повице, держал на месте гарнизон, не выслав ни одного подразделения в Радостув.

2. 18.11.44 г. в 22.00 командиру 1 батальона 220 погранполка войск НКВД майору КОЛЯДЕНКО от оперуполномоченного отдела НКВД Брестской области по борьбе с бандитизмом стало известно, что банда "УПА" численностью 200-250 бандитов, совершила нападение в д. Гуровица на шлюз № 5/Белозерский канал/ и скрылась в неизвестном направлении. Майор КОЛЯДЕНКО, получив указанные данные никаких мер к поиску и преследованию банды не предпринял.

3. 19.11.44 г. в 12.00 будучи в м. Дывин мне стало известно о нападении банды на шлюз № 5 д. Гуровица. Немедленно по получении данных я выехал в Повице, где отдал приказ 1/220 погранполка выступить на розыск и ликвидацию банды.

19.11.44 г. в 13.00 батальон численностью 172 чел. выступил под командованием майора КОЛЯДЕНКО в д. Гуровица.

Прибыв в 16.00 19.11.44 г. в д. Гуровица, по уточнении данных о направлении ухода банды, майор КОЛЯДЕНКО выступил на преследование банды.

4. 20.11.44 г. был задержан связной банды, который указал возможное направление движения банды на Сварынь. Батальон 21.11.44 г. выступил, двумя группами, в данном направлении. Одну группу возглавлял майор КОЛЯДЕНКО, а вторую ст. лейтенант ВАСИЛЬЧЕНКО, которому в качестве проводника был придан захваченный связной банды.

Выступившие группы должны были к исходу дня 21.11.44 г. сосредоточиться в Сварынь/6060/.

Необнаружив банды и недождавшись группы ст. лейтенанта ВАСИЛЬЧЕНКО, майор КОЛЯДЕНКО со своей группой выступил из Сварынь и направился в Радостув.

НАЧАЛЬНИК ВНУТРЕННИХ ВОЙСК БЕЛОРУССКОГО ОКРУГА ГЕНЕРАЛ - МАЙОР /КИСЕЛЕВ/

...НАЧАЛЬНИКА ШТАБА ОКРУГА /ЛЕВИЦКИЙ/

...экз.

# АРХІЎ ГАЛОЎНАГА КІРАЎНІЦТВА ВАЙСКОВЫХ СПРАЎ БЦР*

## Справаздача дзейнасьці Беларускага Прапагандовага Аддзелу Сувязі ад 1-га да 15-га верасьня 1944 году

Па выдавецкай галіне БПАС "Вінэты"* ад часу да часу арганізаваньня Беларускага Аддзелу падрыхтаваны да друку наступныя брашуры:

1. "У змаганьні за Вольную Беларусь" /35 бал. машындруку/
2. "У барацьбе за Бацькаўшчыну" /Беларуская моладзь у супрацьлятарскіх дружынах СС — 5 балонак машындруку/
3. "Як бальшавікі рабавалі Беларусь" /10 бал. машындруку/
4. "2-гі Усебеларускі Кангрэс" — палк. К. Езавітаў.

Рыхтуюцца наступныя брашуры:

1. "Беларуская Краёвая Абарона" — піша лейт. Гуцька
2. "Беларускі работнік у Нямеччыне" — Тамашчык
3. "Узброенай рукой" /з гісторыі паўстаньня бел. збройн. сіл/ — Ільляшэвіч
4. "З іхнага раю" /Успаміны з жыцьця ў канц. лягерах СССР/ — Кіпель
5. "Аб прызнаньні за няважныя умоваў і пастановаў ураду СССР і былой Польшчы, якія датычаць Беларусі, яе тэрыторыі і народу" — М. Шкялёнак
6. "Аб канчальным разрыве Беларусі з бальшавіцкай Масквой і аб уневажненьні маскоўскага голасу у беларускіх справах" — А. Калубовіч
7. "Што такое нацыя і нацыянальны рух" — Кіпель
8. "Беларускі нацыянальны рух і немцы" — палк. К. Езавітаў
9. "Аб беларускай моладзі" — Ганько
10. "Беларуская Цэнтральная Рада і яе значаньне у беларускім палітычным жыцьці" — палк. К. Езавітаў

Падрыхтаваны да друку адозвы:

---

*Заканчэньне. Пачатак гл.: 2010, № 2(9), б. 87-104; 2011, № 1(10), б. 60-69.

1. ”Пратэст БЦР да усіх народаў сьвету у сувязі з акупацыяй Беларусі Саветамі”.
2. ”Усе на супроцьбальшавіцкі фронт” /Прамова Прэзыдэнта БЦР Р. Астроўскага да беларускіх работнікаў у Нямеччыне/
3. ”Браты беларусы” /Адозва Беларускага Камітэту у Швэдыі/

Рыхтуюцца да друку:

1. Адозва БЦР да беларусаў на Бацькаўшчыне з заклікам да змаганьня.
2. Адозва БЦР да моладзі на Бацькаўшчыне з заклікам да змаганьня з бальшавізмам.
3. Адозва да беларускіх партызанаў.

Рыхтуюцца праекты:

2-х плякатаў, пасьвечаных змаганьню беларускага народу.

Апрача гэтага перагледжаны 2 надасланыя манускрыпты — пераклад з расейскае мовы, прычым на адзін з іх — “Бальшавікі арганізатары …** і нэндзы” — адмоўлена ў згодзе на выданьне, як неадпаведнага матэрыялу для беларусаў. Другая пад назовам — “Справа № 18” — запіскі асабовага аддзелу” — да друку пацьверджана.

*НАРБ, ф. 383, в. 1, спр. 2, арк. 14. Машынапіс.*

***

**У Вайсковае Кіраўніцтва Беларускай Цэнтральнай Рады**

Ад Кахановіча Неаніла

Р а п а р т

Будучы ворагам савецкае улады, я з 22 ліпеня 1944 г.*** дабраахвотна пайшоў на службу у СД і служыў у якасьці начальніка палітычнага аддзелу у г. Віцебску. Калі Віцебск быў эвакуяваны, я з

*Прапагандысцкая арганізацыя ўсходняга аддзелу Міністэрства прапаганды Нямеччыны.

**Нечытэльна.

*** Памылковая дата, праўдзівая — 1941 альбо 1941-1943 гг.

СД пераехаў у мястэчка Бешанковічы каля Віцебску, дзе быў узяты у састаў СД як сьледчы, адначасова выконваў функцыі перакладчыка. У сувязі з летнім наступам бальшавікоў я са сваёй камандай адступіў на захад. У нашай Бешанковіцкай групе было 28 беларусаў. Частка па дарозе папала да чырвоных, частка была раненая або прапала бяз весткі, а частка дабралася да гораду Коўні. У Коўні нас сабралася больш за 60 чалавек, дзе мы на першай лініі абароны капалі акопы. Так было ад 4 да 30 ліпеня 1944 г.

30 ліпеня мы атрымалі загад ехаць у горад Зольдаў на рассартыровачны пункт. У Зольдаў я прыехаў з жонкай 7 жніўня і жыў там у гумне да 17 жніўня. З Зольдаў нас усіх павінны былі адправіць у аддзелы СС або Гэстапо. Некаторая частка была такім чынам адпраўленая, а ўсіх тых, якія ня былі адпраўленыя 17 жніўня, забралі па загаду прыехаўшага обэрштурмфюрэра СС і павезьлі ў Лябізаў. Калі мы ад’яжджалі, дык нам сказалі, што мы едзем у аддзелы СС і што сем’і будуць належным чынам пераведзеныя да нас, у г. Лябізаў. Але па прыезьдзе ў г. Лябізаў нас усіх перапранулі у форму авіяцыі і сказалі, што мы цяпер салдаты нямецкага войска. Із Лябізаў нас перавезьлі у г. Стральсунд. Там мы некалькі разоў пыталіся пра нашыя сем’і, але нам абяцалі, што калі даедзем для канчатковага прызначэня, там даведаемся.

У Стральсундзе я, як хворы, быў адпраўлены у шпіталь на апэрацыю. Калі я выйшаў са шпіталю, дык наша група 43 чал. была ужо у г. Веймары і я паехаў таксама туды. Адпачынак, які мне належаў пасьля хваробы, я не атрымаў. Яго абяцалі даць, калі даеду на месца. Так я езьдзіў жнівень і верасень месяцы. Стральсунд — Веймар — Баіроут — Гэрцогэнаўраг і толькі у апошнім я атрымаў адпачынак з 14 па 29 кастрычніка.

Усіх нас, беларусаў, было 114 чалавек, але нас разьбілі на малыя аддзелы пры аэрадромах. Я знаходзіўся з 24 чал. у г. Гэрцогэнаўраг. Сярод хлопцаў у нас былі і афіцэры, падафіцэры і цывільныя, якія працавалі ў цывільных установах. Так, напрыклад, ёсьць бургомістар Крупскага раёну сп. Баркоўскі, лейтэнант беларускіх аддзелаў СС Аркадзь Качан і я, меўшы чын цугфюрэра* (вайсковага чыну я ня меў, бо ня служыў у войску, але, дзякуючы займаемай пасадзе — начальніка палітычнага аддзелу г. Віцебску, і адукацыі — скончыў Пэдагагічны інстытут — мне гэты чын прысвоілі). З усёй колькасьці мы ніхто амаль не знаем, дзе сем’і, бо пакінулі іх 17 жніўня ў Зольдаў, другая частка у Кенігзбэргу, і пра іх так і па сяньня нічога невядома.

Я прашу Вайсковае кіраўніцтва Беларускае Цэнтральнае Рады

*Лейтэнанта.

перавесьці мяне і другіх таварышоў у распараджэньне Беларускай Цэнтральнай Рады.

16.10.44, Бэрлін / — / Неаніл Кахановіч

*НАРБ, ф. 383, в. 1, спр. 2, арк. 18, 19. Машынапіс, у арыгінале — лацінка. Зьверху дакумэнта пазнакі алоўкам: “Спадару Прэзыдэнту БЦР” і “Што зроблена?”.*

***

**Жыцьцяпіс [Барыса Данілюка*]**

Нарадзіўся я 5-га красавіка (23.3.ст. ст.) 1923 году, у сяле Старыя-Дзявяткавічы, тае самае воласьці, Слонімскага павету. Бацька мой, быў у той час праваслаўным сьвятаром у вышэй успомненай мяйсцовасьці.

Дашкольныя гады свайго дзяцінства правёў у Ст.-Дзявяткавічах, Наваельні (Наваградзкае акр.) і Шчары (Дзярэчынскага павету), куды чаргова перакідаўся мой бацька ў сувязі з сваімі зайняткамі.

Пачаткавую польскую школу пачаў наведваць у 1930 годзе ў Шчары[,] дзе і скончыў два аддзелы.

Затым нашая сям’я пераехала ў в. Парэчча, Слонімскага павету. Тут, а пасьля ў Слоніме я вучыўся далей.

У 1935 годзе, скончыўшы 6 клясаў пачатковае школы, я здаў экзамен у 1-ю клясу польскае рэфармаванае гімназіі.

Ад гэтае пары, аж да канца 1937-38 школьнага году я наведваў 1,2 і 3-ю клясу пайменаванае навучальнае ўстановы. Там, па гімназіяльнай лаве, маральна прыгнечаны прасьледваньнем майго бацькі з боку польскіх уладаў за навучаньне ў вясковых школах рэлігіі ў роднай мове і “зьнявагу польскага народу”, ды прачытаўшы выпадкова колькі знойдзеных у сямейных паперах беларускіх кніжок і часапісаў, нацыянальна асьведаміўся.

У гэтым часе мой бацька загадам ваяводзтва, на працягу шасьці месяцаў, быў перакінуты ў Заблудава, Крывошын[,] а пасьля ў Гавенавічы, Слонімскага павету.

---

*Барыс Данілюк (1923 — 2011) — беларускі грамадзкі і рэлігійны дзеяч у ЗША. Яго ўспаміны, прысьвечаныя арганізацыі ў Слоніме ў 1943 годзе 48-га беларускага паліцыйнага батальёна, друкаваліся ў мінулым нумары “БР. На вокладцы гэтага нумару часопіса зьмешчаны здымак Б. Данілюка — слонімскія самаахоўцы і мясцовыя дзеячы на магілах загінулых жаўнераў.

Працягваць навуку ў гімназіі, з увагі на цяжкое матэрыяльнае становішча, у якое лучылі тады мае бацькі, стала немагчыма. Дзеля гэтага я пакінуў гімназію і з пачаткам 1938-39 нав. году ўступіў на 2-гі курс тэхнічнае школы ў Баранавічах, з надзеяй стаць незадоўга адумыслоўцам і зрабіцца самастойным.

Аднак выбух вайны ў 1939 годзе зруйнаваў мае спадзяваньні. Распад Польшчы і зайняцьце Зах. Беларусі бальшавікамі, апрача новых матэрыяльных стратаў ад раскулачваньня, рабунку і арыштаў, скіравалі маё жыцьцё на іншыя шляхі.

У пачатку 1940 году тэхнічная школа была зьліквідаваная і я з 3-га курсу яе перайшоў у 9-ю клясу Беларускае Сярэдняе Школы ў Баранавічах.

Адылі і тут мне не давялося доўга прабыць. Устрывожаны хваля[й] арыштаў і вывазаў[,] а таксама лістамі бацькоў, я пакінуў у сакавіку 1940 году школу і пераехаў да іх.

Часы бальшавіцкае акупацыі пражыў у в. Сурынка, Слонімскага павету, працуючы на загоне собскае зямлі.

Пасьля прыходу ў наш край нямецкіх войскаў, я скончыў 4-х тыднёвыя курсы нямецкае мовы (1.-30.9.1941) і з пачаткам арганізацыі беларускага школьніцтва быў прызначаны настаўнікам беларускае і нямецкае моваў у Глоўсевіцкую Народную Школу[,] а адтуль 15.10.41 пакліканы на становішча сакратара ў паветавы школьны інспэктарат, які незадоўга быў ператвораны ў акруговы. Да 10.1.42 я працаваў на гэтым становішчы, а затым перайшоў у БНС, дзе займаў аж да 30.6.1942 становішча заступніка старшыні паветавага камітэту. Ад 1.7.1942 заступіў на мейсцы сакратара Акруговага Кіраўніцтва БНС у Слоніме, зьяўляючыся адначасова сябрам Акруговае Рады БНС. Падчас арганізацыі дзейнасьці Беларускае Самааховы быў лучнікам паміж Акруговым і Галоўным Камандаваньнем БСА".

*НАРБ, ф. 383, воп. 1, спр. 2, арк. 110. Машынапіс, лацінка. Заканчэньне жыцьцяпісу адсутнічае.*

# ВЫТРЫМКА З ДАКЛАДНОЙ ЗАПІСКІ АБ ВЫНІКАХ ДЗЕЙНАСЬЦІ ЎНУТРАНЫХ ВОЙСКАЎ НКВД БЕЛАРУСКАЙ АКРУГІ ПА ЗАБЕСЬПЯЧЭНЬНІ МЕРАПРЫЕМСТВАЎ, ЗЬВЯЗАНЫХ З ПАДРЫХТОЎКАЙ ДА ВЫБАРАЎ У ВЯРХОЎНЫ САВЕТ СССР. ЗА ПЕРЫЯД З 25.12.45 Г. ДА 12.2.46 Г.

Паводле зьвестак ворганаў НКВД БССР, на тэрыторыі 6 заходніх абласьцей БССР знаходзілася на ўліку 22 банды агульнай колькасьцю 188 бандытаў і 9 антысавецкіх падпольных арганізацый “АК” агульнай колькасьцю /прыблізна/ — 538 удзельнікаў.

Па дадзеных, якія маюцца ад ворганаў НКВД, бандфармаваньні і антысавецкае падпольле праводзілі сярод насельніцтва заходніх абласьцей БССР — палякаў і беларусаў-каталікаў актыўную працу, накіраваную на зрыў падрыхтоўкі і саміх выбараў у Вярхоўны Савет СССР.

У арыентыроўцы № 11/116 ад 1.1.46 году НКВД БССР зьвярталася ўвага, што:

“З боку контррэвалюцыйных, нацыяналістычных і варожых элементаў, асабліва ў заходніх абласьцях рэспублікі, адзначаныя факты актыўных праяўленьняў супраць выбараў у наступных формах:

а) Напады бандгрупаў на выбарчыя ўчасткі.

б) Напады і пагрозы з боку бандыцкіх і крымінальных элементаў на членаў участковых выбарчых камісій.

в) Падпалы выбарчых участкаў.

г) Вывешваньне лістовак к[онтр]р[эвалюцыйнага] зьместу на выбарчых участках, а таксама напісаньне к[онтр]р[эвалюцыйных] надпісаў на выбарчых участках.

д) Хуліганскія праявы ў месцах збору выбарцаў па вывучэньні “Палажэньня аб выбарах”, а таксама для іншых мерапрыемстваў, у выніку якіх мелі месца факты зрыву гэтых мерапрыемстваў.

е) Правядзеньне актыўнай к[онтр]р[эвалюцыйнай] агітацыі і распаўсюд усемагчымых правакацыйных выдумак, накіраваных супраць выбараў”.

Ва ўсіх арыентыроўках і ўказаньнях ворганаў НКВД БССР указвалася, што актывізацыя дзеяньняў антысавецкага падпольля стварае ў заходніх абласьцях рэспублікі складаную аператыўную сітуацыю для працы партыйна-савецкіх ворганаў і што дзейнасьць варожых элементаў можа, у вядомай ступені, адбіцца на хадзе і выніках вы-

бараў у Вярхоўны Савет СССР.

За справаздачны перыяд войскамі акругі ліквідавана 14 дробных /у кожнай ад 2 да 19 удзельнікаў/ пляцовак [маюцца на ўвазе структуры постакаўскіх польскіх фармацый — **БР**] і мясцовых бандфармаваньняў агульнай колькасьцю — 137 удзельнікаў, пры ліквідацыі гэтых груп войскі мелі толькі 2 баявых сутыкненьня.

Ва ўсіх астатніх выпадках асобныя ўдзельнікі пляцовак і бандгрупаў захопліваліся, па дадзеных ворганаў НКВД і НКГБ, нашымі войскамі ў населеных пунктах, а пасьля высьвятлялася іх датычнасьць да тых ці іншых бандфармаваньняў.

У выніку працы войскаў, па канкрэтных дадзеных ворганаў НКВД, НКГБ, было захоплена 370 удзельнікаў антысавецкага падпольля і іншага варожага элементу, які знаходзіцца на аператыўным уліку ворганаў, значная частка якіх нярэдка вызвалялася праз адсутнасьць дастаткова сур’ёзных дадзеных.

За гэты ж час забрана зброі:
мінамётаў — 1,
ручных кулямётаў — 7,
стрэльбаў — 63,
аўтаматаў — 14,
карабінаў — 2,
абрэзаў — 5
і пісталетаў — 20.

Вартая ўвагі наступная дэталь, што з 507 затрыманых войскамі бандытаў, удзельнікаў антысавецкага падпольля і іншага варожага элементу 373 чал. затрымана падразьдзяленьнямі 34 мсп /Гарадзенская вобласьць/ і 95 падразьдзяленьнямі 262 сп /Маладзечанская вобласьць/, а часткі 7сд /284 і 265 сп/, якія дыслакуюцца ў Баранавіцкай, Пінскай і Берасьцейскай абласьцях, затрымалі толькі 39 чалавек.

Распаўсюд бандытызму і вынікі барацьбы войскаў з усялякімі бандпраяўленьнямі можна ілюстраваць наступнымі паказчыкамі аператыўна-баявой і службовай дзейнасьці 12 сп 7 сд, які знаходзіцца на тэрыторыі Тэрнопальскай вобласьці УССР.

Гэтым палком з 1.12.45 г. да 10.2.46 г. зьнішчана бандытаў — 119, затрымана — 497, бандпасобнікаў — 302, забраная зброя: стрэльбаў — 95, аўтаматаў — 51, пісталетаў — 32, г. зн. вынікі працы 12 сп па барацьбе з бандытызмам амаль роўныя вынікам працы ўсіх унутраных войскаў НКВД Беларускай акругі за гэты ж перыяд.

Неабходна таксама параўнаць вынікі дзеяньняў нашых войскаў на той жа тэрыторыі заходніх абласьцей БССР у студзені 1945 году, дзе падчас праведзеных 188 чэкісцка-вайсковых аперацый /зь іх 182 станоўчых/ было ліквідавана 35 бандгруп агульнай колькасьцю 599 бандытаў, зь якіх пры баявых сутыкненьнях забітыя — 288 бандытаў, акрамя таго затрыманыя бандыты-адзінцы — 484, бандпасобнікі — 292.

Прыведзеныя параўнаньні з усёй переканаўчасьцю пацьвярджаюць рэзкія зьмены ў апэратыўнай сітуацыі ў раёнах заходніх абласьцей БССР, якія адбыліся апошнім часам.

Значная частка затрачанага войскамі часу на аператыўна-баявую дзейнасьць у справаздачным перыядзе не дала вынікаў, так напрыклад:

За гэты час войскамі акругі, паводле дадзеных органаў НКВД і НКГБ, быў высланы 121 вайскавы атрад з агульнай затратай 743 дня, г. зн. у сярэднім кожны вайсковы атрад дзейнічаў па 6 дзён, з гэтага ліку 32 вайсковых атрада, што затрацілі 377 дзён /г. зн. 50% усяго часу/, не далі станоўчых вынікаў, паколькі аператыўныя дадзеныя органаў НКВД і НКГБ, на падставе якіх высылаліся і дзейнічалі вайсковыя атрады, не пацьвердзіліся ці па часе іх атрыманьня войскамі гублялі аператыўную каштоўнасьць для войскаў.

За справаздачны перыяд у раёнах дыслакацыі падразьдзяленьняў ўнутраных войскаў НКВД Беларускай акругі было адзначана 4 выпадкі нападаў на памяшканьні выбарчых участкаў і 4 выпадкі вывешваньня лістовак к[онтр]р[эвалюцыйнага] зьместу.

Выпадкаў нападаў на кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР, прадстаўнікоў савецкіх і партыйных органаў, агітатараў, што праводзілі працу сярод мясцовага мірнага насельніцтва, не адзначана.

У дзень выбараў у Вярхоўны Савет СССР у раёнах заходніх абласьцей рэспублікі з боку антысавецкага падпольля і бандфармаваньняў не было адзначана ніводнага выпадку тэрарыстычных актаў, дывэрсій і іншых відаў бандпраяўленьняў.

Доказам таму, што антысавецкае падпольле і бандфармаваньні ў выніку нанесеных сур'ёзных чэкісцка-вайсковых удараў на працягу 1944-1945 гг. ня маюць ужо нейкай рэальнай базы і ня могуць сур'ёзна ўплываць на насельніцтва заходніх абласьцей БССР і сярод яго мець глыбокія карані і падтрымку, служаць вынікі выбараў у Вярхоўны Савет СССР на тэрыторыі заходніх абласьцей БССР, дзе 99,8% выбарцаў прынялі актыўны ўдзел у выбарах у вярхоўныя органы ўлады Саюза ССР.

За кандыдатаў блёка камуністаў і беспартыйных галасавалі:

па Гарадзенскай вобласьці — 99,2%
па Маладзечанскай вобласьці — 99,1%
па Полацкай вобласьці — 99,2%
па Пінскай вобласьці — 99,6%
па Баранавіцкай вобласьці — 99,76%
па Палескай вобласьці — 99,7%
па Берасьцейскай вобласьці — 99,5%
па Мінскай вобласьці — 99,35%

Разгорнутая Кракаўскім падпольлем праца па правядзеньні запісу на выезд у Польшчу беларусаў-каталікаў таксама ня мела

посьпеху, прыкладам гэтаму зьяўляецца яўка ў Мядзельскім раёне Маладзечанскай вобласьці — 300 чал., у Радашковіцкім раёне — 68 чал. Арганізавана да выбарчых участкаў асобаў, якія запісаліся на выезд у Польшчу, са сьцягамі і просьбай дазволіць ім галасаваць за кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР.

Высновы:

...2. З моманту вызваленьня часткамі ЧА заходніх абласьцей БССР войскамі акругі зроблена вялізная праца па ачыстцы гэтых абласьцей ад варожага і злачыннага элементу.

З 1.7.44 году да 1.1.46 году ліквідавана бандаў — 406 агульнай колькасьцю 5.478 бандытаў, зь іх забіта — 1.754, захоплена — 3.724 бандыты.

Такім чынам, бандфармаваньні пераважна разгромленыя, а антысавецкаму падпольлю нанесеныя сур'ёзныя страты, і яны ўжо ня маюць дастатковай базы і ня могуць неяк сур'ёзна ўплываць альбо супрацьдзейнічаць хадзе палітыка-гаспадарчага аднаўленьня і працы партыйна-савецкіх органаў у заходніх абласьцях рэспублікі, што знайшло сваё пацьверджаньне ў выбарах у вярхоўныя органы ўлады СССР — адзінадушным удзелам насельніцтва заходніх абласьцей рэспублікі і аддачай сваіх галасоў за кандыдатаў блёку камуністаў і беспартыйных.

3. У цяперашні час дастаткова сур'ёзнай і вартай увагі войскаў базы бандфармаваньняў для выкарыстаньня войскаў у вялікіх маштабах у сувязі з палітычнымі зьменамі, што адбыліся ў заходніх абласьцях БССР — няма.

4. Вынікі аператыўна-баявой дзейнасьці войскаў паказваюць, што з 6 палкоў акругі толькі 2 — 34 мсп і 262 сп 10 сд маюць больш ці менш значныя вынікі. Астатнія палкі — 284, 265 сп 7 сд маюць вельмі нізкія вынікі, і сама аператыўная сітуацыя ў раёнах іх дзеяньня не дае падставаў сьцьвярджаць, што можна было б дамагчыся лепшых вынікаў.

5. Праца, якую праводзяць нашыя войскі па заданьнях органаў НКВД і НКГБ, можа праводзіцца з посьпехам сіламі аператыўнага складу органаў ці войскаў, але ў значна меншай колькасьці прыцягненьня войскаў, чым гэта было да цяперашняга часу.

Начальнік унутраных войскаў НКВД Беларускай акругі генэрал-лейтэнант **Марчанкоў**

*Расійскі дзяржаўны вайсковы архіў, ф. 38650, воп. 1, спр. 148, арк. 1-7; Перадрукоўваецца ў перакладзе на беларускую мову паводле публікацыі на расейскім інтэрнэт-рэсурсе: http://srpo.ru/forum/index.php?topic=134.210;wap2*

# ЗНОЎ ПРА НАВАГРАДЗКУЮ АПЭРАЦЫЮ 1948 ГОДУ

“БР” неаднаразова зьвяртаўся да апэрацыі атрадаў “Чорнага Ката” ў Наваградку **29 сакавіка 1948 году.** Зь вядомых нам крыніц найбольш падрабязна яна апісаная ў кнізе *“Белорусские буржуазные националисты. Учебник”*.* Менавіта з гэтага выданьня ўзяў цытату ў сваю публікацыю Лявон Мазур**, аднак, як высьвятляецца, падаў яе не зусім дакладна. Каб выправіць тыя некалькі памылак ды выконваючы просьбу нашых чытачоў напісаць больш падрабязна, зьмяшчаем тэкст з кнігі, прысьвечаны падзеям у Наваградку.

“…арганізацыя аперацый па абязшкоджваньню бандаў беларускіх нацыяналістаў ускладалася на МГБ БССР, якое каардынавала дзейнасьць абласных Упраўленьняў. Для зьдзяйсьненьня маштабных аперацый прыцягваліся рэгулярныя вайсковыя фармаваньні МГБ, зьведзеныя ў спэцыяльныя батальёны.

Асноўнай задачай зводных спэцбатальёнаў МГБ зьяўлялася ўзмацненьне аператыўна-сьледчай працы на месцах, фільтрацыйныя мерапрыемствы і ліквідацыя ўзброеных бандфармаваньняў. Як паказала практыка, падобная тактыка сумяшчэньня агентурнай працы і аператыўных мерапрыемстваў дала добры вынік. Аднак недастатковая прапрацоўка аператыўнага пляну, ацэнкі мясцовай сытуацыі і недаацэнка праціўніка часам прыводзілі і да сумных наступстваў.

Як мы пісалі раней, у 1947 г. у раённым цэнтры Беларускай ССР г. Наваградак была раскрытая падпольная арганізацыя беларускіх нацыяналістаў “Саюз вызваленьня Беларусі”, аднак наступныя апэратыўныя мерапрыемствы выявілі, што ліквідаваная толькі частка шырокай падпольна-дывэрсійнай сеткі беларускіх нацыяналістаў у дадзеным раёне. Паколькі замежная агентура давала дадзеныя пра цесную сувязь дзейнасьці беларускага нацыяналістычнага падпольля ў Наваградку з арганізацыяй М. Вітушкі “Чорны Кот”, было вырашана накіраваць у раён спэцбатальён МГБ, узмоцнены аператыўнымі супрацоўнікамі галоўнага ўпраўленьня МГБ БССР і пад непасрэдным кіраўніцтвам супрацоўнікаў аператыўнай групы МГБ СССР.

---

*Белорусские буржуазные националисты. Учебник. — Москва: Высшая школа КГБ СССР, 1957, б. 152-154.

**Мазур Л. Выданьні МГБ і КГБ СССР сьведчаць пра беларускі антысавецкі супраціў // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 1(6), б. 21, 22. У працяг тэмы друкаваўся дакумэнт з украінскага архіву: У справе спрэчак вакол наваградзкай акцыі 1948 году // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 2(7), б. 86-92.

У пачатку сакавіка 1948 г. батальён прыбыў на месца дысьлякацыі ў беларускі горад Наваградак і пачаў апэратыўныя мерапрыемствы.

Ужо з першых дзён сваёй дзейнасьці апэратыўнікі выявілі больш за 20 чалавек, якія мелі дачыненьне да нацыяналістычнага падпольля ў г. Наваградак і бліжэйшых вёсках.

Для далейшай распрацоўкі беларускіх нацыяналістаў і выяўленьня лягероў узброеных бандытаў зь ліку арыштаваных быў завербаваны агент “Капуста”. Аднак пры гэтым не было ўлічана, што агент, завербаваны з серадовішча беларускіх нацыяналістаў звычайна працуе шчыра толькі ў тым выпадку, калі ён адкрыта распавёў пра свае злачынныя справы, выдаў сваіх супольнікаў і іншых вядомых яму ўдзельнікаў нацыяналістычнага падпольля і ўзброеных бандаў, і такім чынам адрэзаў сабе шлях да ранейшай антысавецкай дзейнасьці. У адваротным выпадку, ён можа праз свае антысавецкія нацыяналістычныя перакананьні стаць на шлях двайной гульні, здрады.

Менавіта так адбылося з агентам “Капуста”, які пасьля закідкі ў банду перайшоў на бок бандытаў і выдаў даручанае яму заданьне.

Да 25 сакавіка стала вядома, што ў лясах пад Наваградкам заўважаная канцэнтрацыя ўзброеных бандытаў, а цэнтар радыёпеленгацыі ў Менску паведаміў аб актывізацыі працы некалькіх варожых радыёстанцый у дадзеным раёне. Кіраўнікі аперацыі ў Маскве і Менску прапанавалі камандаваньню спэцбатальёну перайсьці на ўзмоцнены рэжым нясеньня службы, а афіцэрам — на казарменнае становішча. Было прапанавана і ўзмацненьне спэцбатальёну армейскімі часткамі.

Кіраўніцтва спэцбатальёну праігнаравала прапанаваныя кіраўніцтвам [меры], спасылаючыся на вялікі баявы досьвед сваіх афіцэраў і салдат, блізкасьць дысьлякацыі вайсковых частак і няздольнасьць бандытаў сплянаваць і зьдзейсьніць масштабныя апэрацыі.

Аднак не было ўлічана, што добрая падрыхтоўка і веданьне мясцовасьці дазваляла бандытам “Чорнага Ката” зьдзяйсьняць даволі рызыкоўныя дывэрсійныя апэрацыі.

Менавіта адной з такіх найбольш паказальных — і зьяўляецца начны налёт на беларускі горад Наваградак 29 сакавіка 1948 г. Выкарыстоўваючы цемру, бандыты невялікімі групамі пранікліі ў горад і напалі на ізалятар часовага ўтрыманьня МГБ, а таксама закідалі гранатамі некалькі дамоў, у якіх кватэравалі афіцэры МГБ. Нарад спэцбатальёну МГБ, які нёс варту, меў адчувальныя страты, а шэраг афіцэраў батальёну былі забітыя. Не прыняўшы бою з паднятым па трывозе батальёнам МГБ, бандыты адступілі ў лес.

*Белорусские буржуазные националисты. Учебник. — Москва: Высшая школа КГБ СССР, 1957, б. 152-154.*

# КАМБАТАНТ: БАЙЦЫ ХАРЭЎСКАГА НАШЫВАЛІ НА ВОПРАТКУ БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫЯ СЬЦЯЖКІ




Гэтае інтэрвію з беларускім камбатантам было запісанае ў траўні 2008 году ў Варшаве. У гэтым нумары “БР” публікуецца яго частка, прысьвечаная найперш падзеям 1941 году на Палесьсі. Сярод іншых згадваюцца атаман Якуб Харэўскі, Усевалад Родзька, Міхал Вітушка.

Беларускі камбатант, у той час яшчэ малады хлопец, але які ўжо меў баявы досьвед, у ліпені 1941 г. быў пасланы на Палесьсе для ўзяцьця пад кантроль стыхійных збройных груп, што ўзьніклі ў многіх мясцовасьцях. Такое заданьне ён атрымаў ад Усевалада Родзькі і яно, відавочна, было ўзгодненае з абвэрам.

Прозьвішча камбатанта не называецца. На жаль, кантакт зь ім абарваўся і мы ня маем інфармацыі, ці жывы ён на сёньняшні дзень.

**— Вам давялося бачыць атамана Харэўскага летам 1941-га на Палесьсі?**

— Бачыў яго ў 1941-м некалькі разоў на нарадах. Ён невядома чаго дамагаўся. Нібыта, і супраць бальшавікоў, але і супраць немцаў. Я яго добра не памятаю…

**— Нарады на Палесьсі летам 1941 году праходзілі ў розных месцах?**

— Так, у розных месцах нарады былі. Першыя — у Пінску, потым нашыя езьдзілі ў Роўна на пахаваньне ахвяраў бальшавіцкіх.

**— Вядомае фота 1941 году, на якім беларускія самаахоўцы знаходзяцца ў каравульным памяшканьні. На сьцяне вісіць нямецкі сьцяг са свастыкай…***

---

*Ёсьць версія, што на гэтым здымку быў зарэтушаваны бела-чырвона-белы сьцяг, які вісеў на сьцяне зьлева.



— Фота гэта нямецкае, нават зь нейкага фільма [прапагандысцкага]. Таму і сьцяг нямецкі. Былі розныя сьцягі на Палесьсі: такія, нашыя і ўкраінскі таксама быў, толькі не такі, як цяпер — жоўтая паласа была зьверху.

**— Падчас "палескай апэрацыі" вы ў нямецкай форме былі?**

— Так, у нямецкай. Адмысловай формы тады ў беларусаў не было. Звычайная нямецкая форма.

**— Ну а байцы вашы былі ў цывільнай вопратцы ці ў савецкай уніформе?**

— У розным. У цывільным, у савецкай, але павязкі са свастыкай апраналі, каб немцы не застрэлілі памылкова. Харэўскага байцы нашывалі нашыя сімвалы, яны мелі [іх] з 1939-га.

**— А што менавіта нашывалі байцы Харэўскага?**

— У Харэўскага былі пятліцы як сьцяжкі, "Пагоні" [чаплялі] на шапкі, яны фабрычныя былі, белыя ў чырвоным полі. Пэўна, рыхтаваліся ў 1939-м.

**— Хлопцаў шмат было ў Харэўскага?**

— Чалавек 50-70 было ад пачатку, потым — больш. Яны ўсе свае, [мясцовыя]. Тады як вагонь паняслося. Я пачынаў са зьвязу, скончаў батальёнам.

**— Нацыянальная беларуская сьведамасьць байцоў вашага аддзелу была высокая?**

—У тых, што з 1940-га [праходзілі падрыхтоўку ў школах абвэра] — высокая. Яны спадзяваліся на сваю дзяржаву, без палякаў і бальшавікоў. Нават плян быў, такі самы, як і ва ўкраінцаў [абвесьціць незалежнасьць Беларусі]. Але палітыкі жадалі ўсё зрабіць у Менску*, а ён на кірунку галоўнага ўдару. Адразу поўны горад немцаў…

**— А які статус быў у Харэўскага, калі ён зьяўляўся на канфэрэнцыі ў Пінску летам 1941-га? У вас, у Родзькі, напэўна, былі дакумэнты абвэра ці іншыя, а што меў ён? Немцы ж дакумэнты ў горадзе правяралі? І наогул, што сабой уяўляў Пінск летам 1941-га? Якія там установы працавалі? Якія аддзелы былі?**

---

*Пытаньне існаваньня плянаў абвяшчэньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі летам 1941 году патрабуе асобнага дасьледаваньня.

— Харэўскі быў адным зь камандзёраў беларускіх партызанаў. Родзька і я мелі нямецкія дакумэнты. Немцаў на той момант [у Пінску] было вельмі мала. Ды і на апэрацыю яны практычна далі згоду. У Пінску была камэндатура, працавалі шпіталі.

**— Чыста беларускія ўстановы былі?**

— Нейкі цывільны магістрат быў.

**— А паліцыя была якая — беларуская ці проста “мясцовая”?**

— Яны там самі па сабе ад пачатку былі “тутэйшыя”. [Паліцыя была] мясцовая, але ўжо пачала дзяліцца на нашу і ўкраінскую.

**— Дык палешукі разумелі беларускую прапаганду, што ім трэба за Беларусь ваяваць? Успрымалі яе?**

— Яны не жадалі саветаў. Гэта — дакладна. Жадалі “сваёй” улады. Але большасьць схілялася да беларусаў.

**— Тады, летам 1941 году нейкая друкаваная прадукцыя была, каб сярод іх распаўсюджваць?**

— Нямецкія ўлёткі, плякаты. Нехта прынёс вельмі шмат надрукаваных граматаў БНР. Іх таксама раздавалі. Адмыслова нашыя ўлёткі зьявіліся ў канцы жніўня [1941-га].

**— А што за “граматы БНР”?**

— Аб абвяшчэньні БНР [у 1918 годзе]. Трэцяя статутная, здаецца.

**— Беларускія ўлёткі які мелі зьмест? Іх зь Менску ці з Варшавы дасылалі, альбо там, у Пінску, зрабілі?**

— Зь Менску прывезьлі і самі друкавалі ў Пінску і Брэсьце. Немцы тады дазвалялі… А зьмест: што “бальшавікоў патрэбна біць, дапамагаць Германіі, бо яна дасьць магчымасьць адбудаваць сваю дзяржаву”.

**— Шкада, гэтыя выданьні, верагодна, не захаваліся…**

— А з 1941-га амаль нічога не засталося.

**— Вернемся да Харэўскага. Ці быў ён палітыкам? Чаму ён увесь час кагосьці на першы плян высоўваў: Тарасюка ў 1939-м, Шанька ў 1942-м?**

— А ён ведаў, што сам больш актывіст, чым камандзёр-палітык. Але ідэйна ён моцны быў. Доля такая яго: усё жыцьцё ў змаганьні.

**— А якія ўражаньні пакінуў Родзька пасьля першай сустрэчы?**

— Аб Родзьку тады [у 1941 годзе] і да апошніх падзеяў у 1945 годзе меў добрую думку. Толькі занадта малады [ён быў] для самастойнай палітыкі… Вітушка на Палесьсі [у 1941-м] быў. Дарэчы, ён ужо тады добры вайсковы быў. Родзька фанабэрысты, палітык, а Вітушка разумны, вытрыманы.

**— Што тады вы адчувалі, калі за плячыма былі баі жніўня-верасьня 1941-га, камандаваньне батальёнам?**

— Лічыў, што немцы будуць вымушаны даць нейкую дзяржаўнасьць, нейк акрэсьліць нас, як самастойную адзінку. Лічыў, што застануся

вайскоўцам (ім і застаўся). Адчувалі мы сябе моцнымі…

**— Што сталася з беларускімі аддзеламі, створанымі летам 1941-га на Палесьсі?**

— Немцы раззброілі вялікую колькасьць, перавялі ў іншую якасьць, у розныя фармацыі (паліцыю, дапаможныя службы). Частку людзей абвэр у свае школы ўзяў. Задарма загінулі ў дэсантах 1941-1943 гадоў [на ўсходнім фронце]… Частка лічылася, нібыта, рэзервам. Але немцы пачалі карніцкія акцыі супраць вясковых і той рэзерв пайшоў да бальшавіцкай партызанкі ад восені 1942 году…

**— Вы яшчэ згадвалі пра беларускія партызанскія атрады, якія на пачатку нямецкай акупацыі стварылі каталікі…**

— Вясной 1942 году да Гадлеўскага дэлегацыя прыйшла ад беларускіх незалежніцкіх партызанаў-каталікоў. Прасілі каталіцкіх капэлянаў, а той адказаў: трэба з Рымам параіцца, нібыта, далей Коўна ён кантакты меў.

**— А дзе былі такія партызаны?**

— Былі такія беларускія незалежніцкія групы на Гарадзеншчыне, Берасьцейшчыне, пад Маладзечна. За незалежную Беларусь [ваявалі]. А некаторыя — за канфэдэрацыю зь Польшчай.

**— І які лёс тых групаў?**

— Я аб гэтым мала ведаю. Яны існавалі незалежна да 1943-га, а потым — хто да нас [далучыўся, г. зн. да легальных беларускіх вайсковых і паліцыйных аддзелаў], хто — да бальшавікоў [да савецкіх партызанаў].*

---

*Гутарку з адным з удзельнікаў гэтага партызанскага руху гл. у рубрыцы “Дакумэнты”.

# ДОКАЗЫ НА СТОЛ, ТАВАРЫШЧ ІЛЬІН!

Шэрагі “выкрывальнікаў мітаў і мітатворцаў” нядаўна папоўніў дасьледчык з Берасьцейшчыны Аляксандар Ільін. Мішэньню для сваёй атакі ён абраў Сяргея Хмару (1905 — 1992), паэта, журналіста, дзеяча беларускага вызвольнага руху, шматгадовага вязьня польскіх, савецкіх турмаў. Колькі ўжо бэсьцілі і аблівалі брудам Хмару, аказалася, што мала, Ільін зрабіў свой унёсак ды які!

У чацьвёртым выпуску *“Российско-польского исторического альманаха”* (Ставрополь-Волгоград-Москва, 2009. С. 48-63) А. Ільін, які прадстаўляе Палескі дзяржаўны ўніверсытэт, надрукаваў аб’ёмны тэксьцік пад назвай “Поэт Сергей Хмара — мифотворец западнобелорусской истории в межвоенный и военный периоды”. У ім навуковец называе С. Хмару найбуйнешым містыфікатарам у XX стагодзьдзі. Во як! Вельмі інтрыгоўна. Ну што ж, паглядзім, на падставе чаго ён робіць такія высновы.

Аляксандар Ільін адзначае *“несомненные заслуги* [Хмары] *перед белорусской культурой и национальным движением”*: рэвалюцыянер-змагар, правёў у турмах і канцлягерах 11 гадоў, на эміграцыі рэдагаваў газэту і часопіс. Аднак адзначае, што побач з праўдай у эміграцыйных публікацыях Сяргея Хмары шмат выдумак.

*“Но самое неприятное в том, что эти сочинения сейчас уже используют белорусские (и других стран) историки, как правдивые исторические источники, при написании книг и даже диссертаций”*, — піша Ільін. І мы падтрымліваем яго, сапраўды, такая праблема існуе. Але праблема ў наяўнасьці недакладнасьцяў, скажэньняў фактаў у публікацыях “Беларускага голасу”, але ня выдумак. Ільін жа адразу ж прапануе пазнаёміцца з біяграфіяй Хмары, каб *“понять мотивы…, побуждавшие поэта к такому сочинительству”*.

Што да біяграфіі, дык Ільін пацьвярджае вэрсію слонімскага краязнаўцы Сяргея Чыгрына, які першы засьведчыў: Хмара нарадзіўся не ў Адэсе, а ў Казлоўшчыне. У паведамленьні начальніка аддзела бясьпекі Навагрудзкага ваяводзтва палескаму ваяводзе ад 29 лістапада 1929 году згадваецца яго месца нараджэньня.

*“Он был человеком очень деятельным и амбициозным, который должен был что-то организовывать и возглавлять, быть на виду и на слуху”,* — піша Ільін. Ён згадвае выпадак, калі Сяргей Хмара ў 1935 годзе хацеў аднавіць грамадоўскую арганізацыю ў Заходняй Беларусі. *“Конечно, полиция не позволила провести ему этот съезд, но в своих воспоминаниях поэт писал, что новая тайная Громада была создана, и вела активную нелегальную политическую деятельность. И так часто об этом писал, что, наверное, и сам поверил в её существование”,* — адзначае Аляксандар Ільін. Сапраўды, пра

спробы ў 1930-х аднавіць Грамаду Хмара неаднаразова пісаў на бачынах “Беларускага голасу”, але ніколі не сьцьвярджаў пра “актыўную нелегальную палітычную дзейнасьць” грамадоўцаў у той час.

Ільін прыводзіць факт, які сьведчыць пра характар і сілу волі Хмары: больш году, з сакавіка 1937-га да траўня 1938-га, Хмара знаходзіўся ў Бяроза-Картузскім канцлягеры.

*“Это — один из самых больших сроков пребывания в лагере среди всех заключённых, что говорит о его крепких коммунистических убеждениях и сильном характере”*, — падкрэсьлівае дасьледчык. Дзіўна, як хутка гэткі моцны, мужны чалавек пераўтварыўся ў “містыфікатара”.

Што ж, паводле А. Ільіна, “прыдумаў” Сяргей Хмара? Спробу стварэньня Заходне-беларускай рэспублікі са сталіцай у Пінску ў верасьні 1939-га. Але пра яе ў апошнія гады былі згадкі нават у афіцыйных беларускіх СМІ.* Свой удзел у антыпольскай партызанскай барацьбе ў пачатку 1920-х (пад псеўданімам “атаман Іскра”) у ваколіцах Казлоўшчыны. Ільін згадаў партызанскія атрады “Скамароха” (Шыманюка) і “Чорта” (Грыцука), што дзейнічалі ў той час у раёне Белавежскай пушчы ды піша:

*“Перелопатив множество документов в брестском архиве и местные польские газеты того времени, нашел ещё только один белорусский отряд, действовавший недалеко от Слонима — отряд Болотина-Хмары, который, однако, по сведениям польской полиции, был заслан ГПУ. Думается, что это — известный тогда атаман Хмара (Вячеслав Разумович). Возможно, что Сергей Синяк воевал в его отряде и даже позаимствовал у своего “командира” псевдоним”*.

Што тут скажаш, ня тое “пералапаціў” Ільін, ня тыя высновы зрабіў. Беластоцкі “Czasopis” у 2005-м (№ 5, б. 25) передрукаваў зацемку з віленскай газэты “Грамадзянскі голас” (1925, № 20 (74) пра суд у Горадні над беларускімі партызанамі, які праходзіў вясной 1925-га. У ёй чытаем: **“…Слонімскага павету, дзе вяла дзейнасьць група партызанаў пад камандай атамана Шэршэня...”**.

Аказваецца, нічога не выдумваў Хмара, атаман Шэршань — рэальная асоба. Як зьяўляюцца рэальнымі асобамі і астатнія героі яго ўспамінаў пра партызаншчыну пачатку 1920-х (гэтыя ўспаміны перадрукоўваюцца ў гэтым нумары “БР”).

Яшчэ адна “яркая” цытата ад Ільіна: *“Создал поэт ещё одного легендарного атамана — Якова Хоревского (Новик). Село Хорево было центром коммунистического движения в Пружанском уезде, а местных коммунистов возглавлял Новик. В дальнейшем Хмара*

---

*Гл. публікацыю: Новыя тэндэнцыі ў асьвятленьні падзеяў восені 1939-га // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 2(7), б. 3-7.

*для своих легендарных соратников даже не искал реальных прототипов”.*

Вось так! А ці былі вы, таварышч Ільін, у гэтай вёсцы? Ці ведаеце вы, колькі Новікаў там жыло і жыве?

Аднак найбольшую “фальсіфікацыю” Аляксандр Ільін бачыць у “прыдумваньні” С. Хмарам асобы ўраджэнца Піншчыны Васіля Віра, сваёй “правай рукі”. Ён піша: *“Как краевед Пинщины, автор статьи не мог пройти мимо такой интересной, деятельной и творческой личности. Сведения о нём были очень скупы: статьи Хмары и самого Вира. Из них следует, что во время пребывания Хмары на Пинщине в 1929-1931 гг. Вир помогал ему в революционной и политической деятельности. До того, как в 1944 году они вместе выехали в Германию, Василий жил на родной Пинщине. В брестском архиве нами изучено десятки документов, касающихся Сергея Хмары и его пинского окружения, и не найдено даже упоминания о Василии Вире”.*

Мы ўжо ведаем, як А. Ільін умее “пералапачваць” архіўныя дакумэнты, пэрыёдыку і не знаходзіць відавочнага. Але пакуль паглядзім, якія ён высновы робіць наконт Віра. Яму “прыйшла ў галаву думка”, што Васіль Вір — гэта псеўданім іншага чалавека, і чалавек гэты сам Хмара! Пры гэтым Ільін спасылаецца на тое, што Сяргей Хмара падчас нямецкай акупацыі падпісваў свае публікацыі пра Палесьсе “С. Пінскі”. А Віра ў “Беларускім голасе” таксама часам называлі “Пінскі”. Якая дагадка прыйшла ў галаву дасьледчыку! І яму *“всё стало ясно”*.

Яго, праўда, бянтэжыць здымак Віра ў часопісе “Баявая Ўскалось”. Але і тут Ільін выкруціўся, спаслаўся на гутарку эмігранта Міколы Ганька і дасьледчыка Лявона Юрэвіча, якія дапускалі, што Вір — псеўданім Хмары (падкрэсьліваю — дапускалі, нічым не падмацоўваючы сваю версію). Але А. Ільін ужо піша прысуд:

*“Действительно, никто кроме Хмары не видел в глаза такого активного и видного деятеля как Василий Вир. Стало ясно, что это – банальная мистификация. Разве сложно в своём журнале напечатать фотографию незнакомого мужчины (наверно, уже умершего в Белоруссии) и подписать её “Василий Вир”.*

Аднак мусім расчараваць таварышча Ільіна. Васіль Вір (Вірок, Пінскі) — асоба рэальная. Нельга выключыць, што на Бацькаўшчыне ён меў іншае прозьвішча (калі сапраўды ў архівах няма згадак пра Віра-Вірка). Ён жа быў сябрам акруговай управы Таварыства беларускай школы ў Пінску.[1] Працаваў настаўнікам на Піншчыне, арыштоўваўся польскімі ўладамі.[2] Таму ў дакумэнтах “сьлед” мусіў пакінуць.

Пра жыцьцё Віра на эміграцыі сьведчаць ня толькі хмараўскія

---

[1] Беларускі голас, 1969, № 177, кастрычнік.

[2] Беларускі голас, 1975, № 232, красавік.

выданьні, у якіх ён друкаваўся (і дзе зьмяшчаліся некалькі яго здымкаў), але і нью-ёркскі "Беларус". Высьвяляецца, што ён друкаваўся ў "Беларусе", вёў рубрыку "З жыцьця ў Чыкага", падпісваўся "Вір". Напрыклад, у № 360 ад ліпеня 1989 году надрукаваў зацемку "Угодкі сьвятарства а. Я. Сыру", у № 368 ад сакавіка 1990-га надрукаваў зацемку "Госьця з Бацькаўшчыны", у № 377 ад студзеня 1991 году надрукаваў зацемку "Госьці зь Менску".

Пакуль выходзіў "Беларускі голас" (апошнія нумары пад назвай "Водгаласы"), Васіль Вір быў яго сталым супрацоўнікам. Пасьля сьмерці рэдактара С. Хмары ў 1992 годзе газэта спыніла існаваньне, і лёс Віра застаўся для нас невядомым. Пра сьмерць таго ж Язэпа Таўпекі (які меў літаратурны псеўданім "Таўпа") С. Хмара напісаў у лісьце да С. Чыгрына 26 лістапада 1990 году. У тым жа лісьце ён адзначыў, што яшчэ жыве з паплечнікаў Васіль Вір. [3] Калі памёр Вір, ужо не засталося нікога з ягоных сяброў, хто мог бы напісаць нэкралёг.*

*"Если внимательно прочитать все газеты "Беларускі Голас" и журналы "Баявая Ускалось", то найдем 20-30 таких мистифицированных лиц, которые, повторюсь, уже живут своей жизнью в многочисленных книжных изданиях и сайтах",* — самаўпэўнена піша А. Ілын.

Але ёсьць у нас вялікае падазрэньне, што ён ня тое, што "ўважліва", а наагул не гартаў ні "Беларускага голаса", ні "Баявой Ускалосі". У сваёй публікацыі Ілын прывёў *"три статьи"* з газэты "Беларускі голас", але спаслаўся на дзіўную кніжку Аляксея Анішчыка (Чэмера) "Сяргей Хмара" (Вільня, 1998). Аказваецца, ня ведае заслужаны навуковец, што Анішчык не зьмяшчаў дакладныя перадрукі публікацый, а фактычна пераказваў іх ды камэнтаваў. Таму спасылка не на арыгіналы, а на "працу" віленскага беларуса зьдзіўляе. Ілын нават пераклаў тэксты Анішчыка на рускую мову! Зрэшты справа не ў гэтым.

Ілын піша пра "разумны ход" Хмары, які на эміграцыі "пачаў ствараць міт пра народны антыкамуністычны партызанскі рух на тэрыторыі Беларусі". Паводле Ілына, Хмара напрыдумваў беларускіх атаманаў. Таго ж Язэпа Таўпеку. Няўжо Ілын не сустракаў гэтага прозьвішча ў архіўных дакумэнтах? Бо гэта той самы Таўпека, які быў павятовым сакратаром "Змаганьня" ў Маладэчне і быў арыштаваны польскай паліцыяй 25 жніўня 1929 году. Нават у адным савецкім зборніку дакумэнтаў ён згадваецца.[4] Толькі дасьледчыку Ілыну гэта невядома.

*У 2011 годзе доступ да фонду С. Хмары ў Нацыянальным архіве Канады атрымала дасьледчыца Натальля Гардзіенка. Спадзяемся, што ў ліставаньні Хмары і іншых паперах знойдуцца і доказы існаваньня яго паплечніка Васіля Віра.

[3] Сяргей Хмара: "Паэзія — гэта сродак барацьбы за вызваленьне!..". З лістоў да Сяргея Чыгрына // Дзеяслоў, 2007, № 6(31), б. 243.

[4] Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР. Документы и материалы. Том II (1929 — 1939). — Мінск: "Беларусь", 1972, б. 46.

Прывядзем яшчэ адну цытату з тэксьціка Аляксандра Ільіна: *“Вдруг все эти легендарные атаманы стали присылать Хмаре свои воспоминания о славном боевом прошлом. Но как-то все они случайно жили в труднодоступных районах Бразилии, Парагвая, Боливии, Венесуэлы, Аргентины, Австралии и т. д. А потом все вдруг массово стали умирать или гибнуть под колёсами автомобилей, за рулём которых, вероятно, сидели агенты КГБ. В политической борьбе эти фантазии Хмаре мало, чем помогли”.*




***Супрацоўнікі і аўтары “Беларускага голасу”, 1968 год.***

Спыніць плынь сваёй багатай фантазіі Ільін ужо ня можа. Ён сьцьвярджае, што Хмара пісаў пра “беларускую партызанку”, як больш актыўную за польскую АК і УПА. А гэта няпраўда, Хмара такога не пісаў. І проста ідыёцкай выглядае спасылка Ільіна на інтэрвію з апошнім камандзірам бандэраўскай УПА Васілём Кукам, якое зьявілася на бачынах часопіса “Беларускі Рэзыстанс” у 2006 годзе. Што Кук не пацьвердзіў кантактаў сваёй УПА з беларускімі партызанамі. Але ж, калі Ільін чытаў публікацыі ў “Беларускім голасе”, то мусіў бы ведаць — беларускія партызаны на Палесьсі супрацоўнічалі з бульбаўцамі (УПА, пазьней — УНРА), а не з бандэраўцамі. Пра гэта адзначалася амаль у кожнай публікацыі.

Зразумела, Аляксандар Ільін ня мог не згадаць пра “гісторыка-журналіста” Сяргея Ярша, які “да дасканаласьці разьвіў хмараўскую тэорыю “вялікага беларускага супраціўленьня” (так і піша: *“теория Хмары-Ёрша”*, якая *“уже распространяется за границы Белоруссии”*). З намі, як і з Хмарам, ён таксама не цырымоніцца, нахабна маніць: *“В последней четырёхсотстраничной книге Сергея Ёрша нет ссылки ни на один архивный документ*”. Ільін мае на ўвазе кнігу “Беларускі Супраціў” (Львоў, 2006). Кожны, хто гартаў ці чытаў яе, бачыў гэтыя спасылкі. Але для Ільіна гэта не істотна, чаму б не абліць брудам Ярша, тым самым далучыцца да вясёлай кампаніі паноў і падпанкаў, якія ў апошнія гады брахалі з бачын часопіса “Архэ” ды газэты “Наша ніва”.

Высновы можна зрабіць наступныя. “Крытык” Ільін не прыводзіць

ніводнага факту, які б сьведчыў пра тое, што Хмара – містыфікатар і выдумшчык. Ільин не валодае першакрыніцай — ён знаёмы з эміграцыйнымі публікацыямі С. Хмары толькі з кніжкі А. Анішчыка (Чэмера), дзе яны пераказваюцца ў вольнай інтэрпрэтацыі аўтара, а не перадрукоўваюцца.

Галоўная ж выснова — Аляксандар Ільін, калі ён рызыкнуў высунуць такія абвінавачваньні, мусіць быць гатовы за гэта адказаць.

Дзіўна, што гісторыку невядомае існаваньне прэзумцыі невінаватасьці. І мы яму нагадваем: спачатку факты на стол, таварышч Ільін, а ўжо пасьля на іх падставе рабіце высновы! Вядома, нябожчык не абароніць сябе, але не забывайце, што ёсьць сям'я Хмары, якая можа прапанаваць вам падмацаваць свае сьмелыя заявы дакумэнтальнымі крыніцамі.

**Сяргей Ёрш**

*Масей Сяднёў*

# МЫ НЕ МОЖАМ ТАПТАЦЦА Ў МІНУЛЫМ



Гэтая публікацыя зьявілася амаль 20 гадоў таму, але час, на жаль, ніяк не паўплываў на яе актуальнасьць. Тыя балючыя пытаньні, якія ўздымае паэт-эмігрант Масей Сяднёў (1913 — 2001), па-ранейшаму стаяць перад намі. Зьмянілася толькі наша краіна, непазнавальна зьмяніўся яе імідж у сьвеце…

Перачытваючы тэкст, зьдзіўляешся, што ён напісаны эмігрантам: так дакладна пастаўлены дыягназ і акрэсьленыя шляхі выздараўленьня, яго перадумовы! Тады, у 1992-м, Сяднёў чакаў зьяўленьня “Правадыра, які б падслухаў бы, чым сёньня жыве душа беларуская. Падслухаў бы — і павёў”. Дачакаўся. Але, на жаль, той правадыр павёў народ не па тым шляху, які акрэсьліў эмігрант…

Варта адзначыць, што Масей Сяднёў у 1930-я быў рэпрэсаваны бальшавікамі, на волю выйшаў на пачатку вайны. У другой палове 1940-х браў актыўны ўдзел у грамадзка-палітычным жыцьці беларускіх эмігрантаў у заходняй Нямеччыне, быў сябрам ЦК Замежнага сэктару Беларускай Незалежніцкай Партыі. Упершыню на Бацькаўшчыну прыяжджаў, пасьля доўгіх гадоў выгнаньня, у 1990 годзе, сустракаўся са студэнтамі, з дзеячамі нацыянальна-вызвольнага руху.

**“БР”**

Няма мовы: наш народ своеасаблівы. Надта своеасаблівы. Адна з рысаў гэтай своеасаблівасці — неўспрыманне свае гісторыі, нячуласць да яе. Прыкладам, нашыя гісторыкі даводзяць народу нашаму, што беларус быў некалі слаўным, меў сваё гаспадарства — Вялікае княства Літоўскае, што ў гэтым княстве, у гэтай дзяржаве, беларус быў сам сабе гаспадаром, панаваў у ім. Прыгадайма Купалаў радок: ”Ты жыў, ты панаваў у краі родным”. Даводзім таксама беларусу, што ў Вялікім княстве Літоўскім беларуская мова была пануючай, дзяржаўнай, бо на ёй было створана заканадаўства ў выглядзе Літоўскага статута. Больш таго, час знаходжання беларускага народа ў ВКЛ некаторыя нашы гісторыкі ўважаюць “залатым векам”.

Пра гэты “залаты век” пісалі і нашы слаўныя паэты. Напрыклад, у Алеся Гаруна мы знаходзім:

У старыну беларус, не падданы,
Гаспадарыў, быў сам
над сабою.
І далёка ў свеце быў знаны
За літоўскай і ляшскай зямлёю.

Янка Купала не менш натхнёна праслаўляў той залаты век:

Ты жыў, ты панаваў у краі
родным,
Сцярог ад чужака й законы
укладаў,
Звон вечавы сход склікаваў
народны
І сход аб шчасці Бацькаўшчыны
дбаў.

Але дзіўна — усё гэта наш народ, гаворачы словамі Янкі Купалы, нібы кінуў у няпамяць. Забыў. І колькі б мы ні намагаліся ўдзяўбсці беларусу ідэю пра ягонае слаўнае мінулае, ён застаецца глухім да свае гісторыі.

Згадайма нядаўна шырока адзначаны 500-гадовы юбілей слаўнага сына зямлі Полацкай — Францішка Скарыны. Не надта ён зварухнуў наша грамадства.

Без асаблівага энтузіязму — прызнайма — паставіўся беларус і да свае дзяржаўнай атрыбутыкі — Пагоні і бел-чырвона-белага сцяга. Акрамя энтузіястаў, што горача выступілі за гэтую атрыбутыку, у сваёй масе беларус захаваў сваю спрадвечную інертнасць.

Не ўзняла беларускага патрыятызму і наша прапаганда Кастуся Каліноўскага і Касцюшкі. У гістарычных творах Уладзіміра Караткевіча беларус не пазнае сябе.

Агітуем за адраджэнне, але адраджэння, актыўнага працэсу адраджэння, на жаль, няма. Няма дынамікі. Няма руху. Ёсць статыка. Агулам беручы, беларус як бы выключыў сябе з гісторыі, застаўся па-за ёю.

Больш як 70 год таму Янка Купала ў сваім вершы “Майму народу” пісаў:

Сягоння ўсё спіць і зарастае
зеллем,
Сцярэч свой край няма ні сцен,
ні рук.
Званы вячовы змоўклі,
анямелі,
У ярме сагнулі людзі плечы
ў крук.

Не шмат чым адрозніваецца становішча на нашай Бацькаўшчыне і сёння. Канешне, палітычная сітуацыя сёння іншая і, можа, нават не такая безнадзейная, як я яе тут намаляваў. Хачу верыць, што сапраўды не такая безнадзейная: ёсць усё-такі сімптомы нацыянальнага абуджэння, ёсць паварот — хоць яшчэ няўцямны — да ўсведамлення сябе як народа. На гэтае нацыянальнае ўсведамленне працавалі і працуюць — і хвала ім — нашыя гісторыкі, настаўнікі, публіцысты, паэты і пісьменнікі, у прыватнасці той жа Уладзімір Караткевіч. Гэтага нельга адмаўляць. Але глухата, неўспрымальнасць, нячуласць застаюцца і надалей нашай сур'ёзнай праблемай.

Я сказаў, ёсць сімптомы нацыянальнага абуджэння. Так, ёсць. Але не больш. Няма каму будзіць. Няма Правадыра. Правадыра, які б падслухаў бы, чым сёння жыве душа беларуская. Падслухаў бы — і павёў. Нам патрэбны Правадыр, патрэбны сёняшні — а не ўчарашні — Кастусь Каліноўскі! Не з-пад шыбеніцы, а Кастусь Каліноўскі з трыбуны беларускага парламента. Каб сённяшняга Каліноўскага пачуў зняверaны беларускі народ і пайшоў за ім. Я малюся: Прыйдзі! З'явіся! Паўстань! "Паўстань, з народу нашага прарок!".

Толькі такі Прарок  можа вывесці нас з "па-за гісторыі", вярнуць у гісторыю. І сцвердзіць сябе ў сучаснасці.

У нас ёсць партыі, але няма сапраўднай, дзейснай партыі. Партыі ці партыяў, што, аб'яднаўшы ў сваіх шэрагах шырокія пласты нашага народа, былі б падмогай нашаму сучаснаму Каліноўскаму.

Ці магчымы ў нас такі Каліноўскі? Магчымы. Але тады толькі, калі ён мужна гляне ў вочы сучаснасці, возьме курс, што ўзняў бы наш народ, курс, што выклікаў бы актыўнасць, **стваральную** дзейнасць, курс, прадыктаваны патрэбамі **сённяшняга** і **заўтрашняга** дня.

Мы не можам таптацца ў мінулым. Наш народны фронт "Адраджэнне" — гэта, па сутнасці, пагляд назад, а не наперад. Ён жыве арэолам мінулага. У такім адраджэнні няма самага галоўнага — творчасці. Наша адраджэнне захрасла, задыхнулася ў гісторыі, у тым ліку — у пытаннях рэлігіі. Адраджэнне тады адраджэнне, калі яно творчасць. Архаікай жыць немагчыма. Яна заняла сваё слаўнае месца і гэтага хопіць.

Загляньма, панове, у вочы сучаснасці!

*Літаратура і мастацтва, 1992, 24 ліпеня.*

# ЯК ПЕРАПІСАЛІ ЎСПАМІНЫ ДЗЬМІТРЫЯ КАСМОВІЧА




*Деды: дайджест публикаций о белорусской истории. Выпуск 7 / Составление и научное редактирование А. Е. Тараса. — Минск: "Харвест", 2011. — 256 с.*

"Дайджэст публікацый аб беларускай гісторыі", які выдаецца Анатолем Тарасам пад назвай *"Деды"*, дабраўся і да паваеннага антысавецкага супраціву. У 7-м выпуску гэтага выданьня, прысьвечаным найперш Другой сусьветнай вайне ў Беларусі, зьмешчаны і артыкул нейкага *"Максима Петрова"* пад назвай *"Беларуские "лесные братья"*. Можна дапусьціць, што Пятроў — гэта псеўданім Тараса, які "творча" перапрацаваў некалькі даступных яму крыніц.

На жаль, для некаторых публікацый Анатоля Тараса, прысьвечаных апошняй вайне, характэрна даволі павярхоўнае знаёмства з крыніцамі (і не заўсёды ўдалы іх выбар), неахайнае іх выкарыстаньне. У адной з яго публікацый у мінскай газэце *"Секретные исследования"* гаворка ішла пра ксяндза Гадлеўскага.[1] Тарас, відавочна, скарыстаўся нашай кнігай "Рыцар Свабоды", але заблытаўся сам і заблытаў чытачоў. Паводле яго, "Беларуская газэта" была *"печатным органом БНП"* (Беларускай незалежніцкай партыі)! Насамрэч, гэта было легальнае выданьне, дазволенае нямецкімі акупантамі. БНП ж выдаваў падпольны "Бюлетэнь БНП".

Каб у *"Дедах"* зьмяшчаўся сапраўды дайджэст публікацый, не было б вялікай праблемы. Аднак Тарас кіруецца нейкай дзіўнай логікай. Адныя артыкулы ён перадрукоўвае бяз зьменаў, з пазначэньнем іх аўтара, а часам і крыніцы, адкуль яны ўзятыя, іншыя ж "творча перапрацоўваюцца" і падаюцца пад аўтарствам *"максимов петровых"*.* У апошніх якраз і зьяўляецца нямала памылак, а часам і фальсіфікацый.

---

*Найбольш яскравы прыклад у гэтым зборніку — артыкул Васіля Матаха "Беларуские диверсанты абвера". Гэта перапісаны і перакладзены на рускую мову артыкул Юрыя Грыбоўскага з часопіса "Беларускі Рэзыстанс" (2005, № 1(2), а таксама наступных публікацый, якія зьяўляліся ў часопісе. Спасылак В. Матах не дае. Ён толькі адзначае, які малайчына Грыбоўскі, што "подробно изучил известные на теперешний момент документы". Так, і ён, і Р. Клявец, і С. Ёрш стараліся для В. Матаха, шукалі і публікавалі для яго дакумэнты, якія ён "творча" скарыстаў.

[1] Тарас А. Сто лет красного костела // Секретные исследования, 2010, № 8 (217), красавік.

Пагартаем артыкул пра “лясных братоў”. Адразу ж кідаецца ў вочы недарэчнасьць — М. Пятроў называе Тараса Бульбу-Бараўца дзеячом АУН, не падзяляе бульбаўскую УПА і бандэраўскую. Ну што ж, бывае. Але далей, калі гаворка заходзіць пра Беларускую Незалежніцкую Партыю, мы становімся сьведкамі фальсіфікацыі крыніцы. Цытуючы ўспаміны Дзьмітрыя Касмовіча пра заснаваньне БНП, М. Пятроў піша: *“21 августа 1942 года в Минске, в квартире Винцента Годлевского, собрались на тайное совещание я, Михаил Витушко, Всеволод Родько и Юлиан Сакович…”* (б. 230). Цяпер чытаем арыгінал: ***“21 жніўня 1941 г. у Менску на былой кватэры галоўнакамандуючага беларускага адцінку Чырвонай арміі сабраліся на тайную нараду я, Міхась Вітушка, Усевалад Родзька і Юльлян Саковіч…”.***[2] Вы бачыце розьніцу? Як пасьля такога можна давяраць гэтым максімам пятровым?

На б. 232 падаецца пераклад на рускую мову часткі ўспамінаў Д. Касмовіча пра батальён “Дальвіц”. Месцамі пераклад недакладны. Касмовіч піша пра “сьпешную” падрыхтоўку, Пятроў перакладае *“успешную”*…

Нарэшце, у артыкуле згадваецца арганізацыя “Чорны Кот”. М. Пятроў піша пра дзьве версіі дзейнасьці Міхала Вітушкі. Першую, паводле якой ён загінуў у студзені 1945-га, ён лічыць найбольш праўдападобнай. Паводле другой, замест Міхала Вітушкі ў лістападзе 1944-га дэсантаваўся Мікалай Вітушка. Сам жа Міхал дэсантаваўся ў ноч з 30 лістапада на 1 сьнежня 1944 г., піша Пятроў. Гэтую дату ён узяў з успамінаў Д. Касмовіча і яна няпраўдзівая. Мы ж пісалі пра дэсант Міхала Вітушкі са сваім штабам у канцы сьнежня 1944 году, і не ў Беларусь, а на тэрыторыю Польшчы.

Аўтар фантазіруе. Вось ужо зьявілася і назва падпольнай сеткі Вітушкі: *“Беларуский Освободительный фронт”*. Хаця гэта быў толькі адзін з варыянтаў назваў, якія ўжываліся беларускімі партызанамі.

Далей М. Пятроў працягвае ігнараваць найноўшыя публікацыі пра беларускі Супраціў, пра наваградзкую акцыю 1948-га, пералічваючы некалькі акцыяў у інтэрпрэтацыі беларускай эміграцыйнай прэсы. Робіць гэта толькі для таго, каб сьмела і рашуча заявіць: *“Однако кроме сообщений в эмигрантских газетах, других подтверждений всем этим событиям нет. И хотя КГБ Республики Беларусь не пускает в свои архивы независимых историков, все же такие сообщения представляются вымыслом… Легенду о Беларуском Освободительном Фронте и его командующем — “генерале Михаиле Витушко” подвергли убедительной критике беларуские историки Игорь Морзолюк и Яков Новгородцев, а также польский историк Рафал Внук”*. (б. 235)

[2] Касмовіч Д. За вольную і сувэрэнную Беларусь. — Вільня: Gudas, 2006, б. 100, 101.

Самае дзіўнае тут, што Ігар Марзалюк займаецца іншым перыядам гісторыі, на тэму беларускага Супраціву нічога не пісаў. Ці не з Пачобутам перablытаў яго М. Пятроў? Другая асоба — гэта псеўданім аднаго мінскага гісторыка і журналіста — у канцы 1990-х крытыкавала даведнік "Антысавецкія рухі", але пасьля таго не праяўляла актыўнасьці.

Далей аўтар дае цытаты з публікацыі Васіля Матаха ў "Белгазеце" пра "лясных братоў", статыстыку антыпартызанскай барацьбы ў 1944-1946 гг., упершыню апублікаваную намі ў 1995 годзе, робіць няпраўдзівую заяву пра зрыў "ляснымі братамі" ў студзені 1947 году ў Заходняй Беларусі выбараў у Вярхоўны Савет БССР. Зноў жа цытуе (і зноў жа без спасылкі) апублікаваны намі яшчэ ў 1994 годзе архіўны дакумэнт пра расстрэл пад Вялейкай мабілізаваных у Чырвоную Армію…

І тут М. Пятроў спахапіўся. Бо ён адмаўляе існаваньне арганізаванага беларускага Супраціву і адначасова піша, што суполкі БНП былі ў кожным раённым цэнтры БССР. Відавочная супярэчнасьць. Таму адзначае, што супраціў беларускіх нацыяналістаў усё ж быў, толькі ніяк не каардынаваўся. Згадвае пра групу Раманчука. Спасылаючыся на кнігу Валахановіча, піша, што ў ёй было толькі тры чалавекі, а гэта відавочная няпраўда — траіх толькі арыштавалі, іншыя альбо загінулі, альбо засталіся на волі. Нават Валахановіч пісаў, што ад рук Раманчука і яго людзей гінулі супрацоўнікі дзяржбясьпекі. Пятроў жа гэта апусьціў, пакінуўшы толькі аднаго міліцыянта і некалькіх партыйных актывістыў, ды старшыню сельсавета. Тое самае ён зрабіў і з дзейнасьцю атрада Жыхара. Знаёмая тактыка: усяляк зьмяншаць значэньне дзейнасьці партызанаў і іх баявыя якасьці, намякаючы на больш крымінальны характар "банды".

Побач у *"Дедах"* зьмешчаны і артыкул пра маладзёжнае антыкамуністычнае супраціўленьне. Аналізаваць яго ня будзем, адзначым толькі, што да маладзёжных арганізацый яго аўтар А. Тарас залічыў "Саюз змаганьня за незалежнасьць Беларусі", кіраўніком якога быў атаман Раманчук. Пры гэтым, каб зьменшыць у вачах чытачоў значэньне гэтай арганізацыі, зьвязанай з беларускім партызанскім рухам, піша: *"Никакой реальной деятельностью организация не занималась, все ограничивалось личными встречами и разговорами"*. (б. 251) Чарговая няпраўда. Арганізацыя праводзіла антысавецкую прапаганду, зьбірала зброю, боепрыпасы, медыкаменты, разьведдадзеныя для партызанаў Раманчука, правярала і накіроўвала ў атрад людзей, якія хаваліся ад савецкіх уладаў.

Шкада, што такі "эрзац" атрымліваюць рускамоўныя чытачы, якія цікавяцца беларускай гісторыяй. І яшчэ трэба разабрацца, ці гэта хібы першых крокаў *"Дедов"*, ці тут справа зусім у іншым.

**Сяргей Ёрш**

*Сяргей Хмара*

# ПАРТЫЗАНСКІМІ СЬЦЕЖКАМІ



***Сяргей Хмара***

Сярод дзеячоў беларускага нацыянальнага Супраціву XX стагодзьдзя вылучаецца постаць Сяргея Хмары (сапраўднае прозьвішча Сіняк, 1905 — 1992). Партызан, падпольнік, палітык, выдатны арганізатар, паэт, публіцыст, журналіст… Усё сваё жыцьцё ён прысьвяціў справе змаганьня за дзяржаўную незалежнасьць Беларусі. Зрабіў нямала памылак, але значна болей — добрых справаў, якія не забытыя і даюць плён.

С. Хмара нарадзіўся 25 траўня 1905 году ў Казлоўшчыне (цяпер Дзятлаўскі раён Гарадзенскай вобласьці). Яшчэ маладым хлопцам ён прымаў удзел у беларускім антыпольскім партызанскім руху на поўначы Слонімскага павету. Пасьля была актыўная дзейнасьць па арганізацыі Беларускай сялянска-работніцкай грамады, “Змаганьня”. Польскія ўлады неаднаразова арыштоўвалі Хмару, шмат гадоў ён правёў за кратамі, але зламіць яго незвычайную волю да барацьбы не змаглі.

Ён быў ня толькі рэвалюцыянерам, але і таленавітым паэтам. Шмат друкаваўся ў беларускім пэрыядычным друку, выдаў кнігу вершаў “Жураўліным шляхам” (Вільня, 1939). У 1939-1941 гадах С. Хмара знаходзіўся ў турме НКВД і толькі пачатак нямецка-савецкай вайны выратаваў яму жыцьцё — ён вырваўся на свабоду. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Слоніме ў акруговым камітэце Беларускай народнай самапомачы, рэдагаваў мясцовую газэту. Адначасова прымаў удзел у Беларускім нацыянальным Супраціве, быў адным з кіраўнікоў падпольнай арганізацыі “Беларуская Народная Грамада”.

Летам 1944 году Хмара выехаў на Захад. У вольным сьвеце ў паваенны час ён стаўся лідарам адной з плыняў беларускай палітычнай эміграцыі. У Таронта (Канада) Сяргей Хмара (у гэтай краіне ён меў дакумэнты на імя Мар’яна Зіняка) сорак гадоў (!) выдаваў газэту “Беларускі голас”, часопіс “Баявая ўскалось”. У іх Хмара друкаваў свае ўспаміны, вершы.* Ён уважліва сачыў за сытуацыяй у Беларусі, ад імя Грамады, Камітэта Вольнай Беларусі і іншых арганізацый друкаваў

заявы, адозвы, у якіх рэагаваў на падзеі на Бацькаўшчыне. Прыехаць у Беларусь пасьля аднаўленьня яе незалежнасьці ўжо ня мог — быў невылечна хворы. Ён памёр у 1992 годзе.

Увазе чытачоў "БР" прапануем успаміны Сяргея Хмары ("атамана Іскры") "Партызанскімі сьцежкамі", якія прысьвечаныя антыпольскай барацьбе беларускіх партызанаў на пачатку 1920-х гадоў (успаміны друкаваліся ў газэце "Беларускі голас", № 203-207, чэрвень-лістапад 1972 г., перадрукоўваліся часопісам "Слонімскі край"(2000, № 1, б. 35-57). Іх каштоўнасьць ня толькі ў тым, што асьвятляецца малавядомая старонка гісторыі беларускага вызвольнага руху, але й у тым, што аўтарам зьяўляецца "палявы камандзір", які ня толькі апісвае свае "геройствы", але і шмат месца прысьвячае "рабоце над памылкамі".

Перакаціў страшны 1920 год. Хаваючыся ў сумежных лясох са сваімі адзінокімі кароўкамі, мы, 15-16 гадовыя хлапчукі-пастухі, пазіралі з-за кустоў на далёкі за рэчкаю гасьцінец, па якім курыліся абозы "легіёнаў", сьпешна драпаючыя на Захад. Мужчыны таксама сядзелі ў лесе, з коньмі. Каго зпаймалі ў вёсцы, пагналі ў абоз. Тутака былі маладыя дзяўчаты і жанкі. У тых вёсках, што ляжаць пры гасьцінцах, засталіся толькі старыя і малыя. Там ідзе поўны грабеж. Хапаюць, калі знойдуць, кароў, сьвіней, курэй, лезуць у каморы па сала. Чапляюцца да маладых жанчын. На трэці дзень хваля абозаў спадае. Толькі час ад часу курыць дарогаю меншая групка. Гэта найгоршыя — марадзёры. Убачыўшы быдла пад лесам, рынуліся купай на конях, чалавек з дваццаць. Мы разам з каровамі ходу ў кусты. Алярмуем мужчын ў глыбі лесу. Тыя з адразанкамі наўзгатове.

Коньнікі яшчэ над рэчкай, коні ўпіраюцца, баяцца лезьці ў гразкае балота. Нашыя, залёгшы на ўзлесьсі, секанулі з адрэзаў. Перапалох. Куцерма… Скачуць назад, аж міла [глядзець], нават не адстрэльваюцца. Толькі даскочыўшы да шляху, шуганулі назад, па лесе, гарохам разсыпаных стрэлаў і змыліся, аж закурэла. У Пузавічах** двум ваякам "скруцілі" галаву. Адзін палез пад печ па курэй, а другі спрабаваў згвалціць гаспадыню. Дзеці нарабілі крыку. Мужчыны якраз варочаліся ў вёску. Якраз на час!

Цяпер ужо нашае раздольле. На гасьцінцу — паламаныя вазы, зкіненыя на бакі, а на іх, а то й проста пад кустамі, цэлыя скрыні патронаў, часам нават паадзінокія стрэльбы, гранаты. Ёсьць вязанкі "коцаў", мундыраў і іншага дабра. Гэта ў сьпешным адыходзе пакі-

---

*"БР" друкавала ўспаміны Аляксандра Прушынскага пра жыцьцё С. Хмары ў Таронта. Гл.: Прушынскі А. Хмара ў Канадзе // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 1(6), б. 84, 85.

**Вёска ў цяперашнім Дзятлаўскім раёне Гарадзенскай вобласьці, уваходзяць у склад Раготнаўскага сельсавету.

далі вайскоўцы, калі дзе зламілася кола ў воза, ці падбіўся конь, або скідалі з вазоў, каб самым усесьціся і ўцячы цэлымі. Старыя сяляне палююць за скрынямі з вопраткай, з кансэрвамі, а мы — за стрэльбамі, патронамі. Цягаем у лес, у вёску, хаваем па кустах. Калі цяпер ужо зьяўляецца нейкі запозьнены гурт палякаў на гасьцінцы, ужо спакойна не пройдуць. Хлопцы сякуць з-за кустоў са стрэльбаў, мы кідаем "гранаты", каб напалохаць. Палякі уцякаюць на сваіх уласных нагах, нават вазы сялянскія з абозьнікамі пакінуўшы. Сяляне, змабілізаваныя [палякамі] з коньмі, дзякуюць, што выратавалі ад паноў і, павярнуўшы на збочныя дарогі коняў, вяртаюцца дахаты.

Між іншым, нашыя самаробныя "гранаты" рабіліся з заплюшчанага патрону да стрэльбы, поўнага пораху. З боку прабівалася куляй маленькая дзірка і "граната" гатовая. Запальвалася валаконца губкі да крэсіва, тлеючы канец губкі прыкладваўся да дзіркі ў патроне з прысыпаным порахам. А калі тая крупінка яго ўспыхвала, "граната" кідалася ў паветра. Гук атрымоўваўся, як ад праўдзівай гранаты, а ў кішэні іх можна было мець пару дзесяткаў… Ня раз яны нам саслужылі добрую службу, калі, падросшы, ужо сапраўды партызанілі.

Пасьля пару дзён перадыху па вёсках зноў спалох: паказаліся бальшавікі! Наперадзе, зь вёскі да вёскі, бяжыць чутка: як і палякі, яны мабілізуюць усіх коней з вазамі і сялянамі ў абоз, і гоняць прымусам на Варшаву. Забіраюць каровы і рэжуць на мяса…

Зноў коні і быдла ў лесе. Каго пасьпелі захапіць, пагналі з возам у абоз. Некаторыя сяляне пасьля вярталіся аж з–пад Бугу, толькі з "пушкамі" у руках, а некаторыя загінулі разам з коньмі пад польскімі кулямі. Разам з паваротцамі і новы слых: бальшавікі ўжо адступаюць з-пад Варшавы. А па вёсках камісары чытаюць загад аб мабілізацыі ў *"Красную Армию"*. Моладзь з торбачкамі замест зборных пунктаў — зноў у лес. Дзядзькі з коньмі, мы са статкам. У лесе стварыліся цэлыя лягеры. На ўзьмежжах бязспынная варта са зброяй. А цяпер яе, хоць заваліся! Нават кулямёты, падпраўленыя нашымі ўмельцамі-кавалямі. Каля Шчары, кажуць, нават дзьве гарматы трохдзюймоўкі палякі пакінулі, бо яны загразьлі па дарозе. Дык сяляне іх выцягнулі і пад ваду ў Шчару спусьцілі ("можа яшчэ спатрэбяцца"), а снарады ў лесе прыхавалі.

Камісары зноў па вёсках крычалі: зьявіцца ўсім змабілізаваным на зборачную, а ўсім сялянам — з коньмі, або пойдуць пад рэвалюцыйны трыбунал. Усіх "Зялёных" — пад расстрэл! Яны ўсіх, хто пайшоў у лес, ахрысьцілі "зялёнымі".

Зноў закурэлі гасьцінцы. На сялянскіх вазах на ўсход рухаліся чырвоныя расейскія астаткі армій, а за імі, наўздагон — польскія пераможцы. Запалілі Пузавічы (хтосьці данёс аб расправе сялян над двума польскімі марадзёрамі).

Бальшыня людзей была ў лесе: мабілізаваныя, вазакі з коньмі. А ў гэты час рабуюць вёскі, страляюць… Але празь некалькі месяцаў

на месцах (у Казлоўшчыне, Дзераўной, Раготнай, Явары, Ліпічанскай і Яварскай Рудзе, Езаўцы, Дзятлаве) зьяўляюцца польскія ўрадоўцы, жандары. Настае панская ўлада, якая паслушэнства ўводзіць бізуном…

Удзень — жандарская ўлада, а ў начы — сялянская. Кожны мае стрэльбу. Пры нагодзе іх ўжываюць, а часта і без нагоды. Проста, каб выліць лішак буянскіх настрояў. Вольніца гуляе! Паны паказваюцца на вёску толькі большай купай, а ў больш паважных выпадках — разам з дасыланымі вялікшымі экспэдыцыямі жандармэрыі і “легіёнаў” са Слоніма. Аднаго разу прывозяць з гэткай экспэдыцыі аж 18 арыштаваных за “непаслушэнства” сялян у Казлоўшчыну, і замыкаюць іх у сьвірне на дзядзінцу папоўскай плябаніі, якую зрабілі сваім “штабам”. Уначы, зьвязаўшы вартаўніка ды заткнуўшы яму “гарлянку”, хлопцы вызваляюць сялян, пад носам піўшых на плябаніі карнікаў. Раніцай паны нават не спрабавалі нанава хапаць уцёкшых, а проста шмыганулі назад, у Слонім. Было гэта летам 1921 году. Вёска бурліла. Кожны малады селянін — свайго роду партызан. Ды паны так і ахрысьцілі нашую ваколіцу (на ўсход ад Шчары і Слоніма, паложаную паміж Слонімскай і Ліпічанскай пушчамі, аж туды, дзе Шчара ўпадае да Нёману) — Партызанскі Край.

Сапраўды, гэта быў “Партызанскі Край”! Партызаны былі, але арганізацыі партызанскай яшчэ не было ў нашай бліжэйшай ваколіцы. Партызанілі кожны на сваю руку — адзінкамі, парамі, часам большымі групамі, зьбіраючыся да якой наглай акцыі і зноў разыходзячыся. Але на вёсках каціліся чуткі: ходзяць праўдзівыя Беларускія партызаны недалёка. У Белавежскай пушчы атаман Чорт* скубе панскія вусы.

У Ружаншчыне атрад Харэўскага** жандараў церабіць. Пад Лясной атаман Сілюк гуляе, а пад Мікашэвічамі Муха зьявіўся. А ледзь не пад бокам у нас, вёрстаў за 20 — Шаршэнь, пад Ліпічанскай Рудой стаянку мае.

Вёска была ізаляваная ад зьнешняга сьвету. Радыё не было. Польскіх газэт не чыталі, ды іх таксама не было відаць, хіба толькі ў жандара ці ў руках абшарніка. Аб віленскай беларускай прэсе ніхто і ня чуў. Я быў, аднак, ужо нагэтулькі ўсьведамлёны, што ведаў аб існаваньні беларускага друку і шукаў магчымасьці зь ім сутыкнуцца, адшукаць яго (пачатак майго нацыянальнага ўсьведамленьня адносіцца да часу “бежанства” ў Расеі, дзесьці да 1918 году, капаючыся ў кніжках бацькі,

---

*“Чорт” — псеўданім Яна Грыцука, камандзіра партызанскага атраду, што дзейнічаў на Беласточчыне.

*Якуб Харэўскі (1900 — 1968), беларускі партызанскі камандзір. Падчас Другой сусьветнай вайны камандаваў беларускім нацыянальным партызанскім атрадам на Палесьсі. У канцы 1940-х з групай партызанаў перабраўся на Захад, жыў у Бразыліі, дзе трагічна загінуў.

я знайшоў дзіўны часопісік пад назвай “Саха” і спрабаваў яго чытаць, ды ня мог. На дапамогу прыйшла маці, якая растлумачыла, што мы — беларусы і нашая гаворка асобная ад расейскай).

Аднаго дня, праходзячы каля пошты, я ўбачыў на дарозе кавалак газэты ў беларускай мове. Гэта была частка выкінутай абгорткі хіба іншай газэты. Пасьля доўгіх роспытаў, я даведаўся, што беларускую газэту атрымлівае нейкі настаўнік з Казямякаўшчыны — Павал Коска. Ён мне падараваў тадышнюю віленскую беларускую прэсу, першыя творы беларускіх пісьменьнікаў (Купалы, Коласа, Гальяша Леўчыка).

Паглынаў я ўсё гэта з шалёнай прагай. У хаце пры лучыне ці газоўцы, на панадворку пры месячным сьвятле. Пачаў сам складаць першыя няўклюдыя вершы, песьні. Гарэў прагай дзеяць, нешта рабіць. Чытаючы беларускія газэты, я больш даведаўся аб сучасным становішчы на Заходняй Беларусі, аб партызанцы і г. п. Разам са мной была група сябрукоў, такіх-жа палкіх, баявых, шукаючых, як прыкласьці рукі да справы вызваленьня ад палякаў. Нас ужо ведалі старэйшыя, як маладых “нарванцаў”, бо мы голасна гаварылі і рабілі часам штукі, што аж дых займала, але неяк нам удавалася. І таму я ня вельмі зьдзівіўся, калі аднаго разу мяне раптам выклікаў Павал Коска і ад імя атамана Шаршня запрапанаваў выканаць вельмі важную місію.

Як паінфармаваў Коска, справа была ў тым, што атрад Шаршня згубіў свае кантакты з палітычным кіраўніцтвам, якое знаходзілася ў Беластоку. Спыніліся перакідкі зброі з Літвы (праз Сейненшчыну і Аўгустоўшчыну). А прычынай гэтага сталіся арышты сяброў паўстанцкай арганізацыі БНР, якой падлягаў атрад ат. Шаршня. У Варшаве я павінен быў адшукаць беларуса Рамуля Зямкевіча* і прасіць яго, каб ён зьвёў мяне з адным з паслоў польскага Сойму-беларусам. Пры гэтым не гаварыць Зямкевічу, у якой справе.

Зямкевіча ведалі ўсе беларусы, як зацятага беларуса і зьбіральніка ўсяго беларускага, а перадусім кніжак пра Беларусь. Калі ён дачуваўся, што недзе ёсьць нешта такое, кідаў усё і ехаў нават у якую-небудзь глухую вёску, каб выпрасіць у абшарніка ці шляхеткі нейкі беларускі старадрук. Калі неўдавалася, дык Зямкевіч пры нагодзе мог яго і ўкрасьці… Гэта была ягоная хвароба. Аднак вядомы быў ён яшчэ і таму, што для другога беларуса быў гатовы зрабіць усё, што мог. Па гэтай прычыне яго тайна выкарыстоўвалі некаторыя нашыя палітыкі. Так было і ў гэтым выпадку.

---

*Рамуальд Зямкевіч (1881 — 1943 ці 1944), беларускі бібліяфіл, бібліёграф, публіцыст, краязнаўца, гісторык, перакладчык. Жыў у Варшаве, меў багатую калекцыю беларускіх выданьняў, дакумэнтаў, рукапісаў. Загінуў у гітлераўскім канцлягеры ў гады Другой сусьветнай вайны.

Справа ў тым, што паслы Баран* і Якавюк** былі абстаўленыя шпікамі, і калі-б хто зь Беларусі ехаў да іх, дык неаспрэчна быў бы арыштаваны. За Зямкевічам, чалавекам апалітычным, сочкі не было. Я меў прыставіцца і прыставіўся Зямкевічу (знайшоў яго праз адрасны стол), сказаў, што шукаю паслоў па скарзе сялянаў аб сэрвітуце супраць пана Глябовіча з Рандзілаўшчыны.***

Зямкевіч зьвёў мяне з адным з паслоў. Аднак вынікі былі не радасныя. У сувязі з арыштамі 12 чалавек у Беластоку, былі парваныя ўсе кантакты з 5-ым Аддзелам Арміі БНР, які знаходзіўся ў Літве, і якому нацыянальная беларуская партызанка падлягала.****

Атаман Хмара*****, атрад якога складаўся з рэгулярных жаўнераў Беларускага 312-га палка Арміі БНР (ён меў стаянку ў Меркінях у

---

* Сяргей Баран (1894 — 1937?), беларускі палітычны дзяяч, эсэр. У 1922 г. абраны паслом польскага Сейму. У 1923 г. арыштаваны і асуджаны польскімі ўладамі. Пазьней выехаў у БССР. У 1933 г. быў арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў канцлягераў. Далейшы лёс невядомы.

** Якавюк Сымон (1881 — 1973), беларускі палітычны дзяяч. У 1922 г. быў абраны паслом польскага Сейму. У міжваенны час жыў у Коўне. Доўгія гады быў агентам савецкіх спецслужбаў. Памёр у Горадні.

*** Вёска ў цяперашнім Казлоўшчынскім пасялковым савеце Дзятлаўскага раёну Гарадзенскай вобласьці.

**** У вядомых нам крыніцах, згадваецца “4-я група партызан” са штабам у мястэчку Мэрач (Летува), якой кіраваў старшы лейтэнант Вячаслаў Разумовіч (Хмара). Яна была расфармаваная вясной 1923 году. Гл.: Архівы БНР. т.1, кн.2. Вільня—Нью-Ёрк—Менск—Прага, 1998, б. 1556, 1559. Паводле ўспамінаў В. Разумовіча, яго чацьвертая група здолела арганізаваць 9 аддзелаў, 36 партызанскіх раёнаў, некалькі дзесяткаў баявых атрадаў, якая ахоплівала каля 6 тысячаў чалавек. 4-я група беларускіх партызан распаўсюджвала на Гарадзенскі, Сакольскі, Бельскі, Кобрынскі, Пружанскі, Ваўкавыскі, Слонімскі, Беластоцкі і Лідзкі паветы. Акрамя яе, арганізацыяй беларускага партызанскага руху на беларускай тэрыторыі, акупаванай палякамі, займаліся яшчэ тры групы: першая са штабам у Коўне, якая адказвала за Вільню і Віленскі край, другая і трэцяя (штабы — у Уцянах і Аранах — адказвала за Ашмянскі і Браслаўскі паветы). Гл.: І. Коўкель, А. Чарнякевіч. Партызанскі рух на Гродзеншчыне ў 1921 — 1925 гадах // Слонімшчына вачыма навукоўцаў і краязнаўцаў. Матэрыялы рэгіянальнай гісторыка-краязнаўчай канферэнцыі, прысвечанай 750-годдзю горада Слоніма і 70-годдзю заснавання Слонімскага раённага краязнаўчага музею ім. І. І. Стаброўскага. Слонім, 2002, б. 255-256.

***** Сапраўднае прозьвішча — Разумовіч Вячаслаў, беларускі вайсковец, удзельнік Першай сусьветнай вайны. Нарадзіўся ў 1889 г. у Новых Троках Віленскай губэрні. Пасьля звальненьня з літоўскай арміі і прымусовай высылкі з Летувы ў 1924 г., жыў у Бэрліне, Празе. У 1924-1925 гг. працаваў у Расейскім замежным гістарычным архіве. Прымаў удзел у дзейнасьці расейскіх эміграцыйных манархічных арганізацый. У Празе і Брно ў 1930-37 гадах надрукаваў сваю дакумэнтальна-біяграфічную трылёгію. Быў жывы яшчэ ў 1938 годзе. Далейшы лёс невядомы.

Літоўскай рэспубліцы і знаходзіўся пад камандаваньнем палкоўніка Усьпенскага*), партызаніў у Заходняй Беларусі ў раёне Белавежскай пушчы. Пасьля беластоцкай усыпы прарваўся назад, у Літву, бо некаторыя з арыштаваных падалі на допытах даныя аб ягоным атрадзе. Польскія войскі, намацаўшы атрад, маглі яго насьцігнуць (у Разумовіча было каля 200 партызанаў-жаўнераў).

Іншыя атрады, якія складаліся зь мясцовых партызанаў, як атрад ат. Шаршня, атрад ат. Харэўскага, ат. Рудога і іншыя, што мелі сувязі з Беластоцкай паўстанцкай Цэнтраляй, засталіся без кіраўніцтва. Некалькі атрадаў былі разьбітыя і 4-х злоўленых партызанаў палякі павесілі. Спынілася перакідка зброі цераз Сейнішчыну і каля Друскенік (для атраду Шаршня), якой кіраваў афіцэр генэральнага штабу літоўскай арміі капітан Мікуцкі. Апэратыўным сувязным паміж 5-й (партызанскай) Групай Войскаў БНР і Галоўнага Штабу Беларускіх партызанаў ды літоўскім штабам быў капітан літоўскай арміі В. Алксніс, які цяпер жыве ў Амэрыцы,** а ад Ураду БНР — радны Ўсяслаў Боеў.***

Палякі кінулі на прачоску Ліпічанскае пушчы кавалерыйскі і пяхотны палкі, але атрад Шаршня не намацалі. Тое ж было з аблавай на атрад ат. Харэўскага ў Ружанскай пушчы. Зьнішчылі толькі атрад ат. Чорта ў Белавежы. Такія слабыя вынікі “працы” карнікаў былі абумоўлены тым, што партызанскія атрады былі інакш пабудаваныя. У лесе з атаманамі было толькі каля 10 асобаў у кожным атрадзе, рэшта стала жыла ў вёсках і выступала на збройныя акцыі звычайна толькі на адну ноч, каб пасьля акцыі зноў стацца “мірнымі” сялянамі. А гэтых скрытых партызанаў пры кожным атрадзе налічвалася больш соткі.

Адзіная была рада — дзеяць самастойна і пашыраць партызанку, лічачы яе падрыхтоўкай да паўстаньня супраць Польшчы. Гэта быў пачатак маёй супрацы з партызанкай. На пачатку 1922 году мы

---

*Палкоўнік Аляксандар Усьпенскі (1872 — пасьля 1945 г.) — афіцэр рускай арміі, падчас Першай сусьветнай вайны трапіў у нямецкі палон. З 1918 г. служыў у летувіскай арміі, ачольваў беларускія вайсковыя фармацыі. У 1921 годзе ў ранзе падпалкоўніка ачольваў Галоўны штаб беларускіх партызанаў, які знаходзіўся ў Летуве. У міжваенны час жыў у Коўне, выдаваў мемуары. У 1940-1941 гг. знаходзіўся ў турме НКВД, адкуль вызваліўся на пачатку нямецка-савецкай вайны. Яго сьляды губляюцца ў 1945 годзе.

**На час, калі пісаліся гэтыя ўспаміны.

***Насамрэч, Усевалад Боеў. Расеец з паходжаньня, юрыст, удзельнік беларускага нацыянальнага руху часоў БНР. У міжваенны час жыў у Летуве. У 1940-1941 гг. знаходзіўся ў турме НКВД, адкуль вызваліўся на пачатку нямецка-савецкай вайны. У 1944 годзе працаваў у Кёнігзбэрскім аддзеле Беларускага камітэту самапомачы, у пачатку 1945 г. перабраўся ў Брэслаў. Памёр пасля вайны ў ЗША.

пачынаем арганізоўваць сваю групу, на ўзор ужо існуючых групаў аддзелу атамана Шаршня, называную Яварскай (ад Руды Яварскай) і Дзярэчынскай. Утварылі найперш камандную “тройку” з Паўла Коскі, настаўніка Аляксандра Тарасюка з Казлоўшчыны і мяне. За паўгода мы мелі пад рукой каля 200 гатовых на ўсё дзецюкоў на абшары больш чым трох гмінаў: Казлоўшчынскай, Рагаценскай, Дзераўнянскай і часткова Дзятлаўскай. У кожнай вёсцы мы закладалі “дзесятку”, якая складалася звычайна з трох да пяці чалавек і рэдка дасягала дзесяці асобаў.

Так, як П. Коска ўсё больш хварэў, дык ягоная дзейнасьць абмяжоўвалася амаль выключна толькі да кантактаў з ат. Шаршнём. Мне, як наймаладзейшаму, даручалася праца па арганізацыі нашых партызанскіх купін на вёсках (наколькі ўдалай была гэтая арганізацыя, паказвае той факт, што яшчэ ў 1926 годзе падчас стварэньня Грамады мы змабілізавалі гэты былы наш партызанскі актыў і патрапілі зарганізаваць на гэтым абшары ў цягу паўгоду 32 гурткі гэтай арганізацыі. У іх налічвалася больш за 300 сяброў. Паўстанцкія настроі былі настолькі жывыя, што па загадзе ЦК Грамады мы мусілі прыкласьці нямала сіл, каб утрымаць ад узброенага выступу нашых сяброў, які яны рыхтавалі на выпадак ліквідацыі легальнай Грамады уладамі. Ліквідацыю Грамады і арышты ў нас праводзіла войска ў ліку цэлага батальёну).

Партызанскія выступы выглядалі так. Атаман Шэршань даваў наказ выдзеліць яму тады і тады, там і там адпаведную колькасьць партызан з нашае групы з коньмі або бяз коней (вазы). Пасьля ўзброенага выступу ўсе варочаліся паціху дадому яшчэ перад паліцыйнай аблавай, якая звычайна прыходзіла праз 2-3 дні ў выглядзе ня менш сотні паліцыі і эскадрону ці двух кавалерыі (уланаў). Шырэй праводзілася сабатажная акцыя. Не пасьпявалі польскія ўлады правесьці дзе тэлефонную лінію, як яна абрывалася. Слупы сьпілоўваліся, дрот забіралі з сабою (гэта быў адзін з лепшых падарункаў для сялян, якія рабілі з дроту цьвікі).

Па дарогах мы абстрэльвалі паліцыю. Таму яна рэдка зьяўлялася ў вёсках, а калі і зьяўлялася, дык купай, ня меншай за 5-6 асобаў. Уначы абстрэльваліся пастарункі паліцыі. Дайшло да таго, што з надыходам цемры паліцыя замыкалася ў будынку пастарунку, звыкла ўмацаванага мяхамі з пяском у вокнах і дзьвярах (Казлоўшчына, Явар, Раготная, Руда Яварская, Езавец) і прасіджвалі цэлую ноч пры кулямётах. Казлоўшчынская паліцыя пасьля нават пакідала на ноч свой пастарунак і адседжвалася ў каменным двухпавярховым палацы маёнтку “Падоле”, што стаяў абок мястэчка. Вартаваць пастарунак паліцыянты прымушалі сялянаў.

Тое самае было з маёнткамі. Гарэлі сьцірты са збожжам, стагі сена.

Ноччу "партызаны" прыяжджалі да панскіх ямаў-сховішчаў з выкапанай бульбай, насыпалі яе ў мяхі, ладавалі на вазы і ад'яжджалі. Пры нагодзе забіралі і збожжа з панскіх сьвірнаў. Усё гэта адбывалася пад гук адрэзаў ці "бомбаў", зробленых з патронаў. Групу мы сваю ахрышчвалі не па назьве нашага мястэчка, як было з Дзярэчынскай і Рудзянскай, а больш кансьпірацыйным імем — "Іскра" (гэта ўжо была мая юнацкая рамантыка ў гэтай прапанове: "іскра", якая распаліць паўстаньне!). Ахоплівала група, у адрозьненьне ад названых, і іншыя гміны.

У 1923 годзе нашыя адносіны з ат. Шаршнём пачынаюць псавацца. Некаторыя з блізкіх супрацоўнікаў ат. Шаршня пачалі скардзіцца, што ён разам са сваімі ад'ютантамі занадта пачаў піць. Што некаторыя напады, як на гарэлачны склад, мелі на мэце толькі захоп скрыняў гарэлкі, а ня нейкія іншыя мэты. Падчас гэтага нападу загінуў адзін партызан. Казалі, што ён распускае сваіх падручных, якія спынялі на дарозе жыдоўскіх купцоў ды забіралі ў іх ня толькі грошы, але і гадзіньнікі. Нічога не рабіў атаман Шаршэнь і для аднаўленьня кантактаў з нашымі сіламі ў Літве. Атаман Шаршэнь нам адказаў, што і праўда, тая частка партызанаў, што была ў лесе, здэмаралізавалася, і што незаўсёды ён можа іх трымаць у руках. Шаршэнь запрапанаваў стварыць з нашай групы самастойную партызанку і спрабаваць навязаць зноў сувязь з кіраўніцтвам 5-ай групы войскаў БНР у Літве.

На нарадзе ў Задвор'і афармляецца наша група, як асобны атрад. Была прынятая назва атраду — Іскры (яе поўная назва, як яна гучала і [была напісаная] на пячатцы, якую змайстраваў наш спэц па разьбе Віктар, выглядала так: 5-я Група Войскаў Беларускай Народнай Рэспублікі. Атрад Іскры). Замест П. Коскі ў партызанскую "тройку" быў дабраны С. Лаўрын (Лаўрынка). А. Тарасюк (псеўда "Анархіст") быў накіраваны ў Літву. Там ён спаткаўся з Боевым і даведаўся, што Літва фактычна сарвала ўмову з Урадам БНР, які выехаў у Чэхію, а Беларускае міністэрства ў Літве ліквідуецца. Аднак капітан Мікуцкі выстараўся яшчэ здабыць для нашых атрадаў транспарт лёгкай зброі і амуніцыі, на чым і скончылася сувязь беларускай партызанкі з Літвой.

Мы пачалі дзеяць зусім самастойна. У Моўчадзкай гміне пашыралася партызанская арганізацыя ат. Рудога. Атрады Шаршня і Харэўскага ўважаліся партызанкай БНР (5-я група Войскаў БНР). У Віленшчыне была пачала тварыць партызанку Беларуская Рэвалюцыйная Арганізацыя (БРА) на чале з Канчэўскімі і Лагіновічамі. Але ў 1922 годзе яны злучыліся з камуністамі і ўтварылі Кампартыю Заходняй Беларусі. Пасьля гэтага Саветы перакінулі на Віленшчыну некалькі сваіх чэкістаў, небеларускага паходжаньня, якія падпарадкавалі сабе ўзброеныя групы былога БРА, а Канчэўскіх сьцягнулі ў Расею, дзе яны хутка згінулі. Камандаваў тою партызанкай нейкі чэкіст, літвін з

паходжаньня — Ваўпшасаў.*

У Міршчыне і Наваградчыне кампартыя ў 1923 годзе прыступіла безпасрэдна да стварэньня сваёй партызанкі з сяброў кампартыі і пад яе камандаваньнем. На Палесьсі завязалася стыхійная партызанка, якая не падлягала ані кампартыі, ані партызанскаму БНРаўскаму цэнтру ў Беластоку, ані яго партызанскаму штабу. Гэта былі атрады Мухі, Струка, Сілюка і іншых. На іх з часам паклала сваю руку кампартыя, пранікшы праз сваіх сяброў у іхныя шэрагі. Якімі гэта спосабамі рабілася, найбольш яскрава ілюструе прыклад атраду Мухі.

Была гэта дробная група ў колькасьці каля 10 асобаў, атаманам якой высунуўся сяржант-перабежчык з польскага войска — Муха.** Ён ратаваўся ад кары, якая яго чакала за нейкі праступак. Спачатку гэтая групка ня мела палітычных накіраваньняў, толькі рабуючы паноў, каб было як жыць у лесе. Муха меў шмат гумару і адмысловымі выступамі свае групы, асьмешваючымі паноў і жандараў, выклікаў розгалас і злосьць уладаў.

Уцякаючы неяк ад перасьледу, Муха быў вымушаны перайсьці савецкую мяжу каля Леніна. Там яму бальшавікі запрапанавалі “супрацу”. Калі ён пагодзіцца на прыняцьце да свайго атраду “фахоўца”*** па распрацоўцы апэрацыяў, іхняга стаўленіка, на пасаду “начальніка штабу” атраду. За гэта атрад Мухі атрымае права хавацца за савецкую мяжу пры перасьледаваньнях і будзе атрымоўваць зброю ды іншыя патрэбныя рэчы.

Муха пагадзіўся. У “начальнікі штабу” яму далі чэкіста Арлоўскага**** і яшчэ двух памочнікаў. Атрад пачаў выконваць толькі дырэк-

---

*Станіслаў Ваўпшасаў (1899 — 1976), афіцэр савецкай дзяржбясьпекі, герой Савецкага Саюзу (1944). Партызаніў па лініі савецкіх спэцслужбаў у Заходняй Беларусі ў 1920-1925 гг., а пасьля і падчас нямецкай акупацыі ў 1942-1944 гг. (меў мянушку “Градаў”), кіраваў ліквідацыяй актывістаў беларускага нацыянальнага руху. У паваенны час прымаў удзел у барацьбе супраць антысавецкай партызанкі і падпольля.

**Муха-Міхальскі, камандзір партызанскага атрада на заходнебеларускім Палесьсі. Пасьля захопу атрада чэкістамі, фактычна, быў закладнікам, а яны дзейнічалі ад яго імя. Па некаторых зьвестках, пазьней Муха-Міхальскі быў нелегальна перапраўлены ў БССР і расстраляны ГПУ. Яго прозьвішча, як крыптанім, у пачатку 1920-х ужывалі чэкісты К. Арлоўскі, С. Ваўпшасаў, А. Рабцэвіч, В. Корж, а падчас нямецкай акупацыі 1941-1944 гг. — некаторыя партызанскія камандзіры на заходнебеларускім Палесьсі.

***“Спэцыяліста”.

****Кірыла Арлоўскі (1895 — 1968), ураджэнец в. Мышкавічы Бабруйскага павету, супрацоўнік ГПУ, герой Савецкага Саюзу (1943). У 1922-1925 гг. пад псеўданімамі “Аршынаў” і “Муха-Міхальскі” камандаваў партызанскім атрадам на заходнебеларускім Палесьсі, пазьней служыў у ворганах ГПУ-НКВД БССР, у 1936-1939 гг. ваяваў у Гішпаніі, Кітаі. Падчас нямецкай акупацыі партызаніў у Беларусі, як камандзір разьведвальна-дывэрсійнай групы НКГБ (1942-1943), быў цяжка паранены. Пасьля вайны — старшыня калгаса “Рассвет” у Кіраўскім раёне.

тывы з-за мяжы. Не прайшло і паўгода, як атрад, папоўнены людзьмі Арлоўскага, стаў падпарадкоўвацца толькі яму. Муха ж стаў толькі шыльдовым атаманам (у 1925 годзе, калі Саветы зьліквідавалі сваю партызанку, атрад Мухі скіравалі на "адпачынак" у цэнтар перакідак і дывэрсійную школу пад Менскам, якая афіцыйна называлася сельскагаспадарчай дасьледчай станцыяй.* Хутка пасьля таго Муху і ягоных сяброў расстралялі, засталіся толькі Арлоўскі са сваімі сябрамі).

У 1923 годзе я зноў еду ў Варшаву і там Зямкевіч зводзіць мяне з цікавым беларусам-настаўнікам Максімам Бурсэвічам.** Бурсэвіч быў старым эсэрам і, як высьветлілася, яшчэ і "савінкаўцам", які зьняверыўся ў правадыры і перайшоў на нацыянальныя пазыцыі. Празь яго потым я пазнаёміўся з пасламі Сойму — Рак-Міхайлоўскім,*** Рагулем**** і іншымі. Пазнаёміўся з сэнатарамі Багдановічам***** і Ўласавым****** Паслы налягалі, каб мы праводзілі ў ваколіцы палі-

---

*У Лошыцы пад Менскам.

**Беларускі палітычны дзяяч. Нарадзіўся ў 1890 г. у в. Чамяры Слонімскага павету. З чэрвеня 1925 г. уваходзіў у Беларускі пасольскі клюб. З ліпеня 1926 г. — сябра ЦК БСРГ, кіраўнік яе Цэнтральнага сакратарыяту. Неаднаразова арыштоўваўся польскімі ўладамі, на працэсе над кіраўніцтвам Грамады ў 1928 г. атрымаў 8 гадоў зьняволеньня. У 1931 г., у выніку абмену палітвязьнямі, трапіў у СССР. Жыў і працаваў у Менску. Арыштаваны ў 1933 г. і асуджаны да расстрэлу, які быў заменены 10 гадамі зьняволеньня. Расстраляны ў 1937 годзе паводле прысуду тройкі УНКВД па Ленінградзкай вобласьці.

***Сымон Рак-Міхайлоўскі (1885 — 1938), беларускі палітычны дзяяч, публіцыст, пэдагог, ураджэнец в. Максімаўка Вялейскага павету (цяпер Маладзечанскі раён). З 1917 г. быў сябрам Беларускай сацыялістычнай грамады, узначаліў Цэнтральную беларускую вайсковую раду. Адзін з кіраўнікоў Першага Ўсебеларускага кангрэсу (1917), сябра Рады БНР (1918), адзін са стваральнікаў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі, а пазьней — Беларускай партыі незалежных сацыялістаў (1922-1925). У 1922 г. выбраны паслом у польскі Сейм, уваходзіў у Беларускі пасольскі клюб, а пасьля — у пасольскі клюб Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Уваходзіў у кіраўніцтва Таварыства беларускай школы, быў намесьнікам старшыні ЦК БСРГ, з 1926 г. — сябра КПЗБ. Арыштаваны ў 1927 г., асуджаны да 12 гадоў зьняволеньня. Датэрмінова вызвалены ў 1930 годзе, уваходзіў у Цэнтральны беларускі рабоча-сялянскі камітэт "Змаганьне". ЦК КПЗБ у кастрычніку 1930 г. арганізавала яго нелегальную перапраўку ў БССР. Арыштаваны савецкай дзяржбясьпекай у 1933 годзе, расстрэл быў заменены 10 гадамі зьняволеньня. Аднак у 1938 г. "асобая тройка" НКВД БССР прыгаварыла яго да "вышэйшай меры пакараньня", і ў лістападзе ён быў расстраляны, пахаваны, праўдападобна, у Курапатах.

****Васіль Рагуля (1879 — 1955), беларускі палітычны дзяяч, настаўнік, ураджэнец в. Ачукевічы Наваградзкага раёну. Удзельнік Першага Ўсебеларускага кангрэсу (1917). У 1922 г. абраны паслом польскага Сейму, уваходзіў у Беларускі пасольскі клюб. Быў перакананым антыбальшавіком, удзельнічаў у стварэньні незалежніцкага Беларускага сялянскага саюзу. У 1928 годзе быў абраны сэнатарам польскага Сейму, аднак, пасьля абвінавачаньня яго ў "антыдзяржаўнай

тычна-усьведамляючую працу. Мы і самыя разумелі, што аднымі ўзброенымі выступамі шмат чаго не даб’емся, што трэба да гэтага і палітычная праца.

Так у 1924 годзе ўзяліся мы і за іншае. Першае — кінулі на вёску беларускую прэсу. У канцы году мелі ўжо каля 200 падпісчыкаў. Горш было з каталікамі. Каб іх “разчухаць”, зьвязаліся з рэдакцыяй “Крыніцы” і яна паабяцала пару месяцаў дармова прысылаць газэту па ўказаных адрасах. Выбралі мы сто адпаведнейшых адрасоў і сыпнула “Крыніца” ў каталіцкія вёскі. Памагло шмат! А паны пасьля гэтага пачалі і на беларусаў-каталікоў глядзець, як на *“большэвікуф”*. Другое — узяліся мы і за царкоўныя справы. Прыехаў да нас сьвятар-самотнік Катовіч. Разгаварыліся. Быў ён патрыётам. У сваіх казаньнях выступаў востра супраць польскага засільля, заклікаў трымацца свае мовы, недапускаць апалячваньня дзяцей, выпісваць і чытаць сваю прэсу.

Аднак доўга Катовіч у нас не пабыў, бо стаў занадта папулярным сярод народу. Аднаго дня зьявіўся аддзел паліцыі са Слоніма з наказам да сьвятара тэрмінова сабрацца. Яму паведамілі, што па загадзе ваяводы ён будзе выдалены па-за межы Польшчы, у Гданьск. Вестка гэтая хутка разьнеслася па Казлоўшчыне і суседніх вёсках. Зьбегліся людзі, якія пачалі адкрыта гаварыць, што сьвятара трэба адбіць

---

дзейнасьці”, быў пазбаўлены дэпутацкага імунітэту, арыштаваны і два гады правёў у турме. У 1941 г. быў арыштаваны НКВД, але на пачатку нямецка-савецкай вайны здолеў уцячы з-пад варты. Працаваў бурмістрам Дзятлаўскага раёну, прымаў удзел у Другім Усебеларускім кангрэсе (1944). Зь лета 1944-га — на эміграцыі. Напісаў успаміны. Памёр у ЗША. Яго сын Міхась быў адным з лідараў Беларускай Незалежніцкай Партыі.

*****Вячаслаў Багдановіч (1878 — 1941), беларускі палітычны і рэлігійны дзяяч. Скончыў Кіеўскую духоўную акадэмію. Адзін з заснавальнікаў Беларускага правалаўнага аб’яднаньня. У 1922 годзе абраны ў сэнат Польшчы, уваходзіў у Беларускі пасольскі клюб. У 1920-1930-я гг. — сябра Беларускага нацыянальнага камітэту ў Вільні. Быў арыштаваны польскімі ўладамі і зьняволены ў Бяроза-Картузскім канцлягеры. У кастрычніку 1939 г. арыштаваны ў Вільні НКВД. Праўдападобна, быў расстраляны. Яго сын Глеб падчас Другой сусьветнай вайны браў удзел у беларускім вайсковым руху, быў сябрам Беларускай Незалежніцкай Партыі.

******Аляксандар Уласаў (1874 — 1941), беларускі грамадзка-палітычны дзяяч, выдавец, публіцыст, адзін з пачынальнікаў нацыянальнага руху. Ураджэнец Вялейкі. У 1906 — 1914 гг. быў рэдактарам-выдаўцом газэты “Наша ніва”. Адзін зь лідараў Беларускай сацыялістычнай грамады, удзельнік Першага Ўсебеларускага кангрэсу. Сябра Рады БНР, са сьнежня 1919 г. — сябра прэзыдыюму Найвышэйшай Рады БНР. У 1922 г. стаў паслом польскага Сейму, пазьней — сэнатарам. Быў адным з кіраўнікоў Таварыства беларускай школы, апякаваўся Радашковіцкай беларускай гімназіяй. Арыштоўваўся польскімі ўладамі. У кастрычніку 1939-га арыштаваны НКВД, асуджаны на 5 гадоў зьняволеньня, дзе і загінуў.

сілаю. Паліцыя пабаялася вывозіць сьвятара з мястэчка, выклікала на дапамогу эскадрон гусараў з Наваградку. Кавалерыя прыбыла толькі на другі дзень. Сьвятара пасадзілі ў брычку з трыма паліцыянтамі, за ёй ехаў другі воз — з паліцыяй. Наперадзе і ззаду брычкі ехалі коньнікі з шаблямі. З такім “эскортам” сьвятар Катовіч быў завезены ў Слонім (28 кілямэтраў лесам). Палякі сур’ёзна баяліся партызанскай засады ў лесе, па дарозе. Бо пагалоска, што партызаны адаб’юць сьвятара, была на вуснах усіх (хлопцы, сапраўды, хацелі гэта зрабіць, але ўбачыўшы такую вялікую колькасьць польскіх вайскоўцаў, былі вымушаныя такую ідэю адкінуць).

Адной з вялікшых нашых акцыяў быў падпал у 1924 годзе ўсіх навакольных лясоў. Тады якраз прайшла вестка, што польскі ўрад падпісаў умову з францускімі і швайцарскімі фірмамі на вырубку нашых пушчаў, падпал быў нашым адказам. Магчыма, гэта была і не прадуманая як сьлед акцыя, але мы тады ня мелі з кім параіцца, і вырашаць давялося самым.

Кінулі кліч: паліць! Хай ня вывезуць і палена! Узброенымі групкамі па пару асоб, паадзіночна, разьбегліся па лясах. Гарэла ўсё навокал. Сонца выглядала з дыму чырвоным мутным дыскам… Зноў зьявілася кавалерыя, паліцыя са Слоніма, Баранавічаў, Ваўкавыску. У цэлым ваяводзтве было абвешчанае ваеннае становішча. Падпальшчыкаў абяцалі судзіць ваенна-палявым судом. Паліцыя, пры падтрымцы жаўнераў, зганяла ўсіх мужчынаў і моладзь на тушэньне пажараў. Яны ў лесе капалі равы, рабілі прарубкі, а паліцыя і войска пільнуе, каб людзі не паўцякалі. Але ўцякалі самыя, бо раптам за імі і за капанай перашкодай новы пажар! І ня дзіва, што тыя, якія прымушаныя былі тушыць пажар, употайкі запальвалі яго далей. Між змабілізаваных сялянаў былі сябры нашай партызанкі.

Лес гарэў больш, чым тры тыдні, аж пакуль не пачаліся дажджы. У канцы гэтай акцыі сустрэліся мы з адной праблемай. Аказалася, каля Шундроў і Азарычаў у Дзераўноўскай гміне фірмы былі ўжо панаймалі лесарубаў з мясцовых людзей, а тут гарыць лес… Сярод шундроўцаў паўстала незадавальненьне. Яны закідалі нам, што сваёй акцыяй мы пазбавілі іх заробку, адзінага, які здараўся ў нашай ваколіцы. Прыйшлося нам пераглядаць нашую тактыку ў гэтай справе. На будучае дамовіліся так: дзелянкі лесу, падрыхтаваныя пад парубкі, не паліць, а даць яго вырубіць. Гэта дасьць заробак лесарубам, і толькі пасьля падпальваць гатовы матэрыял, вызначаны для адпраўкі. Калі-ж фірмы прывязуць лесарубаў з Польшчы, напалохаць іх кулямі зь лесу.

Зьявіліся ў нашых мясцінах і першыя вайсковыя асаднікі. Ім надзялялася зямля зь якога-небудзь маёнтку, сканфіскаванага ад ўласьніка, калі ён ня быў паляк, а расеяц зь іншых земляў. Асядалі яны купай, цэлай калёніяй. Першая такая асела каля вёскі Явара ў

Раготненскай гміне. Абурэньне мясцовых сялянаў, галодных зямлі, ня мела межаў. Нашая Яварская і суседнія купіны не давалі асаднікам спакою ні ўдзень, ні ўначы. Падпалілі гумно, потым хлявы. Выходзячых у поле асаднікаў спатыкалі стрэламі з адразанак (на жаль, кулі зь іх далёка ня несьлі).

Асадніцкая калёнія сталася ўзброеным лягерам. Дзень і ноч у іх была варта. На поле выяжджалі купай. Ставілі па баках кулямёты, а рэшта гарала ці сеяла. Камандзірам у іх быў паручнік, які заўсёды на кані гойсаў з канца ў канец асадніцкага поля. У Явар на дапамогу паставілі паліцыйны пастарунак з 8 паліцыянтамі. А ўсё-ж гарэла асадніцкае дабро! Страшылі іх уначы стрэлы. Частка асаднікаў ня вытрымала і ўцякла назад, у Польшчу.

Вядома, шмат акцыяў было папярэдне не абгаворана, і пачынала якая-небудзь нашая вясковая “дзесятка” дзеяць на сваю руку. Часам робяць па-дзіцячаму, часам зусім бязсэнсоўна. Справа ў тым, што нашая арганізацыя была зусім інакш пабудавана, чым сталы лясны атрад партызан. Гэта была больш паўстанцкая арганізацыя з параскіданымі на шырокай прасторы скупінамі ў паасобных вёсках. Агульныя ўзброеныя выпады рабіліся найбольш 50-70 чалавекамі, а звычайна дзеялі паасобныя групкі 10-20 асобаў для аднае акцыі. Пасылалі такія групы на дапамогу і атраду ат. Харэўскага, Рудога, Шаршня (кантакты зь імі былі сталыя). Атрад Рудога паходзіў па сваёй будове на наш. Гэта значыць, у яго не было сталага ляснога партызанскага ядра, маючага стаянку ў лесе, як было ў атрадах Шаршня і Харэўскага.

Праз Дзятлаўшчыну спрабавалі навязаць кантакты з намі камуністычныя партызаны з Наваградчыны (гэта былі групы, якія востра супрацівіліся падпарадкаваньню КПЗБ польскай кампартыі і дамагаліся паўстаньня на Заходняй Беларусі, а пасьля загаду з Масквы ад 1925 г. зьліквідаваць партызанку і падпарадкавацца польскай кампартыі, яны на чале з генэральным сакратаром КПЗБ Гурыным стварылі г.зв. “нацыянальную сэцэсію КПЗБ”. Адмовіліся падпарадкавацца гэтым загадам і запатрабавалі прызнаньня месца ў Камінтэрне для КПЗБ, як самастойнай адзінкі). Прадстаўнік гэтых камуністычных партызанаў Кузьма, які навязваў зносіны з намі, быў забіты пасьля прававернымі камуністамі, як “правакатар” (такі лёс пасьля спасьціг і правадыра нацыянал-камуністаў Гурына). Паводле нацыянал-камуністычнай схемы, у выпадку, калі партызанская барацьба ў Заходняй Беларусі перарасьце ва ўсеагульнае паўстаньне, Усходняя Беларусь — БССР, на аснове савецкай Канстытуцыі, якая прадугледжвала выхад паасобных дзяржаваў СССР з фэдэрацыі, выступіць з Савецкага Саюзу і аб’яднаецца ў адну дзяржаву з Заходняй Беларусяй, ды стане збройна

ў абароне яе супраць Польшчы. Паводле іх, гэтую думку падзялялі беларускія правадыры БССР, як Чарвякоў, Ігнатоўскі і іншыя.*

Схема БНР ад 1921 году прадугледжвала таксама перарост партызанкі ў Заходняй Беларусі ва ўсеагульнае ўзброенае паўстаньне, на дапамогу якому павінны былі прыйсьці войскі БНР з Літвы і літоўскія войскі, ды стварыць Літоўска-Беларускую Фэдэрацыю з Літвы і Заходняй Беларусі. Аднак, гэты праект хутка адпаў — Урад БНР пераканаўся, што Літва хоча толькі выкарыстаць беларусаў для сваіх нацыяналістычных мэтаў. У выніку, Урад БНР пакінуў Літву і пераехаў у Чэхаславакію.

Кантактаў з Мухай пачалі шукаць нашыя партызаны. Справа ў тым, што некалькі разоў гэты атрад, кіраваны з-за мяжы ГПУ, рабіў неспадзяваныя наскокі на абшарах, дзе дзеяла нашая партызанка ат. Рудога і ат. Харэўскага. Былі выпадкі, калі заалярмаваная нападамі Мухі паліцыя ледзь не натыкалася на нашыя атрады, якія ішлі на акцыю і нічога аб нападах Мухі ня ведалі. Было пастаноўлена навязаць сувязь з Мухай і прапанаваць, каб іх атрад не саваў носу на абшары нашай дзейнасьці, або мы будзем вымушаны папрасіць іх гэтага зброяй.

Спатканьне адбылося ў Сталавічах. Але ат. Муха не зьявіўся. Прыбыў ягоны “начальнік штабу” “Максім”, як потым даведаліся, фактычны камандзір атраду чэкіст Арлоўскі, і яшчэ адзін партызан. Ад нас быў ат. Харэўскі, Руды і я. Праясьніўшы сытуацыю, ат. Харэўскі запатрабаваў, каб атрад Мухі ў сваёй дзейнасьці не пераходзіў на нашыя абшары, бо гэта пагражае небясьпекай для нашых атрадаў неспадзявана трапіць у паліцыйныя аблавы. “Максім” паспрабаваў прапанаваць “каардынацыю” дзейнасьці, бо ў іх ёсьць “штаб”, які распрацоўвае апэрацыі і зброі ў іх хапае. Ведаючы, што гэта за “штаб”, мы ад такой каардынацыі адмовіліся і прапанавалі прыняць падзел тэрыторыі дзейнасьці, або ім давядзецца сустрэцца зь іншым спосабам нашага ўзьдзеяньня. Умова была зробленая. Атрад Мухі забавязаўся ў сваёй дзейнасьці не пераходзіць далей Віленска-Берасьцейскай чыгункавай лініі, з тым, што на паўночны-захад ад яе мае дзеяць наша партызанка, а на паўднёвы-усход — іхняя. Больш яны на нашых абшарах не зьяўляліся.

Пакінутыя самыя сабе, не маючы ніякіх кіруючых цэнтраў над сабою, у адрозьненьне ад той-жа камуністычнай партызанкі, мы

*Аляксандар Чарвякоў (1892 — 1937), беларускі палітычны і дзяржаўны дзяяч, адзін з заснавальнікаў кампартыі Беларусі. У 1920-1937 гг. быў старшынём ЦВК БССР, а ў 1920-1924 гг. — СНК БССР; Усевалад Ігнатоўскі (1881 — 1931), беларускі палітычны дзяяч, гісторык, пэдагог, прэзыдэнт Беларускай Акадэміі Навук. Абодва перад пагрозай арышту скончылі жыцьцё самагубствам (застрэліліся).

мусілі самыя прымаць пастановы ня толькі ўзброеных выступаў, але, часам, і ў палітычных справах. Вельмі ж шчыльна было гэта павязана міжсобку. Ці былі гэтыя нашыя пастановы і, як іх вынік — дзеяньні, заўсёды справядлівымі? Напэўна, не! Рабілася шмат памылак, шмат невысьпелых акцыяў. Але, робячы іх, мы вучыліся, разумнелі, а галоўнае — сталелі ды навучыліся дзеяць самастойна ў кожнай сытуацыі, прымаючы муталем рашэньне, добрае яно было ці благое, але было заўсёды ў час. Прыдалося гэтае нам у далейшай нашай працы: і пры арганізацыі Грамады, пасьля — "Змаганьня", барацьбы за беларускую школу, калі мы пакрылі наш куток цэлай сеткай нелегальных беларускіх школаў і г. д.

Нам бракавала штораз больш прасторы для дзейнасьці — адразанкай усяго не дасягнеш, а польская ўлада ўзмацнялася. Паўстаньне-паўстаньнем, але селянін патрабаваў штодзённай абароны ад польскай галоты з гмінных і павятовых урадаў, школы, пошты, каморнікаў, якія з паліцыяй ужо пачалі наведваць бліжэйшыя вёскі. Нават ад дзяржаўнай царквы, праз якую ўлады спрабавалі, пры дапамозе папоў-расейскіх белагвардзецаў, насаджваць пакору і паслушэнства, ды праводзіць палянізацыю.

У такой сытуацыі бяз нейкага вышэйшага кіраўніцтва не абыйдзешся. Таму з 1924 году мы рупімся бліжэй зьвязацца з Беларускім Пасольскім Сеймавым Клюбам у Варшаве. Прыйшлося перад яго сябрамі больш-менш выкрыць, хто мы і як дзеім. Нашымі ўчынкамі захапляліся, галоўным чынам, Сымон Рак-Міхайлоўскі і Васіль Рагуля, але і яны радзілі, што трэба рабіць нешта і на легальным грунце. Такім чынам я станаўлюся ўжо на пачатку 1925 году прадстаўніком Радашковіцкага Таварыства Беларускай Школы ў нашай ваколіцы. Поўпатаемна, бо ўладам пра гэта не паведамлялася (стаў і сябрам Віленскага Таварыства Беларускай Школы, якое ў той час яшчэ ня мела права дзейнічаць у нашым ваяводзтве).

З дзесятак разоў нас наведвае патаемна пасол Рак-Міхайлоўскі і ня менш разоў Рагуля. Усё гэта неафіцыйна, пераапрануўшыся ў вопратку, якая не зварочвала б увагі паліцыі. Асабліва спэцам у маскіроўцы быў Рагуля. Прыяжджаў на нанятым у Слоніме сялянскім возе, у сьвітцы і лапцях. Рак-Міхайлоўскага звычайна спатыкаў наш вазак ці ў Наваельні, ці ў Дварцы, і вёз глухаманьню да нас. На патаемных зборках у Казлоўшчыне ці ў адной зь вёсак зьбіралася да 30 асобаў. Такім чынам паслы маглі самыя пераканацца, што ў нас за актыў і якія ў нас настроі. Гэта яны, а перадусім Рак-Міхайлоўскі, пусьцілі пра нас, і пра мяне асабіста, легенду аб нашых партызанскіх і іншых прыгодах, часам, для жарту, упрыгожыўшы іх яшчэ і выдуманымі фантастычнымі падрабязнасьцямі, якія пасьля былі "папраўленыя"

Флягонтам Валынцом*, вялікім жартаўніком-выдумляльнікам са “Змаганьня” (1928-1930 гг.).

А што ў іхнія перабольшаныя легенды верылі, маем прыклад. Ужо тут, на эміграцыі, былы пасол, выкінуты са “Змаганьня”, апісваў у прэсе Хмару, як нейкага тэрарыста, які з рэвальвэрам у руках казаў правадыру “Змаганьня” д-ру Дварчаніну** падпарадкавацца (!). Напісаў ён і пра іншыя дурноты. Другі падобны даўмека сьцьвярджаў, што гэта Хмару вывеў пад апісаным у рамане “Сустрэнемся на барыкадах” партызанскім атаманам-анархістам аўтар Піліп Пястрак…

Іншая рэч, што паслы цанілі нас, і нашая ваколіца была для іх, як бы пробным пунктам, дзе яны пераконваліся, якая іх акцыя правільная ды чаго “народ хоча”. Дзеля гэтага яны часта да нас заглядалі, каб пачуць нашых людзей і іхную ацэнку. Мы былі вядомыя пад мянушкай “музыканты”. Фактычна, ахрысьціў нас Сымон Рак-Міхайлоўскі “рызыкантамі”, але дзеля большай кансьпірацыі замянілі гэта на “музыканты”.

Я асабіста меў у Пасольскім Клюбе мянушку “Сат”. Гісторыя яе паўстаньня таксама зьвязаная з паслом Рак-Міхайлоўскім. Расказваў калісьці у Варшаве аб нашай досыць небясьпечнай акцыі і якімі хітрыкамі мне прыйшлося карыстацца. Гэта выклікала ў захопленага, лопаючага ад сьмеху пасла, рэпліку: “Вось сатана!”. Гэтая “сатана” і прыліпла да мяне ў Клюбе, скараціўшыся ў лістах да “сат”.

А нам штораз прыходзілася цяжэй. Асабліва, калі наступіў 1925 год. Камуністычная партызанка, па наказу сваіх уладаў, самазьліквідавалася, і гэтым самым вызваліла паліцыйныя ўлады тых прастораў

---

*Флягонт Валынец (1879 — 1937), беларускі палітычны дзяяч, у 1928-1930-х гг. быў паслом польскага Сейму. У 1930 г. арыштаваны польскімі ўладамі і асуджаны на 16 гадоў катаргі. У 1932 г., у выніку абмену палітвязьнямі, выехаў у БССР. Арыштаваны ў 1933 г., асуджаны да расстрэлу, замененага 10 гадамі канцлягераў. У кастрычніку 1937 г. “Асобай тройкай” УНКВД Ленінградзкай вобласьці асуджаны да расстрэлу.

**Ігнат Дварчанін (1895 — 1937), беларускі палітычны дзяяч, літаратуразнаўца, паэт. Ураджэнец в. Погіры Слонімскага пав. (цяпер Дзятлаўскі раён). Выпускнік Праскага ўнівэрсытэту, доктар філязофіі. Быў актывістам беларускага нацыянальнага руху з 1917 году, браў удзел у працы шматлікіх палітычных, грамадзкіх, студэнцкіх арганізацый, ствараў беларускае школьніцтва. З 1926 г. — актыўны сябра БСРГ. У 1928 г. абраны паслом польскага Сейму, стварыў фракцыю “беларускі рабоча-сялянскі пасольскі клюб “Змаганьне”. У 1930 г. арыштаваны, асуджаны на 8 гадоў зьняволеньня. У верасьні 1932-га, у выніку абмену палітвязьнямі, выехаў у БССР. Працаваў у Акадэміі Навук Беларусі. У 1933 г. быў арыштаваны, сьмяротную кару замянілі на 10 гадоў зьняволеньня. Паводле пастановы “тройкі” УНКВД Ленінградзкай вобласьці, у сьнежні 1937 году быў расстраляны.

(Маладзечыншчына, Наваградчына і Лунінеччына-Піншчына) ад паляваньня за імі. Кола пачало заціскацца каля нашых прастораў дзеяньня. Пачалі рабіць, раз за разам, масавыя паліцыйныя аблавы-налёты, у якіх бралі ўдзел паліцыйныя аддзелы ня толькі нашага Наваградзкага ваяводзтва і Палескага, але і Віленскага, Беластоцкага, эскадроны кавалерыі з Наваградку і Баранавічаў.

Пад паліцыйны абух трапіла партызанка ат. Рудога. Трапіла “дзякуючы” камуністам. Атаман Руды забараніў належаньне да кампартыі сваіх партызан. Але, патаемна ад яго, партыйцы праніклі да партызанкі. І вось падчас адной акцыі, калі аддзел рухаўся да месца нападу на цягнік, адзін з партызан захапіў пачку праклямацый кампартыі і іх раскідаў, калі атрад ўначы ішоў празь вёску. Паліцыя арыштавала падазроных у камунізьме ў ваколіцы і натрапіла на аднаго з камуністаў, які выдаў партызана, а той сыпнуў больш. Сорак чалавек разам з ат. Рудым апынуліся ў турме. Тое самае сталася з атрадам Сілюка ў Косаўшчыне.

Там, дзе на тэрыторыях дзеючых партызанскіх атрадаў не было камуністычных арганізацый, як наш куток з трох гмін, Шаршнёвы аж да ракі Шчары, і Харэўскага, усып і правакацыяў не было. Таму паліцыя нас так і ня выкрыла.

Не пашанцавала атаману Шаршню, які загінуў толькі са сваёй лясной групай, дзякуючы выключна нешчасьліваму здарэньню. Падчас адной з чарговых аблаваў у Ліпічанскай пушчы, у якой прымала ўдзел паліцыя чатырох ваяводзтваў і войска, карнікі ўначы прачосвалі хутары і лесьнічоўкі. У гумне ў лясьніка яны схапілі аднаго заспанага партызана, які наведваўся да яго дачкі. Таму, што быў ён захоплены са зброяй, да яго былі ўжытыя катаваньні — хацелі, каб выдаў месца стаянкі атамана Шаршня. Ат. Шаршэнь, якога паведамілі пра аблаву, забараніў выходзіць зь лесу сваёй пятцы, што была зь ім у лясным схове-зямлянцы і ўмацаваньнях. Калі адзін яго партызан усё ж уцёк да дзяўчыны, той самай дачкі лясьніка, дык пасьля вяртаньня ў лес, падобна, быў зьбіты атаманам. Праз два дні гэты самы партызан павінен быў быць вартавым, але ён, калі ўсе заснулі, зноў уцёк да каханкі. Там яго і злавіла паліцыя. Партызан гэты, не вытрымаўшы катаваньняў ці з помсты за пабіцьцё, і прывёў карнікаў да партызанскіх зямлянак, якія знаходзіліся на востраве, сярод лясного балота, куды прайсьці можна было толькі па кладцы, скрытай ў балотнай рудзе… Партызаны былі захоплены сьпячымі. Аднак, нават нягледзячы на гэта, адстрэльваючыся, ат. Шаршэнь пасьпеў у сярэдзіне зямлянкі забіць аднаго і параніць двух іншых паліцыянтаў. Усе чатыры партызаны, разам з атаманам, загінулі ад паліцыйных куляў… Партызанскія групы атамана Шаршня з асобных вёсак засталіся цэлыя, бо злоўлены партызан аб іх карнікам расказаць ня мог.

Усё гэта прымушала нас імкнуцца [дбаць] пра найбольшую канспірацыю. І тут нам на дапамогу прыйшоў вядомы палянафіл д-р Паўлюкевіч.* Ён якраз на польскія фонды пачаў выдаваць сваё “Беларускае слова”, у якім заклікаў ствараць ягоныя “Беларускія Тамчасовыя Рады” і “Прасьветы”. На нарадзе мы вырашылі, што створым Павятовую тымчасовую раду і 4 “Прасьветы” зь беларускімі бібліятэкамі. Гэта дасьць нам магчымасьць легальна зьбірацца і дзеяць на культурным палетку, ды замаскіруе нашу сапраўдную дзейнасьць. Другой пастановай было — прыняць удзел у арганізаваным у Скрэндзевічах гуртку Польскіх Стральцоў, паўваеннай арганізацыі, якой давалі зброю. Мы хацелі мець над ёй кантроль, каб выкарыстоўваць у разе патрэбы.

Калі напісалі д-ру Паўлюкевічу аб намеры арганізаваць ягоную Раду ды гурткі “Прасьветы”, той, узрадаваны, зьявіўся да нас. Стварыўшы Павятовы аддзел Рады на чале з А. Тарасюком, ён паехаў у Наваградак да ваяводы на зацьверджаньне. Там, як скардзіўся пасьля Паўлюкевіч, ён доўга мусіў прасіць аб гэтым зацьверджаньні, бо ў сьпісках дэфэнзывы ўсе мы ўжо лічыліся “выўротоўцамі”, “бальшэвікамі” і г. п. Аднак Паўлюкевіч даказаў ваяводзе, што паліцыя ўсіх сьвядомых беларусаў называе *“выўротоўцамі”* і *“камуністамі”.* Нарэшце, ваяводзтва дало згоду на нашу “Раду”…

Паўлюкевіч быў цалкам намі “ўзяты”, калі на ягоную прапанову штомесячнай пэнсіі** для Прэзыдыюму Рады, мы з абурэньнем адмовіліся, зазначаючы, што працуем для ідэі, а не за грошы. Паўлюкевіч быў захоплены такім нашым стаўленьнем і хваліў нас перад усімі. Казаў, што знайшоў такіх ідэалістаў, якія ў яго працуюць бяз грошай!.. Затое мы дамагліся, каб ён закупіў для бібліятэкаў нашых “Прасьветаў” усе магчымыя выданьні ў беларускай мове.

Дзякуючы “Прасьвеце”, мы змаглі паставіць у нашым куце першыя беларускія спэктаклі, а галоўнае — легальна зьбірацца і абгаворваць нашыя справы ды прыкрывацца “Тымчасовай Радай” перад паліцыйнымі наскокамі.

Калі я пасьля доўгага перапынку зьявіўся ў Варшаве і паінфармаваў паслоў аб нашых падзеях, яны схапіліся за галовы. Абвінавачвалі нас у “безпрынцыпнасьці”, неразважнасьці, якая дапамагае польскай уладзе хваліцца, што беларусы за супрацоўніцтва зь імі. Акрамя таго мы ўводзім у зман гушчы сялянства, якія ня будуць ведаць аб сапраўднай мэце нашага актыву ў гэтай Радзе і ўсё будуць прымаць

---

*Арсень Паўлюкевіч, беларускі палітычны дзяяч. Сябра Рады Случчыны ў 1920 годзе. У міжваенны час жыў у Заходняй Беларусі, узначальваў шэраг палянафільскіх беларускіх арганізацый, быў старшынём Часовай беларускай рады з цэнтрам у Вільні. Загінуў у нацысцкім канцлягеры падчас Другой сусьветнай вайны.

** Грашовай дапамогі.

літаральна. Я зноў даказваў, што мы вымушаныя схапіцца за такі выхад. Этычна гэта ці не этычна, аднак мы палічылі неабходным выкарыстаць Паўлюкевіча, каб забясьпечыць каля двух сотняў сяброў нашай партызанкі, якой усё больш пагражала выкрыцьцё ва ўмовах сёньняшняй узмоцненай паліцыйнай акцыі. Было пастаноўлена, што паслы адведаюць наш куток якхутчэй, каб на месцы пераканацца, як абстаяць справы.

Першы прыехаў Рагуля. У А. Тарасюка, які меў у доме вялікую залю, мы наладзілі пашыранае паседжаньне Рады, на якім прысутнічалі каля 40 чалавек. Пачуўшы і пабачыўшы, як абстаяць справы, пасол толькі языком цмокаў — быў у захапленьні ад размаху нашай дзейнасьці. Хутка прыехаў і Рак-Міхайлоўскі з Бурсэвічам. Азнаёміліся з усім, пабывалі ў нашых аддзелах “Прасьветы”. Пасол Рак-Міхайлоўскі рагатаў да сьлёз, калі яму расказвалі нашыя гутаркі з д-рам Паўлюкевічам. Пра тое, як мы яму ладзілі веча, пра ягонае захапленьне намі і т. п. Паслы прызналі, што “камуфляж” надзвычайны! Тут жа яны нас паінфармавалі аб намеры стварэньня асобнага Беларускага Пасольскага Клюбу Сялянска-Работніцкай Грамады, які павінен прадоўжыць традыцыі Беларускай Сацыялістычнай Грамады 1905-18 гадоў, ды што плянуецца арганізацыя гурткоў Грамады ў вёсках. Мы прывіталі гэтую пастанову і задэкляравалі, што арганізуем ня менш тысячы сяброў. Гэта было прынята, як “перахвалка”, бо наогул, — сказаў Рак-Міхайлоўскі, — яны аблічаюць магчымае сяброўства ад 3000 да 5000 чалавек на ўсю [Заходнюю] Беларусь (мы, як вядома, арганізавалі не тысячу, а тры тысячы сяброў Грамады ў нашым куце).

Адразу пасьля расколу ў Беларускім Пасольскім Клюбе і ўтварэньні Клюбу Грамады, да нас сьпешна прыехаў пасол Васіль Рагуля. Справа ў тым, што ён не ўвайшоў да Грамады, а стварыў з паслом Ярэмічам свой Сялянскі Саюз і, зразумела, спадзяваўся, што мы далучымся да яго. Гэта дало б яму сапраўды ўжо гатовую моцную тэрытарыяльную арганізацыю. Аднак ён пралічыўся. На сабраным паседжаньні яму было сказана ясна: або далучайся да Грамадоўскага Клюбу, або сувязі з табой парываем! Гэта быў ягоны апошні прыезд да нас.

Апафэозам дзейнасьці д-ра Паўлюкевіча павінен быў быць Беларускі Зьезд у Вільні, на якім павінна быць выбрана ўжо сталая (не “Тымчасовая”) Беларуская Рада, як прадстаўніцтва беларусаў Заходняй Беларусі. Па прычыне таго, што мы былі адзінай масавай арганізацыяй Паўлюкевіча, ён зьвярнуўся з просьбай аб падрыхтоўцы дэлегатаў з нашага і суседніх паветаў на зьезд.

Мы ўзяліся арганізаваць пасылку дэлегатаў ад чатырох паветаў (Слонімскі, Баранавіцкі, Наваградзкі і Лідзкі). Задэкляравалі Паўлюкевічу, што прышлем 200 дэлегатаў (з пратакольнымі ўпаважненьнямі вясковых вечаў). Ён быў захоплены. Гэта-ж мы яго “ратавалі”, бо ён не быў упэўнены, ці сабярэ 50 асобаў, хоць і абяцаў аплаціць білеты за дарогу. А мы рыхтавалі сваё! Рыхтавалі дэлегатаў, каб захапіць зьезд у свае рукі, абвесьціць на ім ліквідацыю “Тымчасовай Рады”

Паўлюкевіча, як польскага наёмнага твору, якога не прызнае народ Заходняй Беларусі. Пастанавілі таксама прывітаць паўсталы Пасольскі Клюб Грамады і дэкляраваць яму падтрымку, як прадстаўніку працоўных гушчаў, ды прыняць палітычную дэклярацыю з дамаганьнем самавызначэньня Заходняй Беларусі. З Пасольскага Клюбу Грамады, зь якім гэта ўсё было ўзгоднена, на зьезд павінен быў пранікнуць Максім Бурсэвіч з двума сябрамі. Ён павінен быў дапамагчы нам у афармленьні захопленага зьезду.

Аднак наш праект, дзякуючы правакацыі, няўдаўся.

Рыхтуючыся да зьезду, мы ўсё рабілі салідна. Праводзілі вечы на вёсках, вылучаючы сваіх людзей у дэлегаты. Пасьля рабілі зьезды дэлегатаў, дзе ўжо адкрыта гаварылі аб нашых адносінах да "Тымчасовай Рады", як польскага наёмнага твору, і што трэба рабіць на зьезьдзе, каб яго ліквідаваць. Дзеля гэтага мы назваліся "Незалежнай Сялянскай Групай", выпрацавалі пункты нашай дэклярацыі на зьезд і ўсё запісвалі ў кнігу пратаколаў пашыраных паседжаньняў нашай Рады. Рабілася гэта для таго, каб пасьля былі доказы, што на зьездзе ня быў нейкі неспадзяваны выступ, кіраваны звонку, але дзеяньне паводле пастановаў дэлегатаў сялянства нашых паветаў. За тры дні перад зьездам, калі мы ўжо мелі на руках 200 дасланых Паўлюкевічам білетаў, раптоўна атрымліваем тэлеграму з Вільні: "Зьезд адложаны. Затрымаць высылку дэлегатаў. Прыбуду да вас. Паўлюкевіч".

На другі дзень зьявіўся ўсхваляваны Паўлюкевіч. Адразу — да Тарасюка-старшыні, у якога і было бюро Рады. Сказаў, што атрымаў тэлеграфічны данос з Мураванкі (Дзятлаўшчына), што мы рыхтуем захоп зьезду, таму ён яго адклаў і прыехаў выясьніць сытуацыю. Мураванскі даношчык-правакатар паведаміў яму падрабязнасьці нашых нарадаў, а таксама тое, што галоўным ініцыятарам зьяўляюся я.

Стаючы перад разьбітым карытам, Паўлюкевіч спрабаваў выратаваць, што ўдасца. Лічачы, што Тарасюк, як старэйшы, няўмешаны моцна ў нашую змову, ён запрапанаваў яму такі прыехаць на зьезд, але з абмежаваньнем дэлегатаў толькі да 10 асобаў. Дата зьезду была вызначана ім на два тыдні пазьней. Аб зрыве нашага праекту мы паведамілі Пасольскі Клюб. Усё ж, пасьля разважаньняў, вырашылі паслаць групу Тарасюка на зьезд, каб там нешта зрабіць. На зьезд пранік і Бурсэвіч са сваімі двума памочнікамі. Аднак, нічога важнейшага за прамовы ўжо нельга было зрабіць. Паўлюкевіч і ягоная шайка добра пільнавалі, каб не было неспадзяванак. Нашая група, выкарыстаўшы магчымыя хады на зьездзе, дэманстратыўна яго пакінула. З самога зьезду, які бяз нас налічваў пару дзесяткаў асобаў, скончыўся "пшыкам".

Польскія ўлады хутка ліквідавалі сваю "Паўлюкевічаву камэдыю". Гэтаму значна "дапамагла" нашая дзейнасьць. Потым, на судовым працэсе Грамады, пракуратура, між іншым, у абвінавачаньні зазначыла, што на тэрыторыі дзейнасьці Казлоўшчынскага раённага

камітэту Грамады ўсе былыя прадстаўніцтвы Тымчасовай Рады д-ра Паўлюкевіча аказаліся актыўнымі арганізатарамі Грамады. Правакатар з Мураванкі, ведаючы, што яго можа чакаць, уцёк у Горадню. На шчасьце, ён ня ведаў нашай папярэдняй партызанскай дзейнасьці.

У тым жа часе мы ўзяліся за Царкву. Сьвятаром пасьля Катовіча нам прыслалі нейкага былога белагвардзейскага афіцэра-расейца Баталіна. Ён актыўна выступаў супраць усяго беларускага, а мы зноў узяліся за беларускае школьніцтва. Тайком я быў вызначаны прадстаўніком Радашковіцкага Таварыства Беларускае Школы, якое ўзначальваў сэнатар Уласаў. Было пастаноўлена напралом, насуперкі забароне ўладаў, арганізаваць прыватныя беларускія школы на вёсках ад імя Таварыства.

У школьнай акцыі мы выкарысталі дзяка Аляксіевіча. Ён меў вышэйшую асьвету і права выкладаньня рэлігіі ў польскіх пачатковых школах для праваслаўных вучняў.

Гэта мы і выкарысталі. Здабылі беларускія лемэнтары і чытанкі, і Аляксіевіч пачаў па іх выкладаць беларускую мову на сваіх лекцыях рэлігіі ў трох школах (Колкі, Гарбелевічы, Мядзьвінавічы). Але не мінула і паўгода, як яго арыштавалі за “нелегальнае” навучаньне беларускай мове. На судзе ён апраўдваўся тым, што, каб дзяцей вучыць рэлігіі, ён мусіў сьпярша навучыць іх чытаць па-беларуску. Каб яны маглі чытаць падручнікі на беларускай мове па рэлігіі. Усё ж суд засудзіў яго на грашовую кару, а ўлады ваяводзтва выдалілі Аляксіевіча па-за межы ваяводзтва.

У гэты-ж час мы стварылі Камітэт Беларусізацыі Праваслаўнай Царквы ў Казлоўшчыне. Акцыя прыняла вялікія і бурныя памеры з дэманстрацыямі ў царкве, арыштамі і т. п. Польскія газэты ў Вільні, “Воскрестное чтеніе” ў Варшаве і інш. пачалі падаваць весткі аб падзеях. У выніку, сьвятара зьмянілі. Прыслалі да нас вядомага былога беларускага дзяяча-вайскоўца, а цяпер сьвятара Сокал-Кутылоўскага,* які, па ўзгадненьні з нашым Камітэтам Беларусізацыі, правёў

---

*Антон Сокал-Кутылоўскі (1892 — 1983), беларускі вайсковы дзяяч, камандзір Слуцкай брыгады войскаў БНР (1920). У Першую сусьветную вайну — капітан расейскай арміі. Пасьля паразы Слуцкага збройнага чыну, жыў у акупаванай палякамі Заходняй Беларусі. Служыў праваслаўным сьвятаром на Наваградчыне і Слонімшчыне. У чэрвені 1941 г. быў арыштаваны НКВД, але на пачатку нямецка-савецкай вайны ўцёк з турмы ў Баранавічах. Падчас нямецкай акупацыі быў школьным інспэктарам у Ганцавічах, кіраваў мясцовым аддзелам Беларускай народнай самапомачы. Сябра падпольнай Беларускай Незалежніцкай Партыі. У 1944 г. быў намесьнікам прэзыдэнта БЦР па Ганцавіцкай акрузе. Удзельнік Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Падпалкоўнік БКА. З восені 1944 году працаваў ва Ўпраўленьні вайсковых спраў БЦР у Бэрліне. Вясной 1945 г. арганізоўваў пераход беларускіх вайсковых аддзелаў на бок амэрыканцаў, якімі пазьней быў выданы бальшавікам. Вызваліўся з савецкіх канцлягераў у 1958 годзе, жыў пад наглядам у Ганцавічах. Пазьней выехаў у Польшчу, дзе і памёр.

беларусізацыю царквы (беларускія казаньні, чытаньне эвангельля ў беларускай мове, а таксама беларусізацыя часткі царкоўнага сьпеву). Ён актыўна пачаў заклікаць сялян дабівацца свайго школьніцтва.

Мы ж у гэтым часе прыступілі да стварэньня гэтага школьніцтва. На працягу месяца, з пачаткам школьнага году, мы заснавалі 18 школаў (12 арганізаваных мною і 6 Бурсэвічам, па-за нашым раёнам Слонімшчыны, дзе ён быў прадстаўніком ТБШ, як я ў нашым раёне). Польскія дзяржаўныя школы апусьцелі.

Спачатку польскія ўлады, пастаўленыя перад фактам масавасьці, абмяжоўваліся толькі запалохваньнем сялян-бацькоў, карамі, калі яны ня вернуць сваіх дзяцей у польскія школы. Але празь месяц улады пачалі накладваць кары: 5 злотых за дзень адсутнасьці дзіцяці ва ўрадавай школе. Аднак гэта не дапамагло. Тады аднойчы аддзелы паліцыі наскочылі на вёскі, паарыштоўвалі беларускіх настаўнікаў (Пятліцкую, Капітончышку, Белавусаву, Шундрык, Тарасюка, Кухту, Гародку), паадбіралі беларускія падручнікі. Паарыштоўвалі нават некаторых “солтысаў” (вясковых старастаў) за тое, што яны дазвалялі рабіць сельскія сходы, дзе сяляне пастанаўлялі адчыніць беларускую школу. Сяляне і далей не пасылалі дзяцей у польскія школы. Каморнікі, якія спрабавалі спагнаць наложаныя кары на сялян, сустрэліся з узброеным адпорам у вёсках. У вёскі было накіравана войска. Вялікая сутычка адбылася ў Лядзінах.

У Варшаве беларускія паслы зложылі інтэрпэляцыі, якія былі падтрыманыя нават радыкальнымі польскімі пасламі і сэнатарамі. Скончылася тым, што кары, накладзеныя на сялян, скасавалі, але нашых настаўнікаў і настаўніц засудзілі ад 6 месяцаў да году турмы за “нелегальнае” навучаньне (Марыя Шундрык хутка пасьля выхаду з турмы памерла ад сухотаў). Мяне схапілі і зьбілі, бо з перахопленай перапіскі выкрылі, што я — прадстаўнік ТБШ. Аднак падставаў для суду ня было, бо няўдалося даказаць, што я непасрэдна арганізоўваў школьніцтва. У справе пабіцьця была інтэрпэляцыя ў Сойме.

З выхадам моўных законаў Грабскага, паводле якіх прызнавалася праўнасьць беларускае мовы на тэрыторыі Заходняй Беларусі, мы ўзяліся за іхняе выкарыстаньне. Зложаны былі тысячы дэкларацыяў сялян за беларускае школьніцтва. Справа адрасаваньня лістоў у беларускай мове давяла зноў да майго арышту і інтэрпэляцыі ў Сойме ў гэтай справе… У беларускія гімназіі мы ў той час выслалі толькі з Казлоўшчыны 12 вучняў.

Мелі мы кантакты і з беларускай каталіцкай групай паслоў, з польскай партыі “Вызваленьне”: Галавачом, Шакуном, Шэвелем і Баліным. Яны былі апалячаныя і пайшлі з “Вызваленьня” не да Грамады, але да Польскай Незалежнай Сялянскай Партыі Ваяводзкага. Яны прыяжджалі ў наш раён у каталіцкія аселіцы, дзе мы зь імі і пазнаёміліся.




***Капэрта ліста, дасланага Сяргеем Сіняком (Хмарам) з Казлоўшчыны ў рэдакцыю віленскай газэты “Беларуская ніва”. 1920-я гг. Друкуецца ўпершыню. Зборы Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва.***

Цэлы час мы на іх націскалі, каб яны далучыліся да Пасольскага Клюбу Грамады, але яны на гэта не паддаліся, хоць абяцалі пэўную супрацу з Грамадой. У сваіх мясьцінах мы не дапусьцілі да стварэньня іхных пляцовак НПХ.

Грамада шуганула ў нас літаральна полымям. На працягу трох месяцаў мы мелі 32 гурткі. Я быў праўнамоцны арганізатар. Мой сяброўскі білет Грамады меў нумар 235 і быў адным з першых на вёсцы, па-за Вільняй. Адразу ў Казлоўшчыне стварылі Раённы Камітэт Грамады на тры гміны. Камітэт дзень і ноч меў верхавую сувязь з усімі кутамі. На працягу гадзіны-двух мы маглі коннымі кур’ерамі перадаць загады і атрымаць весткі з найдалейшых вёсак (20-25 кіламетраў).

Неяк восеньню мяне выклікалі на нараду ў Вільню. Там атрымаў інструкцыі па падрыхтоўцы “другой лініі акопаў”, бо Грамада мае быць зьліквідавана польскімі ўладамі (вестка была перададзена сэнатарам Выслоухам). Трэба засноўваць гурткі ТБШ і ставіць на кіраўніцтва іх людзей, якія не былі моцна замешаныя ў мясцовым кіраўніцтве Грамады. Пра гэта трэба было паінфармаваць актыў.

Калі я здаў справаздачу аб гэтым на паседжаньні нашага актыву, пачаўся ўпрост бунт. Хлопцы ўпарта супрацівіліся гэтым дэрэктывам Цэнтралі Грамады. Загаварыла партызанская кроў (бо наш актыў

складаўся з былой партызанскай арганізацыі Іскры)! Яны дамагаліся на выпадак спробы ліквідацыі Грамады ўзброенага супраціўленьня гэтаму на месцах. Яны дамагліся, каб адразу апрацаваць наш плян — праект узброенага выступленьня, і каб гэты плян-прапанову завезьці зараз-жа ў Вільню. Выпрацаваны плян прадбачыў наступнае: адбіваць арыштаваных грамадоўцаў зараз-жа ў вёсках і па дарозе, не дапускаючы іх вывазу ў большыя гарады. Узяць пад кантроль усе тэлефонныя і тэлеграфныя лініі, заблякаваць заваламі дрэў дарогі. Узяць пад кантроль чыгункавыя лініі: Віленска-Берасьцейскую, Баранавіцка-Ваўкавыска-Гарадзенскую, Лідзка-Мастоўскую і Гарадзенска-Віленскую. Захапіць станцыі: Масты, Зэльву, Беліцу, Івацэвічы, Наваельню, Дварэц, Моўчадзь. Узарваць масты на Нёмане і Шчары. Спрабаваць здабыць астрог у Слоніме ды вызваліць заточаных там сяброў партызанкі ат. Рудога. Падрыхтаваць атрады коньнікаў на далейшыя рэйды. Спрабаваць захапіць усе паліцыйныя пастарункі ў малых мястэчках і ўсю зброю у аддзелах "Стшэльца". Нас жа былі тысячы!

Сьпешна я зноў выехаў у Вільню. Ідэя спадабалася Валошыну* і Бурсэвічу, але хутка і яны ўціхлі. Пасьля таго, калі ім указалі, што такая ўзброеная акцыя прывядзе толькі да хвалі ахвяраў і крывавага тэрору ў далейшым. А паўстаньне было б безпэрспэктыўным, бо змагацца самім супраць сучаснай арміі мы ня можам, а дапамагаць нам ніхто ня будзе. Яны мяне забавязалі пасілена растлумачыць сябрам неразважнасьць такога лякальнага паўстаньня і пад маю адказнасьць спыніць паўстанцкія настроі. Была гэта найцяжэйшая праца — вытлумачыць усім нашым і пераканаць іх у неабходнасьці не ўжываць зброі на выпадак ліквідацыі Грамады і арыштаў правадыроў. Гэта было апошняе рэха нашай партызанскай стыхіі.

Тут можа дарэчы будзе ўспомніць пра грамадоўскую нараду ў 1939 годзе ў Баранавічах, напярэдадні вайны. У ёй прынялі ўдзел і некалькі былых партызанаў. На канфэрэнцыі ўздымаўся праект паўстаньня ў Заходняй Беларусі на выпадак захопу Польшчы немцамі. Плянавалі захапіць Баранавічы, стварыць Часовы Урад Заходняй Беларусі і абвесьціць яе незалежнасьць, а пасьля прасіць апекі ці міжнароднай, ці СССР, ці ўвайсьці ў часовую фэдэрацыю з Літвой.

---

*Павал Валошын (1891 — 1937) — беларускі палітычны дзяяч, пасол польскага Сейму ў 1923-1928 гг., сябра Беларускага пасольскага клюбу, адзін з кіраўнікоў БСРГ. У 1927 годзе арыштаваны, асуджаны на 12 гадоў зьняволеньня. У выніку абмену палітвязьнямі, у 1932 г. пераехаў у БССР. У 1933 годзе арыштаваны, асуджаны да расстрэлу, замененага 10 гадамі канцлягераў на Салаўках. У кастрычніку 1937-га "Асобай тройкай" УНКВД Ленінградзкай вобласьці прыгавораны да расстрэлу.

**Пасьляслоўе**

У сувязі з друкаванымі ўспамінамі аб партызанцы БНР, прыйшло пару лістоў з запытамі наконт мітычнага ўдзелу ў партызанцы БНР М. Абрамчыка,* аб чым пісала ў свой час псеўдабэнээраўская прэса ў Англіі. Там пісалася, што ў 1921-22 гг. Абрамчык прымаў удзел у партызанцы БНР у Віленшчыне і быў сувязным ад яе да менскіх нацыянал-камуністаў: Чарвякова і Ігнатоўскага. Вось жа можам катэгарычна сьцьвердзіць, што ніякай бэнээраўскай партызанкі на ўсход ад Нёмана не было, яшчэ і таму, што гэтаму супрацівілася Літва, у якой тады знаходзіўся Ўрад БНР і беларускія войскі (у Віленшчыне мелі дзеяць толькі “шаўлісы” — літоўскія партызаны). Штаб Партызанскіх Сіл БНР знаходзіўся ў Беластоку. Затое на Віленшчыне існавала Беларуская Рэвалюцыйная Арганізацыя, якую ачольвалі браты Канчэўскія і Лагіновічы, і якая стварала ўзброеныя дружыны ў супрацоўніцтве з менскімі нацыянал-камуністамі. БРА ў 1922 г. цалкам уключылася ў камуністычны рух, увайшла ў створаную тады Камуністычную Партыю Заходняй Беларусі. Доўгі час, аж да расстрэлу праз ГПУ, яе кіраўнікам быў Лагіновіч.

Калі Абрамчык і быў сувязным, дык хіба ад БРА, а не ад БНР. Пацьвярджае гэта былы апэратыўны сувязны Штабу Літоўскай Арміі зь Беларускай партызанкай БНР капітан Алксніс.** Даведаўшыся аб прыезьдзе “прэзыдэнта БНР” Абрамчыка ў Нью-Ёрк, ён сутыкнуўся зь ім, спрабуючы разьведаць, што сталася з кіраўнікамі гэтай партызанкі, ягонымі знаёмымі. На яго зьдзіўленьне, Абрамчык ня толькі нічога ня ведаў пра партызанку БНР тых часоў, але ня быў нават паінфармаваны аб яе існаваньні, а тым больш аб людзях, якія ў ёй прымалі ўдзел. Толькі пасьля Алксніс знайшоў нас асабіста.

Інфармацыі аб БРА меў Рак-Міхайлоўскі, непасрэдна ад братоў Канчэўскіх (ягоных старых сяброў), і расказваў нам падрабязна падчас увязьненьня за Грамаду ў Каранове. Выменены праз СССР на польскіх вязьняў, ён быў расстраляны разам з прафэсарам Тарашкевічам і іншымі пасламі Грамады.

Той жа лёс пасьціг і атамана Рудога, арыштаванага ў 1939 годзе бальшавікамі. Ён загінуў у сібірскіх канцэнтрацыйных лягерах. Атаман Харэўскі, ратуючыся пасьля 1925 году ад перасьледаваньняў польскай паліцыі, якая была напала на сьлед кіраўніка партызанкі, прабраўся ў БССР пад фальшывым імем. Адтуль ён уцёк назад у Польшчу ў 1937 годзе і хаваўся на Валыні. З прыходам немцаў

* Мікола Абрамчык (1903 — 1970), беларускі палітычны дзяяч. У 1943-1970 гг. быў старшынём Рады БНР. Жыў у Парыжы.

**У гэтых успамінах С. Хмара таксама ўжывае і такі варыянт яго прозьвішча: Алскнініс.

Харэўскі апынуўся ў сваіх краях, арганізуючы адзін з першых атрадаў Беларускай народнай партызанкі, слаўны атрад імя атамана Нябабы. Яго не дасталі рукі насланых на Палесьсе дэсантнікаў НКВД. Атрад праіснаваў да прыходу савецкіх войскаў і дзеяў на Палесьсі да 1947 году супраць новых акупантаў. Атрад групамі перайшоў польскую мяжу, а адтуль —нямецкую. Групай выехалі ў 1949 годзе ў Бразылію. Атаман Харэўскі згінуў, разам са сваім былым ад’ютантам, некалькі год таму ў аўтакатастрофе.*

*Друкуецца паводле публікацыі: “Беларускі голас” (Таронта), 1972, № 203-207, чэрвень-лістапад.*

*У красавіку 1968 году ў Бразыліі.

# АНТОН АДАМОВІЧ ПРА "ЛІТАРАТУРНЫЯ ФОРМЫ РЭЗІСТАНСУ"

Антон Адамовіч (1909 — 1998) — заўважная асоба беларускай паваеннай палітычнай эміграцыі. Вядомы найперш як празаік, публіцыст, літаратуразнавец. Ён ацалеў пасьля арышту ў 1930-м коштам супрацоўніцтва з савецкай дзяржбясьпекай. На пачатку нямецкай акупацыі апынуўся ў Менску, далучыўся да беларускага нацыянальнага руху Супраціву. Адначасова агента "Іванова" спрабавалі выкарыстаць савецкія спецслужбы, як для выведкі, так і для тэрактаў. Адамовічу пашанцавала, што ён у той сытуацыі здолеў захаваць сваё жыцьцё.

Прапануем увазе чытачоў урывак з аўтабіяграфіі Антона Адамовіча, упершыню апублікаванай Лявонам Юрэвічам*, у якім ідзе гаворка пра "літаратурную форму рэзістансу".

"[…] З прыходам немцаў адчынілася некаторая магчымасьць друкавацца, хоць адзіная выдаваная ў Менску "Беларуская Газэта" й не магла адпусьціць вялікага месца для наважнейшых працаў. Усё-ж, працуючы ў рэдакцыі гэтае газэты, мне ўдалося надрукаваць пару большых літаратурна-крытычных артукулаў (пра кірунак "Узвышэнства" ў беларускай літаратуры, пра паэтку Натальлю Арсеньневу і інш.), а таксама шмат зацемак з галіны культуры мовы. Дзеля таго, што навуковых працаў друкаваць нельга было ў газэце, і наагул выказваць думкі у простай форме можна было толькі тыя, якія не выклікалі пярэчэньня ў немцаў, я напаў на думку заняцца больш мастацкай бэлетрыстыкай, у форме якой лягчэй было вуаляваць і супярэчныя немцам выказваньні. Так, пад псэўданімам "Д. Забранскі", я надрукаваў колькі імпрэсіяў, у якіх часам удавалася то правесьці завуаляваную паралель між Гітлерам і Напалеонам, конь якога ўпяршыню спатыктуўся ў Менску пры ягоным паходзе на ўсход (імпрэсія "Менск") або мімабегам успомніць пра крыжакаў пад Грунвальдам. Гэта прайшло — ведамае пабіцьцё немцаў — незаўважаным, але большую маю рэч, пад тым-жа псэўданімам "Д. Забранскі" "Несантыментальнае падарожжа", дзе я спрабаваў падаць свае сапраўдныя ўражаньні ад Нямеччыны, якую пабачыў упяршыню ў 1942 г., зьезьдзіўшы туды за перакладчыка з дэлегацыяй беларускіх сялянаў, якіх знаёмілі зь нямецкай гаспадаркай, цэнзура забараніла скончыць друкам, знайшоўшы там "неразуменьне нацыянал-сацыялістычнае Нямеччыны". Давялося зьмяніць

*Гл.: Аўтабіяграфія Адамовіча // 2010, 16 сакавіка; http://vidymus.livejournal.com/14410.html ; Нядаўна яна была перадрукаваная "Запісамі БІНІМ": З архіву Антона Адамовіча // Запісы БІНІМ, 2011, № 34, б. 257-259.

псэўданім на “С. Юстапчык”, і пад ім у тэй-жа “Беларускай Газэце” былі надрукаваныя мае аповесьці “Усяночная” (у 1946 г. выйшла асобнай брашурай) і “Трывога”, у якіх вонкава апісвалася савецкае жыцьцё, але пад камуністымі лёгка завуалёўваліся нацыстыя і асабліва некаторыя добразнаныя ў Менску фігуры іх (сам “гаўляйтар Беларусі” Вільгельм Кубэ, ягоны беларускі квісьлінг д-р Ермачэнка і інш.).

**Апрача гэткае літаратурнае формы рэзістансу, ў гэтым часе я бяру ўдзел і ў падпольным антынямецкім руху. У 1942 г. разам зь іншымі, галоўна маладымі беларусамі, бяру ўдзел у заснаваньні нелегальнае антынямецкае “Беларускае Незалежніцкае Партыі”, па лініі гэтае партыі прычыняюся да падрыхтаваньня ліквідацыі нямецкага агента Акінчыца.** У 1943 г., пасьля выдрукаваньня мною ў “Беларускае Газэце” тэксту “Беларускае Марсэльезы” паэты Ю. Сяргіевіча, словы якога, сьціраваныя супраць “прыблудаў” акупантаў, немцы прынялі на свой адрыс, я атрымоўваю ад нямецкіх уладаў прапанову выехаць на працу ў Нямеччыну, бо мая праца ў Менску іх “нездавальняе”. Пакуль я думаў дзень над гэтаю прапановаю, у маім стале знайшлася міна, толькі выпадкам выкрытая адным супрацоўнікам за 20 мінут да выбуху. Пасьля такіх выразных “папярэджваньняў” давялося згадзіцца на прапанову выезду ў Нямеччыну”.

# ЯК БЕЛАРУСКІ ДЫВЕРСАНТ “ПАСЛАЎ” МІНІСТРА ДЗЯРЖБЯСЬПЕКІ ЦАНАВУ

Прапануем увазе чытачоў “БР” успаміны былога сьледчага МГБ БССР Дзьмітрыя Завідава, які ў 1946-1954 гадах працаваў у Пінску.* Цяпер ён жыве ў Расеі, у Белгарадзе, піша і выдае кнігі ўспамінаў (на жаль, у інтэрнэце яны недаступныя). Прапануем урывак з ягоных успамінаў з працы ў Пінскай вобласьці, які сёлета надрукавала газэта “Белгородские известия”.

Адзначым, што падчас вайны старшына Дзьмітрый Завідаў прайшоў спэцыяльную падрыхтоўку, быў дэсантнікам, закідваўся ў нямецкі тыл. У 1945 годзе ён атрымаў прапанову прайсьці навучаньне ў Маскве.

*У адной з публікацый пра Завідава пішуць: “Працаваў у складзе МГБ Беларусі ў неспакойнай Пінскай вобласьці. Доўгія гады пасьля перамогі там захоўвалася складаная, амаль ваенная сітуацыя — шалелі банды нацыяналістаў”. Гл.: Доронкина И. Завидная участь // Смена (Белгород), 2010, 8 траўня, № 36-37.

**Школа “прывідаў”**



У школе трэцяга галоўнага ўпраўленьня МГБ СССР у Маскве Дзьмітрый Цімафеевіч Завідаў правучыўся два гады. Вывучалі грамадзкія навукі, права, крыміналістыку, псіхіятрыю і спэцдысцыпліны — тры Д… Д-1 — гэта выведка і контрвыведка капіталістычных краін, Д-2 — савецкая выведка і контрвыведка і Д-3 — метады працы ворганаў дзяржбясьпекі замежных краін. Да абеду лекцыі, прычым ніякіх падручнікаў. Пасьля заняткаў канспекты здаюць у спэцбібліятэку. Пасьля абеду — самападрыхтоўка. І вельмі жорсткая кансьпірацыя.

[…]

Малады афіцэр [у 1946 годзе] атрымаў накіраваньне ў Пінскую вобласьць... Сьледчы Завідаў за сем гадоў службы пасьпяхова правёў 111 справаў. Успамінаў хопіць на цэлую кнігу. Згадаю толькі пра найбольш яркія эпізоды яго дзейнасьці.

**У пінскіх балотах**

Па словах майго суразмоўцы, у пачатку 50-х у Заходняй Беларусі — краі азёраў, балот і глухіх лясоў — савецкая ўлада была толькі днём. А ўначы гаспадарылі банды нямецкіх недабіткаў і дэзэртыраў. Гучалі стрэлы, гінулі камуністы і савецкія актывісты, гарэлі дамы.

Адну з першых справаў, якую вёў сьледчы Завідаў — пра ката і здрадніка, пасобніка немцаў Герцыка. Гавораць, што нашая краіна не рыхтавалася да вайны з фашыстоўскай Нямеччынай. Але гэта памылковае меркаваньне. Партыйная арганізацыя Столінскага раёну рыхтавалася для падпольнай працы, загадзя былі забясьпечаныя тры партызанскія базы: асноўная, рэзервовая (пра яе ведалі толькі двое: першы сакратар райкама і старшыня райвыканкама) і лячэбная. Але ў ліку падпольшчыкаў аказаўся нягоднік — санітарны лекар раёну Герцык. Дэзэртыраваў, патрапіў да немцаў і выдаў усіх падпольшчыкаў, каго ведаў. У новых гаспадароў выслужыўся да камандзіра роты “зялёнай паліцыі” па барацьбе з партызанамі. Катаваў, забіваў, перасьледаваў…

Адступаючы зь немцамі, Герцык патрапіў у амэрыканскую зону

акупацыі, і саюзьнікі адпусьцілі яго на ўсе чатыры бакі. Перабраўся ў Латвію, стаў там жыць па чужых дакумэнтах, ажаніўся. А патрапіўся выпадкова: быў затрыманы міліцыяй за хуліганства, яго, як і належыць, дактыласкапавалі, і высьветлілася, што мірны грамадзянін насамрэч мацёры фашыстоўскі прыслужнік, які знаходзіўся ва ўсесаюзным вышуку. Герцыка этапавалі ў Пінск, яго крымінальную справу расьсьледаваў Дзьмітрый Завідаў. Суд асудзіў здрадніка і ката да расстрэлу.

Займальную гісторыю распавёў Дзьмітрый Цімафеевіч, зьвязаную з яшчэ адным "прывідам" з ваеннага мінулага. У лесе патруль сустрэў узброенага чалавека. Затрыманы ахвотна размаўляў са сьледчым Завідавым на любыя тэмы, але ні ў чым крымінальным, акрамя нашэньня зброі, не прызнаваўся. Аднойчы гаворка была пра Польшчу, палякаў і старажытным горадзе Чэнстахове… Завідаву давялося там бываць, а падсьледчы, як аказалася, ураджэнец тых мясьцін. І на гэтай сінтыментальнай ноце ён пачаў распавядаць пра сябе.

Папіна*, так яго сапраўднае імя, у 16 гадоў, яшчэ да вайны, засёк сякерай паліцыянта. Немцы, якія ў 1939 годзе акупавалі Польшчу, выпусьцілі злачынцу з турмы і завербавалі яго. Ён стаў карнікам, перасьледаваў і караў сьмерцю сваіх суайчыньнікаў. У 1945-м уцёк зь немцамі, патрапіў у амэрыканскі фільтрацыйны лягер, дзе саюзьнікі яго перавербавалі. Паўгода навучаўся ў Алжыры, прывыкаў да мірнага жыцьця, а пасьля ў Італіі "ўступіў" у польскую вызвольную армію, і пад гэтай легендай быў закінуты ў Заходнюю Беларусь. Дабраўся да Мінску, дзе выйшаў на сувязь з рэзыдэнтам — былым афіцэрам Абвэра. І атрымаў заданьне стварыць банду дывэрсантаў, але не пасьпеў, бо яго затрымалі.

Мацёрага забойцу і амэрыканскага шпіёна захацеў пабачыць міністар МГБ Беларусі, сябра самога Берыі генэрал-лейтэнант Цанава. Дзьмітрый Цімафеевіч прывёз арыштаванага ў Мінск, здаў ва

---

*Гаворка ідзе пра Феадосія Макаравіча Папіну, 1912 года нараджэньня, беларуса паводле нацыянальнасьці, жыхара вёскі Патаповічы Жабчыцкага раёну Пінскай вобласьці. Восеньню 1946 году ён вярнуўся ў Жабчыцкі раён зь Нямеччыны як рэпатрыянт. Неўзабаве перайшоў на нелегальнае становішча і арганізаваў "тэрарыстычную групу", складзеную з трох чалавек — Дзяніса Жагальскага, 1917 г. н., зь вёскі Парахонск Пінскага раёну, Аляксандра Вайтовіча, 1920 г. н., зь вёскі Патаповічы Жабчыцкага раёну, Язэпа Серады, 1914 г. н., зь вёскі Еўлашы Жабчыцкага раёну. Паводле дакумэнтаў МВД БССР, група Папіны рыхтавала "дывэрсійна-тэрарыстычныя акты" падчас выбараў у Вярхоўны Савет БССР у Жабчыцкім раёне (зьнішчэньне дакумэнтаў на выбарчых участках, забойства членаў выбарчых камісій). Аднак усе ўдзельнікі групы былі прэвентыўна арыштаваныя і ніякіх акцый учыніць не пасьпелі. Гл.: NKWD o polskim podziemiu. 1944 – 1948. Konspiracja polska na Nowogrodczyz'nie i Grodzien'szczyz'nie. — Warszawa, 1997, s. 154.

ўпраўленьне, а сам пасяліўся ў гасьцініцы. Але на наступны дзень яго тэрмінова выклікаюць у МГБ: амэрыканскі шпіён адмовіўся ад свайго прызнаньня. Міністар быў разьюшаны, сказаў, што калі падсьледны не пацьвердзіць сваіх паказаньняў — яго адпусьціць, а сьледчага, які вёў справу, — на яго месца!

— Выклікаем Папіну на допыт: што ж ты ад уласных словаў адмаўляешся, самога міністра “паслаў”, — з усьмешкай распавядае Дзьмітрый Цімафеевіч, хаця ў той час яму было зусім не да сьмеху. — А Папіна ў адказ: “Ды ваш міністар сяўка, ня ўмее з людзьмі размаўляць! А я — агент высокага класу! Добра, для цябе, Цімафеевіч, усё паўтару”. І падпісаў кожны аркуш паказаньняў.

— Тады, — працягвае Дзьмітрый Цімафеевіч, — мяне выклікаў міністар. Кабінет даўжынёй метраў трыццаць, за сталом — чарнявы каратышка, амаль карлік. Ножкі крэсла спэцыяльна нарошчаныя, каб хоць галава з-за стала была відаць. Яму падаюць пратакол допыту Папіны. З моцным грузінскім акцэнтам пытаецца: “Што гэта за гульні — то шпіён прызнаецца, то не прызнаецца?”.

Дзьмітрый Цімафеевіч проста яму і выклаў, у чым прычына. Той цісьне кнопку выкліка, і ў кабінеце зьяўляюцца два афіцэры. Кідае ім разьюшаны міністар: “На гаўптвахту яго, за зьнявагу генэрала!”.

А на наступны дзень Завідава зноў выклікаюць да міністра. Настрой ва ўсемагутнага Цанавы быў ужо іншы:

— Ты ў дэсанце ваяваў, узнагароды маеш, раненьні. Малайчына, кацо, я табе прэмію выпісаў — дзьве тысячы рублёў, але пакараньне не адмяняю.

А ў Пінску не маглі зразумець: што ты, Завідаў, там нарабіў, што міністар цябе то на гаўптвахту пасадзіў, то прэмію выпісаў? Расказвай…

**Пад прыкрыцьцём агню**

Сем гадоў ганяўся Дзьмітрый Завідаў па пінскіх лясах і балотах за дывэрсантамі, дэзэртырамі і бандытамі розных афарбовак. Аднойчы [у канцы 1953-га альбо ў пачатку 1954 году] аператыўная група: маёр, сьледчы Завідаў і сяржант — вярталіся на машыне ў Пінск пасьля сьледчага эксперымента. Заначавалі на аддаленым хутарку. Уначы грукат у дзьверы, маёр падыйшоў: “Хто там?”. — “Адчыніце, трэба пагаварыць з панам афіцэрам!” — “Прыходзьце заўтра ва ўпраўленьне, там пагаворым…”. А ў адказ аўтаматная чарга.

— Зразумелі, што гэта банда, пачалі адстрэльвацца, а бандыты падпалілі хату, — распавядае Дзьмітрый Цімафеевіч. — Пад прыкрыцьцём дыму сяржант Падкасік вылез у вакно, адбег да лесу і адкрыў аўтаматны агонь па бандытах, імітуючы падыход дапамогі. Тыя ўступілі ў перастрэлку з “падмацаваньнем”, а мы спачатку эвакуявалі

гаспадароў, а пасьля самі, адстрэльваючыся, пайшлі ў лес…

Калі дабраліся да Пінску, там ужо іх аплаквалі — хтосьці паведаміў, што аператыўную групу спалілі жыўцом. Адплакаўшы, Маша (жонка Завідава — **БР**) сказала: “Ты чатыры гады на фронце і сем тут ваюеш, у нас сын і дачка. Усё, цярпеньне маё скончылася — зьяжджаем да мяне на радзіму! Што ж, што афіцэр, ты двочы паранены — камісуюць. Няхай ты лепш конюхам будзеш працаваць, затое жывы застанешся”. 18 сакавіка 1954 году сям’я Завідавых пераехала ў толькі што створаную Белгародзкую вобласьць.

**І зноў на варце**

Роўна 22 гады Дзьмітрый Цімафеевіч аддаў аператыўна-сьледчай працы ў Белгародзкім упраўленьні ўнутраных спраў. І хаця з такім *беспределом*, як у паваеннай Заходняй Беларусі, ён тут не сутыкаўся, яму звычайна даручалі самыя складаныя справы.

*Перадрукоўваецца паводле наступнай публікацыі: Завидная жизнь Дмитрия Завидова // Белгородские известия, 2011, 7 траўня; http://izvestia.vbelgorode.ru/07.5.11-10572.html*

# МІХАСЬ ЛУЖЫНСКІ (1926 — 2011)



“Беларус”

***Міхась Лужынскі на адкрыцьці ў Сыднэі сьцяны-мэмарыялу зь імёнамі некалькіх тысячаў эмігрантаў, якія калісьці сыйшлі на бераг далёкага кантынэнту. Сярод імёнаў, высечаных на граніце, ёсьць і імёны Міхася і Надзеі Лужынскіх.***

Напрыканцы ліпеня 2011 году ў санкт-пецярбургскай бальніцы памёр дзеяч беларускай эміграцыі Міхась Лужынскі, які прыехаў у Расею з Аўстраліі з турыстычнай групай. Яму было 85 гадоў.

Міхась Лужынскі паходзіў зь вёскі Кабылкі на Маладэчаншчыне. Падчас нямецкай акупацыі вучыўся ў Маладэчне ў гандлёвай школе, быў сябрам СБМ. Ад 1944 году жыў у Нямеччыне, ад 1945-га — у беларускім лягеры ДП у Ватэнштэце. У 1949 г. выехаў у Аўстралію, жыў у Сыднэі, быў актыўны ў беларускім грамадзкім жыцьці. Ад 1976-га да 1993 году вёў беларускія перадачы на адной з мясцовых радёстанцый.

Міхась Лужынскі ад 1946 году быў сябрам Беларускай Незалежніцкай Партыі (Замежны сэктар). У адным з інтэрвію ён успамінаў: *“Я быў завэрбаваны ў БНП у 1946 годзе ў Нямеччыне… была прынята прысяга. Была тройка. Нехта завэрбаваў, і вы зналі толькі двух другіх сяброў. Сыстэма была такая даволі бясьпечная. Бо калі здрадзіў, то ня мог утапіць дзесяць — толькі трох”.*

# ВІТАЛЬ СКАЛАБАН (1947 — 2011)

Балюча разьвітвацца з яшчэ адным шчырым працаўніком на ніве вяртаньня нашай гістарычнай спадчыны. Яшчэ больш баліць, бо ён мой добры знаёмы і зямляк (нашыя вёскі месьцяцца побач у навакольлі Жыровіцкай сьвятыні). Пазнаёміліся мы ў 1993-м у рэдакцыі Беларускай энцыклапедыі, куды я, тады яшчэ студэнт, прынёс некалькі артыкулаў. Чытаючы адзін зь іх, Скалабан заўважыў, што я спаслаўся на “Памяць. Ляхавіцкі раён”, рэдактарам-складальнікам якой ён


“7 дней”

быў. Ён вельмі даражыў той працай, ганарыўся ёй.

Калі мы з сябрамі ў 2004-м распачалі выданьне часопіса “Беларускі Рэзыстанс”, Віталь Уладзімеравіч быў сярод нашых сталых чытачоў. Дапамагаў сваімі парадамі, падказваў, што мы ўпусьцілі ў той ці іншай публікацыі. Прыемна было пачуць ад яго добрыя словы пра наш праект.

На жаль, людзі адыходзяць. Выканаўшы свае місіі, альбо не пасьпеўшы рэалізаваць сябе напоўніцу. Але яны сыходзяць у іншы сьвет, пакідаючы пасьля сябе нішы, якія не заўсёды запаўняюцца. Так і ў выпадку з Віталём Скалабанам. Гэта вялікая страта для беларускай навукі, для беларускага нацыянальнага руху.

Сьветлая памяць!

**Сяргей Ёрш**

# АЛЕСЬ БАЖКО НІ ЖЫВЫ, НІ МЁРТВЫ

Чытаў у інтэрнэце вашу брашуру пра Саюз вызваленьня Беларусі 1946-47 гадоў у Наваградку. Па адной з версій, тую арганізацыю здаў тагачасны супрацоўнік баранавіцкай газэты, а ў будучым пісьменьнік Алесь Бажко. Хацелася даведацца пра яго лёс — ён жа 1918 году нараджэньня і, пэўна ж, ужо не жыве.

…У адной з кнігарняў натрапіў на кнігу “Выбраныя творы” Алеся Бажко, якую ў 2010 годзе ў Мінску накладам 300 асобнікаў выдаў Саюз пісьменьнікаў Беларусі (праўладны, у якім кіруе генэрал міліцыі Мікалай Чаргінец). Пачытаўшы даведку пра аўтара, быў нямала зьдзіўлены — выдаўцы не напісалі ні, што ён “жыве ў Мінску”, ні, што ён “памёр”. Такое ўражаньне, што яны і самі дакладна ня ведаюць.

**Зьміцер К-кі**, Менск

**Ад рэдакцыі:** Гэты чалавек, які большую частку свайго жыцьця выкрываў “беларускіх буржуазных нацыяналістаў”, можа яшчэ жыць і яму нядаўна пайшоў 94 год. Бо, як удалося высьветліць, у 2009-м Бажко, у ліку іншых жывых пісьменьнікаў-вэтэранаў, быў узнагароджаны медалём “65 год вызвалення Рэспублікі Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў”.* У гэтай сытуацыі інтрыгуе гістарычны каляндар кампаніі “Будзьма”, калі піша: “1918: Памёр Алесь Бажко, беларускі пісьменнік, перакладчык” (гэтая памылка, дарэчы, падарожнічае і па іншых сайтах). Вось так, нарадзіўся і… памёр.

# АПОШНІ ПАРТЫЗАН




Гісторыя антыбальшавіцкага супраціву на Каўказе багатая на яркіх асобаў, мужчынаў і жанчынаў. Яны на працягу дзесяцігодзьдзяў не давалі супакою савецкім уладам, помсьцячы за закатаваных землякоў і сваякоў. Некаторыя са змагароў здолелі выжыць і легалізавацца пад іншымі прозьвішчамі,

*Кірпічэнкава Н. Старонкі ў летапісе краіны // Культура, 2009, № 26, 27 чэрвеня — 1 ліпеня.

іншыя ня склалі зброі аж да сваёй сьмерці. Такім быў чачэнец Хасуха Магамадаў (1905 (паводле некаторых зьвестак — 1907 г.н.) — 1976).




Ён пачаў партызаніць у пачатку 1940-х, калі на Паўночным Каўказе выбухнула чарговае антысавецкае паўстаньне. Спачатку Магамадаў дзейнічаў у складзе партызанскіх атрадаў, а з пачатку 1950-х, калі многія партызаны загінулі ў баях, застаўся адзін. Хасуха Магамадаў быў сьведкам дэпартацыі чачэнцаў войскамі НКВД (сярод іншых была вывезеная і яго сям'я), бачыў сотні расстраляных і спаленых землякоў. За гэта і помсьціў. Яму прыпісваецца амаль 200 збройных акцый і ад 30 да 50 забойстваў савецкіх актывістаў, камуністаў, міліцыянтаў, чэкістаў (а сярод іх — начальніка раённага аддзела КГБ).

Магамадаў пераважна жыў у гарах, у цяжкадаступных мясцовасьцях. Часам, калі яго абкладалі карныя аддзелы, партызан сыходзіў у Грузію. Маючы падтрымку чачэнцаў, Хасуха Магамадаў нярэдка адпачываў у населеных пунктах. Выпадкаў здрады было няшмат, але кожны раз, калі яго акружалі чэкісты, Магамадаў вырываўся з аблогі.

У 1968-1970-х гадах спецаддзелы КГБ зьнішчылі ў чачэнскіх гарах дзьве партызанскія групы, якія дзейнічалі з часоў вайны. Пасьля гэтага ўсе сілы былі кінутыя на пошук Магамадава. 28 сакавіка 1976 году каля Беноя дзесяткі чэкістаў, міліцыянтаў і вайскоўцаў акружылі цяжкахворага партызана. Ён спрабаваў адстрэльвацца і падстрэліў аднаго з савецкіх актывістаў, але быў забіты чаргой з аўтамата.

Уладамі чачэнскай рэспублікі Ічкерыя ён быў пасьмяротна ўзнагароджаны ордэнам “Гонар нацыі”.

**Васіль Сушко**

# ПРА ВЫПАДАК У МІНСКІМ ЮБІЛЕЙНЫМ СКВЕРЫ

Пра гэтае здарэньне мне распавёў мінчук Валерый Б., 1945 году нараджэньня. Калісьці запісваў яго ўспаміны на дыктафон, таму перадаю яго словы дакладна.

“Жылі мы на вуліцы Садавіннай — цяпер яе няма. Гэта колішні

Людамонскі завулак. Вучыўся я ад 1952 году ў школе № 26. Цяпер яе няма на старым месцы, але будынак захаваўся. Яна месьцілася паміж вуліцамі Шпалернай і Ракаўскай (тады Астроўскага).

Я дакладна ня памятаю даты, калі я ледзь ня стаў сьведкам цікавай падзеі. Прыблізна гэта было ў 1956 годзе (магчымая карэктыроўка +/- 2 гады). Вяртаючыся са школы, я з сябрамі праходзіў міма Юбілейнага скверу — ён захаваўся амаль цалкам — цяпер гэты сквер каля кінатэатру "Беларусь". І вось аднойчы ў скверы было даволі багата людзей, у паветры адчуваўся моцны пах пораху…

Тады была яшчэ вялікая "шпіёнаманія" і людзі казалі, што была страляніна. Быццам бы сачылі за шпіёнам, а ён заўважыў гэта, вылічыў тых, хто адсочваў і пачаў нечакана страляць у іх. Усе людзі казалі, што шпіён выратаваўся й зьнік, а віжы зьбеглі прэч. Забітых не было, але былі параненыя, якія хутка сыйшлі (ці іх забралі). Тады вакол пляцу была драўляная пабудова зь невялічкімі платамі і перасьледаваць небясьпечнага ўзброенага шпіёна віжы пабаяліся. Мы спазьніліся, відаць, усяго на 10-15 хвілінаў…

Ніхто з маіх сяброў і знаёмых так і ня ведаюць, што гэта было. Ці быў гэта шпіён? Ці была гэта "разборка" крымінальнікаў? Невядома".

Даслаў **Р. К.**, г. Менск

# 20 ГАДОЎ АДНАЎЛЕНЬНЯ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАСЬЦІ

На 2011 год прыпалі 20-я ўгодкі аднаўленьня незалежнасьці Беларусі, вяртаньня яе дзяржаўных сімвалаў — бел-чырвона-белага сьцягу і герба “Пагоня”.




***Перадавіца газэты “Звязда” ад 21 верасьня 1991 году.***

# У МАСКВЕ РАССАКРЭЦІЛІ ДАКУМЭНТЫ ЎПРАЎЛЕНЬНЯ ПАМЕЖНЫХ ВОЙСКАЎ БЕЛАРУСКАЙ АКРУГІ 1944-1956 ГГ.

Расійскі дзяржаўны вайсковы архіў рассакрэціў паваенныя дакумэнты аб памежных войсках. Сярод іх — 937 справаў упраўленьня памежных войскаў Беларускай акругі 1944-1956 гадоў (фонд 40935). Як паведамляе *“Бюллетень рассекреченных документов федеральных государственных архивов”* (10-ы выпуск, Масква, 2009) у згаданых справах дасьледчыкі могуць адшукаць даклады і справаздачы аб ахове мяжы, аператыўныя зводкі, данясеньні аб сытуацыі на мяжы і здарэньнях у войсках, даклады аб палітычна-маральным стане вайскоўцаў ды іншае.

# ПРАЙШЛА КАНФЕРЭНЦЫЯ, ПРЫСЬВЕЧАНАЯ АНТЫСАВЕЦКАМУ РУХУ НА ГОМЕЛЬШЧЫНЕ

30 красавіка сёлета ў Гомелі ў межах кампаніі “Гісторыя, якой няма ў падручніках”, прайшло мерапрыемства, прысьвечанае антысавецкаму руху.

Грамадзкае аб’яднаньне “Беларуская жаночая ліга” наладзіла ў адной з гарадзкіх бібліятэк сустрэчу-канферэнцыю, на якой разглядалася гісторыя Стракапытаўскага мецяжу 1919 году і, увогуле, антысавецкі рух на Гомельшчыне.

Падчас канферэнцыі прысутныя паглядзелі дакумэнтальную гістарычную стужку “Неабвешчаная вайна 1921 года. Мяцежны атаман” (рэцэнзія на яе была зьмешчаная ў папярэднім нумары “БР”), а гісторыкі Валянціна Лебедзева, Юрый Глушакоў і Ніна Стужынская распавялі пра невядомыя старонкі з гісторыі Гомеля у часы 1920-30-х гадоў мінулага стагодзьдзя, якія ў прыватнасьці тычацца Стракапытаўскага мецяжа, сялянскага паўстанцкага руху.

# ВЫЙШЛА КНІГА ПРА КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА




У чэрвені намаганьнямі гарадзенскіх гісторыкаў выйшла кніга “Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі”. Гэта зборнік артыкулаў міжнароднай канферэнцыі, што адбылася ў Менску ў 2009 годзе. Укладальнікі кажуць, што гэта адказ на спробы ідэолагаў прадставіць Каліноўскага не героем, а бандытам.

# У НЯМЕЧЧЫНЕ ВЫДАДЗЕНАЯ КНІГА ПРА АХВЯРАЎ КАМУНІЗМУ Ў БЕЛАРУСІ

Тое, чаго не зрабілі за 20 гадоў незалежнасьці самастойна беларускія гісторыкі, яны робяць пры падтрымцы нямецкіх дасьледчыкаў і фундацый. У Нямеччыне выйшла ілюстраваная кніга “Месцы памяці ахвяраў камунізму ў Беларусі”. Аўтары паспрабавалі ахапіць якмага болей месцаў пахаваньняў ахвяраў камунізму, аднак атрымалася ня ўсё. Напрыклад, слаба прадстаўленае Палесьсе, дзе існуюць помнікі,




крыжы (пра некаторыя зь іх “БР” пісаў, зьмяшчаліся фотаздымкі), пра якія няма згадак у гэтай кнізе. Ёсьць падобныя прабелы і па іншых рэгіёнах (напрыклад, няма згадкі пра знак, які ўсталяваў у гонар атамана Моніча мастак Алесь Пушкін і які быў зьнішчаны ўладамі).

У пераліку месцаў ушанаваньня найбольш поўна адзначаныя помнікі, знакі, шыльды, усталяваныя ў гонар рэпрэсаваных альбо загінулых у баях палякаў.

У кнізе зьмешчана і некалькі артыкулаў беларускіх гісторыкаў. Адзначым публікацыю Ірыны Кашталян “Беларусь пад уплывам палітычных рэпрэсій савецкага часу (1917-1953 гг.)”. У ёй яна, між іншым, піша: *“Беларускае [паваеннае] антысавецкае падполле было меншым за польскае і ўкраінскае з-за слабай выражанасці нацыянальнай самасвядомасці насельніцтва. Кантынгент, які ўваходзіў у яго, быў розным: узброеныя групы на нелегальным становішчы, якія складаліся з тых, хто падчас нямецкай акупацыі працаваў у грамадзянскай адміністрацыі або служыў у беларускіх вайсковых фарміраваннях, і вучнёўская моладзь, якая, ствараючы ідэалістычныя арганізацыі, працягвала вучыцца і жыць мірным жыццём. Для савецкай улады найбольшую небяспеку ўяўлялі ўзброеныя фарміраванні, якія складаліся пераважна з былых калабарантаў і дзейнічалі пры падтрымцы замежных спецслужбаў. Супрацоўніцтва значнай часткі беларускага ўзброенага супраціўлення з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі і Абверам у час вайны стала асноўным негатыўным момантам у яго гісторыі”*.

# У ДРАГІЧЫНСКІМ РАЁНЕ АДКРЫЛІ ПОМНІК БАЙЦАМ НКВД, ЯКІХ ЗАБІЛІ “ЛЯСНЫЯ БРАТЫ”

Ушанаваньне загінулых у баях з “ляснымі братамі” байцоў войскаў НКВД прайшло ўлетку на Драгічыншчыне. У лесе, ва ўрочышчы Церабун за Жыраўскім каналам ля вёскі Маліна́ўка, зьявіўся крыж у памяць 31 байца 220-га палка 7-й дывізіі войскаў НКВД. У лістападзе 1944 году атрад старшага лейтэнанта Васільчанкі патрапіў у засаду і амаль цалкам загінуў.

Як паведамляе “Драгічынскі весьнік”, помнік уяўляе сабой просты жалезны крыж. Аўтар зацемкі Сяргей Гранік піша: *“…памятное место будет напоминать о мужестве и героизме тех, кто в суровые военные годы сложил свою голову на нашей земле, защищая мирное население от бандитизма”.*

Адзначым, што вырабілі і паставілі помнік беларускія памежнікі.
Падрабязна пра гібель энкавэдыстаў старшага лейтэнанта Васільчанкі пад Драгічынам чытайце ў рубрыцы “Дакумэнты”.

## У ВЯЛЕЙЦЫ ЗЬЯВІЎСЯ МЭМАРЫЯЛЬНЫ ЗНАК У ГОНАР ЗАГІНУЛЫХ МІЛІЦЫЯНТАЎ

Мэмарыяльны знак усталявалі восеньню 2011-га каля будынка Вялейскага раённага аддзела ўнутраных спраў. Як інфармуе сайт kraj.by, да 16-тоннага каменя прымацуюць шыльду з імёнамі вялейскіх міліцыянтаў, якія загінулі падчас Другой сусьветнай вайны і пасьля яе — у барацьбе з “ляснымі братамі” і крымінальнымі бандамі. Агулам будзе згадана пра 21 загінулага.

## “СБ” НАПІСАЛА ПРА ГУЧНУЮ АКЦЫЮ АТАМАНА МОНІЧА

Матэрыял на цэлую паласу, які распавядае пра напад у 1923 годзе беларускіх партызанаў на цягнік пад Крупкамі, зьявіўся ў афіцыйнай газэце “СБ”.* Нехта Мікіта Шпакоўскі фактычна пераказаў адзін з разьдзелаў кнігі Ніны Стужынскай “Беларусь мяцежная” (зразумела, на яе ён не спасылаецца), прысьвечаны атаману Юрку Монічу. Праўда, акцэнты расстаўленыя інакш: замест партызанаў — бандыты, “падпольная група Моніча”, аказваецца, “пад сьцягамі ідэйнай барацьбы займалася звычайным разбоем”. Малюючы партрэт атамана, аўтар не згадаў пра яго супрацоўніцтва з беларускімі палітычнымі арганізацыямі (адзначана толькі ахвяраваньне Монічам сваёй “здабычы” пасьля нападу на цягнік на карысьць “нейкай падпольнай партыі “Зялёны дуб”), шматгадовае камандаваньне беларускім партызанскім атрадам. З публікацыі ў “СБ” Моніч паўстае крымінальнікам “інтэлегентнага выгляду”.


СБ Беларусь сегодня

Ограбление поезда под Борисовом

Шпакоўскі ня піша пра палітычны эфект нападу на цягнік з замежнымі дыпламатамі. Гэта быў і ўдар па “стабільнасьці” сытуацыі ў СССР,

---

*Шпаковский Н. Ограбление поезда под Борисовом // СБ, 2011, 3 лістапада, № 210.

і пацьверджаньне існаваньня антысавецкага збройнага супраціву. Усе газэты Эўропы напісалі пра здарэньне. Таму рэакцыя савецкіх карных органаў была хуткай. Аднак забіць Моніча яны здолелі толькі ў траўні 1924-га.

Публікацыя ў "СБ" праілюстраваная партрэтам Моніча (пра яго аўтара Алеся Пушкіна ні слова!) і фотаздымкам партызанскага аддзела Лукаша Семянюка, які падпісаны вельмі арыгінальна: "Банда Монича"…

# У ГЛЫБОКІМ УШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ СЯБРА САЮЗА БЕЛАРУСКІХ ПАТРЫЁТАЎ

Актывісты некалькіх грамадзкіх арганізацый на Дзяды запалілі сьвечкі на магіле сябра Саюза Беларускіх Патрыётаў 1945-1947 гг. Альберта Бацяноўскага, які памёр у 2005 годзе. Увосень 1947-га году, паводле здрадніцкага даносу, Альберт Бацяноўскі і яшчэ некалькі дзясяткаў яго паплечнікаў былі асуджаныя на 10 год канцлягераў. Свой тэрмін Альбэрт Бацяноўскі адбываў у ГУЛАГу, і толькі ў 1990-я гады атрымаў паведамленьне пра ўласную рэабілітацыю.

# ПАРТРЭТЫ ДЗЕЯЧОЎ БЕЛАРУСКАГА СУПРАЦІВУ — У ШВЭДЗКІМ МУЗЭІ

Музэй сучаснага мастацтва ў швэдзкім горадзе Кальмары набыў тры карціны вядомага мастака Алеся Пушкіна з сэрыі "Беларускі Рэзыстанс". Гэта — партрэты Ўсевалада Родзькі, Міхала Вітушкі і Тамары Чэрамшагінай. Пра гэта "БР" паведаміў сам мастак. Іншыя партрэты з серыі (ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага, падпалкоўніка Шанька, Янкі Філістовіча, Расьціслава Лапіцкага, атаманаў Юркі Моніча і Лукаша Семянюка) застаюцца ў Беларусі.



# АПЭРАТЫЎНАЯ ГРУПА УШПР НА БЕЛАРУСКІМ ПАЛЕСЬСІ

На гэтым здымку — апэратыўная група Ўкраінскага штабу партызанскага руху ў 1943-1944 гг. на тэрыторыі беларускага Палесься. Аўтар публікацыі адзначае, што “паміж дзяўчатамі ў беларускіх



нацыянальных строях” сядзіць лейтэнант Аляксандр Крэменчукоў (у вайсковай форме з пагонамі).* Ён займаў пасаду памочніка начальніка апэратыўнай групы, якая выконвала на Палесьсі спэцзаданьне. Найперш гэта была каардынацыя дзейнасьці савецкіх партызанаў у гэтым рэгіёне і наладжваньне сувязі з УШПР і Ваенным саветам Беларускага фронту.

Нас ягоная асоба зацікавіла праз існаваньне непацьверджанай дакумэнтальна інфармацыі аб кантактах Крэменчукова з беларускімі партызанскімі атрадамі, якія не падначальваліся савецкаму кіраўніцтву. Калі яна адпавядае сапраўднасьці, адпаведныя дакумэнты трэба шукаць у маскоўскіх архівах.

*http://sammler.ru/index.php?showtopic=39864&st=20

# ЗЬМЕСТ ДЗЕСЯЦІ НУМАРОЎ ЧАСОПІСА “БЕЛАРУСКІ РЭЗЫСТАНС” ЗА 2004-2011 ГГ.

**№ 1(2), 2005**



ПАВЕДАМЛЕНЬНІ
Група беларускіх нацыяналістаў на Вялейшчыне. 1943 год
Ёрш С., Грыбоўскі Ю. Партызанскі аддзел лейтэнанта Бандыка. 1944 г.
Кавалёў А. Выкрыцьцё антысавецкай групы капітана Чугунова
Цыбульскі Л. Арышт у Менску актывіста БНП. 1945 год
Цыбульскі Л. Дывэрсіі на лініях сувязі ў Беларусі ў лістападзе 1945 году
Раманюк А. Падпольная беларуская арганізацыя дзеяла 10 гадоў

РЭЦЭНЗІІ
Ёрш С. Момант ісьціны
Турук А. Падагульненьне зробленага
Ёрш С. Найперш трэба здабыць незалежнасьць

ЗГАДКІ
Сьветлай Памяці [Міхась Наўмовіч, Генадзь Пяткевіч, Васіль Мядзелец, Кастусь Шышэя, Кастусь Рамановіч, Юзэфа Найдзюк (Брэчка)]
Пра тых, каго ўжо сярод нас няма [Зьміцер Чайкоўскі, Павал Гуз]

ПОШТА
Данілюк Б. Сакрэтны бок дзейнасьці патрыётаў
Г. К. Калі ў закладніках цэлы народ
Я. С. Пісаць пра памылкі мінулай гісторыі
Шыбіцкі М. Вярнуцца на радзіму не дазволілі
М. Ш. Статыстыка тэрору
Казак П. Як Кушаль пасварыўся з маёрам Вітушкам

ДАЙДЖЭСТ
“Я быў намесьнікам Акінчыца”
“Зялёны Дуб” і прыпіскі

УДАКЛАДНЕНЬНЕ

ФОТАФАКТ
Дудаліч С. Памылка ў рамачцы




**№ 1(3), 2006**

ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ
Ёрш С., Горбік С. На два фронты
Стужынская Н. Лістападаўшчына
Варанец М. Нацыянальна-патрыятычны рух бе-

**№ 1(4), 2007**



РЭЦЭНЗІІ
Шыбіцкі М. Загартаваныя холадам Сыбіру
Клявец Р. Два “помнікі” героям
Дудаліч С. Кніга з карцінкамі
Барткевіч А. Школа патрыётаў

ЗГАДКІ
Сьветлай памяці [Васіль Супрун, Мікола Канаш, Іван Дудка, Леанід Жданук, Кастусь Мысьлівец, Алег Шнэк, Аляксандар Юршэвіч, Уладзімер Плешчанка]
Пра тых, каго ўжо сярод нас няма [Зьміцер Кісель, Янка Жамойцін]

УГОДКІ

ПОШТА
Яськевіч М. Трэба адшукаць магілы Грыба, Вяршыніна, Кабераца
Расолька Г. Навошта савецкія падпольшчыкі ўзарвалі вялейскую сэмінарыю?
Шыбіцкі М. Па сьлядох “Беларускай рэвалюцыйнай партыі”

АРХІЎНЫЯ СКАРБЫ
Ва Ўкраіну вярнуўся архіў Міколы Лебедзя

ДАЙДЖЭСТ
Нелегальнік, патаемнік, каньспірацыйнік

КРОНІКА

ФОТАФАКТ
Беларускія партызаны… ў Нямеччыне
Асобы беларускага Супрацiву

**№ 1(5), 2008**




КАНСЬПІРАЦЫЙНАЯ БАПЦ
Ад Рэдакцыі. Пра падпольле БАПЦ у паваеннай Беларусі гавораць дакумэнты
Горбік С., Ю. В. Да пытаньня аб канцэпцыях пабудовы Беларускай праваслаўнай паместасьці (аўтакефаліі) напярэдадні і ў часе ІІ сусьветнай вайны
Горбік С., Катавіцкая А. Духаўнік беларускага Супраціву
Ёрш С. Падпольны друк беларускага Супраціву




**№ 1(6), 2009**

і Горацкім паветах
Грэцкі Л. “Жыццё на чужыне для яго не было лёгкім…”

ПУБЛІЦЫСТЫКА
Гуз П. “Высока ўзьняты наш бел-чырвона-белы сьцяг, а на ім ясьней сонца зьзяе кліч: “Бог і Бацькаўшчына”

ЗГАДКІ
Сьв. пам. К. Казак, Я. Каляда, М. Лагодзіч, П. Рашэтнік, В. Сікора

ПОШТА
Пра “паліткарэктнасьць” у згадках пра антымаскоўскія паўстаньні

ДАЙДЖЭСТ
Пра антысавецкі партызанскі атрад Пятра Клімёнка на Вялейшчыне і ня толькі
Палкоўнік Зарэчны пра жыцьцё М. Вітушкі ў Польшчы і пра свой палёт у БССР
Савецкія памежнікі прапусьцілі нелегалаў у Польшчу за хромавыя боты

СЛАЎНЫЯ ІМЁНЫ
Барткевіч А. Трыпус, “Чайка” і Гадлеўскі

ФОТАФАКТ
Ёрш С. Яшчэ адзін здымак “беларускіх партызанаў”

**№ 2(7), 2009**




АД РЭДАКЦЫІ
Новыя тэндэнцыі ў асьвятленьні падзеяў восені 1939-га

ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ
Міцкевіч А. Плян стварэньня Беларускага вайсковага злучэньня ў Чырвонай Арміі ў 1944 годзе
Ёрш С. Беларускі спэцыяльны батальён “Дальвіц” і радыёгульні савецкай контрвыведкі. 1944-45 гг.
Горбік С. Знаходжаньне ўкраінскага батальёну Пабягушчага і Шухевіча ў Беларусі і іх кантакты зь беларускім вызвольным рухам

ПОШТА
“Бульбашы — гэта і не паліцаі, і не партызаны…”
Пра “фантаста” з Барысава

ДАЙДЖЭСТ
Тэлеграма прэзыдэнту Польшчы ў абарону ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага, 1925 год
Жаўнер АК: Беларускія паўстанцы хадзілі разам з намі
У паваенным Мінску ў канцы 1940-х ішла сапраўдная тайная вайна з былымі нямецкімі пасобнікамі

КРОНІКА

ФОТАФАКТ
Побач са Сталіным

**№ 1 (8), 2010**




ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ
Самсонаў К. Падрыхтоўка беларускага нацыянальна-вызвольнага паўстаньня 1939 году і нямецкія спэцслужбы
Ёрш С. Замежны сэктар Беларускай Незалежніцкай Партыі. 1945-1955 гг.

ДАКУМЭНТЫ
Бюлетэнь БНП. 1946, № 1 (6). Перадрук.
Паведамленьне НКВД БССР аб агентурнай працы сярод беларускіх нацыяналістаў на тэрыторыі акупаванай немцамі Польшчы. 1940 год
“Баючыся адказнасьці… мужчынскае насельніцтва прызыўнога ўзросту з вёскі… пайшло ў лес”. Аператыўныя зводкі Галоўнага ўпраўленьня па барацьбе з бандытызмам НКВД-МВД СССР. 1944-1945 гг.

ПАВЕДАМЛЕНЬНІ
Барткевіч А. Ваярскі сьпеўнік
Самсонік Б. Правакацыя супраць віцэ-прэзыдэнта БЦР Міколы Шкялёнка
Пірог В. “Аператыўная сытуацыя была цяжкай аж да 1958 году”
Панасеня В. Загінулі пры абароне савецкай дзяржавы

РЭЦЭНЗІІ
Каранец В. “Загінулыя ў барацьбе з антысавецкім узброеным падпольлем”
Ёрш С. Грызьня калябарантаў пад кіраўніцтвам нямецкага гаўляйтэра

**№ 2(9), 2010**



**№ 1(10), 2011**



